# Маладосць

Штомесячны
літаратурна-мастацкі
і грамадска-палітычны
ілюстраваны часопіс

**3**

(724) САКАВІК, 2014

Выдаецца з 1953 года

Галоўны рэдактар
**Святлана Дзмітрыеўна ДЗЯНІСАВА**



www.maladost.lim.by

Рэдакцыйна-выдавецкая установа
«Выдавецкі дом «Звязда»
г. Мінск

## У НУМАРЫ:







*Праца адной з гэтых дзяўчын-сясцёр — ілюстратара з Брэста Ганны Радзько — упрыгожвала вокладку нашага міжнароднага нумара. Ганна — адна са ствральнікаў моладзевага брэнда, мэта якога — расказаць беларусам, што быць беларусам — гэта крута. Паштоўкі, сумкі, вопратка з надпісамі на беларускай мове, але ў эстэтыцы еўрапейскага і амерыканскага стыляў, — гэта тое, чаго, на яе думку, не хапае айчыннай вытворчасці. «Гэта сапраўды цікава — расказваць у сваіх працах пра нацыянальнае на мове, зразумелай сучаснаму чалавеку. Вельмі прыемна адчуваць, што робіш унёсак менавіта ў сваю культуру», — гаворыць Ганна, працы якой можна ўбачыць на www.be.net/anna-redko.*

# Не значкі беларуса ствараюць

**• Ці часта вы размаўляеце па-беларуску? Ці маглі б вы заўсёды размаўляць па-беларуску? Што перашкаджае вам гэта рабіць?**

**• У якіх сітуацыях вы адмаўляецеся ад мовы? Ці ёсць станоўчыя бакі ў двухмоўі? Ці патрэбна мову папулярызаваць? Якім чынам? Што вы можаце для гэтага зрабіць?**

**Мы задалі пытанні тым, хто не размаўляе па-беларуску ўвесь час, хаця мог бы.**



## Марына КУРАЧЫЦКАЯ,
***настаўніца беларускай мовы:***

— На беларускай размаўляю кожны дзень і з вялікім задавальненнем. З лёгкасцю выкарыстоўваю родную мову ў прафесійнай дзейнасці і пры размове з беларускамоўнымі людзьмі, вельмі часта пераходжу на рускую пры сутыкненні з рускамоўнымі асобамі. Канешне, гэта крыўдна, непрыемна, часам нават брыдка. Ужо некалькі разоў спрабавала разабрацца ў прычынах. Мяне наведвалі самыя разнастайныя думкі, некаторыя з іх былі мне асабліва непрыемнымі. Аднак, узгадваючы абставіны пераходу на рускую, зразумела: стамілася ветліва ўсміхацца, калі кажуць, што я, аказваецца, такая малайчына… Магчыма, некаторым маё «лёгкаадступніцтва» гаворыць пра мяккасць характару, няўпэўненасць. Я і сама так часам думаю. Але заходзячы ў кавярню выпіць кавы, я сапраўды хачу выпіць кавы, а не «какао». Запрашаючы гасцей да стала, не вельмі хачу бачыць страх у адказ на прапанову сесці на зэдлікі. Паверце, не вельмі хочацца быць зоркай падчас набыцця квіткоў у касе. Хаця часам бывае весела. Каб перайсці на беларускую мову, трэба «выспець», неабходна перастаць змагацца з сабой і з думкамі: «пераходзіць ці не пераходзіць», дасягнуць разумення, што табе гэта сапраўды неабходна. І вельмі важна, каб людзі сутыкаліся часцей менавіта з літаратурнай мовай, з правільным маўленнем без «чекання», «свісту», не кажучы ўжо пра знакамітую «трасянку».



## Алеся ГУРСКАЯ-ТАБОЛІЧ,
***філолаг:***

— Я выпускніца беларускага аддзялення філалагічнага факультэта БДУ. Гэта сведчыць пра тое, што беларуская мова мае вялікае значэнне ў маім жыцці. Канешне, хацелася б стаць цалкам беларускамоўнай. На жаль, у мяне не хапае сілы волі. Беларуская мова для мяне — мова высокая, таму я карыстаюся ёй у культурнай, навуковай, мастацкай дзейнасці. Гэта, мабыць, і ёсць адзін са станоўчых бакоў у білінгвізме нашай краіны: беларуская мова вышэйшая за рускую па сферы ўжывання. Руская — пабытавая, масавая; беларуская — мова культуры, эліты. Другі станоўчы бок білінгвізму, па маім суб'ектыўным меркаванні, — гэта саперніцтва моў. Беларусісты робяць усё больш і больш намаганняў, каб папулярызаваць родную мову, каб яна не саступала ні ў чым рускай. Кожны дзень мова развіваецца і ўдасканальваецца, не стаіць на месцы. А гэта значыць, што яна жыве. На мой погляд, каб папулярызаваць беларускамоў-

насць, трэба спачатку прывіць народу любоў да свайго ўвогуле. Ці гэта засілле рускіх СМІ так моцна паўплывала на светаадчуванне беларусаў? Але ж і беларускія СМІ раўняюцца на рускія. У гэтым і бяда. На мой погляд, варта ўздзейнічаць на людзей праз тэлебачанне. Хаця б рэкламу цалкам беларускамоўнай зрабіць…



## *Марыля ШЛЫК,*
***паэтка:***

— Я размаўляю на беларускай мове не з усімі, а толькі з выбранымі. І калі я паразмаўляю пару дзён па-беларуску, то мне вельмі цяжка пераходзіць на рускую. Пішу вершы на рускай і беларускай мовах. Руская мова падаецца мне больш вострай, халоднай. Калі ж хочацца нечага мяккага і мілагучнага, то пішу па-беларуску. Беларус, які размаўляе па-беларуску, часта сутыкаецца з хамствам і знявагай мовы з боку субяседніка. Калі чалавек і не ведае мовы, то ён быццам перапрашае цябе за гэта, разумее, што ведаць родную мову мы павінны. І тады ты робіш для яго палёгку, можаш нешта сказаць па-руску. Але калі табе ў твар кажуць: «Я ваш язык не понимаю и понимать не хочу», — ад гэтага сціскаецца нешта ў сэрцы, узнікае моцнае жаданне бараніць мову. Што перашкаджае выкарыстанню мовы? Мне здаецца, што асноўны фактар — звычка. Лічу, што мову патрэбна папулярызаваць. Асабліва гэтаму спрыяе моладзевы кантэнт, а таксама аўтарытэты: зоркі спорту, музыкі, вядомыя брэнды. Каб кожны беларус разумеў, што беларуская мова — гэта адметнасць. А лепшая яе рэклама — ты сам!



## *Аляксей АХРЭМ,*
***гісторык:***

— Пажадана, каб на сваёй мове размаўлялі, але, калі ў нас склалася такое становішча, не трэба ставіцца да тых, хто размаўляе па-руску, як да людзей іншага гатунку. Кола беларускамоўных вельмі любіць сябе адмяжоўваць ад астатніх і такім чынам атрымліваць у сваіх жа вачах нейкі асаблівы статус. Гэта брыдота, а не вызнанне вытокаў. Беларус павінен разумець сваё месца, месца Беларуса ў гістарычным і культурным кантэксце. На жаль, мы жывём па шаблоне, а не ўспрыманнем ступені «даставернасці», калі гэта тычыцца рэтраперспектывы і інтэрпрэтацыі рэчаіснасці. Беларус павінен паважаць свае вытокі, ведаць сваю мову, але не павінен размаўляць, калі не хоча! Беларус можа заўсёды гаварыць па-беларуску, але паводле этыкету, калі ён размаўляе па-беларуску, а яго субяседнік па-руску, то хтосьці павінен перайсці на іншую мову. Патрэбна папулярызаваць станоўчыя адносіны да мовы. Партыі выкарыстоўваюць мову як аўтамат, а мова — гэта скарб народны. Людзі ніколі не будуць рабіць тое, што не робіць большасць. Зрабіць так, каб размаўляла большасць, — гэта мэта. Заўвага да моладзі: не значкі робяць з цябе Беларуса.



## *Алесь ТАБОЛІЧ,*
***лідар гурта «Зніч»:***

— Я даволі часта размаўляю па-беларуску, бо значная частка сяброў — мае аднадумцы. Лічу, што мог бы заўсёды размаўляць па-беларуску. І думаю, шмат хто мог бы. Што перашкаджае? Беларуская мова не падтрымліваецца СМІ. Рэклама і тэлебачанне прапагандуюць рускую ў сто разоў больш, чым беларускую. Ці патрэбна папулярызаваць мову? Гэта ўжо не патрэба… Гэта крык душы: «Ратуйце!»

***Запісала Тамара САРАЧЫНСКАЯ***

# Караліна Комар: «Я б хацела, каб людзі былі смялейшымі ў сваіх марах!»



***Калі я стараюся прыгадаць сваё знаёмства з Каралінай, то мне здаецца, што гэта быў сонечны дзень. Але я не памятаю, якое тады было надвор'е, прынамсі, быў такі настрой, які пацвярджаўся яе ўсмешкай. І, здаецца, няма розніцы, ці сонца свеціць, ці ты сустракаеш Караліну на вуліцы ў пахмурнае надвор'е, усё роўна — сонечна. Больш падрабязна пра гэту крыніцу энергіі і ўсмешкі — у інтэрв'ю.***

— Нарадзілася і расла ў Мінску. Вучылася ў 12-й гімназіі (гэта было памылкай), а потым у Ліцэі БДУ. Цяпер навучаюся на факультэце філасофскіх і сацыяльных навук.

**— Акрэслі, калі ласка, кола ці шэраг асаблівасцей тваёй натуры, характару, стылю жыцця.**

— Цяжкае пытанне! Можа, скажу пра шматвектарнасць. Яна праяўляецца і ў характары, і ў стылі жыцця. Я люблю рабіць шмат спраў адначасова, не зацыклівацца ні на чым, каб не надакучыла. У тым ліку на крыўдах. І ў той жа час заўсёды хочацца паглыбляцца, працаваць, кшталтавацца. Мне здаецца, што я дастаткова жыццярадасная. Насамрэч, мне проста заўсёды радасна. Хоць, я ўпэўнена, што мая ацэнка не супадзе з ацэнкай навакольных. Так заўсёды.

**— Мне вядома, што твая шматвектарнасць не абмінула турэцкай мовы. З чаго пачалося? Чаму менавіта турэцкая?**

— Гэты накірунак мяне ніколі не цікавіў. У 8-м класе да нас у школу прыйшлі туркі і прапанавалі вывучаць турэцкую мову. Нам з сяброўкай спадабаўся выкладчык, таму мы вырашылі паспрабаваць. Адны з усёй школы. Праўда, мы ўцякалі амаль з усіх заняткаў, мову не вучылі. Але знянацку нам прапанавалі ўдзел у міжнароднай алімпіядзе па турэцкай мове. І тут пачалося! Мора ўвагі, звышінтэнсіўная інтэграцыя ў турэцкую культуру, канцэрты, сустрэчы, штодзённыя заняткі. І ў працэсе ўсяго гэтага я так палюбіла турэцкую мову, што вырашыла яе ніколі не кідаць. Таму пасля Турцыі занялася мовай вельмі сур'ёзна.

**— У чым сутнасць алімпіяды?**

— Яна спецыфічная. Спаборніцтва мела на мэце не веданне мовы, а спяванне і чытанне вершаў па-турэцку. Я спявала прыгожую песню пра Радзіму.

**— А вершы якія чытала? Ты сама іх выбірала ці хтосьці раіў?**

— Не, там так было: адзін чалавек — адна намінацыя. Я толькі спявала, а вершы сяброўка чытала. Адзін верш на тры аркушы! І выбірала нам усё гэта турчанка Сэмрачка Оруць, якая з намі цярпліва займалася кожны дзень. На той час гэта дзяўчына з Турцыі прыехала ў Беларусь і вучылася на філалагічным факультэце БДУ.

**— Колькі доўжылася падрыхтоўка і гасцяванне ў Турцыі? У якім горадзе, дарэчы?**

— Мы даведаліся пра алімпіяду дзесьці за паўгады да яе і пачалі інтэнсіўна рыхтавацца. Спачатку праводзіўся паўфінал сярод прадстаўнікоў Паўночнай Еўропы ў Капенгагене. Мы там былі тры дні. А ў Турцыі быў фінал, мы там былі тры тыдні. Фінал — справа сімвалічная, ніхто на яе не зважаў. Мы два тыдні жылі ў Kızılcahamam, — гэта кшталту вёскі недалёка ад Анкары, у якой усе домікі — маленькія кватэрныя гатэльчыкі. Там праходзілі ўсе канцэрты, мерапрыемствы і знаёмствы, бо было каля 10 чалавек ад кожнай краіны, а краін — 180. Пасля паехалі ў тыднёвае турнэ. У кожнай краіны — свой маршрут. Мы былі ў Анталіі, Дэнізлі, Марашы, Антэпе, Мерсіне і Стамбуле. Але ў Стамбуле не выступалі. Я цяпер узгадваю і не магу паверыць, што гэта насамрэч са мной адбывалася!

**— Ды так маштабна! А з Беларусі вас было двое?**

— Не тое слова — маштабна! У Турцыі пра гэта ўсе ведалі. Нам спакойна па вуліцах не давалі прайсці. Нас было чацвёра: мы і яшчэ дзве дарослыя дзяўчыны, якія ўдзельнічалі ў граматычных конкурсах. Адна ўзяла золата.

**— Я бачыла білборды з тваім фотаздымкам. Гэта значыць, што Беларусь стала пераможцай? А ты асабіста?**

— Я была толькі чацвёртай. Я вельмі здзівілася, чаму мяне абралі тварам у той год. Таму што дагэтуль, гады тры, былі адны і тыя ж, а тут раптам… Мне потым выкладчык панапрывозіў гэтых білбордаў з Турцыі. Але гэта не за перамогу. Мабыць, за славянскасць.

**— Якое тваё агульнае ўражанне ад тых людзей, якім, відаць, ты вельмі спадабалася за славянскасць. Ці адчула ты вялікую розніцу паміж славянскім светам і іхнім? Паўплываў іхні светапогляд нейкім чынам на цябе ці не?**

— Вельмі! Гэта людзі, якія неверагодна моцна трымаюцца сваіх традыцый і рэлігіі. Я ў той час нічога не ведала пра хрысціянства, пра Беларусь. З сяброўкай мы толькі па-руску размаўлялі. А між тым, адным з першых пытанняў там было: якая твая рэлігія? Я тады пабачыла, што людзям майго ўзросту ва ўсім свеце гэта сапраўды важна. Калі ж казаць пра мусульманскі свет, то ён зусім інакшы. Стасункі паміж людзьмі цёплыя і вельмі ўзнёслыя. Жанчыны годныя, мужчыны пра гэта дбаюць. Бачна, што гэтыя людзі вельмі ганарацца тым, што маюць, з ахвотай гэтым дзеляцца. Мы не заплацілі ні капейкі за алімпіяду: візы, квіткі, пражыванне ў гатэлях, харчаванне, падарункі — за ўсё заплацілі фундатары-патрыёты.

**— Ці змянілася тваё жыццё пасля алімпіяды? Бо змены заўсёды прыходзяць пасля значных падзей і новага вопыту. І, напэўна, з алімпіяды можна было прывезці знаёмствы, якія маглі б перарасці ў сяброўствы?**



Пабачыўшы столькі людзей з розных краін, я падумала: як мы можам дзяліць адну планету ў такім велізарным сусвеце і не ведаць адно аднаго, не вызнаваць адно аднаго за братоў?

— Усё змянілася вельмі крута. Я стала размаўляць па-беларуску, цікавіцца роднай краінай і ўласным родам. Праз пару месяцаў прыняла каталіцтва! Турчанкі былі першыя, хто мяне ў гэтым падтрымаў. Пабачыўшы столькі людзей з розных краін, я падумала: як мы можам дзяліць адну планету ў такім велізарным сусвеце і не ведаць адно аднаго, не вызнаваць адно аднаго за братоў? Я падтрымліваю стасункі з сябрамі з Індыі, Японіі, Амерыкі, Аргентыны, Азербайджана, Польшчы. А з літоўскімі сябрамі мы ўжо некалькі разоў сустракаліся: спыняемся адно ў аднаго, калі я бываю ў Вільні, а яны ў Мінску.

**— Што для цябе з'яўляецца сімвалам Турцыі і яе народа сёння?**

— Калі казаць пра нешта канкрэтнае, то, напэўна, Стамбул, мастацтва Эбру і турэцкія народныя спевы — яны цалкам тлумачаць туркаў і атмасферу краіны. А калі пра абстрактнае, то душэўнасць, гасціннасць і надзейнасць.

**— Сёння, калі ты студэнтка, якія вектары зацікаўленасцей складаюць твой графік? Я памятаю, што мне трапляліся твае вершы ў друку?**

— Праўда? Я не бачыла! Літаратурны бум адносіцца хутчэй да ліцэйскіх часоў, калі адбываліся сустрэчы, вечарыны, быў стымул. Цяпер я зусім не пішу, на жаль. Цалкам заглыбляюся ў мовы. Цяпер вучу італьянскую і французскую, падцягваю турэцкую і англійскую. Працягваю займацца скаўтынгам: гэта і служэнне, і вандроўкі. І танцамі. Яшчэ хаджу на некаторыя курсы. Спрабую прыдбаць новыя навыкі і адкрываю для сябе новыя крыніцы натхнення.

**— Адкуль у цябе на ўсё сіл хапае? Ці можа цябе штосьці спыніць?**

— Усё гэта і дае натхненне! Выйдзеш пасля танцаў, пасля скаўцкай сустрэчы, пасля пары гадзін моўнага штурму — і шчасце зашкальвае. І хочацца яшчэ большага, і адчуваеш, што можаш. Я прашу ранкам у Госпада, каб дапамог мне не змарнаваць ніводнай хвілінкі; гэта вельмі важна для мяне. І Ён дапамагае, дае сілы, а галоўнае — дае імпэт і магчымасці! А калі засядзеш дома, то прыходзіць роспач, нежаданне, усё становіцца агідным. Жахлівае пачуццё. Хаця, прызнацца шчыра, яшчэ лепш было б, калі б чалавеку было неўласціва стамляцца.

**— А ці ёсць людзі, жыццё якіх цябе захапляла ці цяпер захапляе?**

— Так! Напрыклад, мой сябар з Аргентыны, які ў маім узросце ведае каля 10 моў. Я не ўяўляю, як гэта магчыма. Пры тым, што гэта не Яго спецыяльнасць. Ці мая сяброўка Янка Бажычка, якая для мяне з'яўляецца прыкладам неверагоднай духоўнай сілы і даверу. Мае выкладчыкі ў Ліцэі, выкладчыца англійскай мовы ва ўніверы. Яна аб'ехала ўвесь свет, асабліва доўга працавала ў Афрыцы фатографам. І дагэтуль гэтым зарабляе, а таксама піша артыкулы. Гэтыя людзі неяк ламаюць стэрэатыпы. Яны ўмеюць браць ад жыцця і аддаваць. Яны ўмеюць жыць, не баяцца. Я б хацела, каб людзі былі смялейшымі ў сваіх марах! Каб кожны мог ясна адказаць, чаго ён хоча для свету, для сваёй краіны, для сваёй супольнасці, сям'і і сябе. Менавіта чаго ЁН ХОЧА, а не што прынята жадаць: кшталту добрая праца, стабільнасць і ла-ла-ла. І каб людзі зразумелі, што ўсё дасягальна! Каб не кідалі бесперспектыўных, але ўлюбёных спраў, каб не шкадавалі марнаваць час і сродкі на тое, што дае радасць, каб падарожнічалі. У нас так не звыкліся жыць. Большасць часу займае праца, прынята такая, якая не прыносіць нічога, акрамя стомы і грошай. А гэта няправільна. Варта толькі пашукаць — і свет адкрые мора магчымасцей. Трэба толькі ўхапіцца, папрацаваць і рызыкнуць!

*Гутарыла Аксана ЮЧКАВІЧ*

Віктар ЛУПАСІН



# Пад каву з горкім шакаладам

**Калі пры мне пачынаюць чытаць мае ўспаміны з кнігі «Скрозь Маладосць», я чырванею і саромеюся. Не падумаўшы, я напісаў там пра сябе шмат такога, за што цяпер крыху ніякавата...**

Таму распавяду не пра свае нататкі, а пра чужыя. Сёе-тое з іх я нават пераказаў вершам. Узяў разважліва-філасафічную прамову Пятра Васючэнкі, прыдумаў вытанчаную страфу з паўторам эпіфар, абраў роўны пяцістопны ямб і зарыфмаваў ягоныя развагі!

Першапраходніцтва маладняка —
Найболей традыцыйная у свеце
Ідэяў з'ява. Кожны хоча меціць
У наватвор'е, маючы на мэце,
Каб да яго па гэтым сілуэце
Не цэліла ніводная рука.

Калі табе пятнаццаць, то рука
Сама міжволі цягнецца да верша:
У думках вір, паэма спробы першай
Ляціць у неба, як ракета «Першынг»,
Праносіцца паўсюль вясёлым смерчам
Альбо палётам цуда-матылька.

Але паўстане вусень з матылька.
У трыццаць год ты прозу ўжо ствараеш,
У сорак ставіш п'есы ці здымаеш
Ліхія сэрыялы. Досвед маеш
І з годнаю усмешкай паглядаеш
На маладосць маладняка.

**Купіўшы «Скрозь Маладосць», я пачаў чытаць яе і цягам паловы дня, як той казаў, даехаў яе ўсю**

Развагі Таццяны Сівец куды працейшыя, таму і форма для іх абрана — трыялет.

Пад каву з горкім шакаладам
Прыемна гутарыць пра вечнае.
Плыве жыццё лірычным ладам
Пад каву з горкім шакаладам.
Жыццё віруе быстрацечнае —
То спад, то ўздым, то ўздым са спадам.
Пад каву з горкім шакаладам
Прыемна гутарыць пра вечнае.

Спачатку я хацеў напісаць такі верш пра кожны артыкул кнігі. Але натхнення хапіла толькі на шэсць аўтараў: Мальдзіса, Гніламёдава, Сівец, Конева, Васючэнку і Караткевіча. Успамінаў Караткевіча ў кнізе, вядома, няма (усе артыкулы кнігі напісаны ў 2012—2013 гадах адмыслова для яе), але пра яго тут вельмі часта ўзгадваюць, бо стасункі паэта з «Маладосцю» былі складаныя, але працяглыя і плённыя.

Потым і верш пра Караткевіча падаўся мне слабым і я яго выкрасліў. Калі хочаш, каб іншыя ўспаміны таксама існавалі ў паэтычнай форме, пішы сам.

Купіўшы «Скрозь Маладосць», я пачаў чытаць яе і цягам паловы дня, як той казаў, даехаў яе ўсю. Потым зачытваў цікавыя моманты маме, калегам па працы, сябрам. Пасля даў камусьці пачытаць, і яна працягнула сваю вандроўку па беларускім кніжным моры.

# Гэта мае сэнс!



***Назва рубрыкі да нашага героя ніяк не пасуе. Алег Жаркоўскі мае вышэйшую адукацыю. У яго за плячыма БДУІР і праца ў аддзеле беспілотных лятальных апаратаў. Але свой сэнс Алег знайшоў у зусім нечаканай сферы. Паслухаем неверагодную гісторыю пра тое, як паспяховы інжынер з галавой сышоў у... дабрачыннасць.***

**— Кім ты марыў стаць у дзяцінстве?**

— Канкрэтнай мары не было. Не было такога: усе хлопцы павінны быць касманаўтамі — і я туды ж. Мае бацькі — інжынеры. А калі твой тата інжынер, ты загадзя ведаеш, што інжынер — гэта добра, бо ты ж любіш тату! Да класа шостага ці сёмага я ўжо разумеў, што інжынерыя — мой напрамак.

**— Якім чынам ты выбіраў месца вучобы?**

— Я не вельмі веру людзям, якія кажуць: ішоў па вуліцы, убачыў універсітэт, падаў дакументы. Ёсць верагоднасць, што такое бывае, але ў мяне ўсё было інакш. Я родам з Гомеля. Мой брат на 3 гады старэйшы за мяне. Я прайшоў той самы шлях, што і ён: школа з паглыбленым вывучэннем англійскай мовы, фізіка-матэматычны клас, а потым БДУІР. Атрымліваецца, я пайшоў пратаптанай сцежкай. Але я рабіў так, бо гэта правераны шлях, рацыянальны выбар. Брат, правучыўшыся 3 гады па спецыяльнасці «Радыёінфарматыка», параіў мне выбраць новую — «Радыёэлектронная абарона інфармацыі».

**— У чым была адметнасць вучобы па тваёй спецыяльнасці?**

— Менавіта ў маёй спецыяльнасці была свая фішка: тут вучылі апрацоўцы інфармацыі, а не проста «як зрабіць радыё» ці «як уладкаваны транзістар». Выкладаліся прадметы, якія дапамагалі нам зразумець, як працуюць перадавыя тэхналогіі, дазволілі дакрануцца да чагосьці больш сучаснага: лічбавая апрацоўка сігналаў, тэорыя кадзіравання і асновы крыптаграфіі... Мне вельмі падабалася вучыцца.

**— Які быў твой наступны крок пасля ўніверсітэта?**

— Зразумеў, што ў студэнта-бюджэтніка ёсць два шляхі: «забіць» на вучобу, ледзь здаваць сесіі, а большасць часу аддаваць працы. Пасля заканчэння ўніверсітэта ты маеш дыплом і пяць год працоўнага вопыту. І цябе адрываюць з рукамі. Другі варыянт: ты старанна вучышся і цябе заўважаюць выкладчыкі, якія могуць паспрыяць твайму працаўладкаванню. Я пайшоў другім шляхам. За год да размеркавання ведаў, што мяне возьмуць у прыватную кампанію, якая з'яўлялася спонсарам універсітэта. Таму ў гэтым плане я быў спакойны.

**— І што не склалася?**

— Усё склалася. Гэта была вельмі цікавая праца, якая тычылася алгарытмаў апрацоўкі

інфармацыі. Можна сказаць, што я працаваў на вастрыні навукі, быў алгарытмістам у аддзеле беспілотных лятальных апаратаў. Нават калі не паглыбляцца, гэта ўжо гучыць нязвыкла. Там вырашалі задачы, якія ніводная кампанія ў свеце не вырашала, а мы спрабавалі. Гэта была навуковая праца, але амаль на практыцы. Сапраўды вельмі цікава. У першыя дні працы я адкрыў для сябе безліч новага. Але, на жаль, фірма, паколькі яна прыватная, заўсёды мела праблемы з замовамі. Хутка ўмовы працы перасталі мяне задавальняць. Я вырашыў паспрабаваць знайсці нешта іншае.

**— І ты знайшоў дабрачынны праект «МаеСэнс». Што прывяло цябе сюды?**

— Я даўно зразумеў, што маю шырокую спецыялізацыю. Большасць сяброў была з гуманітарнай вобласці. Таму, калі мне спатрэбілася новае месца працы, я не адразу стаў шукаць менавіта тэхнічную спецыяльнасць. Я быў знаёмы з праектам «МаеСэнс». Пачынаў як валанцёр, потым кіраўнікі праекта вырашылі, што маю працу варта ўзнагароджваць. Навошта з нуля праходзіць нейкія субяседаванні, калі ёсць цікавы праект «МаеСэнс», які звязаны з тэхнічным бокам, бо «МаеСэнс» без сайта — гэта нішто. А рацыянальнае мысленне патрэбна ўсюды. Нават калі ты не інжынер і не праграміст.







**— У чым сутнасць праекта?**

— «МаеСэнс» — гэта дабрачынны аўкцыён сустрэч, нязвыклы фармат, які дазваляе рабіць добрыя справы і самому ад гэтага радавацца. Гэта праект, які мае падабенства з заходнімі аўкцыёнамі сустрэчы з зоркай. Напрыклад, вы хочаце сустрэцца з Брэдам Пітам. Недзе раз на год ён стварае аўкцыён, людзі выкладаюць велізарныя грошы, якія ідуць на дабрачыннасць. Гэта цікава, бо дапамагае камусьці здзейсніць мару і адначасова зрабіць добрую справу. Пачалося ўсё, калі не памыляюся, з амерыканскага бізнесмена Уорэна Бафета. Кожны год з ім прадаюцца ланчы, якія разыходзяцца з малатка за вялікія грошы. А ў нашым беларускім праекце гэта ўсё перанесена ў фармат «кожны можа быць зоркай». Любы чалавек можа зайсці, зарэгістравацца, стварыць аўкцыён, а іншыя будуць змагацца за сустрэчу з ім. Напрыклад, Алег Жаркоўскі сустрэнецца з вамі за кубкам гарбаты і раскажа, чаму ён раней быў інжынерам, а цяпер працуе на «МаеСэнс». Чалавека гэта цікавіць, ён робіць стаўку, праз тыдзень аўкцыён заканчваецца, і апошняя стаўка з'яўляецца стаўкай пераможцы. Ён плоціць грошы і атрымлівае мае кантакты. Мы дамаўляемся і сустракаемся, а грошы ідуць на дабрачыннасць. Гэта схема цудоўна працуе. Здавалася б, гэта нешта настолькі незвычайнае, што людзі будуць цурацца, але прайшло два гады, а праект жыве і актыўна развіваецца. Думаю, што за два гады сабраць больш чым 2 мільярды беларускіх рублёў — гэта вынік.




**— Якая твая роля ў праекце?**

— У нас невялікая каманда — 5 чалавек. Я б сказаў, што я раблю ўсё, акрамя бухгалтарскай, юрыдычнай і праграмісцкай працы. У такой невялікай камандзе трэба быць мульціінструменталістам, умець рабіць усё. Калі я быў валанцёрам, я займаўся мадэрацыяй сайта і тэхпадтрымкай. А цяпер мае функцыі павялічыліся і ў колькасці, і ў маштабах. Я займаюся зносінамі са СМІ і з людзьмі. На нашым сайце можна выйграць сустрэчу з якой-небудзь зоркай, з якой трэба дамовіцца, правільна ўсё правесці, аформіць. Я пішу тэксты, часам нават малюю. Усё гэта можна акрэсліць шырокім паняццем «маркетолаг». Нядаўна ў нейкай кнізе я натрапіў на цікавае слова «маркецёр». Гэта тое самае, што маркетолаг, але практык, які не паглыбляецца ў эканамічную тэорыю. Там было напісана, што калі сабраць усіх маркецёраў і спытаць, што яны робяць, то атрымаецца, што яны і спяваюць, і пішуць, і малююць… Яны не павінны гэтага рабіць, але яны мусяць, таму што трэба ўсё паспець своечасова.

**— Што асабіста табе дае праца ў «МаеСэнс»?**

— Праз пару год «МаеСэнс», безумоўна, будзе вялікай кампаніяй, але пакуль мы мусім паспяваць зрабіць шмат невялікімі рэсурсамі і якасна. І гэта захапляе, бо твая праца не ўспрымаецца як канвеер. Я не ведаю, што буду рабіць праз тыдзень, гэта можа быць абсалютна любая творчая праца. Што мне асабліва падабаецца — гэта зносіны з людзьмі. У нас вялікая аўдыторыя, яны задаюць пытанні, просяць дапамагчы вырашыць праблемы, дзякуюць… З усімі імі трэба камунікаваць. Няспынныя зносіны — гэта цікава.

**— Ці надоўга ты ў «МаеСэнс»?**

— У праекта вялікія перспектывы. Я магу сказаць, што стаю ля яго вытокаў. Адчуваю, што патэнцыял, які мы маем кожны паасобку, можам рэалізаваць разам. І я не бачу сэнсу ад гэтага адмаўляцца. Гэта нешта незвычайнае, новае і такіх праектаў няма не толькі ў Беларусі, але нават у бліжэйшых краінах. Калі я быў на вастрыні навукі і рабіў алгарытмы, гэта была ў вялікай ступені творчая праца, а тут я раблю тое самае, але ў іншым ключы.

**— Як ты ацэньваеш вынікі працы вашай дабрачыннай арганізацыі?**

— Вынікі мяне вельмі цешаць. Наш праект — унікальны інструмент, які можа прынесці шмат карысці. Схема, па якой мы працуем, прадугледжвае, што частка грошай ідзе на развіццё праекта. Паколькі мы зарэгістраваны як камерцыйная арганізацыя, то можам праводзіць мерапрыемствы, акцыі, рэкламы — рэчы, якія звычайныя фонды не могуць сабе дазволіць. Не ўсе яшчэ разумеюць перавагі такой схемы, але калі правільна яе ўспрыняць, то вынікі будуць бліскучыя. Напрыклад, спачатку мы дапамагалі толькі дзецям, а цяпер пачалі падтрымліваць і арганізацыі па ахове жывёл. Літаральна за пару месяцаў яны сабралі каля 50—60 мільёнаў праз нашую платформу. Часам дабрачынная дзейнасць ператвараецца ў нейкае пакутніцтва, выпрошванне і вышкрабанне грошай. А наша кампанія глядзіць на гэта з іншага боку. Чалавек, які на сайце стварае аўкцыён, сам нічога не плоціць. Плоціць той, хто набывае з ім сустрэчу. Напрыклад, я ўмею добра жангліраваць. А хтосьці хоча на гэта паглядзець і таксама навучыцца жангліраваць. Фармальна ён плоціць грошы менавіта за гэта: за вопыт зносін з жанглёрам, зоркай, бізнесменам...

**— Ты лічыш, што ваша праца мае сэнс?**

— Так, наша праца мае сэнс. Калі вы хочаце цудоўна правесці час, адчуць нешта незвычайнае і цікавае, вам трэба прыйсці да нас. Калі вы хочаце падтрымаць дзяцей, жывёл ці нейкія цікавыя праекты, якія робяць свет лепшым, вам трэба прыйсці да нас. Карацей, усе дарогі вядуць у «МаеСэнс». Наш сайт: **www.maesens.by.**

*Гутарыла Тамара САРАЧЫНСКАЯ*

Ягор КОНЕЎ



# Медыя і шосты запавет

***Напрыканцы мінулага вучэбнага года да мяне падышла студэнтка з групы, у якой я быў куратарам. Звалі яе Света, хоць гэта і не істотна. Істотнай была яе заява: сыходзіць у акадэмічны адпачынак па прычыне цяжарнасці. Не так даўно, дарэчы, ёй споўнілася 18 гадоў. Мяркуючы, што кожнае дзіця — ласка нябёсаў, я павіншаваў дзяўчыну і пацікавіўся:***

***— Пэўна, і вяселле запланавалі ўжо! Ці папросіце ў дэканаце дазвол на датэрміновую здачу экзаменаў? Мяркую, вам пойдуць насустрач...***

Аказалася, вяселля не прадбачыцца. Свецін кавалер — бацька дзіцяці і яе аднагодак — паскардзіўся матулі на тое, што сяброўка «заляцела». Тая заявілася да дзяўчыны і ўчыніла вэрхал: маўляў, у тым, што здарылася, вінавата толькі Света, якая наогул квапіцца на мінскую прапіску!.. Матуля катэгарычна забараніла сыну жаніцца (той не дужа і хацеў), таму цяпер Света вагалася: ці варта ёй пакідаць дзіця?

Глыбокая туга ахапіла мяне з гэтай прычыны. Я разумеў, што не маю права ёй штосьці раіць. Света падавалася мне ахвярай не толькі сваёй легкадумнасці, але і нашай камунікацыйнай палітыкі. Ці, праўдзівей, яе адсутнасці.

Хто ў нас займаецца палавой асветай падлеткаў? Хто знаёміць іх з гігіенай інтымных зносін?

Мне, зразумела, заявяць, што на гэты конт павінны прасвятляць бацькі ды настаўнікі ў школе. Толькі навошта саміх сябе падманваць? Наша насельніцтва ў пытаннях інтымнага жыцця настолькі забабоннае, што ігнаруецца нават думка пра наяўнасць такіх праблем. Бацькам здаецца, што дзеці самі пра ўсё даведаюцца з вуснаў аднагодкаў або з інтэрнэту. Хоць, звычайна, падлеткі, якія гадзінамі вывучаюць парнасайты, менш за ўсё шукаюць там інфармацыю пра ўмовы бяспечнага сексу. Не дужа паглыбляюцца ў фізіялогію і школьныя настаўнікі, асцерагаючыся, што бацькі абвінавацяць іх у амаральнасці. Дарэчы, сярод старшакласнікаў хапае такіх, хто можа лекцыю па сексалогіі чытаць выкладчыкам, бо ўзрост першага інтымнага досведу ў юных беларусаў няўхільна зніжаецца, па гэтым паказчыку Беларусь рухаецца ўпоравень з еўрапейскімі краінамі.

Афіцыйна палавое выхаванне на Беларусі быццам адбываецца на належным узроўні, але на практыцы гэтая інтымная сфера паранейшаму знаходзіцца пад уплывам прыхамацей. Я маю на ўвазе распаўсюджаную

**Закон інфармацыйнага развіцця такі, што ўкараненне каштоўных якасцей у ментальнасць адбываецца шляхам няспыннага і доўгатэрміновага ўздзеяння**

## Афіцыйна палавое выхаванне на Беларусі быццам адбываецца на належным узроўні, але на практыцы гэтая інтымная сфера па-ранейшаму знаходзіцца пад уплывам прыхамацей

сярод хлопцаў забабону, нібыта карыстацца прэзерватывам тое ж самае, што купацца ў ботах, цалавацца праз цэлафан і г. д. У дзяўчат іншая бяда: яны спадзяюцца на стыхійны збег абставін, на тое, што каханне знянацку грымне, таму часам нават не паспяваюць пацікавіцца ў хлопца, ці ўзброіўся ён прэзерватывам? Некаторых дзяўчат наогул не клапоціць такая «драбяза», а іншыя баяцца пакрыўдзіць хлопца абмеркаваннем сваёй бяспекі.

Карацей, прычын непрадбачаных «залётаў» тысячы, і звычайна вінавацяць у іх каго заўгодна. Але мне падаецца, што карысны ўнёсак у гэтую сітуацыю маглі б зрабіць нацыянальныя медыя, найперш — тэлебачанне. Кожны хлопец, незалежна ад узроўню інтэлекту, кіраваў бы на спатканне з прэзерватывам у кішэні ды каробкай цукерак у руках, калі б штовечар у прайм-тайм (час з сямі да дзевяці гадзін вечара) бачыў бы на экране тэлевізара сацыяльны ролік на 10 хвілін з тэкстам такога кшталту: «*Сабраўся на спатканне? Захапі з сабой прэзерватыў! Падары сваёй сяброўцы пачуццё надзейнасці ды бяспекі*!»

Такі ролік за пару гадзін могуць зладзіць нават студэнты Інстытута журналістыкі, не кажучы ўжо пра спецыялістаў Беларускага відэацэнтра. Істотным з'яўляецца не наяўнасць роліка, а час яго знаходжання ў эфіры. Сацыяльная рэклама карысці прэзерватываў не падзейнічае, калі яе будуць трансліраваць толькі на працягу месяца або сезона. Рэальны эфект стане відавочны толькі тады, калі яе штовечар будуць бачыць нашыя маладыя суграмадзяне на працягу ДЗЕСЯЦІ, а лепей ДВАЦЦАЦІ гадоў. Закон інфармацыйнага развіцця такі, што ўкараненне каштоўных якасцей у ментальнасць адбываецца шляхам няспыннага і доўгатэрміновага ўздзеяння.

Як сведчыць гістарычны досвед, масы лёгка ўзбудзіць хіба што на дэструктыўнае: вайну або вынішчэнне іншаверцаў. Парадаксальнасць чалавечай натуры заключаецца ў тым, што ўсё, не звязанае з кровапраліццем, прыжываецца ў грамадстве даволі доўга. Напрыклад, парасон быў вынайдзены ў Англіі яшчэ ў сярэдзіне 1840 гадоў. Першапачатковае яго прызначэнне заключалася ў абароне прахожага не столькі ад дажджу, колькі ад зместу начных гаршкоў, які выліваўся на вуліцу з вокнаў жылых дамоў. Каналізацыю ў Вялікабрытаніі, самай цывілізаванай у тую пару краіне свету, упарта ігнаравалі да 1860 гадоў. Дык спачатку парасон успрынялі за «аплявуху традыцыям і маральным норавам». Першых уладальнікаў парасонаў цягнулі ў паліцыю і штрафавалі. Стаўленне да парасонаў змянілася толькі пасля 10-гадовай інфармацыйнай кампаніі, якую ўзначаліла самая рэспектабельная газета Альбіёна «Таймс» (яе тагачасны рэдактар Джон Дылейн, акрамя ўсяго, праславіўся прыдуманай ім у 1852 годзе канцэпцыяй «чацвёртай улады ў грамадстве»). І цяпер выхаванага брытанца цяжка ўявіць без парасона нават у сонечны дзень.

Хтосьці запярэчыць, што англічане заўсёды былі ў авангардзе прагрэсу. Але зазірнём у Галандыю. У 1920 гады рэдактар адной з амстэрдамскіх газет Хендрык ван дэр Берген выступіў з наватарскай праграмай: перасесці з конскіх сёдлаў у веласіпедныя, паколькі язда на ровары — справа танная і карысная для здароўя. На доўгі час за ван дэр Бергенам замацавалася рэпутацыя недапечанага. Мала хто з сучаснікаў успрымаў усур'ёз яго заявы, што ў недалёкім часе галандцы аддадуць перавагу веласіпедам замест павозак, лодак і аўтамабіляў. Ровар падаваўся тупіковай галіной транспартнага развіцця. Але ўпарты ван дэр Берген працягваў папулярызаваць ровар на старонках свайго выдання. Пакрысе ягоны досвед пераймалі іншыя газеты. У часы Вялікай Дэпрэсіі, а затым і Другой сусветнай вайны галандцы з мэтай эканоміі селі на веласіпеды і не злязаюць з іх да гэтай пары. Сам ван дэр Берген не дажыў да веласіпеднага трыумфу, бо ў 1943-м ён не пажадаў разлучыцца з жон-

кай-яўрэйкай і разам з ёй быў адпраўлены ў Асвенцым. Сёння ў Амстэрдаме з 750 тысяч жыхароў карыстаюцца веласіпедам 700 тысяч (астатнія 50 тысяч — эмігранты). І тое, што ўспрымаецца за нацыянальную асаблівасць, насамрэч, вынік шматгадовых высілкаў рэдактара-арыгінала і ягоных калег-паплечнікаў.

Мне могуць запярэчыць, што лёгка спасылацца на еўрапейскі досвед, бо там людзі больш ініцыятыўныя. Але ж і наша глеба спараджала асветнікаў, якія клапаціліся пра агульны дабрабыт самым дзейсным сродкам — друкаваным словам. Сярод значных імён мне здаецца незаслужана падзабытым імя Аляксандра Уласава. Ён быў рэдактарам-выдаўцом у 1906—1914 гадах газеты «Наша ніва» — выдання, якое стварыла ідэйны падмурак сучаснай інфармацыйнай мадэлі. Як публіцыст ён упершыню ў беларускім друку агучыў праблемы, якія і сёння не губляюць актуальнасці: развіццё мясцовага самакіравання, эміграцыя моладзі за мяжу, дарожнае і жыллёвае будаўніцтва, несправядлівы абарот капіталаў і перашкоды на шляху эканамічнай ініцыятывы і г. д. Але найбольшай павагі заслугоўвае выдавецкая дзейнасць Уласава. Дзякуючы ягоным высілкам «Наша ніва», якая ўвесь час знаходзілася на мяжы фінансавага краху, не толькі выжывала, але і спарадзіла першую хвалю нацыянальнага Адраджэння. Пакуль супрацоўнікі рэдакцыі (сярод іх Купала, Колас, Ластоўскі) пісалі вершы, апавяданні, нарысы, Уласаў знаходзіў рэкламадаўцаў, за кошт якіх існавала першая нацыянальная легальная газета.

Цяжка ўявіць, наколькі выгаднай была рэклама прэзерватываў на старонках «Нашай нівы», але, мяркуючы па колькасці такіх аб’яў, праект аказаўся доўгатэрміновым. Пашанота «гумавым вырабам» хоць і кантрасціравала з вершамі Максіма Багдановіча і гумарэскамі Альберта Паўловіча, але забяспечвала іх наяўнасць. І тое, што падавалася недарэчным сто гадоў таму, сёння падаецца больш актуальным і значным. Цяпер ужо не трэба даказваць, што беларусы — народ не горшы за іншыя, і што таксама мае права на суверэнітэт. Для нас гэта ўжо дадзенасць. Але папулярызацыя культуры інтымных зносін застаецца важнай справай, да якой трэба ставіцца гэтак жа адказна, як першы рэдактар-выдавец «Нашай нівы» Аляксандр Уласаў. Таму я падчас куратарскай гадзіны, калі нехта са студэнтаў жартам заводзіць гаворку наконт сексу, смела апелюю да «нашаніўскіх традыцый». І мяне сагравае надзея, што разам з думкай аб карысці прэзерватываў вучні пакрысе засвояць і іншыя «нашаніўскія» ідэі: пра дзяржаву роўных магчымасцей, нацыянальную годнасць, пачаткі эканамічнага дабрабыту...

Зразумела, калі ў галаве той ці іншай дзяўчыны свярбіць адна думка пра любоўныя гулі, то аніякімі зваротамі да «нашаніўскіх» традыцый яе не праймеш. Кожны сам творца свайго шчасця і гора. Аднак, калі незапланаваная цяжарнасць адбылася, нашы медыя і тут здатныя паўплываць на рашэнне маладой матулі: нараджаць або пайсці на аборт?

Прычын для забойства эмбрыёна можа быць мноства, прычым, слушных: калі, напрыклад, дзіця — вынік гвалту або плён ненатуральных стасункаў паміж роднымі, або маюцца медыцынскія супрацьпаказанні і г. д. Але прычынамі аборту могуць стаць і страх перад асуджэннем з боку знаёмых, і непадрыхтаванасць да мацярынскай долі, і нежаданне мець дзяцей наогул. Карацей, падстаў можа быць багата, а вынік адзіны — забойства ненароджанага, парушэнне Шостай запаведзі.

На шчасце, дзяржаўныя органы не дрэмлюць. Паводле афіцыйных дадзеных за апошнія 12 гадоў колькасць абортаў скарацілася ў 5 разоў: са 120 да 24 тысяч штогод. Калі раней штодня пазбаўлялі права на жыццё 328 дзетак, то цяпер — 65 (не ўлічваючы незаконных абортаў, якія застаюцца па-за статыстыкай). Ды ўсё роўна горка ведаць, што кожныя 20 хвілін абрываецца жыццё ненароджанага беларуса.

**Спачатку парасон успрынялі за «аплявуху традыцыям і маральным норавам». Першых уладальнікаў парасонаў цягнулі ў паліцыю і штрафавалі**

У сувязі з гэтым, мяркую, было б карысна нашым тэлеканалам штовечар перад выпускам навін паказваць ролік прыблізна такога зместу: «*Несвоечасова зацяжарыла? Вагаешся? Не забівай жывую душу! На 15 дзень у твайго дзіцяці б'ецца сэрца. Ён ужо чалавек. Нарадзі яго! Не хочаш ці не можаш выхоўваць немаўлятка? Пакінь іншым! З цягам часу тваё дзіця знойдзе сям'ю і шчасце. А ты падорыш яму жыццё і надзею*».

Я разумею, што гэткі тэкст можа не выклікаць асаблівага інтарэсу ў жанчыны, якая ўжо сабралася ў абартарый. Ды дзейснасць такой рэкламы дасягаецца не ў блізкай, а далёкай перспектыве. Колькасць забітых немаўлятак будзе скарачацца не адразу, але праз тры, пяць, сем гадоў. Чым даўжэй уздзейнічаюць медыя на грамадскую свядомасць, тым больш грунтоўным будзе эфект засваення.

Карысныя ідэі могуць папулярызаваць не толькі сацыяльная рэклама, але і медыйныя асобы, нават цацкі. Напрыклад, мільёны венграў вучыў чысціць зубы медзведзяня Мацак — вядучы перадачы для дзетак у 1960—1990 гадах. Яго ўплыў на венгерскую стаматалогію аказаўся больш эфектыўны, чым стосы медыцынскіх брашур і павучанні школьных выкладчыкаў. Мільёны амерыканцаў не ведаюць усіх сваіх прэзідэнтаў у XX стагоддзі, але дагэтуль памятаюць каментатара Дэна Райзера, які штовечар ёміста і з лёгкім гумарам распавядаў суайчыннікам пра тое, што здарылася ў свеце. Але такім уплывовым Райзер зрабіўся пасля таго, як пратрымаўся аж трыццаць гадоў на экране. Тэлевядучая Опра Уінфры была сапраўдным лакаматывам амерыканскай індустрыі. Мільёны амерыканак апраналіся, як яна, куплялі кніжкі, якія яна ўхваляла ў эфіры, бавілі вольны час, як яна раіла. Але словы Опры зрабілася важкімі праз чвэрць стагоддзя з моманту выхаду яе першага шоу.

**Напрамак у нас надзейны — Шосты запавет: «Не забі». У часе нас ніхто не абмяжоўвае. Патрэбна толькі ініцыятыва**

**Цяжка ўявіць, наколькі выгаднай была рэклама прэзерватываў на старонках «Нашай нівы», але, мяркуючы па колькасці такіх аб'яў, праект аказаўся доўгатэрміновым**

У гісторыі сусветнай жуналістыкі яшчэ багата прыкладаў, якія пацвердзяць, што ўплыў на характар людскіх паводзінаў найболей дзейсны тады, калі доўжыцца працяглы час. І калі хочам, каб колькасць незапланаваных цяжарнасцей і абортаў скарацілася ў дзесяць разоў, то трэба прысвячаць гэтай праблеме колькі хвілін у эфіры штовечар на працягу дзесяці гадоў. Хацелася, каб змены да лепшага адбываліся хутчэй, ды толькі ў інфармацыйнай прасторы рэдка здараюцца цуды. Лепш успрымаць медыйную грунтоўнасць як належнае ды рухацца ў верным кірунку няспынна, нязменна, непахісна. Напрамак у нас надзейны — Шосты запавет: «Не забі». У часе нас ніхто не абмяжоўвае. Патрэбна толькі ініцыятыва.

Дарэчы, мая колішняя студэнтка Света таксама праявіла ініцыятыву. Паўгады таму я сустрэў яе на Кальварыйскай. Яна з гонарам несла свой круглы жывот, з чаго я зрабіў выснову, што думка пра аборт была ёю адрынута. Важкай прычынай такога рашэння, верагодна, паслужыў хлопец, які клыпаў з ёй пад руку. Мы са Светай павіталіся, коратка пагаварылі. Аказалася, яе суправаджаў той самы кавалер, якому матуля забараніла жаніцца. Света паставіла перад ім ультыматум: або я, або матуля. І ён абраў Свету, паколькі матулю добра ведае, а са Светай што ні дзень, то новае «адкрыццё Амерыкі». Абодва хваляваліся, дзе будуць здымаць кватэру, якімі акажуцца вынікі ўльтрагукавога даследавання. А я шырока ўсміхаўся і радаваўся, што ў іх сумесны клопат. Дужа хацелася мне верыць, што лёс узнагародзіць Свету за тое, што адцуралася смяротнага граху. І дужа хочацца верыць, што з цягам часу — пры адпаведных медыйных намаганнях — спазнаюць шчасце тысячы нашых незабітых дзетак.

# «Объяснительная» Каці Зыкавай




***Знаёмства з ёю пачалося нечаканай метафарай: «...её ноги срослись / точно ствол / точно попа и санки / одиночество / это когда ты единственная-в-мире-русалка». Гэта верш з дэбютнай кнігі Кацярыны Зыкавай «Объяснительная». Дарэчы, тлумачыць незвычайныя словазлучэнні і выразы Каця не стамляецца, у адрозненне ад чытання сто гадоў таму напісаных вершаў.***



— Першы раз я чытала свае вершы ў майстэрні Георгія Барташа. Гера збірае маладых літаратараў. Яны сустракаюцца, чытаюць, крытыкуюць адно аднаго. Часам ладзяцца імпрэзы. Тады мае творы спадабаліся. Гэта быў важны момант, калі я зразумела, што мае тэксты ўвогуле могуць быць даспадобы. Пасля ўдзельнічала ў розных конкурсах, і дэкламацыя ператварылася ў руціну. Калі выйшлі дэбютныя кнігі (не толькі мая, але і Кірыла Дубоўскага, Паўла Анціпава), мы гаварылі пра тое, што ўсе гэтыя творы напісаны даўно, сорамна чытаць адны і тыя ж вершы. Вырашылі: яшчэ крыху павыступаем з імі, а пасля трэба спыніцца.

На жаль, цяпер менш часу на напісанне новых тэкстаў. Пакуль у мяне шмат спраў звязаных з працай і асабістым жыццём. Нават не хапае унутранай меланхоліі, самоты.

**— Твая «Объяснительная» выйшла па-руску. Як рускамоўны аўтар-пачатковец пачуваецца ў беларускамоўным асяроддзі?**

— Усе мае сябры, беларускамоўныя літаратары, выдатна ставяцца да маёй творчасці. Увогуле, мне здаецца, білінгвы сёння досыць распаўсюджаны. І гэта добра, калі ў адным асяроддзі суіснуюць руска і беларускамоўныя аўтары, прынамсі, нам заўсёды ёсць чым займацца: перакладаем адзін аднаго. Мае вершы пераклалі Марыйка Мартысевіч і Віталь Рыжкоў. Я пераклала на рускую тэксты Веры Бурлак. Мы ўзаемадзейнічаем, і ў гэтым ёсць цудоўны момант узаемадапамогі. Мне было цікава пачуць уласныя вершы на беларускай мове.

**— Ты дазволіла размясціць сваю кнігу ў свабодным доступе ў інтэрнэце. Не хацелася яе прадаваць у электронным варыянце?**

## «Сто гадоў адзіноты» Габрыэля Гарсія Маркеса. Асабліва пасуе да восеньскага часу. Такі перыяд: стагадовы дождж за вокнамі, зіма да сакавіка...

— Я вырашыла, што мастацтва не прадаецца. Мне цікава сачыць, адкуль спампоўваюць кнігу, якія краіны. На літаратуры не зробіш вялікіх грошай. Пакуль малады і кніг няшмат, трэба раздаваць іх усім.

**— Што ты тлумачыш сваёй «Объяснительной»?**

— Тлумачу, чым займалася ўсе гады, куды сыходзіў вольны час. Кніга расказвае ўсё пра мяне. Андрэй Хадановіч, рэдактар выдання, сказаў, што рэдагаваў яе гадзіны дзве і выправіў толькі дзве коскі. А пасля яго прымусілі на працы пісаць тлумачальную. Кажа: «Вось, дарэдагаваўся». Добра што назвала кнігу менавіта так, а не нейкім іншым чынам.

**— А цябе крытыка ад знаёмых ці незнаёмых людзей моцна нервуе?**

— Яна мяне вельмі радуе, калі толькі канструктыўная. Я прыслухоўваюся і ўлічваю меркаванні дарагіх мне людзей. Ёсць рэферэнтная група, якой я паказваю вершы. Засмуціць мяне можа выпадак, калі яны прачытаюць творы і скажуць: «Малайчына! Пішы яшчэ». Я заўжды адчуваю той момант, калі мяне не хочуць крыўдзіць. Лічу, што пісаць трэба як мага меней. Чым менш тэкстаў, але большай якасці, тым лепей.

**— Было нейкае адчуванне страху, калі выйшла кніга?**

— Больш за ўсё мяне хвалявала прэзентацыя. Сказаць штосьці новае ў такім фармаце вельмі цяжка. Многія запрашаюць музыкаў, я таксама не стала выключэннем. Мне хацелася, каб людзі атрымалі задавальненне калі не ад вершаў, то хаця б ад пячэння. Калі не тэкстамі накарміць, то салодкім.

**— Пра што ты ніколі не будзеш пісаць?**

— У мяне мала інтымнай лірыкі. Усяго два вершы, прысвечаныя асабіста маім пачуццям. Неяк быў слэм, прымеркаваны да дня святога Валянціна. Сказалі прынесці пяць вершаў пра каханне. Я паглядзела, а іх у мяне ўсяго тры. Крыху пакутавала праз гэта. Прачытала два і зразумела, што да фіналу ў любым выпадку не дайду, бо няма чаго чытаць. Мне здаецца, тэмы для вершаў абіраюцца выпадкова. Я не маю забароненых тэм, але раўнадушна стаўлюся да пейзажнай і грамадзянскай лірыкі.

**— А што ты абіраеш для ўласнага чытання?**

— Я люблю чытаць зусім розныя кнігі. Памятаю, узяла аднойчы Мамлеева. Ехала ў метро, юнак саступіў мне месца. Пры гэтым заўважыў: «Я бачу назву вашай кнігі — сядайце. Мне падаецца, гэта лепей чытаць седзячы». Сапраўды, гэта вельмі спецыфічны пісьменнік. У яго кнігах шмат непрыемных момантаў, звязаных з забойствамі.

**— Сама часта набываеш кнігі?**

— У мяне ёсць чыталка. Хаця друкаваны варыянт нішто не можа замяніць. Гэтыя адчуванні, пах… Але з набыццём рыдара жыць стала прасцей. Бо набываць кнігі сёння не надта выгадна, асабліва добрай якасці, у прыгожым пераплёце. З дапамогай чыталкі я стала чытаць больш.

Перачытваю Ніцшэ «Так казаў Заратустра». На філфаку мы вельмі хутка прайшлі гэтую тэму. Часта перачытваю Марыну Цвятаеву, бо ў яе шмат ніцшэанскіх матываў.

**— А да якіх кніг хочацца вяртацца?**

— «Сто гадоў адзіноты» Габрыеля Гарсія Маркса. Мяне супакойвае гэта чытво. Асабліва пасуе да восеньскага часу. Такі перыяд: стагадовы дождж за вокнамі, зіма да сакавіка…

**— Ці былі перыяды фанатызму па пэўным аўтары?**

— У кожнай дзяўчыны ёсць нейкія кніжныя прыхільнасці. Напрыклад, калі ў школе праходзілі Маякоўскага, я яго вершы вельмі любіла. Уладзімір Набокаў для мяне — дасканалы празаік. Падаецца, што форма і змест яго твораў ідэальныя, а вось вершы чытаць не варта. Люблю Марыну Цвятаеву. Прычым, калі раней чытала вершы пра каханне, то цяпер мяне натхняе яе жыццяпіс. Пасля чытання прозы надыходзіць выдатны разняволены стан, калі хочацца пісаць вершы.

*Айцец ЯЎСТАФІЙ*
*(ХАЛІМАНКОЎ)*



# VII*

***Прысвячаецца Вільні і майму дзяцінству***

Вільня… Ох, пафас і лямант пачуеце вы, людзі, толькі не крыўдуйце… Вільня… Што гэта за Горад, што гэта за свет?.. Пішу слова «Горад» з вялікай літары, бо для мяне Вільня значыць тое ж, што для Булгакава Кіеў, а для эліна Канстанцінопаль. Мне было 18 год, калі я ўпершыню апынуўся ў Вільні. Я быў звычайным юнаком, апантаным, як і ўсе ў гэтым узросце, адкрыць новую (сваю!) літаратурную Амерыку ці заваяваць славу беларускіх «Ролінг Стоўнз» (бо слава беларускіх «бітлоў» была ўжо даўно заваявана «Песнярамі»). Мне тады мала рэфлексавалася наконт маіх адносін з Вільняй. Але на доўгія гады ўва мне засела адчуванне гэтай страчанай перспектывы — і ўласна для мяне, і ўвогуле для ўсёй Беларусі — перспектывы нашай Вільні, якая была б беларускім Піцерам ці чымсьці яшчэ больш выбітным…

Мы прыехалі з мінскімі хіпі на Казюкас (тады яшчэ не трэба было аніякіх віз), і я нават не ўяўляў сабе, што мяне чакае ў гэтым Горадзе… Галоўнае адкрыццё адбылося, калі наведаліся ў Свята-Духаў манастыр. Мы зайшлі пагрэцца, бо было вельмі холадна, марозна; і вось, стоячы ў прытворы гэтага велізарнага храма, я адчуў, што трапіў у нешта карэнна-глыбіннае, родна-ўтробнае — я трапіў нібыта ў маленства. На імгненне я адчуў сябе немаўлём, якое прынесла бабуля ў старую вясковую царкву на прычасце. Але цяпер я вырас і прыйшоў сам… Ды не… праз гады толькі я зразумеў, што мяне прынесла сюды Маці Божая, Маці Вострай Брамы… Маці вярнула мяне ў дзяцінства. Туды, дзе зліваюцца ў адну плынь сны і фарбы: бясконцы прастор летняга неба, казачныя мроі зімовага лесу, асенняя імжа поля і веснавыя туманы — усё зліваецца і патанае ў водары шчаслівага дзяцінства…

Гадаваўся да школы я ў вёсцы: у дзядулі з бабуляй... На мой цяперашні розум, гэта былі самыя шчаслівыя часы майго жыцця. Прачынаешся летнім ранкам ад казачнага водару: бабуля пячэ смачныя пірагі з макам і варэннем з брусніц; варыць свае «фірменныя» клёцкі з мяснымі «душамі». Дзед зранку пайшоў «па расе» касіць. Потым бяжыш на поле, нясеш яму сняданне; маленькімі граблямі дапамагаеш… Калі быў дождж, дзед браў вуду і гадзінамі сядзеў ля ракі. Бабуля потым смажыла ў печы ягоных карасёў і пло-

* *Працяг. Пачатак у № 6, 7, 8, 9, 11, 12 за 2013 г.*

так у смятане з хрэнам. Ох, што гэта была за страва!..

Мой дзед быў заможным гаспадаром, які нібы сышоў з палатна Коласавай «Новай зямлі». Яму заўсёды не хапала зямлі. Часта з іншымі гаспадарамі ўзнікалі спрэчкі, але ў адрозненне ад баб, дзяды моцна не варагавалі, не ўмелі… Бо амаль усе прайшлі войны — самыя розныя… У маладосці, у 1930 гады, дзед служыў у войску ў Вільні, таму дзесьці ў 1950-я палякі прапаноўвалі яму пераехаць у Польшчу, абяцалі даць маёнтак як герою, абаронцу Вільні. Бо дзед дэмабілізаваўся ў 1939 годзе, калі прыйшлі «вызваліцелі». У старой шафе быў схаваны строй польскага жаўнера. Але дзед ніколі пра гэта не распавядаў, бо сталінскі жах моцна засеў у нашых старых. Многія на вёсцы сушылі сухары, калі прыйшлі «вызваліцелі»; многія збіраліся ў Сібір за тое, што любілі працаваць і не жылі галадранцамі. Але прыйшла другая вайна, больш сур'ёзная і страшная…

Зноў мяне ахінаюць салодкія дзіцячыя ўспаміны… На Каляды збіраліся біць кабана — гэты спектакль называўся Пагалоўшчына (дагэтуль не ведаю этымалогію гэтага слова); спрытнейшы дзед біў кабана, астатнія яго свежавалі. Потым садзіліся за стол, елі свежыну, успаміналі старыя часы. Бабы дапазна займаліся вытворчасцю каўбас… Доўгімі зімовымі вечарамі дзяды збіраліся на свой «дзядоўскі клуб». Выганялі з залы баб і садзіліся гуляць у вясковы покер: «тысячу». Перад Вялікаднем людзі парадкавалі могілкі, бабы акуратна хадзілі да прычасця, а вось мужыкі рэдка заглядвалі ў царкву: толькі прыслужнікі, пеўчыя альбо тыя, хто амаль ніколі не піў самагонкі і не гуляў у карты. Да бабы Насты, дзедавай роднай сястры, прыходзілі людзі, каб яна

**Калі я ўпершыню апынуўся ў Вільні, то ўва мне ўзнікла адчуванне, што я сустрэў сваю нерэалізаваную будучыню**

**Ох, пафас і лямант пачуеце вы, людзі, толькі не крыўдуйце… Вільня… Што гэта за Горад, што гэта за свет?..**

памалілася за іх родных: «Сцяпанаву душку, Ганніну душку, Лёксаву душку, Прузынiну душку… успамяні, Божа, прыпомні… Сам Бог прыпомніць, Сам Бог замовіць… заўмарлыя душкі…» — засталіся ў памяці толькі гэтыя словы з яе доўгіх адметных малітваў... На Вялікдзень усе біліся чырвонымі яйкамі, пафарбаванымі ў шалупінні цыбулі; былі бабы-аматаркі, што хадзілі з дзецьмі па хатах ды спявалі: «Хрыстос уваскрос, Сын Божы…»

Мяне малога яшчэ насілі да прычасця, а вось вадзіць малога ў царкву было ўжо небяспечна, бо быў савецкі час. Бабуля перад сном вучыла мяне чытаць малітву, якую я, зразумела, помню ўсё жыццё:

Я спацькі кладуся,
Нікога не баюся,
На Бога спадзяюся.
Крыж на рэнцы,
Бог у сэрцы.
Кладуся спацькі,
Як уміpацькі,
Прашу мяне Божачку
Пеpажагнацькі.

З гэтым побач было і язычніцтва. Напрыклад, на Дзяды адлівалі на стол крыху гарэлкі, адкладвалі бульбы, капусты — дзядам. А ў лазні пакідалі вады — гарачай і халоднай — каб і дзяды памыліся. А то яшчэ пакрыўдзяцца, і тады…

Гэта быў патрыярхальны свет майго дзяцінства. На ўсё жыццё ўва мне засталася тая Беларусь, якой яна была на працягу доўгіх стагоддзяў, пакуль камуністы яе не знішчылі. Мае бацькі — ужо зусім іншыя людзі. Гэта тып новага «савецкага чалавека». І самае дрэннае, што зрабіла з нашым наро-

дам савецкая ўлада, заключаецца ў разрыве сувязі паміж пакаленнямі.

І калі я ўпершыню апынуўся ў Вільні, то ўва мне ўзнікла адчуванне, што я сустрэў сваю нерэалізаваную будучыню. У гэтым горадзе служыў мой дзед, менавіта сюды хадзілі нашыя бабулькі на кірмаш, бо гэта быў самы блізкі да нас горад за польскім часам. Полацак ці Мінск былі ў іншай дзяржаве, Гродна ці Баранавічы знаходзіліся ўвогуле на краі свету. А Вільня — вось яна, побач — 150—200 кіламетраў… І менавіта ў гэты горад я павінен быў паступіць са сваіх Докшыц ці Глыбокага, менавіта ў гэтым горадзе я павінен быў пачаць пісаць свае першыя вершы, якія б друкаваліся ў беларускамоўных газетах, калі б Вільня была адным з беларускіх абласных цэнтраў. Гэты горад павінен быў стаць маім першым каханнем…

Але для мяне ўсё скончылася Мінскам. І калі я цяпер, праз дваццаць з лішнім гадоў пасля першай сустрэчы, гуляю па старых вулачках Вільні, то мой сум нагадвае сум старога прафесара, які закахаўся ў сваю студэнтку, але разумее, што ўсё ўжо занадта позна…

Аднекуль прасочваецца, прарастае нешта такое, што нельга пэўна акрэсліць… Звычайна гэта шчымлівае пачуццё называюць генетычнай памяццю. Але недарэчныя словы мае губляюцца перад неакрэсленасцю і велічнасцю гэтага пачуцця… Мне здаецца, што толькі цяпер я дарос да цябе, старажытная повязь часоў, калыска Беларушчыны. Беларус ніколі ўжо не будзе былым, калі пяройдзе Вострую Браму.

Вострая Брама — гэта беларускі рубікон,

**Калі я цяпер, праз дваццаць з лішнім гадоў пасля першай сустрэчы, гуляю па старых вулачках Вільні, то мой сум нагадвае сум старога прафесара, які закахаўся ў сваю студэнтку, але разумее, што ўсё ўжо занадта позна…**

**Што засталося ў вашых грудзях, людзі, — гулі-пулі, балі-шалі, сеціва-марозіва ці нешта сапраўднае, нешта з дзяцінства, ад маткі, ад Маці?!**

пасля якога ты нарэшце зразумееш, што не зможаш быць вершнікам на «старадаўняй Літоўскай пагоні», не выцягнеш… У лепшым выпадку ты збраяносец. Вось толькі чый? Крыўдна? Але, паслухайце яшчэ, людзі!.. Думаецца мне, што Горад не Сталін, а Бог аддаў літоўцам, бо калі б Вільня была беларускай, то невядома што б мы з ёю зрабілі!.. Мы нявартыя гэтага велічнага Горада! Ці не так? Паспрабуйце зняпэўніць мяне — я і сам быў бы рады! Што засталося ў вашых грудзях, людзі, — гулі-пулі, балі-шалі, сеціва-марозіва ці нешта сапраўднае, нешта з дзяцінства, ад маткі, ад Маці?! НАРОД можа аб'яднаць толькі яна — Вострая Брама, над якой — Маці Божая, наша агульная, наша праваслаўная і каталіцкая, наша… Вострая Брама — гэта мяжа нашай ідэнтычнасці і пачатак спроб «людзьмі звацца». Дык колькі ж гэтыя спробы будуць захлынацца ў самым пачатку? Такое ўражанне, што Беларусь — нейкая «краіна сурка», дзе з году ў год, з дзесяцігоддзя ў дзесяцігоддзе мроіць і блукае адзін і той жа брузлы сюжэт, адна і тая ж замыленая опера.

Вострая Брама, да цябе прыходжу я, прыпадаю, бы да матулі. Да цябе іду, Маці Божая, па дрыготкай лесвіцы свайго жыцця, гатовы сарвацца кожны момант… Заступі мяне, атулі, адагрэй… Дазволь Сваёй служцы Вільні шчэ пабавіць мяне ціхай барочнай пяшчотай, строгім гатычным пафасам, сівой і нічым неспагладнай славянскай мілотай… Маці Божая, Маці Святой Брамы — Ты наша Адзіная Надзея — Надзея нашай краіны, якая была агульная і, можа, стане калісьці такой; бо Вільня, як і Ты, Маці, — наш адзіны Горад, які пішацца з вялікай літары для ліцвінаў — і не разбярэш ужо, дзе тут канчаюцца беларусы і пачынаюцца літоўцы…

13 студзеня

— Ды я, ведаеце, не памятаю… — разгублена вымавіў ён, але раптам схамянуўся: — А адкуль вы ведаеце маё імя?

— А памятаеце, вы эксперымент ставілі? — спытаўся я з хітраватай усмешкай.

— Нешта памятаю. Ну і… як вынікі эксперымента?

— Грандыёзна. Шчыра вам дзякуй. Куды вас везці? Ці, можа, хочаце са мной паабедаць?

— Так, так, я даўно не еў, — сказаў Эдмунд Сігізмундавіч. — Буду вельмі ўдзячны, вельмі.

Мы ўзляцелі на Чырвонаармейскую і прыпаркаваліся каля рэстарана. Праз самы кароткі час дацэнт Рудзінскі ўвёў у свой арганізм цудоўныя стапалітоўскія боршч.

— Зараз паямо, ~~потым~~ паедзем у Дом літаратара, там на рэпетыцыю, потым канцэрт, у пасля канцэрта я люблю тусіляваць у фанатаў, — распавядаў я. — Сто год у Менску не быў.

— Сто?

— Сто не сто, а гадоў дзесяць не быў, калі не лічыць праезды. Як ваша дысэртацыя сунецца?

— А, так, так, дысертацыя. Ведаеце, я… даўно не пісаў — так, ладно.

— А чаму?

— Ды ўжо, разумееце… а чаму вы пытаеце?

— Ну, я ў нейкім сэнсе падпоследнім жывёлай быў. Дзякуй, Віка, — кінуў я афіцыянтцы, што паставіла «ПРЫСУЖАНЬ ШТО МЕНАВІТА» перада мной талерку.

— Адкуль вы… адкуль вы ведаеце, як яе завуць? — спытаў Рудзінскі.

— Ну, па-першае, у яе напісана на бэйджыку. А па-другое, я сюды заходзіў яшчэ да пераносу, і нічога прынцыпова не змянілася.

— А якога, прабачце… якога пераносу?

— Ну калі вы мяне з 2014 года ў 1998 перапраўвілі. Прыгадваеце?

— Цяпер… цяпер прыгадваю. Ну і як… лепей?

— Лепей.

— Я ў сваёй дысертацыі прыйшоў да… ведаеце… высновы, так бы мовіць… незваротнай. Заўсёды другі раз будзе горш.

— Ну дык вы памыляецеся.

— Вы не… не адпавядаеце маёй дысертацыі.

— Не адпавядаю.

— Таму мне давядзецца вас забіць.

На гэтых словах Рудзінскі спрытна і плаўна выхапіў пісталет і бязгучна націснуў на курок. ~~Куля чамусь вельмі павольна паляцела да маёй галавы,~~ Гуманец цяжка паваліўся на падлогу. ~~Рудзінскага скруцілі~~ Дацэнт Эдмунд Рудзінскі быў арыштаваны. ~~Пазней яго прызналі вар'ятам і зачынілі ў Навінках.~~ Псіхіятрычная экспертыза заключыла, што ён псіхічна нармальны.

Як Гуманец выйшаў на Алесю Рапуцэвіч?
Якіх поспехаў на амурнай ніве ён дасягнуў да яе?

*Старонка чарнавіка яшчэ няскончанай і пакуль безназоўнай аповесці Віктара Лупасіна з прысвячэннем: «Падлеткам 10-х ад падлеткаў 90-х».*

*«Персанажы з рэальнасці перамяжаюцца ў маім аповедзе з персанажамі выдуманымі або скампанаванымі з некалькіх рэальных людзей. Тыя, каго я праўдзіва вывеў пад сапраўднымі імёнамі, — людзі вясёлыя, з пачуццём гумару, не павінны пакрыўдзіцца».*

*Беларус Юрый Кошалеў выпадкова трапляе з 2014-га ў 1998-ы... Аповесць абяцана «Маладосці» да канца года, таму — не прамініце, калі ласка.*

*Яўгенія ПРАКАПЧУК*

# СОНЕЧНЫ ПАЦАЛУНАК



***Яўгенія Пракапчук нарадзілася 1 жнiўня 1997 года. Вучаніца 10 класа СШ № 3 г. Ганцавічы. Займаецца ва ўзорным літаратурным аб'яднанні «Верасок». Друкавалася ў раённай газеце «Савецкае Палессе», абласных газетах «Заря», «Народная трыбуна». У 2013 годзе перамагла ў абласным конкурсе юнацкай паэзіі.***

**ХВАЛЯ**

Хвалі ў возеры зацесна:
Цiснуць берагі і дно.
Яе вабiць свет нябесны —
Вольны свет надзей і сноў.

І, каб здзейсніць сваю мару,
Яна раніцай адной
Узнялася лёгкай парай
Над вадою, над зямлёй.

Стала хваля аблачынай,
Часткай велічных нябёс.
Але хутка смак палынны
Гэты «вольны свет» прынёс.

Хмарку рвуць вятры на часткі,
Месяц холадам пячэ,
Сонца паліць. З гэтай пасткі
Хмарка цэлай не ўцячэ.

Як яна схацела ўпасці
Зноў зрабіцца хваляй — жах!
Зразумела: гэта шчасце —
Быць у родных берагах.

**ПАРАСТАК**

Ён марыў аб шчасці далёкім.
Ён сам выбіраў сабе лёс.
І родныя нівы, аблокі
Пакінуў без жалю і слёз.
У доўгай юнацкай дарозе
На парастак кволы ступіў.
Але не заўважыў, бо позірк
Блукаў па бязмежнасці ніў…

…Ён старцам вяртаўся дадому.
Ён ведаў: па шчасце ідзе.
Было ўсё да болю знаёмым
І блізкім такім, як нідзе.
Змарыўся ў дарозе ад спёкі,
Пад дрэвам ратунак знайшоў.
І ведалі толькі аблокі,
Што двойчы іх лёс разам звёў.

## АДЗІНОТА

*Маёй бабулі Антаніне*

Ты слухаеш у хаце цішыню —
Нязменную суседку адзіноты.
Абедзвюх ты баішся, бы агню,
З абедзвюма звыкаешся ты ўпотай.

Пераглядаеш здымкі з жаўцізной
І пісьмы перачытваеш нанова.
І ўваскрашаеш светлаю слязой
Яго партрэт, ім пісанае слова…

Калі няўсцерп бывае цішыня,
Каб адысці ад цяжкага адчаю,
Лягчэй каб пераждаць пакуты дня,
Ты радыёпрыёмнік уключаеш.

Тады здаецца — дома не адна,
Палёгку адчуваеш і падтрымку.
І ажывае ўся твая радня,
Дагэтуль нерухомая на здымку.

Калі ж адыдзе твой самападман,
Пакіне грэць душу, як ніву грэе
Густы і цёплы ранішні туман, —
Тады жывое фота камянее…

І ўсё. Зноў для цябе пакуты дня,
Ды тое, з чым звыкаешся даўно ты.
Адданая да болю цішыня,
Адданая да болю адзінота…

* * *

Апусцела, здзічэла хата,
Па куточках шарэе мята,
Ды без паху.

Не запаляць святла тут дзеці,
Толькі сонца і месяц свецяць
Па-над дахам.

Вымываюць дажджы жывое,
Не памерлае, ды старое
Стане прахам.

Хата дыхае пылам долі,
Незваротнасцю, едкім болем,
Ціхім жахам.

* * *

Як грэе сонца промнямі,
Няхай і электрычнымі,
Ды цёплымі, крынічнымі
І блізкімі, нат роднымі.

Пад імі, светлакрылымі,
І снег цяплейшым робіцца,
І верыцца, і мроіцца…
Жывецца з большай сілаю.

Турботы, колісь важныя,
Адразу забываюцца,
Будзённасць аздабляецца
І шчасце — больш заўважнае.

Жыццё зусім нязвычнае,
Таемнае, бясконцае,
Але трымаю сонца я,
Няхай і электрычнае.

* * *

У танцы крылатых дзён
Зрабіла мне падарунак
Сонца праз лёгкі сон:
Цёплы свой пацалунак.

І нават як дождж ідзе,
Мне не патрэбен ратунак,
Бо ў сэрцы маім цвіце
Сонечны пацалунак.

Лістота на роўнай зямлі
Сплятае свае карункі,

Каб і ў траве былі
Сонцавы пацалункі.

Скідаю цяжар з плячэй,
Выходжу з натоўпу думак.
І цепліцца ля вачэй
Сонечны пацалунак.

* * *

Калі была зусім малою,
Я ў зорках бачыла анёлаў.
Ад мамы ж чула, што ў прасторы
Нябесным зоры — проста зоры.
Як можаш ты не заўважаць іх? —
Пытала я упарта ў маці.
Ды зараз у нябесным моры
І я гляджу на «проста зоры».

* * *

На могілках адзін пясок —
Траву старанна вырываюць.
Бор адступіў на крок убок
І ціха людзям спачувае.

Між цяжкіх помнікаў, крыжоў
І пацьмянелых мёртвых кветак
Зляцела з ветрам і ўзышло
Адно з маленькіх зерняў-дзетак.

А людзям сёння ўсё адно,
Што даў жыццё сасонцы вецер.
У словах жалю не чутно:
«З тае сасны шмат будзе смецця!..»

* * *

Нам хочацца жыццё пражыць
Не проста так. Не стаць тым ветрам,
Які ўвесь час кудысь бяжыць
І раствараецца бязмэтна.

Нам хочацца пакінуць след
Пасля сябе на цёплай глебе.
І не згарэць з агнём камет
У чорным неабсяжным небе.

Ці гэта збудзецца калі?
А мо дарэмна час марнуем,
Каб след пакінуць на зямлі,
Якую самі ж асфальтуем?..

* * *

Паэт. Душа. Бясконцы роздум.
Народ. Бязвер’е. Сумятня.
І з тлумам думак самых розных
Паэт у свет ідзе штодня.

Базарнасць. Быт. Незразумеласць.
Абраза. Крыкі. Сум цішы.
Якая ж між людзьмі адлегласць!
У сэрцы, думках, у душы!

Самота. Ноч. Бяссоння суткі.
Аловак. Невыказнасць. Жаль.
Ад зыркіх слоў няма ратунку:
Паэт ахвяра іх амаль.

Ці верне хто яму свабоду,
Ці верне хто спакой і сон?
Паэт — душа, душа народу,
Паэзія — святы палон.

* * *

Дрэва ўвесну цвіце, абуджаецца,
Пакрываецца пахкімі кветкамі.
А карэнне ў зямлі задыхаецца
Пад асфальтнаю шэраю сеткаю.

Падабаюцца кветкі ўсім белыя,
І не ведаюць людзі шчаслівыя,
Што карэнне, зусім анямелае,
Расстаецца з апошнімі сіламі.

І, каб людзі красой любаваліся,
Кветкі прагна п’юць сокі жыццёвыя
З каранёў. Толькі б не забываліся,
Што карэнне жыццё ім захоўвае.

*Ганна БУЧКО*

# КАНТРАСТЫ І ФАНТАЗІІ



***Ганна Бучко нарадзілася 1 мая 1992 года ў Мінску. Студэнтка перакладчыцкага факультэта МДЛУ. Захапляецца прыродай, найбольш — лесам. Вельмі любіць дождж і мышынага колеру туман. Часам малюе, піша празаічныя творы, у якіх спрабуе зразумець чалавечую сутнасць.***

Толькі пасля выпуску з мастацкай я зразумела вартасць КАНТРАСТУ. А ўсе чатыры гады я змагалася за колер, святло, дэталі: шукаючы і не знаходзячы. Мае людзі «выпадалі» з паперы, мае кветкі знікалі сярод лістоты, гарлачы штучна блішчэлі на драпіроўцы; а просты канцэпт ніяк не прыходзіў да мяне. Скончыла. ПРЫЙШОЎ.

Толькі пару месяцаў таму я зразумела каштоўнасць ФАНТАЗІІ, а ўсе гады раней я цвяроза прымала рэчаіснасць/рэальнасць за слушную праўду. «Толькі рэалісты — сапраўдныя мастакі! Божа, што за хлусня...» Усё астатняе — ці вар'яцкі стан, ці гульні, ці навошта мне гэта глядзець?!. Дзіўлюся, колькі часу можна б было шчэ так думаць...

А сапраўднае, не тое, што бачыш, а ЯК бачыш, ды тое, што ўвогуле ЗАЎВАЖЫЎ, — вось што «сэрца», супакаенне і «душа» для свайго адмысловага шэдэўра. І самога сябе.

Некалькі месяцаў таму я не заканчвала нічога, каб да мяне прыйшла нарэшце гэтая думка, а здаецца, пасля дзіўнай віхуры *сустрэч* я толькі ПАЧАЛА. Я толькі пачала, а галоўная рэч ужо нагнала мяне.

Але я пачала (!), і гэта не заканчэнне, а ПА-ЧА-ТАК. КАНТРАСТАЎ І ФАНТАЗІЙ.

* * *

Неба-індыга. Пахне свежасцю і скошанай травой. І тым бэзам, якога ўжо няма; але водар, нібы гук уночы, які чуваць на адлегласці, — яшчэ лунае летуценным прывідам.

* * *

Ідзеш дадому. Па знаёмай сцежцы, мінаючы знаёмага (з зімы) — добры, ён кранае галаву і супакойвае, нахіляецца да твару і з тактам ветру лагодна гладзіць валасы (ці капюшон узімку) моцнымі (вядома!), але пяшчотнымі пальцамі. Высокі, трэба ўздымаць вочы, каб паглядзець на яго; побач з трыма шумнымі ад вераб'ёў шыпшына-

мі, ён рахмана сутуліцца і... маўчыць. Выцягнуты, малады, ён вітае ўсіх. Дзіўная ўсмешка! А ці ўсе яго ведаюць? Мо гэта толькі наш сакрэт?..

З чаго гэта я аднойчы вырашыла пастрасаць купіны снегу з яго плячэй? Яму зрабілася лягчэй. І мне.

«Прывіта-анне!», — кажу. А ён усміхаецца.

«Дабранач!», — позна бягу (ён праводзіць мяне дахаты і застаецца пад ліхтаром).

З зімы. Так па-роднаму, што слова «дзякуй» ужо ў паветры.

* * *

Снедаю. Лыжкай бяру малінавае варэнне. Цукровае, густое, бронзавага колеру амаль.

Падношу да вуснаў... і бачу маленькі «пялёстак» бярозавай завушнічкі.

...Высокае сонца, блакітная столь і бярозавыя вершаліны хістаюцца па ветры недзе высока-высока. І шумяць! Шумяць як мора! (Я на моры, дарэчы, не была.) А вакол вершалін вёрткаюць ластаўкі...

Я не чакала пакуль запарыцца гарбата. Я праглынула малінава-бярозавае лета.

І зараз гэта я.

13. Крас.

* * *

Зноў дожджык! Дзеткі пералятаюць праз лужыны на выцягнутых ручках: бацькі ствараюць ім каруселькі!

12. Крас.

* * *

Прачынаюся я сёння, падыходжу да акна, фіранкі — у бок і... красавік! Нібыта Фердынанд Рушчыц!

9. Крас.

* * *

Я выйшла раніцай. Было так сонечна навокал! Ліліся ледзякі, віліся ручаі з ледзякоў, снегавыя насыпы блішчэлі дыяментамі.

І, раптам — кот! Кот на капоце машыны! Самотна мыецца, чорны, жмурыцца на нагрэтым метале, глядзіць на мяне, здзіўленую, гэтак жа, здзіўлена. «Прывітанне...» — кажу. І раптам... — другі кот! (Кампаніяй весялей?) Вялікі, размаітамасны, вусаты, мыецца на капоце. Мыўся да таго моманту, пакуль мы адно аднаго не заўважылі.

Сарамліва ўсміхаюся, шкадую, «быў бы ў мяне татаў "Зенит"» Але ж і карыстацца толкам... Я апошнім разам гляджу на гэты маляўнічы цуд і крочу па лужынах па сваім маршруце.

Вось такі красавік.

Вось такія каты.

Каты на капотах.

30. Сак.

* * *

Змерзлі рукі — пішу ледзяным атрамантам, балазе запарыла шыпшынавай гарбаты ў імбрыку.

1. Сак.

* * *

Зорка вісіць на небе. Зіхаціць! І нават не ведае, калі яна стане — Znічкай.
Ці праз тысячу год, ці праз імгненне.
І мы. Калі нашае Імя загучыць прыгажэй, а нас ужо не будзе.
Але — зіхацім.
І ўсё ж такі — зіхацім!..
20. Сак.

* * *

Наверх, наверх! Праз мост. Па леваму боку, з правага — там па бруку. Дамы і вокны. Раптам — мільганулі і, хорам, вакол мяне, павольна пачалі наліваццa святлом ліхтары.

У мяне ўзнікла такое пачуццё, жартаўлівае, але ж — прыемна, калі вакол цябе і, мабыць, *для цябе*, запальваюць святло. Тым больш — незнаёмыя Ліхтары).

З майго вечаровага мінскага шпацыру.

15. Лют.

* * *

У царкву на Нямізе вялікая чарга. Спёка, сярэдзіна дня. На прыступках, у цяньку дрэў, расцягваецца чарга знізу ўверх.

А каля ліхтара, паміж людзей, — дзяўчына ў хустачцы — коўшыкам налівае ў шкляныя слоікі з белага бака ВАДУ!

Такую патрэбную, прахалодную і цудатворную.

* * *

Сяджу дома. Тэлевізар нешта мармыча сабе. Раптам — знаёмы голас. Такі бадзёры, які ўздымае настрой. Утульны.

Праграма «Дача». І менавіта Сяргей Чуб шпацыруе разам з салістам «Дрозды» і выведвае ўсе дасканаласці лецішча.

Але дзіва! Я ўспрымаю яго Якімам! Якім з «Паўлінкі». Добры, вынаходлівы і родны.

* * *

Як прыемна часам нагадваюць пра сябе тэатры.

* * *

Мроі-планы-летуценні. Мая галава вырабляе сама тое, што захоча, а я нават не паспяваю за ёй. Куды выплескацца, выліцца і выспацца?

Артур КАМАРОЎСКІ

# АПАВЯДАННІ



***Артур Камароўскі нарадзіўся 22 сакавіка 1991 года ў Міры. Скончыў ГрДУ ім. Янкі Купалы па спецыяльнасці «беларуская філалогія». Цяпер вывучае літаратуразнаўства ў магістратуры. Захапляецца творчасцю Чорнага, Геніюш, Булгакава, Дастаеўскага, Блока, Лоркі. Улюбёная пара года — восень.***

## МОЦ ДУХУ

Набліжаўся час, калі Ваканада[1] дасягае свайго піку: становіцца нясцерпна пякучым, пякельна светлым і велічным. У такія дні Макомбу здавалася, што сама прырода змаўкае, адкрываючы перад чалавекам амаль усе свае таямніцы. Цішыня: вось што больш за ўсё падабалася яму.

Таму ў дні перад Акіпа[2] стараліся гаварыць менш і цішэй. Вось і цяпер, несучы цяжкі Слуп Сонца[3], Макомба і чацвёра яго сяброў, выдатных ваяроў, як і ён сам, ціхенька, каб хоць хто не пачуў, смяяліся. Нкуда распавядаў ужо каторы раз даўно ўсім вядомую гісторыю, як мінулай восенню яны хадзілі на бізонаў, і як адзін з іх, дзікі што чорт, ледзь не выпусціў Нкуду вантробы. А ўсё праз яго жартаўлівыя і амаль што абыякавыя адносіны да жыцця: вядома ж, нікога, акрамя брата, не мае. Дык чаго баяцца той смерці? Брат будзе жыць і без яго. Ён жыццё любіць.

Дом Сонца[4] ўжо чакаў пачатку дзейства. Але яшчэ рана. Трэба перш замацаваць як мае быць Слуп, пасля абвесіць яго ўпрыгожаннямі (малая Ая раніцай паказвала сваё, якое збіралася павесіць). Ды і Сцежку Сонца[5], па якой яно будзе ісці, таксама трэба абрабіць. Карацей — працы не на адзін дзень.

Але ж ніхто нікуды не спяшаўся.

* * *

Вось і надышоў той самы дзень. Макомба хваляваўся надзвычай моцна. Як ніколі дагэтуль. Было адчуванне, што тое, чаго ён жадаў і чаго баяўся, адбудзецца сёння, на вачах супляменнікаў. І калі гэта ўсё ж такі адбудзецца, ён дазнаецца, наколькі моцны ягоны дух.

Елі моўчкі. Пераглядаліся. Жонка нервова адрывала кавалкі мяса і доўга жавала. Ая хісталася з боку ў бок.

Прагучаў, здавалася, занадта гучна для цішыні рог. Трэба ісці.

---

[1] Ваканада — назва сонца ў некаторых індзейскіх плямёнах.

[2] Акіпа — галоўная і самая важная цырымонія на свяце Сонца.

[3, 4, 5] Дом Сонца, Сцежка Сонца, Слуп Сонца — атрыбуты свята. Пасля яго заканчэння Дом Сонца разбураўся, а са Слупа здымаліся ўпрыгожанні.

* * *

Ён вырашыў, што паспрабуе: будзе ўдзельнічаць.

Самае цяжкае — глядзець на дачку і жонку. Але яшчэ цяжэйшым здавалася выпрабаванне. Макомба не хацеў аказацца слабым і нікчэмным, не хацеў выглядаць у вачах прысутных баязліўцам.

Моц свайго цела ён ведаў, а вось моцы духу… Гэтага не.

* * *

Іх налічылі дванаццаць. Тых, хто сёння пройдзе выпрабаванне на трываласць.

З-за дрэў паказаліся воіны. Атака была хуткай: усе дванаццаць апынуліся ў палоне. Іх, пад гул натоўпу, моцна звязалі вяроўкамі. Макомбу здавалася, што ён задыхнецца яшчэ да пачатку самага галоўнага.

Што толькі ні рабілі з палоннымі: насміхаліся, гаварылі ў твар розныя брыдоты. Але гэта было нішто ў параўнанні з тым, што іх чакала наперадзе. Бакавым зрокам кожны з вязняў бачыў, што завостраныя дзіды ўжо ляжалі каля раскідзістага дрэва і чакалі свайго часу.

І ён прыйшоў.

Рэзкі ўдар быў нечаканым. Адзін. Затым другі. Адразу стала амаль не магчыма дыхаць. Боль працінаў Макомбу наскрозь, але ён ведаў, што трэба рабіць. Неймавернымі высілкамі ён прымусіў сябе ўсміхнуцца ў твар таму, хто стаўся яго катам.

Ён убачыў, як з палёгкай уздыхнула жонка: пачатак быў пакладзены добры.

У паветра ён узляцеў неяк нязграбна, падабраўшы пад сябе ногі. На канцы дзід былі прымацаваны скураныя рамяні, якія перакінулі цераз галіны дрэва. І толькі тады, калі апынуўся над зямлёй, Макомба выпрастаў ногі і пачаў імі боўтаць ды тузацца целам.

Усмешка… Усмешка не сыходзіла з вуснаў ні ў аднаго з палонных. Усе круціліся, кроў буйнымі кроплямі фарбавала пясок, ад болю крычалі прысутныя… А палонныя віселі і ўсміхаліся.

Падчас хвілін перадышкі, калі пакутуючых апускалі на зямлю, жанчыны абціралі іх ад крыві. Пасля трох такіх перадышак кожны з іх ведаў, што трэба рабіць: як мага хутчэй вызваліцца ад балючых дзід пад лапаткамі. А гэта значыць, што трэба ў два разы мацней тузацца і рваць сваё цела.

Макомба амаль звыкся з болем. Калі доўга нясцерпна баліць, то перастаеш адчуваць боль. Гэты боль робіцца часткай цябе, якую не выкінуць, ад якой не пазбавіцца.

Прысутныя заспявалі Песні Палону. Гэта быў знак для тых, хто вісеў, што пачынаецца самае галоўнае выпрабаванне.

Адчайны рывок стаў апошнім для Макомбы і прынёс яму збаўленне. Дзіды выслізнулі з цела і ён упаў на зямлю.

Выпрабаванне для яго скончылася. Макомба ляжаў, не варушачыся, і бачыў над сабой Ваканада, якое сляпіла яго. Чуў, як адзін за адным падалі яго сябры. Адзінаццаць удараў вобзем. Усё добра. Яны змаглі.

Цяпер Макомба дакладна ведаў: толькі спазнаўшы боль чалавек усведамляе сваю моц. Боль не страшны, калі ты яго прымаеш.

Цяпер можна заплюшчыць вочы.

* * *

— Ану ўставай, дурная твая галава! Да гарэлкі, што свіння да гразі! — мажная жанчына пхала нагою мясцовага п'яніцу Мішку, што разлёгся, раскінуўшы ногі, на яе ганку.

— Ааа…о..іыы.. — толькі і змог адказаць Мішка, ледзь пралупіўшы адно вока.

Сабраўшыся з духам, стаў спачатку на калені, пасля, разгайдаўшыся з боку ў бок, узняўся і на ногі. Галава гудзела, сэрца часта тахкала, ногі падкошваліся.

«Гэта табе не воінам быць. І не пакутаваць у паветры. Тут хоць бы на зямлі трывала стаяць», — гаварыў сам сабе Мішка, успамінаючы свой дзіўны сон.

## ГЭТА БЫЛО ТАК

***Я разумел, надежда для***
***такого злосчастного, как я, —***
***за пределами этой жизни***

Э. По

**1**

У Балціморы збіралася не першая і не апошняя восеньская навальніца. Самыя страшныя з іх заўсёды прыходзяць цёмнымі начамі. І самыя прыгожыя, пэўна, таксама.

З кожнай хвілінай вецер мацнеў, і каб не цемра, то можна было б убачыць, што па дарозе, разам з пылам і смеццем, ляціць зусім яшчэ зялёная лістота. Вар'яцкія нажніцы ветру зразалі галінкі бессаромна і бязлітасна. Дрэвы марна ўхіляліся ад гэтых выпадаў, але гэта шкодзіла ім яшчэ больш. Некаторыя з іх, голыя і пераможаныя, ужо ляжалі на зямлі.

Нават каб і знайшоўся які-небудзь дурань, які б пасунуўся такім надвор'ем на rue Morgue, то і ён бы не заўважыў чалавека, што сядзеў на адной з брудных лавак, запэцканых груганамі і мясцовымі п'яніцамі. Невядома пра першых, а другіх сюды цягнула карчма з таннай выпіўкай, жорсткім светам картачных гульняў, ды і ўсе без выключэння асобы жаночага полу, якія там бывалі.

Каб хто паглядзеў на чалавека зблізу, то ўбачыў бы карціну, якую можна апісаць двума словамі: «на мяжы». Мяжа палягала паміж жыццём і смерцю. Здавалася, цела прагнула жыцця, а душа — смерці, якая б сталася вызваленнем ад пакут.

Каб гэты чалавек мог гаварыць, то, пэўна, сказаў бы, як гарэла яго нутро, як у галаве выбухаў боль, як вакол хадзілі здані і насміхаліся з яго бездапаможнасці.

Апошняе, што ён убачыў — пустыя вачніцы ночы.

**2**

— Мары, калі я цябе падманвала? — з крыўдай у голасе пыталася Харміёна. — Кажу табе, што абрабавалі да ніткі, нават адзежу знялі.

— Як гэта знялі, калі я бачыла сваімі вачыма, што на ім было паліто?! — не давала веры Мары.

— Якое там паліто. Смех ды і толькі. Адна назва. Невядома, што выглядала горш: ён сам ці яго адзенне. А ты кажаш… Ды і якая розніца, што на ім было. Самае цікавае вось што… — маладзенькая сястрычка паправіла халат, азірнулася па баках і з асалодай ад усведамлення перамогі над сяброўкай па хуткасці і якасці здабычы інфармацыі, зашаптала.

— Мне стала вядома, што ўся гэтая гісторыя — забойства, забойца — жанчына. Можа, прастытутка з карчмы. Але я думаю, што не ўсё так проста. Навошта было мужчыне дарыць ружы?

— Ружы? — бровы Мары прыўзняліся ледзь не да сярэдзіны ілба.

— Ціха ты, — ад напружання твар Харміёны наліўся чырванню. — Слухай далей. Ведаеш, як яна забіла? — Мары матлянула галавой і Харміёна выпаліла. — Атруціла!

Стала чуваць, як у акенца прыёмнага пакоя бездапаможна б'ецца муха.

Маўчанне перапыніла Мары. Нібы баючыся пачуць яшчэ больш страшную інфармацыю, але не ў змозе змагацца з цікаўнасцю, яна ціхенька запытала:

— І як жа ёй гэта ўдалося?

— Каб жа я сама ведала! Доктар Моран не выявіў аніякіх вонкавых пашкоджанняў. А калі не вонкавыя, то ўнутраныя. Проста так у сорак гадоў не паміраюць. Проста так наогул ніхто не памірае. І хоць канчатковы дыягназ, пастаўлены доктарам, гаворыць пра тое, што гэта было «запаленне мозгу», я ні за што ў гэта не паверу… Вінавата жанчына. Я так думаю, што яна ў гэтай гульні толькі пешка. Дапамагла выпіць ці з'есці атруту. А чамадан грошай дастаўся каралю.

— Які яшчэ чамадан грошай? — здзівілася Мары.

— А вось такі. Недзе зарабіў тыя грошы ды вёз дахаты. А…

Дзверы пакоя рэзка адчыніліся, на парозе з'явілася мажная жанчына гадоў сарака пяці. Не зважаючы на сваіх калег, што застылі ў сполаху ад нечаканасці, бы шкадлівыя коткі, што ўлезлі ў смятану, яна схапіла нейкія папкі і гэтак жа хутка знікла, не забыўшыся грукнуць дзвярыма.

Тайфун «Кэці» прайшоўся па пакоі, нічога не зачапіўшы, і толькі цяпер Мары і Харміёна адначасова выдыхнулі. Апошняя, дарэчы, нават згубіла ход сваіх думак, паабяцаўшы, што калі даведаецца што-небудзь новае ці ўспомніць, на што забылася, то адразу падзеліцца з Мары.

Мары ж, праклінаючы жанчыну-тайфун, злосная, што так і не даведалася, што за чамадан з грашыма быў у нябожчыка і куды ён знік, села за паўсядзённую сваю пісаніну.

**3**

Вакол была цемра. Амаль увесь час. Ненадоўга яна адыходзіла і рабілася нават балюча ад святла — тоненькай лініі, што стаяла перад вачыма. Здаралася, штосьці шумела, але вуха ўжо не магло разабраць анічога: ці то была чалавечая мова, ці цурчэла вада. Проста шум, ад якога ні куды не дзецца. Яму здавалася, што ён спрабаваў бегчы, адбіваўся, але ўсё марна: яго спрытна лавіла нейкая белая пачвара, ад укусу якой знікалі святло і шум. І чалавек зноў апынаўся ва ўладзе ўсепаглынальнай цемры. Гэта было самае страшнае: першыя хвіліны адчування яе ўсюдыіснасці. Здавалася, што яна пранікала нават пад скуру, тады рабілася вельмі холадна. Пасля знікала і цемра. Так паўтаралася некалькі разоў. Кожны раз чалавек спрабаваў зразумець, што гэта за д'ябальская гульня, і калі гэта сапраўды гульня, то хто яго праціўнік. Яго пытанні і выкрыкі ігнараваліся. І сярод святла ды цемры адказу не было.

Міналі гадзіны. Нічога не мянялася. І тады ён вырашыў зрабіць апошні крок, пасля якога назад дарогі не будзе: гэтую гульню ён прайграе. Ён звярнуўся да адзінай існіны, да таго, хто падпарадкоўваў сабе і святло, і цемру, да таго, чыё імя даносілася ў гэтую ж хвіліну з кожнага куточка планеты, каго звалі і каго баяліся, каго любілі і ненавідзелі — да Госпада: не з пытаннем, а з просьбай: «Госпадзі! Прымі маю бедную душу!»

Рэзкі ўдар святла асляпіў яго назаўсёды.

**4**

— Гэта канец, — выціраючы слёзы прашаптала маладая дзяўчына.

На могілках стаяў ранішні туман. Адчуваўся холад. Чатыры постаці былі адзінымі тут жывымі. Калі не лічыць груганоў, што крычалі на ўсю ваколіцу.

— Не трэба слёз, дарагая. Канец — гэта першая прыкмета пачатку чагосьці новага.

*Кацярына ЗАХАРЭВІЧ*

# ВЯСЁЛКА Ў ЦЕМРЫ

*Апавяданне*

Колькі чалавек можа прабыць у цішыні і цемры, не выходзячы з кватэры, ні з кім не размаўляючы, нікога не бачачы? Будзеце ўяўляць, як гэта, у думках абмяжоўваць сваю свабоду, называць розныя тэрміны і лічбы ад некалькіх хвілін да… бясконцасці?

А калі сам так вырашыў? Калі сам сябе зачыніў у аднапакаёвай турме агульнай плошчай каля сямідзесяці квадратных метраў, з якіх выкарыстоўваецца літаральна працэнтаў каля дзесяці-пятнаццаці?

Два месяцы. І гэта, здаецца, не апошняя кропка, а ўсяго толькі чарговая мяжа, пік. Кожны дзень — новы пік, новая вяршыня. Або новая бездань. Вяршыня для цела, якое мабілізавала ўсю сваю моц, жаданне выжыць, якіх, здавалася б, у гэтай дзяўчынцы зусім няшмат. А для душы яе — бездань, у якой яна сама сябе засыпае камянямі. Шэсць дзясяткаў і адна бездань на яе асабістым рахунку. Падсвядома яна ведае гэта, але не спыніцца, а ўсяго толькі пакіне яшчэ адну чорную пляму на паблёклай вясёлцы на сцяне. Як і кожны дзень. А можа, і не дзень нават. Праз шчыльную тканіну аксамітных парцьераў (ад прапрабабулі яшчэ) нават у самы ясны і сонечны дзень складана было зразумець, у якім часе, пары года, на якой планеце ты цяпер знаходзішся. Яна адчувае, што менавіта цяпер трэба паставіць яшчэ адну, чарговую, пляму. Нібы ўнутры яе ёсць свой гадзіннік, які вымярае яе ўласныя дні — шэрыя, хмарныя, пакутлівыя.

Вясёлка на сцяне — адзінае матэрыяльнае, істотнае, што засталося ад яе мінулага. Але яна пакрыўджана ўжо і сонечным святлом з таго ж мінулага, і невялікімі нервовымі чорнымі плямамі, хаатычна раскіданымі па сцяне. Яна, вясёлка, змагаецца з чорнымі, іншароднымі, чужымі ёй кляксамі, якія захапілі яе законную тэрыторыю. Пакуль што перамагае, але гэтыя маленькія пачвары з кожным днём набіраюць моц. Забіраюць яе сілы. Каб зусім нічога не засталося ад таго дня. Ні ад яго, ні ад яе памяці, ні ад яе самой.

* * *

Вясёлка памятае лепшыя свае гадзіны. Нават жыццё ў выглядзе сямі рознакаляровых збанкоў з фарбай у краме



***Кацярына Захарэвіч нарадзілася 27 жніўня 1994 года ў Докшыцах. Вучыцца на 3 курсе Інстытута журналістыкі БДУ. Супрацоўнічала з газетамі «Родныя вытокі» (Докшыцы), «Зорька», «Знамя юности». Яе твор стаў нагодай абвясціць конкурс «запаміналак» колераў вясёлкі.***

будаўнічых матэрыялаў. І як прыйшлі туды — ён, высокі, моцны, здаецца, нават грозны, каб не нейкае дзіцячае замілаванне і ахоўніцкая пяшчота ў вачах, жаданне дагадзіць любым шляхам, любымі сродкамі, і яна — маленькая, актыўная, энергічная, і… з тымі ж самымі пачуццямі на твары, ды, магчыма, яшчэ больш моцнымі, чым у яго. Прыгожая сваёй мілай незвычайнасцю пара.

«Каждый охотник желает знать, где сидит фазан»[1]… Менавіта так успаміналі, якія патрэбны колеры… Яна перыядычна абвяшчала яго вар'ятам на ўсю краму, сама нібы здзіўлялася гучнасці сваіх абвінавачванняў, дэманстратыўна прыкрывала вусны далонню і лёгка калола яго вострым локцем пад рэбры. Абяцала быць больш асцярожнай у выказванні сваіх жаданняў. «Гэта ж дзяцінства!»

Прадавец крамы, жанчына з шэрым мінулым і няспраўджанымі спадзяваннямі на будучыню, паглядзела на пару і іх набыткі з лёгкай зайздрасцю, замілаваннем, і, магчыма, упершыню за доўгі час усміхнулася. Не вуснамі. Вачамі.

Было лета. Адзін з тых летніх дзён, які, можна спадзявацца, усё ж такі праб'ецца праз прапрабабулін аксаміт на вокнах, калі каму-небудзь прыйдзе ў галаву зашмаргнуць яго. Некалькі аблокаў вырашылі падзяліцца вадой, якая сапраўднай вясёлкай хутка заіскрыцца ў небе і будзе сама пазіраваць дзеля мастацтва.

Тою раніцай ён, як звычайна, патэлефанаваў ёй у сем гадзін, каб яна не спазнілася ва ўніверсітэт. Яму можна было спаць да паловы дзявятай, але ён даўно ахвяраваў паўтары гадзіны свайго адпачынку, каб толькі прачынацца разам з ёй. У яе сёння чарговы іспыт летняй сесіі. Голас незвычайна бадзёры для такога часу. Гэта значыць толькі адно — не спала ўсю ноч. Рыхтавалася. Зноў піла каву літрамі.

— Зноў не спала, так? — спытаў ён бацькоўскім тонам.

— Чаму? Спала. Тры з паловай гадзіны. Вясёлая, ты ж чуеш, — яна звонка (падазрона звонка) засмяялася і працягнула шчабятаць: — Ведаеш, чаго мне не хапае раніцай?

— Мяне? — яго вусны расплыліся ў замілаванай усмешцы, уявіўшы, што яна засмяецца і спытае, нібы не чакаўшы такога адказу: «Як ты здагадаўся?»

— Не, навошта. Цябе ў мяне многа. Я вясёлку хачу.

— Сёння, здаецца, дождж абяцалі, значыць, будзе табе і вясёлка, — сказаў задуменна, хоць не глядзеў прагноз надвор'я не толькі на сёння, але і ўвогуле ніколі не глядзеў тэлевізар, а ў галаве ўжо заварушыліся думкі, планы, варыянты, як зрабіць гэтаму дзіцяці вясёлку. У яго заўсёды так: ні адно слова не павінна прайсці міма, застацца незаўважаным, не рэалізаваным. Тым больш, слова яго каханай «вар'яткі». Проста ён быў бы ўжо не ён, калі б не знайшоў нейкае выйсце. Яна гэта ведала. І ён ведаў, што яна ведала.

— Ты ж ніколі не глядзіш прагноз надвор'я? — пачуў ён хітры голас, які яшчэ раз упэўніў яго, што спаць яна не клалася ўвогуле: з'явіўся ў ёй нейкі азарт спрачацца, пераконваць, дабівацца праўды.

---

[1] «Каждый охотник желает знать, где сидит фазан» — гэта, канешне, добра, але не па-нашаму. А як па-нашаму? Мы папрасілі сяброў «Маладосці» паспрабаваць стварыць беларускамоўны адпаведнік знакамітай запаміналцы колераў вясёлкі. Ч, А, Ж, З, Б, С, Ф – чырвоны, аранжавы, жоўты, зялёны… *Чапля Агапка з'ела жабку, балерон — селянін Філімон (буслік Сымон — феналгон)…* Вось што атрымалася ў нашых сяброў.

*Чарадзей Апрануў Жупан з Зіхоткімі, Бліскучымі, Сакавітымі Фалдамі* — даслала Вольга Градзінар. *Чаму Адзінокія Жанчыны Заўсёды Бываюць Самыя Файныя?* — прыдумала Амбіка Сінгх. *Частаваўся Апельсінам Жыраф з Баку. Сказаў: Фу!* — гэта ідэя Сяргея Самахвала. *Чэмпіёны Ажыццявілі Жаданае: Залаты Біятлон, Супер-Фрыстайл* — прапанавала Наталля Белазёрава (якая пажадала назвацца Нясвіжскай).

— Гэта мне мой рэўматызм падказаў, — пажартаваў, засмяяўся.

— А, зразумела, — яна таксама смяецца, крыху нервова. — Сустрэнемся пасля іспыту? Буду твой рэўматызм лячыць.

— Добра, я прыеду да ўнівера, — а ў галаве яго ўжо быў канчатковы план, як падараваць ёй вясёлку.

Вясёлка — атмасферная і метэаралагічная з'ява, якая назіраецца звычайна пасля дажджу або перад ім. Яна выглядае як дуга або акружнасць, складзеная з колераў спектра.

Гэта ўсё, што напісана ў Вікіпедыі пра адну з яе вялікіх мар. Усё, што засталося ў яе, — усяго толькі «метэаралагічная з’ява». Гэта не сумленна.

* * *

Менавіта гэтыя імгненні часцей за іншыя ўрываюцца ў яе галаву. Яна ніколі не запрашала іх да сябе. Больш таго, яна старанна зачыняла дзверы, вокны і нават самыя маленькія шчыліны ў сваёй свядомасці. Адразу пасля таго, як ён перастаў існаваць. Тады яна яшчэ магла змагацца. Пару хвілін ці пару стагоддзяў працягвалася гэтая бойка з успамінамі і з новымі падзеямі. Яна закрывала сябе: заплюшчвала вочы, прыкрывала далонямі вушы, але рэчаіснасць паступова і бязлітасна ўсё ж трапляла ў яе жыццё, душу, вытраўляла там усё, нібы атрутны газ. На месцы яе душы ўжо больш нічога не будзе, акрамя ўспамінаў, якія яна намагаецца прагнаць, якія нясуць боль, слёзы, пакуты, але ёй нічога больш і не застаецца.

Але аўтаматычна засталося тупое жаданне выкрасліць са свайго жыцця ўсё. І таму ў гэтым пакоі больш нічога не будзе. Даўно не было і не будзе нікога з яго сям’і. Яго сястра, цяжарная, прыходзіць раз на два дні і пакідае пад дзвярыма пакункі з ежай. Глядзіць з дакорам на тыя, што прынесла два дні таму, амаль што не кранутыя. Яна не можа доўга трываць атрутны пах фарбаў, выгляду добраахвотнай затворніцы. Яна прыходзіць, глядзіць дакорліва і вінавата. За тое, мабыць, адчувае сваю віну, што цяжарная, што ўсё яшчэ ходзіць, гаворыць, усміхаецца, прыносіць пакункі з крамы. Хутка не будзе вясёлкі, якую ён так проста падараваў ёй з-за аднаго толькі неасцярожнага жарту. Магчыма, хутка не будзе і яе самой, калі яе ўпартае цела зусім перастане есці і піць, перастане чапляцца за жыццё і паддасца атрутнаму паху чорнай фарбы, цемры і перастане існаваць. Як і ён.

Яго няма. Яна нават злавалася на яго: як ён мог пакінуць яе? Ён перастаў існаваць як асоба, як жывая істота, а праз некаторы час яго ўжо не будзе і як «набору» органаў, мяса, скуры, клетак, костак. Яму ўжо ўсё роўна, а што рабіць ёй?

Яна ніколі не разумела, чаму людзі пакланяюцца могілкам. У іх жа няма нічога ад чалавека, якога там пакінулі. Ёсць фотаздымкі, на якіх захаваўся вобраз чалавека: жывога, сапраўднага. Есць дзённікі, кнігі, музыка, асабістыя рэчы, якія чалавек цаніў, любіў, у якія «ўкладаў душу», з якімі звязана яго душа. Але магіла… месца, дзе ляжыць тое, што было калісьці жывым. Цела, якое не вытрымала жыцця, не здолела затрымаць у сабе душу. Вінаватае ў тым, што побач з роднымі няма цяпер ані душы, ані цела. Раней яна заўсёды лаяла сябе за такія думкі. Асабліва сорамна за іх было, калі на могілках бачыла чырвоныя ад слёз вочы каго-небудзь са сваякоў нядаўна пахаваных… У людзей гора, а яна…

Але цяпер яна не сумнявалася ў тым, што можа пагарджаць усімі гэтымі людзьмі за іх сляпую веру ў цела, якое ляжыць у труне, за іх слёзы не ад болю, а ад веры, што так трэба. Галоўнае, што яна можа ненавідзець іх таму, што ненавідзіць сябе: у іх усіх ёсць за што зачапіцца думкамі, успамінамі і надзеямі — за гэты вось буга-

рок, за драўляны крыж і фотаздымак з чорнай стужкай у правым ніжнім кутку. Яна ж занадта скептычная, каб гэтым жыць. І яна можа ненавідзець гэтае цела, якое нядаўна абдымала, кахала і абагаўляла, за тое, што яно, такое слабое, не здолела затрымаць душу. Душу, якую кахае яе душа.

* * *

Калі б яна ранейшая бачыла сябе цяперашнюю, то, напэўна, пашкадавала б, абняла, прытуліла і накарміла. Але ніколі не пасябравала б, таму што саромелася, што мае тое, чаго ў цяперашняй яе няма. Адчувала б сябе вінаватай, што шчаслівейшая. Гэта як ісці па вуліцы, заўважыць бяздомнага ці хворага, і не паглядзець на яго нават. Не таму, што мярзотна ці страшна, а таму што сорамна. І не ведаеш дакладна, за што, нічога ж дрэннага не зрабіла, а ўсё роўна вочы не здолееш падняць. Каб яна ранейшая сустрэла сябе цяперашнюю, то ад усёй душы малілася б, каб з ёй (ранейшай) такога не здарылася.

Калі б яе цяпер бачыла прадавец з крамы будаўнічых матэрыялаў, тая самая, з шэрым мінулым і няспраўджанай будучыняй, то яна б, напэўна, зайздросціла. Яна ў няпоўных сорак год ужо не любіла глядзецца ў люстэрка, таму што страчвала ў ім апошнюю надзею, і вельмі любіла чытаць раманы, таму што там знаходзіла няспраўджаную будучыню і праведзенае ў нязбытных марах мінулае. За тое ж раманы і ненавідзела. І сябе за тое, што нічога, акрамя нянавісці і зайздрасці, адчуваць не можа. Калі б прадавец з крамы цяпер бачыла яе, то, канешне, абагаўляла б. Яна звычайна абагаўляла тых, хто мог адчуваць. Яна хацела б нават штосьці важнае, істотнае страціць, каб пакутаваць, каб мець права сказаць: «Я ведаю жыццё», «я вартая таго, каб быць шчаслівай». Але яна страціла толькі магчымасць адчуваць.

Пасля шасцідзесяці аднаго дня, у якіх для яе існавалі толькі ложак, напалову знішчаная вясёлка, на якую яна ўжо не трымала крыўды і злосці, некалькі збанкоў чорнай фарбы, пасля дзён, у якія дзяўчына зусім забылася на свой фізічны стан, на свае прыродныя патрэбы, яна стала падобная да муміі. Калі б яна ўбачыла сябе, то запомніла б назаўсёды. Гэтыя косткі, зжаўцелую скуру, яркія фіялетавыя вены лепш за ўсё было б паказваць дзяўчатам-мадэлям з комплексам паўнаты і прадаўцу з крамы будаўнічых матэрыялаў.

Два месяцы таму яна заўважыла, што ў люстэрках адбіваецца толькі цемень, пустэча ды бардовы колер аксаміту на вокнах, які становіцца бясконцым у сваім падабенстве да крыві. Яна пабіла ўсё шкляное і празрыстае, што было ў кватэры. Сама, рукамі. Магчыма, на костках яе схуднелых пальцаў засталася запечаная кроў. Можа, ёй нават дагэтуль і баліць. Але, відаць, боль не такі моцны, каб быць заўважаным. Каб у яе душы мелася месца для якіх-небудзь пачуццяў і адчуванняў, акрамя болю, яна б, напэўна, расчаравалася: змагацца з болем і пакутамі сэрца ёй заўсёды дапамагалі фізічныя пакуты, рэальны боль цела. Раней яна драпала рукі, сціскала далоні так, што на іх адбіваліся сляды пазногцяў; калі была ў больш адэкватным стане, то наведвала спартыўную залу і там выціскала з сябе апошнюю моц. Выціскала апошнія кроплі жыцця, каб далей жыць. І раніцай жыла, калі адчувала боль у цягліцах. Фізічны боль перакрывае, забівае боль душэўны. Але цяпер гэта было так смешна, неістотна, драпаць рукі, каб не адчуваць крыўду на няспраўджанае каханне, знарок напружваць збалелыя цягліцы назаўтра пасля трэнажорнай залы…

Да такога болю яе не рыхтавалі ні мінулыя страты, ні больш дарослыя сяброўкі, ні кнігі, якія яна любіла чытаць. Пакуты даюцца нам толькі такія, якія мы зможам вытрываць і толькі для таго, каб стаць больш моцнымі, дасканалымі. Пакуты вельмі

моцныя бываюць толькі ў кнігах ды кінафільмах, там героі аддаюцца ім, існуюць і паміраюць з імі. Гэта прыгожа. Ёй нават крыху крыўдна было, што яна на сваім шляху не сустракала такіх трагедый. Жадала — атрымай! Жыві і пакутуй. Вар'яцей сабе пакрыху, не чуй, што табе твая падсвядомасць крычыць! Успрымай гэтыя «трэба жыць далей» як бессэнсоўныя словы істот, якія нічога і нікога не страчвалі, не разумеюць, як трэба жыць і што жыць увогуле не трэба. Знішчай усё, што было, каб не было сіл будаваць што-небудзь новае.

Калі яна чарговы раз устае з ложка, каб схаваць пад чарнатой яшчэ некалькі сантыметраў вясёлкі, то босымі нагамі топчацца па шматлікіх аскепках вялікага люстэрка, якое доўга стаяла каля сцяны, бо яны ніяк не маглі вырашыць, дзе яно будзе больш патрэбна. Да яе ў яго не было столькі люстэркаў. Ён стаў набываць іх спецыяльна дзеля яе. Ёй вельмі падабаліся светлыя пакоі яго кватэры на сонечным баку шматпавярхоўкі. Яна хацела, каб святло і прастора былі бясконцымі, каб сонца, ўстаючы раніцай, вітала іх двойчы — за акном і ў люстэрку насупраць. Яна доўга выпрошвала яго зняць з акон прапрабабулін стары і цёмны аксаміт, але ён адмовіўся. Гэта была, відаць, адзіная яе просьба, у якой ён адмовіў. Ад таго адмова была яшчэ больш недарэчная і крыўдная.

У той дзень, дзень малявання вясёлкі, яна была ў яго кватэры першы раз. Яна ведала, дзе ён жыве, нават мела пры сабе ключы і запрашэнне перасяліцца да яго, але ні першым ні другім да таго часу не скарысталася. Яго кватэра была для яе нечым святым і недасягальным, як часткова і ён. Такія, як ён, думала яна, павінны жыць недзе на Парнасе, спаць на ложку з аблокаў, ужываць нектар кветак, а тое, што такі цуд уважыў яе сваім з'яўленнем, — гэта нешта неверагоднае… Тое, што ён дазволіў ёй глядзець на сябе, быць побач, кахаць сябе, больш таго — сам прызнаваўся ў каханні, здавалася ёй сном. Яна не верыла, што годная такога шчасця. Тое, што ён можа жыць у адной з кватэр Мінска, што ён таксама спіць на старой канапе, што раніцай у яго падгарае яешня і астывае кава, здавалася ей больш нерэальным, чым казка пра вампіраў і пярэваратняў Стэфані Маер.

Не, яна не была сляпой дурніцай, а ён зусім не быў богам з Парнаса. Яна бачыла ўсе яго недахопы, але яны здаваліся ёй такімі мізэрнымі ў параўнанні з самім фактам яго існавання. Усё было проста: яна даўно марыла пра такога, як ён. Толькі яго яна здолела пакахаць — і за адно толькі гэта яна магла на яго маліцца…

* * *

Яна была яму нават удзячная за тое, што калісьці ён адмовіўся зняць старыя парцьеры. Нягледзячы на яе перакананні: цемра, пыл, дрэнны настрой… А цяпер яны, парцьеры, ператварыліся ў лепшых сяброў, памагатых, адзіныя рэчы, якія застануцца, здавалася, нават калі яе не будзе. Напэўна, і пасля Апакаліпсісу ад усёй планеты застанецца толькі стары аксаміт яго бабулі.

Там, за імі — скончылася лета, а восень кажа, што час ідзе. Так, восень нават праз парцьеры нагадвае, што яна тут, што прайшло ўжо шэсцьдзясят два дні з таго, як ён перастаў існаваць. Свет пра гэта не ведае. Свет страчвае лістоту, каб праз паўгады з'явілася новая. І так будзе заўсёды. Свет страчвае людзей, каб на іх месцы нараджаліся новыя. Тыя, якія яшчэ нічога не зрабілі. Тыя, каго ніхто яшчэ не бачыў, не ведае і не паспеў палюбіць. Тыя, хто яшчэ нічым не заслужыў месца ў жыцці. Гэта адчуванне, нібы токам, ударыла яе шэсцьдзясят два дні таму, захапіла, і яна ўхапілася за яго, выхоўвала ў сабе, пакуль адчуванне не перайшло ў думкі, не стала пародыяй на сэнс жыцця: аддзяліць сябе ад свету.

* * *

У сто трыццаць чацвёрты дзень, калі ад вясёлкі засталася толькі невялікая плямка чырвонага колеру, якую можна пакрыху знішчыць за тыдзень, яна раптам зразумела, што нарабіла.

Яна падышла да сцяны, ступаючы па шкляным пыле, які застаўся ад разбітага люстэрка. Ёй было зусім не балюча, толькі крыху непрыемна, што маленькія аскепкі ўразаюцца ў ступні і застаюцца там, нібы пясок на марскім пляжы. Толькі пясок быў гарачы ад сонца, а шкло — халоднае. На роўнай, калі не лічыць падцёкаў фарбы, сцяне, бараздкамі вылучаўся адзіны вялікі заган — адбітак яго далоні. Яго контуры складана было ўбачыць у цемры, але яе зрок добра прызвычаіўся. Схуднелымі пальцамі яна дакраналася да гэтага контура, абводзіла яго, укладала сваю далонь, уяўляючы, што дакранаецца да ягонай, вялікай, моцнай. І абрынуліся ўсе бар’еры. Сто трыццаць чатыры бездані перасталі мець сэнс.

Яна зразумела, што нарабіла. Дапамагала гэтаму жорсткаму свету забіць яго. Прырода знішчыла яго фізічна, яго родныя старанна рабілі выгляд, што нічога не здарылася, намагаліся жыць далей, жыць будучыняй. Яна знішчала апошняе, што засталося ад яго менавіта ў яе, акрамя ўспамінаў, якія яна таксама старанна выдаляла.

Эгаістычна, самалюбна яна абараняла сябе ад болю. Калі разбівала голымі рукамі люстэркі, калі на сто трыццаць чатыры плямы пакінула сябе амаль без ежы і вады, калі ішла босымі нагамі па аскепках шкла, яна ахутвала сябе болем забыцця, які на самай справе быў анастэзіяй супраць болю памяці.

Цяпер яна нават здзівілася сваёй наіўнасці і дурасці: як яна магла абвінавачваць яго ў тым, што ён пакінуў яе, калі яна сама кожны дзень метадычна пакідала яго, нібы праганяла з гэтага свету. Яна так баялася, што ёй будзе балюча ад аднаго толькі эпізоду, аднаго толькі малюнка з памяці, што не заўважыла, як стала падобнай да яго сям’і з адной толькі розніцай: сям’я хацела жыць далей, а яна — атрымліваць нейкую незвычайную асалоду ад страху зрабіць сабе балюча.

Яна зноў зірнула на кут сцяны, які яшчэ быў чырвоны. Зрабілася сорамна. Горача зашаптала: «Прабач, прабач, прабач. Я цябе знішчыла, прабач, гэта я вінаватая! Я выпраўлю, усё будзе, як раней, як ты зрабіў, як у нас з табой было!» Гэта былі першыя словы і першыя слёзы за сто трыццаць чатыры дні. Яна ўскочыла з ложка, перад вачамі ўсё паплыло. Крыху пагойдваючыся, марудна падышла да сцяны і, ламаючы пазногці, здзіраючы скуру з пальцаў, пачала скрабсці толькі-толькі засохлую чорную фарбу. Толькі цяпер яна і адчула боль. Нават мацней, чым пасля спартыўнай залы, чым пры хадзьбе па разбітых люстэрках. Не звяртаць увагі. Вось, атрымай сапраўдны фізічны боль, калі ён табе лягчэйшы за боль у душы! Гэта помста табе! І ад яго, і ад твайго глупства, твайго эгаізму, атрымай свой падарунак, які хацела! Праз боль у пазногцях і костках яна адчувала, як дыхаць становіцца лягчэй, як упершыню за сто трыццаць чатыры дні ёй хочацца ўсміхацца. Не, смяяцца нават. Так, што не хапае паветра, не хапае голасу, усмешкі не хапае, каб выйшла ўся тая палёгка, якую яна адчула: яна вярнула яго. Яна ведае, што будзе рабіць далей.

Калі ад пазногцяў амаль нічога не засталося, прыйшла думка ўзяць нож. Некалькі, занадта многа хвілін пайшло на тое, каб успомніць, куды ісці і што рабіць. Упершыню за ўвесь час яна рабіла асэнсаваныя дзеянні і гэта было прыемна…

На кухню яна не заходзіла больш як чатыры месяцы. Там стаяў памыты, але не размешчаны на палічках посуд, з якога яны апошні раз разам снедалі. Страшны, чорны, увесь пакрыты цвіллю кубак, з якога ён піў перад тым, як выправіцца ў тую

страшную дарогу, якая ляжыць цяпер між імі. Нават яго сястра, якая з кожным сваім прыходам праводзіла тут усё менш і менш часу, не кранула гэты кубак. Але ён існуе! Калі ёсць яго кубак, талерка, калі ёсць вясёлка і яна сама, ён не можа не існаваць! Яна амаль фізічна адчула яго прысутнасць, нібы згустак энергіі, яшчэ крыху — і ўбачыш яго, і пачнеш размаўляць з ім, ён будзе адказваць, абдымаць і глядзець з лёгкім дакорам, што не адразу заўважыла яго, не пусціла да сябе. Будзе крыху сорамна, але гэта тая лыжка дзяготы, без якой мёд бы не быў мёдам. І яна ведае, што рабіць далей, каб паменшыць сваю віну перад ім. Хоць паменшыць, калі скасаваць яе няма магчымасці.

Восеньскі вятрыска нёс яе па гарадскіх вуліцах, нібы ведаў, куды ёй ісці. Яе крыху калаціла, ці то ад таго, што яна вельмі схуднела і саслабела, ці ад таго, што яна развучылася адчуваць надвор'е і падбіраць адзенне. Ёй было неяк складана ўспомніць, што трэба зрабіць, калі хочаш выйсці на вуліцу. На шафу з адзеннем яна глядзела некалькі хвілін, нібы забыўшыся, што трэба рабіць далей. Нібы свядомасць не хацела выпускаць яе са свету цемры, які так нечакана разбурыўся. Толькі вецер падтрымліваў яе ў жаданні захаваць яго, вярнуць да памяці, да свету, да яе.

Крама будаўнічых матэрыялаў, у якой яны былі паўгады таму, шчаслівыя, крыху звар'яцелыя, здзівіла яе. Там зусім нічога не змянілася. Нават прадавец — тая ж жанчына. З той жа прычоскай, у тым жа швэдары, з тым жа поглядам, у тых жа думках. Здаецца, пазнала нават. Збіралася, відаць, усміхнуцца, але перадумала, зразумеўшы, што змянілася ў дзяўчыне.

Ідучы між паліцамі з фарбамі, яна не ўспамінала той дзень, калі яны прыйшлі сюды ўпершыню. Магла б, канешне, але ёй гэта не трэба было, яна адчувала яго побач, не ў сваіх успамінах.

— Як ты лічаш, падобная да той, што яшчэ засталася на сцяне? — раілася шэптам з ім.

— Здаецца, — нібы чула яго адказ.

Ледзь трымаючы сем банак, падышла да касы. Жанчына глядзела на яе з захапленнем, як і можна было чакаць. Зноў уявіла, што і ў яе ўсё склалася б па-іншаму, больш цікава, трагічна, надрыўна.

Разлічыўшыся, яна выйшла. Зноў уцягнула ў сябе паветра, загазаванае, але пасля мноства дзён, праведзеных у пакоі, дзе яно замянялася пахам фарбы, такое жаданае. Зноў адчула яго прысутнасць, нават, здаецца, такі знаёмы дотык рукі да пляча. Ён побач, назаўсёды. Стала спакойна і ціха. Недзе звонку, далёка, застаўся шум дрэў, галасы людзей, гудзенне машын. Візг тармазоў машыны, перад якой яна нечакана выйшла на дарогу, яна таксама не чула. Не адчувала і глухога ўдару, кароткага палёту ўверх і болю, які павінен быў прайсці скрозь яе ўсю. Не чула спалохана-здзіўленага ўскрыку вадзіцеля і прахожых. Не бачыла, як, узляцеўшы ўверх, бразнуліся на зямлю банкі з фарбамі, ператварыўшы асфальт у радугу, маскіруючы кроплі крыві.

Яна выканала сваё абяцанне, цяпер яны заўсёды будуць побач.

Хоць вясёлка на цёмным асфальце ёй бы спадабалася.





*Таццяна СІВЕЦ*

# І ЦЭЛАГА СВЕТУ МАЛА



***Таццяна Сівец нарадзілася 23 чэрвеня 1982 года ў Мінску. З захапленнем чытае фанфікшн паводле «Гары Потара». Марыць пра рудога ката. На пенсіі плануе атабарыцца ў мястэчку на Віцебшчыне і пісаць казкі. Паэт, публіцыст, драматург, перакладчык, галоўны рэдактар штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва».***

* * *

Як мы знайшлі наша мора?
Мы проста крочылі — і прыйшлі.
Гэта халодны клімат,
Але мы ведаем, чым яго падпаліць!
Там, дзе ўсе паміраюць ад холаду,
Мы выжылі, бо жылі…
Налі мне воцату,
Як болей не маеш, чаго наліць!

Як мы пакінулі гэтыя сцены
І выправіліся на пленэр?
Вядома дакладна
Толькі табе ды мне.
Лета нас падманула:
Канец надышоў раней…
Нават не думай плакаць —
Каго ты слязьмі кранеш?

Сядай у каўчэг свой, там па-адным —
Там усе, як ты.
Мы ўсе будзем родзічы,
Будзем сёстры мы і браты!
Там нават па самым высокім загадзе
Няма каго скараціць!
А калі нехта скажа: «Мора няма…»,
Адкажам: «А трэба было ісці!»

**КАЦІ БЕЗМАЦЕРНЫХ**

Гэтыя словы важкія, быццам Упанішады…
Гэтыя дзеясловы скуголяць мінулым часам…
Ты так хацела дом — абавязкова з садам…
Ты верыла: гэта неба — бліжэй да шчасця…

Там, дзе ты сёння запарыш гарбату з зёлак,
Там «назаўсёды» — гэта ўжо не прыслоўе…
Можна, я буду памятаць пра цябе, вясёлую?
Ты больш не пішаш… І гэта ўжо не пра словы.

Дзесь па дарозе ў Мару з краіны Болю,
У назаўжды табой пазначаным Пакістане,
Ты ж так хацела стаць абсалютна вольнаю —
І ты стала!..

* * *

Так, у 40 гадоў смешна глядзець на тых, каму толькі 20.
Праўда, сэрца пакуль што памятае, як балела 10 гадоў таму,
І сціскаецца…
Так, напэўна, калі мне будзе, колькі табе, я таксама буду ўсміхацца і
Казаць, што сябры — лепш за каханых, яны заўсёды вяртаюцца
У тваю турму.

Я буду чытаць свае вершы гэтым шчаслівым дзецям,
Якія ўпэўнены, што дарослыя, і даводзяць, што ўсё ранейшае —
Залатое смецце.
Яны паверацць мне
(як вераць у цуды асуджаныя да смерці),
Калі я скажу ім, што ўсе законы за тых, хто пісаў іх, не разумнейшыя…

І ты будзеш у першым радзе — глядзець на мяне…
(Калі, канешне, да гэтага часу вытрымаюць галава і печань!)
Падумаеш, што яшчэ ні каліва не канец, і…
Калі прывычна заные старая шнарына (так, тая самая, на сцягне),
Пойдзеш дамоў, глынеш які-небудзь анальгін… І ўкленчыш.

* * *

У мяне дзве сяброўкі: адну клічуць Эн, а другую — Кейт.
Адна жыве ў Серабранцы, другая — у Польшчы,
І з гэтай мы бачымся нават крыху часцей…
Калі ўсе навыперадкі — наперад, то мы з імі — у хвасце,
А тыя, хто йдуць за намі, — ужо нябожчыкі…

І хацелася б сустракацца вечарам, піць марціні або сакэ,
Ды ў мяне, як заўсёды, праца,
Кейт хвалюецца, як там дзеці,
Эн — пра візу, пра кошт і кэш —
Карацей,
Аніяк не спаткацца нам, не сабрацца!..

Кейт расказвае па мабільным пра сына, сям'ю і дом,
Эн лістуе на мэйл — пра тое ж і трохі яшчэ — пра боль,
Я пішу, што баюся канца зімы…
Кейт абдымае Алекс, у Эн закаханы Дэн, а мяне любіць добры Бог,
Так што калі тут хтось і жыве чаканнем свайго Гадо,
То толькі не мы, ты чуеш, толькі не мы!..

* * *

Цяпер з тваёй сумкі пахне, нібы з аптэчкі…
Ты звыкаеш казаць не «чай», а «гарбата», не «папкі» — «тэчкі»…
Ты купляеш віно, а не квас або сок парэчкавы!
І прызнаеш метро за найлепшае з месцаў для несустрэчы.

Усё ў табе плача вечарам, і
Усё ў табе — недарэчы…
Ну, чаму ты ў апошні момант заўжды хапаешся за парэнчы?
(Думаеш, гэта лечаць?..)

Адзінота — стары пацук — выгрызае цябе знутры.
Ты не памятаеш без пашпарта, колькі табе: 22 або 33…
Гавары, прашу цябе, хоць пра што са мной гавары!
Каб ніхто не заўважыў, што там, дзе было цяпельца, ўжо не гарыць.
Стой ля акна, глядзі, як дзеці смяюцца і бегаюць у двары…

* * *

А я ўжо не памятаю, ці квітнеў гэтым летам бэз,
Нават не ведаю, ці зазірала сонца сёлета ў мой пакой…
Але тыя, хто кажуць: «Паслухай, ну, мы ж клапоцімся пра цябе!»,
У сотні адсоткаў дбаюць выключна пра свой спакой!

Так, я ўмею цярпець: майму цярпенню ў чэрвені 32!
І, напэўна, можна было б хоць трохі яшчэ, але…
Я не памятаю, ці то кроплі з неба, ці то жарства.
Я не ведаю, хто з нас, двух, пасля злівы той — ацалеў.

Мне паверыць бы, што ўсё будзе… Не важна, як!
Толькі вера даецца тым, каго любіць Сам…
Ну, які ліхтар я, які маяк,
Калі нават не ведаю, што далей пісаць!..

* * *

Ты выходзіш, адразу цямячы, што далей.
Ну, якія тут НЕ, якія яшчэ АЛЕ?!
Нехта шэпча на вуха — ты чуеш, бы скрозь туман…
І паўтараеш, як мантру: «Болю няма, няма...»

А потым цябе ламае найгоршая з навальніц:
Калі з неба — не кроплі, а лава ды камяні…
І ты больш не чуеш таго, што раве натоўп,
Болей няма цябе — ты больш нідзе, ніхто!

Той, хто да рыскі апошняй — ты, так, ён ведае, куды біць,
Каб знішчыць цябе, каб нарэшце цябе дабіць.
І ты падаеш, каб ніколі ўжо не ўставаць…
Але нехта ўнутры цябе шэпча: «Болю няма, няма!..»

* * *

Калі на ілбе пульсуе пунсовая кропка ад іхняй оптыкі,
Калі тэлефон у рукі наогул не варта браць…
Ты заплюшчваеш вочы, шэпчаш: «Мае вы хлопчыкі...»
А потым... Потым і сам нячысцік табе не брат!..

Ты пазайздросціш тым, хто ўпадзе па дарозе да гэтай бездані,
Бо дакладна ведаеш, што чакае цябе далей…
Мне не шкада цябе, бедная, бедная, бедная!..
Ты сама вінаватая! Ты баялася пасталець!

Ты баялася сваіх страхаў — і вось яны — залішыліся па-за межамі,
Ты баялася вышыні — дык вось табе — вышыня!
Чаму ж ты гэтак упарта змагаешся з непазбежнасцю,
Што з канату цябе нават снайперам цяжка «зняць»?

І цэлага свету мала, каб вырак змяніць да лепшага,
Каб не кідалі ў спіну ні нож, ні камень і ні праклён…
Вось таму ты болей не думаеш пра далейшае,
Проста выходзіш, рукі раскінуўшы, — на паклон!



Ганна НАВАСЕЛЬЦАВА

# НА ВЕКАВЕЧНЫХ МЕЖАХ…

*Міфалагічна-легендавае апавяданне*



***Ганна Навасельцава нарадзілася 11 мая 1983 года ў Віцебску. Скончыла факультэт беларускай філалогіі і культуры ВДУ імя П. Машэрава і аспірантуру пры ім. Працуе выкладчыкам кафедры беларускай літаратуры ВДУ. Друкавалася ў абласных і рэспубліканскіх выданнях.***

Знаёмы ясень крануў за плечы доўгімі галінамі, калі апошні водбліск сонца знікаў у начным змроку. І табе маё вітанне, высокі. Сем стагоддзяў стаіш тут, мудры, на ўзгорку, куды зладжана падступаюцца лясы і палі, балоты і азёры. Адно не зважаеш на іх, вартуеш крыніцу з жывою вадою. Цячэ яна праз сенажаці ды яловыя пушчы, і няма ў яе пачатку, як і няма ёй канца. Твая вечнасць, маё імгненне. Вартуеш жыццё, як і я не хачу адкрыць шлях смерці…

Не, мне не выпадае кранаць крыніцу, не мая яна. Хачу табе сказаць, што паважаю цябе за тое, што стаіш на шляху ўсіх вятроў. Навошта зноў сюды прыйшоў, парушыў твой узнёслы спакой? Не, гэтым разам не прывёў за сабой цёмных навальніц. І не прагневаліся на мяне ані Белабог, лёгкіх яму шляхоў, ані Чарнабог, хай заблукае ў сваім вечным змроку… Пытаешся, ці буду замаўляць… Не буду, мудры, высокі. Шмат я замовіў скарбаў, шмат закляў курганоў. І шмат людзей, якія нягожа чынілі, пусціў па белу свету ваўкалакамі… Толькі досыць ужо ўсяго гэтага. Дапамажы мне, ясны, блаславіць чалавека… Што, ты здзіўлены? Не чакаў ад мяне такога… Я рады, што яшчэ магу цябе здзівіць. Павер у яго, высокі, не пакінь без мудрай парады. Так, я ведаю, што і ты ў мяне папросіш. Не знікне крыніца з жывою вадою. Я, ведны чарадзей, табе слова даю… Я ж разумею, што такое вечнасць…

Зацікаўлена ўзіраешся, ясны. Што, лёгка згадзіўся? На бясконцы жаль, не магу вас абодвух адчараваць, не пераўзысці мне бацькоўскай волі. Так, любое пакаранне мае межы, любая віна мае выкупленне. Усё мае свой пачатак, усё мае свой канец… Вось і брат твой — разгалісты дуб, што мог ператтвараць у каштоўны найпрыгажэйшы бурштын чалавечыя слёзы, пашчапаны на дробныя трэсачкі… Ведама, злы ты з-за гэтага на людзей. Але зрабілі тое людзі з вялікага гора… Табе не зразумець яго, ты занадта даўно быў чалавекам. Пытаешся, якое гора можа быць большым, чым сем вечнасцей цягнуцца да сваёй каханай, чым сем вечнасцей бачыць яе слёзы… Можна ўбачыць, як закопваюць людзі крыніцу з жывою вадою. А можна глядзець, як высыхае яна, як знікае яе гаючая

сіла. Што злуеш… Хочаш дачакацца, калі з цябе зробяць сані? Так? Тады дазволь мне ўчыніць, каб жа наш жыццёвы скон ды стаў пачаткам… Я, ведны, усё прадбачу. Усё табе раскажу…

У самую чарадзейную ноч прыйдзе да цябе залатакосая дзяўчына. Ад нараджэння разумее яна галасы зямлі. Але мовіў я звярам ды птушкам, каб звялі яе да цябе, і не парушыць лясун маёй волі… Што мне да яе? Да яе нічога, але закаханы ў залатакосую хлопец, над лёсам якога варажылі зоркі. Яму прадказалі зашмат… Яго і хачу блаславіць чарамі, яму і прашу тваёй дапамогі. Якой дапамогі? А ўсё проста… Ты сам ведаеш, што значыць страціць каханую, ясны. Ведаеш найлепей. А ў тую чарадзейную ноч гойдаецца на тваіх галінах усялякая нечысць… Хай сабе, збірай такіх сяброў у сваім вялікім горы… Дык няхай твае сябрукі і зацягнуць золатавалосую ў ясную крону… Хоча яна чарадзеіць, няхай здзейсніцца тое. У мяне ж іншы клопат. Я хачу, каб ён быў гатовы на ўсё… Ты ж сам такое перажыў, ясны… Я хачу, каб стала яму балюча. Толькі ты можаш такое ўчыніць…

Гаворыш, што горшы я ад роднага брата. Мы яшчэ памерымся сіламі. Не параўноўвай нас, мы розныя. Гаворыш, што горшы я нават за бацьку… Што ж, табе лепей ведаць. Мой бацька замовіў вас у крыніцу і ясень, таму што быў закаханы, таму што помсціў за здраду. Не плач, высокі ясень, я не ведаю такога пачуцця… каханне… Але я скарыстаю яго вялікую сілу. Гэта проста. Як і валодаць чарамі. Як і бараніць тое, што мне належыць. Дык ты са мною? Са мною. Я і не чакаў іншага. Ты яшчэ парадуешся за сваю вечнасць, за маё імгненне на гэтай зямлі… Што? Я таксама доўга жыву? Не зайздросць. Няма чаму… Дык памятай, у чарадзейную ноч…

Удалася яна пагоднай, самая чарадзейная ноч, тая ноч, пра якую складуць легенды. Ды што мне легенды… У іх жа ўсё прыхарошана так, што і цяжка дазнацца праўды. Але я быў сведкам таго, як усё рабілася. Скінуўшыся кажаном, незаўважаны нікім, акрамя самой ночы, кружляў я над закаханымі, над шляхам іх расстання, над высокім ясенем… Шмат я смяяўся, але не толькі смешна мне было…

Ім не было наканавана быць разам. Зразумеў гэта з першага позірку я, ведны чарадзей, які шмат чытаў у людскіх вачах, у людскіх сэрцах. Крыўдна прызнацца, але тая залатакосая была лепшая за яго, хлопца з абраным лёсам. Яна хоць бы ведала, да чаго імкнулася. А ён, небарака, ён зусім яе не разумеў. На нейкае імгненне мне зрабілася яго шкада. Мабыць, я сапраўды горшы за брата, што задумаў учыніць з ім такое… Але не, не адмоўлюся ад сваёй задумы. Таму што ўчуў сказаныя словы:

— Навошта табе нейкія чары? Забудзься на іх… Проста пакінь, як незразумелы сон… Не вядуць яны да добрага…

— Адкуль ты ведаеш? Ты што, чараваў?

— Не. І не збіраюся. І табе не дазволю.

— А хто ты мне, каб не дазваляць?

— Паслухай, я хачу табе лепшага…

— Што можа быць лепей за чары? Няўжо ты?

— Хіба я такі дрэнны?

— Не хачу цябе слухаць…

Вось і ўсё. Абвостраным кажановым зрокам я ўгледзеў нясцерпны боль у вачах таго, хто сам быў вінаваты. Так лёгка страціць, так балюча гэта зразумець… І данеслі мне чары палыновы горыч палёў і лясоў, якія бачылі іх шчаслівымі. Разбіліся водбліскі зор у азёрных люстэрках, да якіх яны дакраналіся рукамі. І паляцеў над светам расчараваны ўздых засмучанага Лады. Гэтым разам не выйшла ў цябе, сінявокі… Што ж, не яны апошнія.

Усё яшчэ нікім не заўважаны, я лунаў над іх ростанямі. Плакала залатакосая, зразумеўшы, што гэта — расстанне… Што ў кожнага з іх — свая дарога. А ў хвіліну горычы мы ўсе такія слабыя… Упершыню здаліся ёй зразумелымі галасы начнога лесу, якія зваблівалі за сабой. Яны клікалі, абяцаючы таямніцы. А таямніцы ды нязведаныя шляхі — лепей, чым боль адзіноты. Ідзі, пранікліваая чарадзейка, тваё наканаванне чакае цябе. Што ж, хлапеча, затрымай ты яе, скажы тое, што адчуваў у тую хвіліну, і яна б не пайшла. І нічога б не адбылося. Але ты не быў гатовы… Цяжка мне з табой будзе. Ты стаяў і глядзеў, як яна ідзе ад цябе прэч, і нічога не думаў зрабіць. Я налічыў больш як тры сотні ўдараў твайго сэрца, я ўжо думаў, што памыліўся ў табе, калі ты нарэшце пабег за ёю.

Яе вёў начны лес напрасткі да ясеня, цябе ж крыху паваdзіў заўсёды шкодны лясун. Але, узбіўшыся на след залатакосай, ты ўбачыў, што спазніўся… І табе адкрылася, чалавеча, што размаўляе твая каханая з ясенем, як з роўным сабе, што бярэ ясны галінамі яе за рукі… і знікае тая ў яго густой кроне. Ты дарма кінуўся бегчы, дарма спрабаваў зноў і зноў узлесці туды, дзе некалькі імгненняў таму знікла твая золатавалосая.

— Позна, позна, яна сама згадзілася пайсці да нас, — здзекліва галосіць табе нечысць з ясеневай вершаліны.

— Знайду яе, адшукаю, вярну, — упарта мовіў ты, і мне спадабалася тады твая ўпартасць.

— Не, не знойдзеш, не адшукаеш, не вернеш, — рэхам азываўся табе высокі ясень ды паказваў свае пустыя галіны. — Глядзі, няма яе…

— За што вы так з ёю? — ты хацеў, ты імкнуўся зразумець.

І ты не ведаў, што яшчэ прыйдзе час твайго разумення чараў і ўсяго, што звязана з чарамі. Я цябе навучу, колькі б часу нам ні спатрэбілася… Таму што гэта галоўнае, што я павінен зрабіць.

— Ні за што… Ні за што… Ні за што… — здзеклівым рэхам адказвала з ясеня і ты ўскіпеў гневам…

— Пашчапаю цябе, ясень, на дробныя трэсачкі… — у тваім голасе прагучала сапраўдная прага здзейсніць пагрозу.

І твая рашучасць мне спадабалася яшчэ болей. З гэтага можна было пачынаць… Ясень не зважыў на тваю пагрозу. Адно махнуў мне галінай, маўляў, споўніў, пра што казалі, далей сам рабі. Той, хто сем соцень сонцаваротаў бачыў радасці і страты белага свету, ведаў, што ты сам яшчэ не спазнаў сваёй сілы. Сваёй незвычайнай сілы…

Сілы, што пакіне тваё імя ў легендзе, якую я, ведны чарадзей, складаць пачынаю…

Падаю на зямлю і паўстаю перад здзіўленым табою ў чалавечым абліччы. Што ж, я ўмею здзіўляць… А ты зусім не рады мяне бачыць. Пытаешся злосна:

— Як знішчыць чары, што яе схавалі? Толькі ў каго я прашу дапамогі… Ты ж таксама з гэтага кодла… Не дапаможаш, не скажаш…

— Дапамагу. Скажу, — моўлю ў адказ. — Гэта праўда, што я ўмею здзіўляць.

— Як? — ты ўвесь ператварыўся ў слых.

— Гэта прасцей, чым табе здаецца, але не так хутка, як табе карціць…

— Не злуй на мяне, чараўнік. Кажы…

— Добра, раз ты сам просіш…

Вось так проста пачынаюцца легенды. Пачынаюцца з кахання і прабачэння, з рашучасці ўсё зрабіць… Не, трасе лістамі ясень, думаючы пра тое ж, што і я. Пачынаюцца са страты і гневу, прагі адпомсціць… Не хаваеш сваіх пачуццяў, ясны. Не

хавай, не трэба. Толькі не быць легендзе без кахання, без надзеі, без веры… Так, мне лепей ведаць. Гэта я гляджу табе ў вочы, хлапеча. І кажу табе праўду, толькі праўду. Вялікую праўду…

Кажу, што было ў свеце двое закаханых. У чарадзейную ноч, калі ўсе спалохана хаваліся па хатах, толькі яны не збаяліся і прыйшлі на спатканне. Ці доўга, ці мала гулялі, не зважаючы на дзікія спевы вадзянікоў, лесуноў, палевікоў, але ўпадабала дзяўчына высокі ясень. Дакранулася да яго, і з ясеня пацягнулася да яе белая, нібы снег, рука… Пацягнулася, і нехта салодкім голасам паклікаў ісці да іх… Узяла дзяўчына белую руку, толькі не разгубіўся яе каханы. Ухапіў яе і трымае, не дае падняцца на дрэва. А зверху нехта рагоча-заліваецца, гаворыць, што позна ўжо, што прыгажуня сама пагадзілася. Узлаваўся хлопец і зрабіўся ў сем разоў дужэйшы. Пацягнуў ды не толькі вызваліў сваю каханую, але і ўсё кодла з ясеня скінуў…

— Ды што я расказваю, не ведаючы таго, ці да душы прыходзіцца сказанае? — перыпыняю я свой аповед.

— Годна баеш, чарадзей. Добра сказаў мне, што сам я вінаваты. Не спрачаюся з тым. Толькі хлопец той быў, відаць, сапраўдны асілак… Не ўсім такое ад нараджэння дадзена.

— У кожнага ёсць свая сіла. А калі няма, то ёсць прызначэнне знайсці сілу яшчэ большую. Толькі не кожны пра сваё прызначэнне ведае…

— Гаворыш, што ёсць у мяне прызначэнне. Чарадзей, з чаго мне табе верыць?

— З таго, што хочаш ты ўбачыць яе. Хоць і ведаеш, што не быць вам разам, але не адступішся. А мне заўсёды такое даспадобы.

— Скажаш, як знайсці мне вялікую сілу?

— Падкажу…

— Падкажаш? Ізноў таямніцы…

— Што ж, кожны лёс — таямніца… Не магу табе твайго лёсу прадказаць. Не магу прадбачыць усё тое, пра што будзеш шкадаваць. Магу толькі згледзіць яго ахутаны смугою след. Павер, што і гэта многа…

— Дык кажы пра мой засмужаны след, чарадзею. Кажы, пакуль я табе веру…

І я сказаў табе, чалавеча. З таго, што наваражылі зоркі, мовіў жаданае, што цепліць у сэрцы многія спадзяванні. І ты мне шчыра паверыў… Высокі ясень згодна схіліў вершаліну…

Ты пайшоў у вялікі свет шукаць сваю сілу, пайшоў здзяйсняць свой лёс. Прыходзіў да гаючых камянёў, да светлых крыніц. Слухаў пераліўную гамонку адвечных лясоў. Думаў пра тое, што былі яны да твайго нараджэння і застануцца пасля тваёй смерці. Задуменна стаяў ля ўзножжа сівых валатовак, слаўных у сказах ды песнях. Шмат пра што хацеў запытацца ў тых, якія знайшлі там свой вечны спачын. І я мог бы мовіць табе іх адказы… Але бліжэй да цябе апынуўся той лёс, чым ты чакаў. Сталі баяцца цябе лесуны, вадзянікі, палевікі… Сталі хавацца тыя, хто спрадвеку быў на гэтай зямлі. Былі яе славай, яе сілай. Не мог ты забыцца сваёй каханай, а тая, хоць і ведала, што ты яе шукаеш, не спяшалася пабачыць цябе. Да душы прыйшлося ёй чараўніцтва…

Усюды, куды б ты не пайшоў, шукаў тых, хто быў скрыўджаны на таямнічае ды неспазнанае. Сябраваў з тымі, хто аднойчы і назаўсёды ўзненавідзеў чары, не ўзлюбіў чарадзеяў. Ты хацеў зразумець, ці ёсць у іх праўда… А ў праўдзе ты бачыў сваю сілу…

Шле мне з ветрам горкі папрок высокі ясень. Наракаюць яны, спадары лясоў, палёў, азёр, балот, ні ў чым не вінаватыя перад табою. Гавораць мне, што пусціў я ў свет злое… пусціў таго, у каго няма ані сэрца, ані душы. Пэўныя яны, што не маглі

зоркі варажыць над лёсам такога… Крыўдуюць, што мала я берагу іх волю, хоць мне прызначана люляць спакой пявучых бароў з сінімі азёрнымі вачыма, непрадказальных бяздонных багнаў і палёў са спелымі жытамі… Слухаць песні самых звонкіх крыніц, каб не змоўклі яны, лавіць навальнічныя хмары, якія нясуць з сабой нечы гнеў… Прадбачыць злое, бо на тое я і ведны. І мовяць яшчэ, што бацька мой і бацька майго бацькі рабілі тое за мяне лепей…

І яшчэ болей змяніўся ты. Зразумеўшы, што не толькі простым смяротным сынам, але і такім, добрым, незвычайным, вядомы страх, ні на хвіліну ты на гэта не забываўся. Упадабаў чыніць паляванне… Смешным табе здавалася тое, што ў іншых абуджала толькі смутак. Сталі прасіць яны, якія спрадвеку стваралі чары майго роду, каб суняў я цябе.

І здарылася так, што ў доўгіх сваіх падарожжах сустрэўся ты з ваўкалакам-людажэрам…

…Ён адымаў жыцці. Зманьваў са шляху, зводзіў у багну, дзе і хаваўся, назаўсёды пазбаўлены мною свабоды. І яшчэ ён мог лёгка прыняць любое аблічча, каб падмануць таго, каго нагледзеў сабе ахвярай. Як мовіў мне той багнік, які не выпускаў яго са свайго валадарства, занадта не любіў свет людскі… Я ж сумняваўся ў тым, што любіў ён хоць бы і свет чарадзейны, таму і адняў у яго самае дарагое — поўню неабсяжных лясоў… Ён ніколі таго мне не даруе, бо не ўмее дараваць… А ты, чалавечы сын, ці ўмееш?

Я не бачыў сам, як вы знайшлі адно аднаго. Той, хто не цярпеў чараў, знайшоў таго, хто не выносіў людскі дух. Але мне расказалі заўсёды цікаўныя балацянкі…

…Ваўкалак, пачуўшы твае крокі, скінуўся старым падарожным, што збіўся са шляху ды не можа выйсці з дрыгвы.

— Дапамажы, чалавеча, узбіцца на якую дарогу, — ласкава папрасіў цябе.

Толькі ты не паддаўся на такія хітрыкі. Зразумеў, хто перад табою. Запытаў яго:

— Адкуль жа ты прыйшоў, вандроўнік?

— Здалёку, сынку, здалёку…

— А куды крочыш па такой багне?

— Туды, куды ты так хочаш дайсці, але ніяк не дойдзеш…

Ды прагна глянуў табе ў вочы. Падгледзеў твае прыхаваныя жаданні, у якіх ты сам сабе прызнацца не хацеў. Глянуў ды мовіць салодкім голасам:

— Ідзі да сваёй чараўніцы, хлапеча. Ідзі, а я падкажу…

— Што падкажаш? Да якой чараўніцы? — не адразу зразумеў ты.

— Той, якую пад высокім ясенем ты не ўтрымаў… Усё яшчэ кахаеш яе?

— А як жа…

— Мабыць, хочаш ведаць, дзе яе знайсці?

— А як жа…

— То хадзем са мною.

— А як жа…

Пайшоў ваўкалака, сочачы адным вокам, ці ідзеш ты за ім следам. А ты прайшоў колькі крокаў, спыніўся ды зноў пытаешся:

— А скуль ты ведаеш, чалавеча, дзе цяпер мая каханая?

— Вятры жыцця падказалі…

— То, мабыць, ты не просты вандроўнік?

— Мабыць, не просты…

І зноў трошкі ідзяце. Толькі не рушыш ты за ім ў багну… Зноўку мовіў, як быццам вагаючыся, як быццам спадзеючыся…

— І шмат каму твае вятры жыцця дапамаглі?

— Усім, хто меў ласку шукаць у мяне дапамогі… — упэўнена засмяяўся ваўкалака. — Большай дапамогі шукаці не будуць…

Ён многа людзей зводзіў з дарогі і ўжо адчуў, што ты ад яго не ўцячэш. Вось такія, якія сваімі нагамі ішлі да яго, весялілі людажэра найболей. Яны не мелі сілы змагацца… І ён ахвотна адказваў табе, пакуль не пачуў:

— Кажуць, што адзін балотны ваўкалака памрэ ад рукі таго, на каго ніколі не падумае… Твае вятры жыцця нічога пра тое не данеслі?

Сказаў так ды пхнуў ваўкалака ў дрыгвяністае акно, куды той даў нырца з галавою.

Толькі не доўга табе давялося радавацца сваёй хітрасці…

Не выйшаў ты яшчэ з балота, як раптоўна з-за купін выскачыў насустрач той самы людажэра. Ды ў сваім сапраўдным абліччы…

Блізка-блізенька падбег да цябе ваўкалака, ціха-ціха прашаптаў:

— Не табе, слабы сын смяротны, здабыць мне смерць…

— А чаму так? — не спалохаўся ты.

— А таму, што знайшоў я вялікую сілу.

— І дзе ж яна? Пакажы сваю сілу, забі мяне…

— Там, дзе табе не пабачыць… Хадзем, пакажу… Уведай тое перад смерцю…

Гэтым разам ты ішоў за ім след у след. Брылі вы доўга, пакуль не дапалі да празрыстай крыніцы, што хавалася — дзіва дзіўнае — у самай непраходнай багне. І ноччу, і ў самы ясны дзень адбіваліся ў крынічнай вадзе іскрыстыя зоркі. Плавалі, як сапраўдныя, жывыя, нібы гэта перакулілася ў тую крыніцу высокае неба. Не мог схаваць ты сваё захапленне, пабачыўшы такое…

— Глядзі, гэта — зорніца, — мовіць табе ваўкалака. — Напіўся я халоднай вады і стаў дужым-дужым… Глынуў зорку, і ніхто цяпер не можа мяне перамагчы… Таму што нельга перамагчы крынічную прагу жыцця і зорную вечнасць змагання. У іх — веліч ляснога шолаху і замова палёў… У іх — бясконцае мноства мінулых і будучых жыццяў… Але ў гэта трэба паверыць, на гэта трэба спадзявацца… Ты ж страціў спадзяванне разам з каханай, якую ніколі не змог бы ўтрымаць. Ні ля ясеня, ні ў жыцці… Мне нават не шкада цябе, чалавеча.

І яшчэ сказаў, каб глянуў ты ў крыніцу апошні раз ды зрыхтаваўся памерці…

Глянуў ты ў крыніцу-зорніцу ды скочыў проста ў яе нерат. Ваўкалака ж за табою…

Мабыць, глынуў-такі той зорнай халоднай-халоднай вады. Можа, і праглынуў нейкую люстраную зорку. Хто ж ведае, можа, знайшоў моцы паверыць у сілу зямлі і сілу вады, якія цябе вырасцілі. Сілу паветра і сілу агню, праз які табе яшчэ трэба будзе прайсці. Цяжка мне пра тое казаць… Але пэўна ведаю, што з той зорніцы вярнуўся, вылезшы на дрыгвяністы бераг — на белы свет — толькі ты адзін. Ваўкалака застаўся ў крыніцы…

І яшчэ ведаю, бо казалі са шчырым здзіўленнем балацянкі, што ўсё ж не памёр ваўкалака. Калі ты ўжо хацеў ісці, адбілася сярод зорак у роўнядзі вады яго крывава-жэрная пашча… Гукнуў ён цябе, і ты на некалькі імгненняў спыніўся:

— Хлопча, мудры, паслухай мяне, каб не шкадаваць табе пасля…

— Чаго табе яшчэ?

— Не ўсё сказаў табе той чарадзей…

— Што ж ён не сказаў з таго, што ты скажаш?

— А ты паслухай… Чары адкрылі ўсім вартым тое вяшчуннае прадказанне…

І мовіў табе з крыніцы ваўкалака, што ратаваў хлопец сваю каханую, калі ўзяла яна белую ясеневую руку, што ўзлаваўся хлопец і зрабіўся ў сем разоў дужэйшы. Пацягнуў ды не толькі вызваліў сваю дзяўчыну, але і ўсё кодла нечысці з ясеня скінуў… Лесуноў, палевікоў, вадзянікоў, балотнікаў ды ці мала яшчэ каго… Сціх рогат, пачуўся жалобны плач. Сталі тыя, якія хацелі забраць прыгажуню, прасіці-маліці, каб ускінуў іх хлопец назад на ясень. Пагардліва зірнуў на іх асілак ды пацягнуў да багністай прорвы, што ад ясеня была не так далёка. Заплакалі тыя ясеневы сябрукі яшчэ гарчэй, скарбы вялікія хлопцу абяцаюць, абы не кінуў ён іх у бяздоннае балотнае вока…

— Навошта мне вашыя скарбы? — мовіў хлопец у адказ. — Грошы буду здабываць працай рук сваіх, а большага мне і не трэба…

— Мы не грошы прапануем табе… Гэта больш вартае…

— Што ж для вас, нячысцікаў, больш вартае за грошы?

— Тое, што і для цябе, чалавеча… Пашана. Слава. І памяць, памяць бясконца доўгая за тое, што ты зробіш…

Зацікавіўся малады асілак:

— Што ж гэта такое? Кажыце…

— Дай спачатку слова, што пасадзіш нас назад на ясень…

— Так і быць, пасаджу… То кажыце, але калі падманіце, то кіну вас у прорву.

— Не, не будзем маніці… То слухай…

Зладжана загаманілі лесуны ды вадзянікі пра тое, што надыдзе хутка час, калі трэба будзе ратаваць людзей. Здарыцца вялікая бяда. Абудзяцца варожыя чарадзействы чужой зямлі. І тады прыляціць з чужыны цуда-юда, прынясе з сабою смерць і няволю… Цяжка будзе з ім, моцным, ды крылатым, змагацца. І тады той, хто зможа гэтае цуда-юда перамагчы, будзе абраны князем. І атрымае пашану, славу, памяць. А пра нялічаныя багацці не трэба і казаць… Але, каб выйсці з той бойкі жывым, трэба слаўнаму асілку разгадаць таямніцы таго страшыдлы… Тыя таямніцы схаваны ў скарбах, якіх яшчэ ніхто не здабыў. Адно спадары лясоў і вод падказаць шлях да тых скарбаў могуць…

Распавёў гэта табе ваўкалака ды змоўк, чакаючы твайго слова.

— І як жа тыя скарбы здабыць? — звярнуўся ты да крыніцы-зорніцы.

— Гэтага я табе не скажу, — мовіў табе з крыніцы. — Табе і чарадзею твайму помсцячы, толькі адно навяшчую… Хутка настане час, калі паўторыцца вялікая людская бяда. Вернецца цуда-юда, прынясе з сабою няволю, гора і слёзы. Людскія слёзы… Табе, сын чалавечы, на іх глядзець… А паратунку не ведаць…

— Не табе аднаму вядома, як перамог той асілак чужынскага цуду-юду…

— Не мне аднаму, — задаволена ўсміхнуўся ваўкалака. — Стаяў ты на самым вялікім кургане, насыпаным на вечны спачын… Хто, ці ведаеш, спіць у ім?

— Даведаюся, калі ты мне скажаш…

— Той самы асілак, які здабыў перамогу сваёй смерцю… Не суджана яму было стацца князем. Пасмяротнай была яму і пашана, і слава.

— А пра цябе, людажэра, ніхто ніколі і не ўспомніць, — ты нахіліўся над крыніцай і скалануў люстраны адбітак ваўкалакавай пашчы.

— Ты зноў памыляешся, хлопча, — яшчэ паспела мовіць тая. — Я буду памятаць пра ўсё, стаўшы вадою, стаўшы травою… Буду ў цяжкую хвіліну перабягаць табе шлях… Азывацца ў ваўчыным выцці з самай глушэчы, калі ты будзеш крочыць праз лес адзін у зімовую ноч… Глядзець у вочы з ваўчыным сонейкам, калі будзеш успамінаць пра страчаную каханую… Павер мне, што гэтага досыць…

Знік ваўкалака ў зорнай крыніцы, і зноў толькі нябесныя халодныя адбіткі замігцелі ў ёй. Празрыстыя, глыбокія… Як чалавечая душа, што знайшла свой найдаражэйшы скарб… Як быццам дзіўная крыніца мела сваю волю, мовілі мне пра яе пранікліўвыя да ўсяго незвычайнага балацянкі. А яшчэ дадалі пра тое, што пакрочыў ты ад іх балота сумным-сумным… Нібы страціў некага, пра каго табе палоніць душу жальба.

А ты ж, хлапеча, хоць і годна сказаў ваўкалаку, але пра змаганне сваё з цудамюдам не думаць не мог. Вяртаўся зноў і зноў на самы высокі курган, дзе спачываў слаўны волат… Ён перамог, але не застаўся жыць, хоць быў лепшым за цябе. Ты думаў так хоць бы таму, што ён здолеў уратаваць сваю каханую… Здолеў тое, чаго не здолеў ты. Глядзеў на курган — вечны спачын героя — і быў упэўнены, што я не так сабе з'явіўся табе пад высокім ясенем. І я быў рады, што ты пачынаў пакрыху разумець…

Мы сустрэліся з табою зноў, калі залівалі зямлю восеньскія дажджы. Яны апавядалі свету пра тое, што было ў мяне на душы… Гайдалі палыны горыч на кургане несмяротнасці, калыхалі пякучыя слёзы і вечнае захапленне… Мне заўсёды балюча тут быць. Хочацца плакаць, але думка пра подзвіг, які вышэй ад слёз, не дае праліць ані кроплі. Ты адчуваў тое ж, што і я. Хацеў заплакаць — і не мог… Ты думаў пра яго, пахаванага ў гэтым кургане…

Не азірнуўся на мяне, калі я стаў поруч з табою. Я сказаў табе, што ты здолееш перамагчы. Сказаў табе пра тое, чаго не здзейсніць ты болей за ўсё баяўся…

— Якім ён быў, чарадзей? Ты ж ведаў яго…

— Ведаў. Ён нібыта твой родны брат. Такі ж слаўны, такі ж смелы…

— Ён хацеў жыць…

— Ён і цяпер гэтага хоча… Глядзі, як цягнецца да сонца трава на ягоным кургане. Нават пажухлая, яна змагаецца за кожную хвіліну жыцця. А калі пільна ўслухаешся, то пачуеш, як ён вітаецца з табою. І я, чарадзей, бачу, што цяпер не толькі мы на кургане, але і ён стаіць побач… Не пайшоў ад сваёй зямлі, не можа яго душа растацца з ёю.

— Мабыць, ты можаш з ім пагаварыць?

— Магу. Пра што ты хочаш спытаць?

— Чаго болей за ўсё той цуда-юда баіцца?

— Болей за ўсё баіцца чалавечнасці… Не можа яе зразумець гэтае цікаўнае да ўсяго новага стварэнне…

— Ізноў твае чарадзейныя таямніцы…

— Зусім не. Дазволь і мне ў цябе спытацца. Дзе скончыцца сіла і пачнецца ахвярнасць?

— Хіба я ведаю…

— А павінен ведаць, сын чалавечы…

— Адкажы мне і ты, чарадзею… Чаму з усіх ты выбраў мяне? Не лепшы ж выбар…

— Спытай у зорак, з чаго варажылі яны над тваім лёсам…

— Гэта ты можаш у іх спытаць…

— У іх — не магу. Яны — вечныя, халодныя да чарадзейнага слова… Што ж, сын чалавечы, абяцаю ніколі цябе не пакінуць…

І ты згодна прамаўчаў. А я не ўзляцеў кажаном, не знік з кургана чорнай віхурай. Я б абразіў яго памяць, так учыніўшы. Я б знявечыў той апошні раз, калі ты, слабы чалавеча, можаш паглядзець мне ў вочы, можаш спытаць… Ціхай хадою пакінуў за

спінаю курган… І што табе ведаць пра апошняе расстанне, хлапеча… Нічога. І я не ваўкалака, каб табе пагражаць…

Ужо мінулі яловыя лясы, што, нібы вечныя стражнікі, абступалі курган, калі ты дагнаў мяне. Што ж, будзеш так пастаянна рабіць, то аднойчы спознішся назаўсёды…

— Пачакай, чарадзею. Скажы мне, яна там, з усімі вамі, з чарамі сваімі, шчаслівая?

— Яна шчаслівая. І яна аднойчы знойдзе цябе…

Ты паглядзеў мне ў вочы. Шмат сілы… шмат спадзявання… Добры позірк.

— Пра што яшчэ спытаеш, хлапеча?

Толькі дарма я думаў, што ты нічога не зразумеў:

— Ты абяцаў ніколі мяне не пакінуць… Ніколі — гэта занадта доўга. Але я рады, што трохі часу адберымо ў вечнасці. Люляй белы свет, ведны чарадзею…

— І белы, і цёмны, сын чалавечы…

Ісці ад белага свету да цёмнага і вяртацца назад — гэта мой лёс. Хто ведае, можа, таксама навароржаны зоркамі. Хоць гэтых вечных, абыякавых, я не люблю. Але ніколі не мог прадказаць іх, ясных. Ніколі не мог дазнацца свайго лёсу. І казаў мне высокі ясень, што ў гэтым і толькі ў гэтым кажуць мне і белы, і цёмны свет сваю спагаду. Я быў не згодны з ім. Тым, што ты ведаеш, можна ўладаць. На што мне ясень заўсёды адказваў, што міласэрнасць — у невядомасці, міласэрнасць — у спадзяванні. Што ж, ён некалі быў слабым чалавекам. Не маўчаў у адказ ясны. Казаў, што хацеў бы ім і застацца…

Я люблю ўсё прадбачыць. Толькі трэба ж такому здарыцца, што прынёс мой чарадзейны лёс неспадзяванку. Палыхнулі гневам чары чужынскай зямлі, учынілі тое, чаго я не чакаў. І не змог я абараніцца-чарадзеіць, не змог сплесці чары ад устрывожаных лясоў, азёр, балот… Ідзі ж да мяне, мой вораг, я з нецярпеннем чакаю цябе…

І ён прыйшоў… Закрылі злыя крылы паўнеба, а чорны дым з пашчы заслаў сонца ад белага свету. Полымя спапяляльнага гневу шуганула па зямлі. Задрыжэлі курганы-валатоўкі ад ягонага смеху. У сполаху ўцякалі людзі, думалі, што гэта так выглядае смерць… Яны, бадай, не памыляліся. Цмок, празваны цудам-юдам, нёс толькі смерць. Але пакуль што ён не спяшаўся забіваць. Шукаў, прагна шукаў са мною сустрэчы… Лётаў, але і па зямлі хадзіў, нырaў у глыбокія азёры… Думаў, што я хаваюся там. Але не трэба было мне хавацца…

— І навошта табе такое відовішча? — я ўсміхнуўся яму, выходзячы насустрач. Нібыта ласкава прывітаўся. Ён прыглядаўся да пакінутай людзьмі вёскі. Ад няма чаго рабіці збіраўся яе падпаліць.

— Чарадзею, я хачу есці. Ты прыйшоў мяне накарміць? — як і я, ён хацеў выглядаць шчырым.

— Я прыйшоў цябе прагнаць. Няхай корміць цябе твой гаспадар, — нібы таргануў цмока за вусы. Весела і небяспечна.

— Мой гаспадар паслаў мяне карміцца ад іншых зямель, — глянуў ён нявіннымі вачыма. — Мо дамовімся, чарадзею… Давай мне горшых, здраднікаў і забойцаў, няхай буду пакутаваць, жуючы іх горкія косці. Але чаго не зробіш для сябра…

— Ці паверыш, сябра, але няма на маёй зямлі здраднікаў, няма і забойцаў. Няма каго табе аддаць…

— Вой-вой… Як жа так? Няўжо ты ўсіх-усіх выхаваў? Стагоддзя не прайшло, як патрапіў я ў няволю з тваёй чарадзейнай ласкі. А твая зямля стала такая белая-белая… Аж прыемна сюды прыляцець.

— Вяртайся назад, Крагавей, — я наўмысна назваў яго сапраўднае імя, вядомае нямногім. — Тут няма анікога, хто рады цябе бачыць…

— Мо прагоніш?

— А і праганю.

— Чаго ж ты марудзіш?

— Табе апошнюю ласку зрабіці хачу. Як надзейнаму былому сябру…

Захлынуўся цмок ад смеху, успыхнула полымем пакінутая вёска.

— Ты заўсёды ўмеў смяшыць, чарадзею. Дык і я цябе павесялю. Ідзі сюды…

Паплылі прэч ад мяне зямля і неба, як ні моцна я быў з імі звязаны, як ні трымаўся за іх. І праз колькі імгненняў, падхоплены Крагавеевымі чарамі, устаў я на калінавым мосце. Вечным памежжы жыцця і смерці… Ні скрануцца з яго, ні сысці…

— Зробіш крок наперад — памрэш, як памірае смяротны. Зробіш крок назад — таксама памрэш… — заліваецца ад смеху цуда-юда. — Ну як, ці добра я жартую, чарадзею? Але табе, як сябру, зраблю ласку. Глядзець і чуць ад гэтага калінавага моста, як паядаю і пабіваю я тваю зямлю…

Калыхаўся ад ягонага смеху калінавы мост. Цяжка стаяць на ім, не робячы аніводнага кроку. Але адно я павінен зрабіць…

— Не табе прыдумваць сапраўднай пакуты, Крагавею. Не можа гэта зрабіці той, хто не хоча ведаць анічога пра людскасць…

— Ты гэта пра каго? — радасна пыхнуў Крагавей. — Пра таго хлопчыка, які не любіць чараў? Спадзяюся, ён добры на смак… Га?

— Пра яго, Крагавейка. Ты зноў будзеш пераможаны. Я ведаю гэта, як зоркі ведаюць чалавечы лёс. І весела мне будзе пабачыць тое ад калінавага моста.

— Няўжо? — зацікаўлена зіркнуў Крагавей чорнымі бліскучымі вачыма. — Дзе падвох, чарадзею?

— Я проста сказаў табе праўду. Ідзі хутчэй насустрач сваёй смерці, бо стаміўся я ўжо цябе забаўляць…

— Не клапаціся, чарадзею, твая зямля чакае мяне…

— Крагавей… — я глянуў цмоку ў вочы, рызыкуючы страціць волю і памяць. — Табе не доўга па ёй хадзіць…

І цуда-юда паімчаў. Зацікаўлены, прагны да людскіх пакут. Гатовы сцвярджаць сваю сілу смерцю і знішчэннем… Гатовы да вялікай крыві… І гатовы ўсумніцца ў сабе. Занадта ўпэўненым я быў на калінавым мосце. Занадта пагардлівым для таго, каму анічога не засталося… Ты ўжо быў пераможаны, Крагавей. Я проста веру, што ўсё паўторыцца. Дзеля цябе, добры сын чалавечы…

Ты застаўся адзін, слаўны хлопчык… А гэты цмок быў страшным… Ты шукаў мяне ля высокага ясеня, шукаў у квітнеючых палях і непраходных пушчах, калі надарылася бяда. Я не змог табе дапамагчы, калі стаў лютаваць змей Крагавей. Прыйдзе з чужой зямлі, людзей паядае, а якіх не з'есць — пабівае… Мала хто насмеліцца з ім пабіцца, а гэтых, нямногіх смелых, хутка напаткае жахлівая смерць ад цмокавых кіпцюроў… Доўга думаў ты, як цуды-юды пазбыцца, і прыдумаў чары ад чалавечай душы, ад простай працы, што спарадзілі маё нямое здзіўленне…

Сабраў такіх, як і сам, адчайных ды смелых, і сталі вы рабіць вялізную-вялізную саху. Дубы векавыя для яе валілі, жалеза з усяго краю збіралі. Зрабілі акурат такую, што толькі Крагавея ў яе і запрэгчы. І схавалі яе… Навошта? Я глядзеў на тое ад калінавага моста і не ведаў…

Толькі не спыніўся ты. Стаў дзеля чагосьці з дружынай камяні цягаць, з іх вежу высокую мураваць. Якраз там змураваў, дзе цмок найчасцей з'яўляўся. Змуравалі вы

тую вежу, як лялька, прыгожую, белую, ды схаваліся ў ёй. Няўжо будзеце да скону там хавацца?

Нядоўга і пабыў ты з хаўруснікамі ў каменнай схове. Ляціць Крагавейка, пнецца, аж пыл перад ім курыць. Убачыў белую вежу, зацікавіўся, спыніўся. Заўсёды быў такім цікаўным… Ды пытаецца:

— А хто ж, хто ж у новай каменнай хатцы жыве?

А ты, хлопча, яму у адказ мовіш:

— Я жыву… Асілак, які будзе з табою біцца…

— Дык выходзь, устань перад мною, памераемся сіламі.

— Боязна мне… Шмат ты слаўных воінаў забіў. Так жыць хочацца…

— Дык чаго ты, пудзіла, увесь свет смяшыш? Разнясу твой каменны дом ды цябе глыну!

— Пачакай, цмок, не губі людзей. Калі ты пралізнеш трое жалезных дзвярэй, я сам табе ў пашчу скочу…

— Хай сабе так…

Лізнуў цуда-юда раз — з'еў першыя дзверы, лізнуў другі — і прадыхнуў другія дзверы, лізнуў трэці — і праглынуў трэція. Ды бубеніць прама ў вежу:

— Дык дзе ты там, слаўны асілак? Рабі, пра што казаў… Праверу, які ты на смак…

Я не паверыў, калі ты ўхапіў цмокаў язык жалезнымі кляшчамі ды ўзяўся паганага малаціць па галаве чым папала. Знямеў ад спуду Крагавейка, дрыжыць усвесь, слова мовіць баіцца. А дружына твая тым часам давай яго ў саху запрагаць…

Тарганууўся Крагавей раз, тарганууўся другі — ні туды, ні сюды. Моцнай аказалася дубовая саха. Ды і вежу разбурыць не ўдаецца… А ты ў яго пытаешся:

— Ну што, пудзіла паганае, будзем мірыцца ці будзем далей біцца?

— Замірымся, слаўны асілак, — просіць літасці цмок.

— А не будзеш болей да зямлі маёй лятаць?

— Не ведаю…

— Ах, не ведаеш!

І ўзяўся ты на Крагавейку баразну гнаць. Першы дзень аралі вы поле, на другі — аралі лес, аж пакуль на трэці не даараліся да вялікай ракі. Знямогся паганы саху валачы, пыхі болей не кажа. І зноў ты маеш яму сказаць:

— Ну што, пудзіла паганае, будзем мірыцца ці будзем далей працаваць, зямлю ўрабляць?

— Мірыцца, мірыцца, — адразу згаджаецца цмок. — Ніколі не буду болей у твой край лятаць, за мяжу заступаць…

— Дык глядзі ж! Будзеш памятаць, дзе мяжа, чужынец, сам яе праараўшы…

Адно не змог цуда-юда пазбыцца паганай прагнасці:

— Шкада, не лётаць мне болей над белай зямлёй… Толькі і твой паважаны чарадзей не будзе болей па ёй хадзіці. Пакінуў я яго на калінавым мосце, адкуль ні вяртання, ні ратавання няма і не будзе…

І ўсміхнуўся я тут, на калінавым мосце, таму што дарма ён так сказаў…

— Гайда! Бух! — загадаў ты цмоку. Маўляў, скачы ў раку.

Няма чаго Крагавейку рабіць. Скочыў у самую строму. Сахі пазбыўся, ледзьве не ўтапіўся. Але ўсё ж здолеў вынырнуць ды паляцеў хавацца ў сваю нару. Прыляцеў ды кажа свайму гаспадару, дзе мяжа прайшла… Ды яшчэ мовіць, што не будзе болей ніколі лётаць да белай зямлі. Другі ўжо раз пераможаны яе асілкамі.

Далятае цмокаў сполах да калінавага моста… Звініць калінавы мост. Ён не любіць слабых. П'е чалавечы смутак, сілкуецца чалавечай жальбай… Таму няма

такой сілы, якая б пераўзышла ягоныя чары. І няма такіх чараў, якія б перашкодзілі мне, веднаму чарадзею, вярнуцца да роднай зямлі…

Доўга я вызваляўся з калінавай пасткі… Доўга чакаў… Доўга спадзяваўся… Але адпусціў мяне калінавы мост. Я пераканаў яго, разумнага, жывога, што не прыйшоў яшчэ мой час перайсці на той бок… Я вызваліўся адтуль, адкуль яшчэ нікому не ўдавалася пайсці, я вярнуўся да роднай зямлі. Я так хацеў сустрэцца з табою, чалавеча з наканаваным зорным лёсам. Але я спазніўся…

…Так непапраўна спазніўся.

Стаіць твая высокая белая вежа, цягне да сябе позірк. Буяюць вакол яе зялёныя лясы. Яны вясёлыя, як і людзі, што любяць іх прыгажосць. І ўсе яны на свой лад пяюць шчаслівыя песні, баюць цікавыя казкі, апавядаюць слаўныя легенды. Легенду пра цябе, смелы хлопчык. Легенду пра тое, як праклаў ты векавечную мяжу, з-за якой ніколі болей не адважыўся паганы цуда-юда прыляцець у наш белы край… Ніколі болей не зазналі гора людзі… Бароніць мяжа зямлю і людзей…

Шэпча мне высокі ясень, што не спадзяваўся болей мяне ўбачыць. Маўляў, што ж, што цяпер, чарадзею? Гаворыць, што трымаюць чары маёй зямлі тую мяжу, бо я так хацеў… Гэта праўда, я так хацеў абараніць цябе, стоячы на калінавым мосце, што пажадаў немагчымага… Я так хацеў, каб ты жыў…

І яшчэ шуміць мне высокі ясень… Мовіць пра твой курган у яловай гушчэчы. Паўстаў ён на месцы той багны, дзе перамог ты ваўкалака. Вартая была перамога… Але не магу я ісці туды, не магу падняцца на твой курган. Не магу табе сказаць… Кратае ясны мяне за плечы, нагадвае, што чакае мяне твая душа, чакае, не хоча пайсці ад сваёй зямлі…

А я не магу… Хоць і ведаю, што быў ты абраны князем і слаўна княжыў. Хоць і бачыў ты шчаслівыя дні пад высокім ясенем, бо знайшла цябе твая чараўніца… Хоць і славіць цябе легенда, называючы ўмелым кавалём, адораным незвычайнай сілай, які за подзвіг свой займеў пашану… Я не магу…

Кажа мне ясень, каб тварыў я новую легенду. Апекаваў новага чалавека… Не хачу таго болей. Не змагу таго болей. Паўсталі векавечныя межы на зямлі, дзе спрадвеку ўжыліся свет людскі ды свет чарадзейны… Не пераўзысці векавечных межаў…



*Васіль ЗУЁНАК*

# НЕБА НЯМА Ў СУСВЕЦЕ. НЕБА — У СЭРЦЫ ТВАІМ



***Васіль Зуёнак нарадзіўся 3 чэрвеня 1935 года ў вёсцы Мачулішча Крупскага раёна. Аўтар шматлікіх паэтычных зборнікаў, кніг нарысаў і замалёвак для дзяцей. Працаваў галоўным рэдактарам часопіса «Маладосць». Перакладае з рускай, украінскай, балгарскай, польскай, славацкай, сербскай і іншых моў.***

* * *

З цішынёю сусветнаю ў полі
Паядналіся ўсе галасы.
Па-дзіцячы ў жытнёвым прыполе,
Залюляныя, спяць каласы.

Што ім сніцца, якія турботы?..
Я над полем жытнёвым лячу,
Каласы ахінаю пяшчотай,
«Не турбуйцеся, спіце...» — шапчу...

Прыйдзе спеласць — дзень пастараецца,
Сонца шчодрае не абміне!..
А пакуль што — спіце да раніцы:
Кажуць, дзеці растуць у сне.

Набіраюць зярняты сілу —
Будзе хлеб святочным сталам!..
...Перапёлка — як бохан — дзяліла
Ночку летнюю папалам...

* * *

Сусвет зялёны вербалозы
Гайдаецца над Талінкай,
І сінявокія стракозы —
Сто сонцаў у крышталіках!

Паспець, паспець! — таму й вачыста
Красу хапаюць летнюю, —
Вось-вось скасуе дзень імглісты
Сеансы безбілетныя.

І не прадоўжыш хуткацечнасць
Ніякімі прашэннямі, —
Адно імгненне тут, як вечнасць,
Па формуле Эйнштэйнавай…

* * *

Пачынаўся сёння клопатна мой дзень:
Нешта твары засмучоныя ў людзей,

Нешта вочы ападаюць да зямлі, —
Як бы з пылам іх вятры не замялі...

Здагадаўся я, што ўсё гэта не так:
Сёння ўхмурылася ў неба чарната.

Як жа вочы ўзняць і як яго любіць?.. —
Нешта трэба, нешта трэба мне рабіць!..

Сёння дзень мяне паціху пахваліў:
Сёння з раніцы аблокі я бяліў.

* * *

Вось так і жыццё адмыкаецца:
Бягуць з-пад снягоў раўчукі,
І ў чысціку — смутку ні каліўца:
Такуюць цецерукі;

Юрлівы шчупак на нерасце
Гайдае хвастом берагі,
І сакавік намерыўся
Выводзіць у поле плугі;

І чуе зямля цяжарная
З усіх вясновых дарог:
У небе высокім — жаўранак,
А над жаўранкам — толькі Бог.

## НЕБА

Блакіту райская глеба
І зор ураджай залаты... —
Ты ўсё называеш небам
І забываеш пры тым:

Што мае твой зрок на прыкмеце —
Не доказ, не ява зусім,
Што неба няма ў Сусвеце:
Неба — у сэрцы тваім.

## BIBLIA

Сябры мае, сяброўкі-кнігі,
Я чую голас, чую звон:
Багоў наказ, вякоў вярыгі
І хваласпеў не лепшых дзён...

У мною скліканым хаўрусе —
Імёны мудрых і гуляк
За шклом, ды не ў маўклівай скрусе:
Маўчанне кніг — прарочы знак!

Яны астральна загавораць,
Калі зямны пакліча час.
Яны не ведаюць учора —
Ёсць сёння і эпох запас.

Сябры мае, да вас прыкуты
Мой лёс пры кніжным стэлажы.
Я адыду... Ды горкі смутак
На сэрцы каменем ляжыць.

Таму багам на сконе веку
Гукаю — кніжнасці манах:
— А там ці ёсць бібліятэка
І класікі ў святых тамах?!

## СЦЕЖКА

Іду — а восеньская сцежка,
Як мышка, шмыгае ў траве,
Бяжыць — не знаючы, куды...
То адшукае сыраежку,
То з павуцінкай праплыве...

То peралесак верасовы
Вядзе з чашчобы на сугрэў,
То абміне машын сляды, —
А дачы ўзбоч глядзяць, як совы,
Пустымі вокнамі з-за дрэў...

То з плугам выверне на поле,
Дзе мякка зябліва ляжыць,
Дзе клін пасеву малады
Нясе азіміну ў прыполе, —
А жыта ёсць — то будзем жыць!..

То пакіруецца ў бярэзнік
Да мітуслівага сяйва —
Каб лістападам збіць з хады:
Хай ты з цвярэзнікаў цвярэзнік —
А пойдзе кругам галава...

Палоніць царства залатое
І вочы сонечна крадзе —
І верыш верасню тады:
Не ты праходзіш сцежкай тою —
А сцежка праз цябе ідзе.

## «НЕ ЗАБЛУКАЙ...»

***P. S. Пастскрыптум да апавядання Юрыя Казакова «Никишкины тайны»***

Бадзяжы дух — ні сцежак, ні слядоў, —
І толькі сэрца на крыжы выводзіў.
На поўначы шукаў свой лёс і дом —
А слова — матчына, смаленскае,
знаходзіў...
А слова сведчыла, што гэта крывічы
Гукаюць крэўна —
праз вякі — нашчадка...
Паслухай — і ў здзіўленні памаўчы:
Чыя зямля тут і чые пачаткі!..
І ты пачуў — і адгукнуўся край
Табе ў апавяданні адмысловым,
Дзе хлопчыку:
«Сынок, не заблукай...» —
Сказала маці беларускім словам.
Я прачытаў — і нібы земляка
Сустрэў знячэўку на шляхах далёкіх, —
І з прывітаннем цягнецца рука,
І ў слове чую беларуса крокі!..

* * *

Была на ліру мода,
І быў паэт як бог.
Цяпер у модзе модуль,
Камп’ютар перамог.
Купаюцца з пялёнак
Малыя ў моры тым,
І слепяцца стамлёна
Дзяды, нібы краты.
Як мне паразумецца
З касмічнаю труной?
Хто скажа, дзе падзецца
Мне з рыфмаю маёй?
Спытаюся ў салоўкі,
Спытаюся ў дразда...
А ў вераб’я — нялоўка:
Не з пеўчага гнязда.
Ды гэты сам прыкмеціў
Разгубленасць маю:
— А я, — сказаў, — на вецер
Парады не даю.
А я, — сказаў, — заўсёды
Пры песеньцы сваёй,
І — знай — перад народам
Не сорамна мне з ёй.
Хоць у чарзе па славу
Ніколі не стаяў,
Спяваю я па праву,
Бо песенька — мая.
Жыццё мазгуе крута,
Ды ўсё ж не шкодна знаць:
Нам не раўня камп’ютар —
Яму не заспяваць!..
Дык на якое ж ліха
Ты галавой панік?!
У рыфму дык у рыфму:
«Чык — чырык!»

* * *

У каго
і якія
клопаты:
самапатоля
ці самадопыты?

У каго
і якія
таланы:
самаданосы
ці самаабманы?

У каго
і якія
памкненні:
самаўхваленне
ці самаспаленне?

У каго
і якія
сімпатыі:
самараспяцце
ці з веліччу сватанні?

У каго
і якія
яны —
гэткай
будзе
і ён
цаны.

**РЭПЛІКА НА ПЕРФОМАНСЕ**

Гляджу — безнадзейна, са спачуваннем
На экзальтацыю і вычварэнь:
Крычаць, як быццам ідзе карчаванне
Зубоў, ці пакутна гняце мігрэнь.
Назоў — адпаведны праяве: перфоманс, —
Хто без кашулі, хто без штаноў...
Ці форма без зместу, ці змест без формы?
А сэнсу — як сексу ў тупых каплуноў.
Навошта ж, навошта вам, хлопцы і дзеўкі,
Пераніцоўваць старое рыззё?
Ці ў свет вы прыйшлі як «адамчыкі-еўкі»,
А мы яшчэ ўсе на карачках паўзём?
Ёсць, кажуць, і ў музыцы муза такая —
Папсоўкаю служыць, пры добрых грашах:
Нібыта метал з'іржавелы — цяжкая, —
Б'е дэцыбеламі па вушах...
Ды як ні вылузвайся, як ні галёкай —
Не знае Пегас металічных спружын:
Вершы цяжкія не пішуцца лёгка —
Спачатку іх трэба цяжка пражыць.



Так, я пакуль яшчэ шмат п'ю
Але ўжо не палю
умерана жалюся
набіраю вагу
шмат пішу
і часам у мяне нават атрымліваецца
напісаць нешта любоўнае
нават калі зусім не ўсе з гэтым згодныя
а потым
часам
я думаю пра цябе
усё яшчэ
пакуль рыхтую сабе гарбату.

І гэта дзіўнае жыццё
ты не можаш са мной не пагадзіцца
сустрэцца
займацца каханнем
перажыць процьму ўсяго добрага
а потым, як па ўзмаху чароўнай палачкі
усё робіцца поўным глупствам.

З усяго гэтага кахання
ўсіх гэтых пільных поглядаў ва ўпор
і уздыхаў, і шэпту і пацалункаў
што застаецца?
амаль нічога
горка вершаў
іржавы імбрык
снежаньская раніца
і кубак кіпячай меланхоліі.



***Пераклад з італьянскай Вольгі БУБІЧ,***
***рэдактура Вольгі ГАПЕЕВАЙ***

***Пераклад зроблены з кінгі Guido Catalano***
***«Ti amo ma posso spiegarti» (2011, Miraggi)***

Ала НІКІФОРСКАЯ

# ШТО ЧЫТАЕЦЦА НА СКРЫЖАЛЯХ

***ПАПЛАЎСКІ, А. Ф. Скрыжалі душы:*** *лірыка / Алесь Паплаўскі. — Мінск: «Выдавецкі дом «Звязда», 2013. — 112 с.*

Першыя чатыры радкі, якія адкрываюць кнігу, абазначылі ўсё адразу: складанасць і непрымальнасць свету, неспасцігальнасць і пакутнасць творчага акта, а значыць — і душы творцы…

Ні наперад, ні ўбок, ні назад…
І пастукаеш — не адчыняць.
І пяро як магчымасць сказаць.
І папера як немагчымасць.

У прадмове да кнігі паэт Алесь Каско згадвае імёны Альбера Камю і Сальвадора Далі зусім не выпадкова: менавіта найбольш з іх філасофска-мастацкімі канцэпцыямі сугучна кніга Алеся Паплаўскага. Яго верш — не традыцыйны мякка-лірычны беларускі верш, а аголенае сюррэалістычнае пісьмо, якое адлюстроўвае пастаяннае — вечнае! — супрацьстаянне свету і душы паэта…

Адвечных дзён рады радзеюць,
І вышыню губляюць высі.
Мацуем існасцю надзею
І ў люстрадзь бездані глядзімся. (…)
Самотнасць рухаў… Дзверы насцеж.
У Храмах Памяці бязлюдна.
І вечны боль — нібы прычасце
Пад істэрычны смех Іуды.

Верш «Адвечных дзён рады радзеюць…» — яркая кандэнсацыя спалучэння двух полюсаў у жыцці: надзея — бездань, прычасце — Іуда… Прыведзеныя антанімічныя рады ў кнізе не адзінкавыя, на іх часта будуецца верш, яны з'яўляюцца яго стрыжнем, выражаюць асноўную думку. Як, напрыклад, у гэтым лаканічным:

Заблудзіцца позірк у хмарах дзіравых —
Завіслыя ў змроку пылінкі сінечы.
Абсурднасць абстракцый…
Самотнасць выявы…
Куды так спяшацца? Наперадзе вечнасць…

Жыццё — як пастаяннае — анталагічнае — супярэчанне, жыццё — як перашкода жыццю, жыццё — як змаганне… Так, у вершы «Недзе ў брудных, чужых дварах…» паэт выбудоўвае сваю канцэпцыю:

Недзе ў брудных, чужых дварах
Ноч хавае заганы дзён.
Нас ад страху ратуе страх.
Ад тугі і бяссілля — сон.

Ва ўнутраным свеце лірычнага героя — усё няпэўнае, трывожнае, хісткае…

І спакой — ад нястачы слоў.
І маўчанне — трывожны госць.
Нездарма, несучы святло,
Ля дзвярэй спатыкнуўся хтось.

Я адразу не згаджаюся з такім ратаваннем: у кожнага яно будзе сваё. Мяне асабіста ад тугі і нават смерці заўсёды ратаваў паэтычны радок. Раней! Змяняецца час — змяняемся мы разам з часам, іншымі становяцца нашы ратаванні…

Час у кнізе Алеся Паплаўскага — нібы самастойная дзеючая асоба:

Ціха старыцца час.
Хутка старымся самі.
І наноў не пачаць —
Трыццаць тры за плячамі.

Калі за пяцьдзясят, то гэтыя радкі ўспрымаюцца з іроніяй, а ў трыццаць тры ці — зусім адвольна! — дваццаць восем — усё так і ёсць… Своеасаблівы паядынак з часам выяўляе цудоўны і драматычны (адначасова!) верш «Мінулых дзён спантанны баль…» Першая страфа гучыць мякка, мілагучна:

Мінулых дзён спантанны баль,
Чароўных струн святыя гукі.
Іграюць вальс, забыты вальс
Твае няўрымслівыя рукі.

У другой страфе рэальнасць урываецца ў гэты мройны ўспамін («пусты пакой, у вокнах ноч»), а ў трэцяй гэтая мроя-дзея душы завяршаецца дысанансным кульмінацыйным акордам:

Жыццю пакорлівы давер,
Ні цішыні, ні супакою.
Мой час мяне перажыве
Несправядлівасцю сваёю.

Час у Алеся Паплаўскага вельмі розны, лепш — разнародны: то ён «лупавокі, жорсткі, / З гульбою, застоллем, смехам», то ён уступае ў сувымярэнне з вечнасцю («Вечнасць счытваю з ліста — / Кожны міг, кожны дзень з абзаца»), то ён — «час — непазбежнасць» як у вершы «Пярэдадзень», то ён «Пераменны і няпэўны / Гэты час-хамелеон» (верш «Як няпрошаныя госці…»)… Перад намі паўстае разгорнутая мазаічная панарама часу, узнікае жаданне падкарэкціраваць думку паэта: час не старыцца, час сталее, а разам з часам сталее і лірычны герой — і змяняецца яго ўспрыманне часу… І свету… «Прымаем без болю хвілін безгалоссе. / І ўжо разуменне нязбытнасці — ў радасць…»

У кнізе шмат шчымлівага, нявдзейсненага, балючага… Уся кніга — гэта сумненні і пошукі… Але ў кожнага дзеяння, нават абстрактнага, ёсць свая мэта, свой сэнс:

Парушыць правілы гульні,
Каб кампраміс знайсці з жыццём.
Пералічыць па пальцах дні
Без адзіноты шэрых дзён.

Размова не ідзе пра гармонію, суладдзе, хаця б — кампраміс… У вершы «Гэты свет — як чужы пакой…», дзе ўжо першы радок выяўляе поўнае несумяшчэнне свету і лірычнага героя, яшчэ раз паўстае слова «гульня»:

Неадступнай снуе сцяной
Беспрытульная постаць дня,
І жыву я даўным-даўно,
І жыццё не жыццё — гульня.

Адасобленасць, абстрагаванасць лірычнага героя ад свету зусім не абазначае яго паражэнне… Хутчэй — супрацьстаянне. Каб супрацьстаяць свету патрэбна мужнасць… Камю пісаў: «Мастацтва — гэта ў нейкім сэнсе бунт супраць незавершанасці і тленнасці свету: яно заключаецца ў тым, каб пераўтварыць рэальнасць, адначасова захаваць яе, таму што ў ёй крыніца эмацыянальнага яго напружання… Мастацтва не з'яўляецца поўным непрыняццем існага. Яно складаецца з бунту і згоды адначасова». Так і лірычны герой Алеся Паплаўскага: у ім жыве пратэст, згода, нават надзея. Толькі бунту, пратэсту, непрыняцця — болей, бо яны на паверхні, а згода і надзея — схаваны, маюцца на ўвазе і толькі зрэдку аказваюцца на паверхні. «Разбіць свой страх аб холад сцен, / З турмы здагадак уцячы, — імкнецца лірычны герой ва ўжо цытаваным вершы "Парушыць правілы гульні…" — На перадранішняй вярсце / Ад ночы выкінуць ключы».

У паэзіі Алеся Паплаўскага адзінота выступае не толькі як унутраная, суб'ектыўная з'ява, але і як сацыяльная:

Абязлюднее храм. Змоўкне шумны натоўп.
Прарасце цішыня, не азвацца.
За сляпой мітуснёй не заўважыць ніхто
Абяздоленай постаці старца.

Яшчэ больш востра выражана адзінота бяздомнага хлапчука ў вершы «Ля кавярні», які з дарэмнай надзеяй сочыць вачыма «за брудней сметніцай, / За пустым карабком з-пад пернікаў»…

Інтэрсуб'ектыўная прастора кахання лірычнага героя амаль закадзіравана — не расчытваецца… Адны штрыхі, пункціры, цені… Гэта — як малюнак сепіяй… На старонках кнігі каханне паўстае прывідам, таямніцаю, незагойнаю ранай… Боль — непадлеглы часу… Прычына непрымірымасці з жыццём і светам… Верш «Ноч…

**Яго верш — не традыцыйны мякка-лірычны беларускі верш, а аголенае сюррэалістычнае пісьмо, якое адлюстроўвае пастаяннае — вечнае! — супрацьстаянне свету і душы паэта…**

**Калі за пяцьдзясят, то гэтыя радкі ўспрымаюцца з іроніяй, а ў трыццаць тры ці — зусім адвольна! — дваццаць восем — усё так і ёсць...**

Стылы воск, цішыні хмель…» — своеасабліўы ключ, код, разгадка:

Там хтосьці кліча мяне, не —
Голас чужы.
Там і не жыць без цябе мне.
Жыць…
Хочацца жыць.

Не жыць — жыць — хочацца жыць… Вось яно — гамлетаўскае пытанне… Разуменне. Дадзенасць. Вось яно — суцэльнае змаганне лірычнага героя за жыццё… Вось той кантраст — немагчымасці жыцця і наймацнейшай яго прагі… Міжволі ўзгадваецца аповесць «Пастка для рэха», у якой прасочваецца біяграфічны момант… Гераіня аповесці, якая прысутнічае толькі ва ўспамінах галоўнага героя і ў лістах, напісаных яму, гіне ў аўтамабільнай аварыі… Пасля кнігі паэзіі перачытваю аповесць… (Кнігу «Пастка для рэха» атрымала ў падарунак ад Алеся падчас свята паэзіі «Паэтычны трохкутнік Гродна — Брэст — Беласток», якое адбылося ў 2010 годзе ў Гродне.) Пацвердзіць сваю версію не магу, і ўсё ж яе не адпрэчваю… Насупраць верша «Табе…» я пазначыла: вось яна — тайна… Пакідаю… Глыбінны па трагізме («З прадонных глыбінь Сусвету / Я чую тваё дыханне», «Ты скрадзены сон, імгненне…»), выпісаны па-майстэрску верш, працінае болем: два непапраўна-раздзеленыя светы… Непапраўна-раздзеленыя, вядома, у зямным вымярэнні…

Зямное і вечнае ў творчасці Алеся Паплаўскага ўступае ў непрымірымы канфлікт, дасягае сваёй кульмінацыі, як, напрыклад, у вершы «Пад панцырам заснежанага шкла…»:

Цень вуліцы — шчарбатай паласой…
Краніся незаўважна даланёю.
Ці ведае яна пра гэты сон,
Навеяны магільнай цішынёю,
Пра радасць спапялелага цяпла,
Пра тое, як нясцерпна, немагчыма
Глядзець праз ноч з багетавага шкла
Патухлымі ад вечнасці вачыма?

Або ў вершы «Святло ў нераспрамененым святле…»:

Адзіная бяссрпэчная дэталь —
Бясформенная прорва небасхілу,
Куды плыве ўсё існае, на жаль.
Каб стаць ізноў
нябачным тленным пылам.

І толькі верш «Ля дрэў, зацкаваных ветрам…» я абазначыла карандашом як «адзіны гімн жыццю!» Магчыма, не мела права, таму што змаганне за жыццё — гэта і ёсць перамога жыцця. Таму што жыццё — не заўсёды ўсмешка і квяцістасць, яно вельмі разнароднае і шматполюснае… І падчас — моцы і ўлады жыцця нашмат болей у яго мінорных праявах… Цудоўны верш у прозе «Сцяжынка», дарэчы, як і сама кніга «Скрыжалі душы»…

Паэтычная лексіка Алеся Паплаўскага вылучыла б яго сярод мноства паэтаў, нават калі б пры вершах не было абазначана імя аўтара. Багатая метафорыка, алітэрацыі («Да дзвярэй шкляных шчыльна сметніца / Прытулілася шыяй шэраю»), аксюмараны («Ноч цішынёй заенчыць», «Недапіты келіх асалоды чорнай» ), нечаканасць параўнанняў («Недзе на дне сусвету — / Месяц, нібыта плаха», «…І вырве язык разам з лісцікам шэрым / З разгорнутай кніжкі, нібыта з гартані» і інш.)… Разам з тым у кнізе ёсць і нешта штучнае, наўмысна нежывое — словы, радкі, параўнанні: «Нудна сыпала ноч / Звільгатнелую поўсць», «Трывожнае мроіва цішы прадрогкай. / Хлюпасткае месіва зманлівай белі»… Або гэтая страфа, сапраўды вартая пэндзля С. Далі:

Адтуліны золкіх плям —
Знявечаных яблынь голле.
Вячэрняй зары пятля
На чорным шурпатым горле.

Але трэба прызнаць, што кантраст выйшаў даволі яскравым і суровым….

Што датычыць душы лірычнага героя, то там усё жывое і сапраўднае. Інакш ці варта было ўзыходзіць паэту, як Маісею, на свой Сінай, каб явіць свету «Скрыжалі душы»!..

Антон АДАМОВІЧ

# «КАЦЯРЫНА» ПЕТРУСЯ БРОЎКІ

***Рукапіс даследавання Антона Адамовіча «Кацярына» Петруся Броўкі» захаваўся ў паперах крытыка ў архіве Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку. Каб мець уяўленне пра яго стан і выгляд, скажам, што гэта аўтограф сінім атрамантам на 4 аркушах разлінаванай паперы (частка вучнёўскага сшытка), запоўненых з абодвух бакоў. Дата напісання артыкула адсутнічае. Твор Петруся Броўкі, які аналізуецца ў артыкуле, ва ўрыўках друкаваўся ў 1937 годзе, а цалкам быў апублікававны ўпершыню у № 7—9 часопіса «Полымя рэвалюцыі» за 1938 год, тады ж пабачыў свет і асобнай кнігай. Згаданае ў артыкуле лібрэта оперы «Міхась Падгорны» аўтарства Броўкі было апублікавана ў «Полымі рэвалюцыі» ў лістападзе 1938 года. Антон Адамовіч быў вызвалены з турмы НКУС таксама ў 1938 годзе. Таму можна датаваць артыкул Антона Адамовіча апошняй трацінай 1938-га — пачаткам 1939-га.***

***Трэба думаць, што, узяўшыся за аналіз паэмы Броўкі, крытык спадзяваўся вярнуцца да сваёй прафесійнай дзейнасці. Ці нараілі Адамовічу гэты твор у рэдакцыі «ЛіМа» ці «Полымя рэвалюцыі» — невядома. Мажліва і тое, што твор быў абраны Адамовічам на спробу, каб папрактыкавацца ў аналітыцы, і абавязковага жадання надрукавацца ў крытыка не было. Да гэтае думкі схіляюць дастаткова незаангажаваныя высновы наконт ідэйнага напаўнення паэмы і распрацоўкі вобразаў («Вобраз тав. Сталіна — таксама традыцыйны і надзвычай абагулены вобраз правадыра»). Таксама заўважаецца «стары» для 1930-х метад Адамовіча-крытыка: даследаванне грунтуецца на трыядзе «тэматыка» — «паэтыка» — «фоніка», характэрнай у 1920 гады для прац А. Вазнясенскага і Я. Барычэўскага і адпрэчанай вульгарнасацыялагічным літаратуразнаўствам як буржуазная тэорыя.***

***Заўвагі ў змесце дазваляюць зрабіць выснову, што гэты рукапіс — чарнавы.***

***На сённяшні дзень артыкул «Кацярына» Петруся Броўкі» з'яўляецца адзіным выяўленым даследаваннем Антона Адамовіча ў перыяд пасля вызвалення і вяртання ў Мінск і да пачатку Вялікай Айчыннай вайны.***

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

У «Кацярыне», як у найбольшай памерам паэме Броўкі, найбольш выступаюць усе як моцныя, так і слабыя бакі ягонай паэзіі.

І. Як і папярэднія паэмы Броўкі («1914», «Праз горы і стэп»), «Кацярына» мае тэмаю партрэт чалавека, у дадзеным выпадку — партрэт знатнай калгасніцы, былой батрачкі Кацярыны.

*Вобраз Кацярыны* — абагулены вобраз жанчыны-пакутніцы, якой толькі Кастрычнік даў чалавечую годнасць, сапраўднае жыццё і нават знатнасць. У сваіх вытоках гэта — традыцыйны ў літаратуры вобраз жанчыны-пакутніцы, якая змагаецца за сваю чалавечую годнасць, традыцыйны пачынаючы нават ад імення («Кацярына» Тараса Шэўчэнкі, Кацярына з «Грозы» Остроўскага, Кацярынка з «Гапона» Дуніна-Марцінкевіча). Але Броўка дае гэтаму вобразу тое завяршэнне, якое прынесена Кастрычнікам, знімаючы пры гэтым трагічную развязку Шэўчэнкі і

## Вобраз тав. Сталіна — традыцыйны і надзвычай абагулены вобраз правадыра («ён стаіць над светам і працуе за ўсіх»)

Остроўскага і процістаўлячыся сантыментальна-прыгонніцкаму скажэнню рэчаіснасці ў Дуніна-Марцінкевіча.

II. Разгортванне вобраза Кацярыны біяграфічнае, пры чым, ізноў такі, біяграфія Кацярыны надзвычай абагуленая і таксама традыцыйная (апрача ўспомненых герояў тут трэба назваць героя Багушэвічавай паэмкі «Кепска будзе», біяграфія якога асабліва блізка ў сваім пачатку да Кацярынінай, а таксама Трусову «Сірату Алесю», у дачыненні да якой проста можна сказаць, што Броўка ў «Кацярыне» дамалёўвае не скончаны Трусом вобраз).

У біяграфіі Кацярыны, якая і становіць змест паэмы, чаргаванне змрочнага гаранішчасця з рэдкімі праблiскамі жыцця, якія робяцца ўсё больш частымі, працяглымі і трывалымі, пакуль аж не перарастаюць у зару шчаслівага жыцця, што займаецца над Кацярынаю пад канец паэмы *(прасачыць моманты гэтага чаргавання пры пераказе зместу паэмы)*.

Пры багацці падзей у біяграфіі Кацярыны трэба адзначыць: 1) вельмі вялікую хуткасць змены падзей і таму — неразгорнутасць кожнай з іх, 2) механічнасць гэтай хуткай змены (падзеі не вырастаюць унутрана адна з аднэй, а механічна, знадворна змяняюцца), 3) пасіўнасць самой Кацярыны ў дачыненні да большасці з гэтых падзей, 4) адсутнасць у Кацярыны індывідуальнага характару, адкуль і 5) поўную амаль адсутнасць індывідуальнага ў лёсе Кацярыны, надзвычайную абагуленасць вобраза яе аж да схематычнай алегарычнасці яго.

III. Іншыя вобразы паэмы — толькі *звернутыя да Кацярыны вобразы* (дадзеныя толькі ў дачыненні да яе) — таксама надзвычай абагуленыя, не-індывідуальныя вобразы:

1) *Мікола* — батрак, сірата, як і Кацярына («Быў ён круглым сіратою, як і любая яго»), класава ўсвядомлены нейкім «землякомрабочым», адданы і адважны змаганец у радах Чырвонай Гвардыі і Чырвонай Арміі, які і загінуў герaічна на полі бою з белапалякамі.

2) *Кузьма* — традыцыйны ў савецкай літаратуры вобраз кулака (пар. Хаця б з Васілём Буслам Коласа ці Маргуном Крапівы), моцны «чалавек зямлі» (нават знадворны партрэт яго — традыцыйны партрэт кулака), бесчалавечны эксплаататар пад маскай «спачувальніка» і «дабрадзея» («апека» над Кацярынаю), хітры прыстасаванец, падліза і пралаза да ўсіх улад (солтыс пры паляках, «культурны гаспадар» з «ахоўнай граматай НКЗ» і самаробнымі значкамі, «прыхільнік» калгасаў), шкоднік і дыверсант у канцы.

3) *Вобраз тав. Сталіна* — таксама традыцыйны і надзвычай абагулены вобраз правадыра («ён стаіць над светам і працуе за ўсіх»).

4) Нават дробныя вобразы — бацькі Кацярыны Сымона і яго сяброў, што прынеслі яго нежывога, таварышак Кацярыны, што дапамагалі ёй у бядзе — надзвычай абагуленыя («Спі, Сымон-бабыль, нядоля, мыж такія, як і ты», «з роўнай доляю падружкі самі плакалі наўзрыд, бо усе не зналі ласкі, бо гаротны мелі шлях, бо ў астрозе гаспадарскім высыхалі на вачах»).

IV. Ідэя паэмы. У чаргаванні няшчасця з шчасцем, якое ўрэшце перамагае ў біяграфіі Кацярыны, заложана асноўная ідэя аптымізма, класічна выражаная калісьці філосафам-аптымістам Лейбніцам у вядомых словах: «усё ідзе да лепшага ў гэтым лепшым са светаў». Адзін з галоўных момантаў гэтага «лепшага» у паэме — дружба людзей і народаў, у якой і палягае сапраўднае шчасце («У жыцці мацней сяброўства нам нічога не знайсці», «у яднанні, у дружбе — сіла», «дружбай шчыраю, гарачай парадніліся сэрцы два — ордэн Леніна за працу, родны Сталін і Масква» — дружба Кацярыны і Шамкіз). У апошняй ідэі — працяг і завяршэнне асноўнай ідэі «Партызанаў» Крапівы.

Пры ўсёй дадатнасці ідэі аптымізма вялікі мінус яе ў пасівізме пры такім выражэнні яе, калі «лепшае» толькі «ідзе», прыходзіць звонку, «выпадае» («разам выпала ёй шчасце за даўнейшыя гады») і пасіўна ўспрымаецца людзьмі, а не актыўна заваёўваецца, як гэта павінна было-б быць.

## МАСТАЦКІЯ АСАБЛІВАСЬЦІ ПАЭМЫ

I. У *мастацкім кірунку — рэалізм*, але пагоня аўтара за рэалістычнай тыпізацыяй прыводзіць яго да надзвычайнай абагуленасьці аж да схематызацыі, у выніку якой заміж рэальных тыпаў жывых, канкрэтных людзей з індывідуальнымі характарамі і лёсам атрымліваюцца нейкія абагуленыя алегорыі, адцятыя, надіндывідуальныя вобразы нейкіх сярэднеарыфметычных людзей, а заміж соцыялістычнага рэалізма — нейкі статыстычны рэалізм.

II. У *жанры* — своеасаблівы жанр *паэмы-оперы*, у якой героі выражаюць свае пачуцці і думкі галоўным чынам праз сьпяванне (блізасць і ў гэтым дачыненні да Трусовай «Сіраты Алесі», якая ўпершыню прадэманстравала спробу такога жанру; амаль адначасна з «Кацярынай» Броўка напісаў лібрэто да оперы «Міхась Падгорны» Цікоцкага).

III. Адсюль і сваеасаблівая оперная кампазіцыя: 1) частыя песні і оды ў тэксце, як-бы оперныя «арыі» (дзве калыханкі — Кацярынінай маці і яе самой, песня пра бор маці і пра гай — Кацярыны, прычытанні над мёртвым Сымонам, прадсмяротныя наказы маці, ода Кастрычніку, дзве оды Сталіну і інш.), 2) нават ня-песенныя па матывіроўцы выступленні пабудаваны па песенна-одаваму тыпу «арый» (выступленне Кацярыны ў Крэмлі з одаю т. Сталіну з чыста-песенным рэфрэнам «Родны Сталін, бацька мой», чыста-«опернае» пісьмо Міколы), 3) частыя кароткія пейзажы (усіх каля 15) — нібы оперныя ўвертуры ў антрактах між падзеямі. Прырода ў паэме наагул даецца таксама звернутаю да герояў, галоўным чынам, да Кацярыны: яна часта спачувае людзям («пахіліўшыся, калоссі толькі слухаюць дзяўчыну», «вецер, бы знарок суняўся, каб паслухаць») — стары прыём, часты ў фальклоры, вядомы яшчэ з «Слова аб палку Ігаравым». Прырода часта дзейнічае і сама па-чалавечы, антрапамарфізуецца (ачалавечваецца) у частых увасабленнях («месяц панад домам выйшаў зоры сабіраць», «выплыў з бору, п’е ваду з азёр іскрыстых», «сосны долу гнулі шыі», «сакавік ідзе палямі, запявае ў бары. Ручаінамі прыбраны, ён, вясновы чарадзей» і г.д.). У пейзажах таксама заўважаецца імкненне да абагульнення, да абагуленага пейзажу ўсяе краіны (пейзаж СССР у ўяўленні Кацярыны ў Крэмлі).

## Адзін з галоўных момантаў «лепшага» у паэме — дружба людзей і народаў

IV. У *мастацкіх прыёмах* тое-ж імкненне да абагульнення, што выражаецца ў частым ужыванні *метаніміі* (прыкл. — апісанне кулацкай абстаноўкі — разгорнутая метанімія ўсёй кулацкай існасці) і асабліва яе прыватнага выпадку — *сінекдахі* (замена часткі цэлым і наадварот: «і зложыла рукі крыжам задуменнае сяло», «без абутку, без адзення плыў дарогамі паход», «прыйшлі мыліцы без ног», «заблішчэлі пяткі шпарка» і інш.).

Наагул, у мастацкіх прыёмах — багацце, сакавітасць, народнасць, асабліва ў параўнаннях — поўных («неба чыстае такое, хоць ты пі яго бяры», «жаўра песеньку, як нітку, аж да сонца заснаваў», «мы-ж адны цяпер у хаце, як сарокі на калу») і скарочаных (пры дапамозе творнага склону: «стаяць жыты, пшаніцы наліванаю сцяной», «і на грудзі ападала чорнай хмарай барада», «жыта ў полі налілося воскам жоўтым і густым», «ячмяні, аўсы, пшаніцы зашумелі кажухом», «туман садамі белым кужалем вісіць»).

V. У *паэтычнай мове* — жывасць, байкасць, мілагучнасць — частыя *анафары* (частае анафарычнае «то», «што», «як» і інш.), *музыкальнасць* («Каласілі нівы хлебам, засыналі зімнім сном, зоры падалі па небе, загараліся ізноў»).

Побач з удалымі словамі (прыкл. — «астанне») трэба адзначыць і няўдалыя («разлічала» замест «адрознівала»), граматычна-няправільныя формы («з мацей»), няўдалыя вобразы («хто ў палапленым мяху»).

VI. У вершы *памер — чатырохстопны харэй*, памер «Сымона Музыкі» Я. Коласа, з якім у «Кацярыны» многа блізасці і ў біяграфіі галоўнага героя, і ў імкненні да абагулення, і ў жанры, і ў кампазіцыі, і ў мастацкіх прыёмах, нават у ідэі (можна прызнаць «Кацярыну» некаторай жаночай паралеллю «Сымону Музыку»).

***Падрыхтоўка да друку і публікацыя Ціхана ЧАРНЯКЕВІЧА***

*Рубрыка кафедры*
*літаратурна-мастацкай крытыкі*
*Інстытута журналістыкі БДУ*

# МАСТАЦТВА ВЫМАГАЕ ШЧЫРАСЦІ

Ведаю, што сённяшніх студэнтаў, як і іх папярэднікаў, хвалюе пытанне: «Як пісаць пра мастацтва?» Мы вырашылі самі сабе наладзіць майстар-клас. Не са знакамітымі мастацтвазнаўцамі і журналістамі, а з маладымі, дзёрзкімі, неардынарнымі.

Выстаўка для мастака тое ж, што выданне кнігі для пісьменніка. І напісаць пра яе ў друку можна па-рознаму. Мы выбралі тры выстаўкі: выстаўку з серыі «Майстры і вучні», прысвечаную памяці выдатнага нашага скульптара і выкладчыка Леаніда Давідзенкі «Сумоўе драўлянай скульптуры» (Музей сучаснага выяўленчага мастацтва), выстаўку твораў маладой мастачкі Ганны Конанавай «Хада па Сонцы» (галерэя Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў) і выстаўку твораў мастакоўскай дынастыі — народнага мастака Беларусі Анатоля Бараноўскага, Алены Бараноўскай і Віталя Герасімава «Срэбра пачуццяў» (Палац мастацтваў). Потым прапанавалі напісаць пра іх выпускніцы аддзялення музеязнаўства і гісторыі мастацтва гістарычнага факультэта БДУ Каміле Янушкевіч, скульптару, мастаку па метале, дызайнеру і паэту Максіму Шняку, студэнтам Інстытута журналістыкі БДУ курсанту Артуру Грыгарану і Таццяне Чарнуха, а таксама выпускніцы адной з гімназій Анастасіі Капцавай, якая толькі вырашае кім ёй быць. У чытачоў ёсць магчымасць не толькі адкрыць для сябе творчасць вельмі цікавых беларускіх скульптараў і жывапісцаў, але і параўнаць, як успрымаюць творы мастак, мастацтвазнаўца і журналісты. Можа, для кагосьці гэтая публікацыя стане вызначальнай у выбары будучай прафесіі. Заўважце, што для журналістаў галоўнае лаканічна і вобразна данесці да чытача інфармацыю пра тую ці іншую мастацкую падзею, зацікавіць, заінтрыгаваць. Мастацтвазнаўцы імкнуцца даць ацэнку мастацкай з'яве ў кантэксце часу. Паэты вобраз візуальны пераўтвараюць у вобраз вербальны. Так супала, што напачатку вясны мы маем гонар пазнаёміць вас са скульптарам, які ўсё сваё жыццё паэтызаваў вобраз жанчыны і з дзвюмя жанчынамі-творцамі. Спадзяемся, што гэта дапаможа вам напоўніцу адчуць надыход доўгачаканага цяпла і веснавую пяшчоту.

***Галіна БАГДАНАВА,***
***дацэнт кафедры***

## ПРЫСВЯЧАЕЦЦА ЛЕАНІДУ ДАВІДЗЕНКУ…

Ёсць рэкі, што душаць цяжарам каменне,
А ёсць, што на хвалях каменне струменяць
І кветкі, што побач з ракою ўзыдуць
Раскрыюць пялёсткі вясёлкай граніту

Бывае, выходзяць з глыбіняў каралі
На свеце ўсіх зіхаценнем кранаюць
Каб у свеце застацца тады дыямантам
Што будзе мігцець нам усім без падману

Здараецца, лёс — адно ночы цырата
Усё крые цягучаю цемрай упарта
(Як падла!)
Рэкі, граніт, дыяманты.
Глытае сваёй ненажэрнаю пашчай
Жыцця чалавечага крохкае шчасце…

Ёсць рэкі, што цемру знішчаюць
каменнем
Імгненна.

***Максім ШНЯК,***
***адзін з апошніх вучняў Леаніда Давідзенкі, стыпендыят Спецыяльнага Фонда Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі, уладальнік Гран-пры Рэспубліканскага мастацкага конкурсу, скульптар, майстар па метале, дызайнер, паэт***

## АЛЕНА БАРАНОЎСКАЯ. ПАМІЖ ДВУХ ПОЛЮСАЎ

Экспазіцыя ў Палацы мастацтва, паэтычна названая «Срэбра пачуццяў», дзе можна было ўбачыць творы Анатоля Бараноўскага, Алены Бараноўскай і Віталя Герасімава, стала для нашай краіны знакавай. Яна засведчыла, што ў нас ёсць не толькі яркія творчыя асобы, але і магутныя творчыя дынастыі. Да слова, Рафаэль — мастак у сёмым калене. У мастацкай дынастыі Бараноўскіх-Герасімавых заявіла пра сябе ўсяго толькі трэцяе. Паўтары гады таму бліскуча скончылі аддзяленне жывапісу Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Глеб Герасімаў і ягоная жонка Вераніка Герасімава. Праўда, яны ў выстаўцы ўдзелу не прынялі. Хаця іх і запрашалі. Вырашылі, што ім яшчэ трэба папрацаваць. Вядома, калі перад вачыма штодня ўзоры такога кшталту! Будзе час — і мы абавязкова ўбачым іх творы побач з творамі старэйшых.

Не толькі адказнасць, але і вялікі гонар, шчасце мець перад сабою ўнікальны ўзор працалюбства, высакароднасці, творчага натхнення, якім заўжды быў для Алены Бараноўскай яе бацька — народны мастак Беларусі Анатоль Бараноўскі. І сустрэчу з Аленай Бараноўскай, якая адбылася падчас работы выстаўкі, мы пачалі ля аднаго з твораў яе бацькі. Партрэт юнай Алены з сынам Глебам на руках.

Анатоль Васільевіч нарадзіўся ў 1937 годзе. У маленстве перажыў вайну. Але дзіўным чынам здолеў зберагчы ў душы далікатнаць і пяшчоту. Ягоныя карціны выбелены, як сон.



*А. Бараноўскі. Каложа. Палатно, алей, 1990.*



*В. Герасімаў. Царква Барыса і Глеба. Палатно, алей, 2004.*

— У мастацтве заўжды існавала пэўная кан’юнктура. Мастак можа ствараць творы, якія будуць адпавядаць яе патрабаванням. А можа ісці ўласным шляхам. Бацька з тых, хто, як кажуць, чуе не толькі музыку сённяшняга часу, але і музыку вечнасці. Ён усё жыццё піша пераважна пейзажы, — кажа Алена. — Калі паглядзець на да-ты напісання твораў, можна прасачыць як мяняўся ягоны падыход да натуры, ягоная манера пісьма, як ён сам мяняўся. Раннія работы больш насычаны

тонам, больш актыўныя. У іх больш дэталей. А працы апошніх гадоў, так бы мовіць, прасветленыя. Яны нагадваюць успаміны, сны. Тут зусім іншая нота прачытання. Гэта творы чалавека, які шмат за жыццё пабачыў, перажыў і навучыўся ўвасабляць сутнасць рэчаіснасці.

Кажуць, Анатоль Бараноўскі малюе срэбра, а Алена — золата.

Сувязь Алены са сваім бацькам адчувальная на нейкім пазасвядомым, генетычным узроўні, нават у тым, як яны кладуць мазкі. Яна, як і бацька, умее прыслухоўвацца да прыроды і любіць музыку. Жывапіс, як і музыка, — вельмі інтымнае мастацтва. І Алена ў сваіх творах зберагае гэтую інтымнасць.

Кожны ранак, калі няма заняткаў у Гімназіі-каледжы мастацтваў імя І. В. Ахрэмчыка, дзе яна выкладае, Алена ідзе ў майстэрню. Для яе творчасць гэта не толькі і не столькі рамяство, колькі неспазнаная таямніца, штораз адкрыццё.

— Трэба нямала часу, каб знайсці сябе самога ў сабе, — прызнаецца Алена.

Пейзажы Алены Бараноўскай напісаны смела, эмацыянальна. Яны такія жывыя, што хочацца не толькі на іх глядзець, але і пабыць у тым прыгожым месцы. Мяне асабіста вельмі кранула карціна «Сялянскі дворык». Гэта радзіма яе маці, твор, які, пасутнасці, вяртае яе ў маленства. У гэтым творы адчуваецца не толькі індывідуальнасць Алены, але і часцінка таго вопыту, што перадаў ёй тата. Калі падысці да карціны бліжэй, бачыш кожны мазок, усё рассыпаецца, а калі адыходзіш, раптам выяўляецца вобраз. Гэта нечым нагадвае тыя малюнкі, што стварае на вокнах мароз.

Ёсць у Алены вельмі цікавыя нацюрморты. Напрыклад, «Ноч. Акно майстэрні». Падборка прадметаў мужчынская. І пры тым, што даволі дакладна выяўлены дэталі, напісаны нацюрморт вельмі эмацыянальна, нават рэзка. У ягонай стылістыцы мне чуюцца ноты Віталя Герасімава, які піша палка, ярка. Для яго важна паказаць наколькі нават просты прадмет, напрыклад, крэсла, можа быць цікавым. Пасля адной з сумесных выставак Алены Бараноўскай і Віталя Герасімава з'явіўся артыкул з назваю «Малако і віно». Параўнанне, як мне здаецца, дакладнае.

— Сапраўды, і ў жыцці, і ў творчасці Віталь вельмі яркі, палкі, — гаворыць Алена.

Творы Алены Бараноўскай успрымаеш яшчэ з большай цікавасцю, ведаючы, што яна ў творчасці і жыцці існуе паміж двума полюсамі. Для таго каб адчуць, наколькі розныя людзі яе бацька і муж, дастаткова паглядзець, як па-рознаму ўвасабляюць яны хаця б Каложскую царкву.

Анатоль Бараноўскі піша яе падрабязна, прамалёўваючы кожную дэталь. І пры гэтым усё выбельвае: неба, зямлю, сам храм. У Алены ёсць сваё тлумачэнне: паколькі бацька перажыў вайну, яму хочацца выбеліць гэты свет ад цемры, зла, вайны, і ўсё гэта ён імкнецца перадаць праз свае карціны. Але, калі ўглядаешся ў твор, міжволі заўважаеш, што людзей, якія ідуць да храма, ён так не выбельвае. Можа таму, што ў душы кожнага з нас змагаюцца розныя пачуцці, мы шукаем свой шлях да Бога?

«Каложа» Віталя Герасімава зусім іншая. Ён апускае падрабязнасці. Ніводнага дрэўца, ніводнага чалавека. Галоўнае — храм.

— Каложа быццам выплывае з гісторыі, — сказала Алена ля гэтага твора.

Усё напісана не проста палка, ярка, кожны каменьчык іграе ўсімі колерамі вясёлкі. Некаторыя камяні мастак быццам спецыяльна вылучае шырокімі мазкамі. Ён інтрыгуе. І разумееш, што ў гэтага храма ёсць неразгаданая таямніца.

Мне здаецца, што калі Віталь Герасімаў стаў мужам Алены, яму было лёгка ўліцца ў атмасферу гэтай сям'і мастакоў, і менавіта тады ён адшукаў, сцвердзіў свой стыль.

Анатоль Бараноўскі, Алена Бараноўская, Віталь Герасімаў. Кожны — творчая індывідуальнасць. І пры гэтым яны сям'я, адзінае цэлае. Міжволі яны ўплываюць адно на аднаго, падтрымліваюць і сцвярджаюць непаўторнае бачанне свету.

Алена Бараноўская — залатая сярэдзіна між двума мужчынамі, між двума полюсамі. Бацька і муж — ахутанае туманамі мінулае і дзёрзкая будучыня.

***Анастасія КАПЦАВА***



*Ганна Конанава. Хада па сонцы. Палатно, алей. 2013.*

**МАСТАК СВЕТЛАГА ВОБРАЗА**

Колькі пішацца карціна? Як знайсці музу? Дзе чэрпаць сілы для творчасці? Кожны мастак індывідуальны ў сваіх магчымасцях, жаданнях і густах. Наша суайчынніца Ганна Конанава з тых аўтараў, якія не задумваюцца пра сутнасць падобных пытанняў. Ганна жыве для творчасці і стварае для жыцця — у гэтым залог яе поспеху.

У жывапісе існуе вялікае мноства нюансаў адлюстравання фантазіі. Вельмі часта ідэя ясная і простая, аднак выбудаваць кампазіцыю на палатне надта складана. Трэба выбраць найбольш адпаведны колер для кожнай дэталі твора, дакладна прапрацаваць контуры, не забываючы пры гэтым пра цені, насычанасць прасторы карціны святлом, гаму колераў. Некаторым на гэта патрэбны тыдзень, іншыя ж могуць працаваць над адным творам гадамі. Нязменна адно — палёт фантазіі мастака. Ганна Конанава рызыкуе, і гэтая рызыка прыносіць ёй поспех і агульнае прызнанне.

Пры выбары суадносін святла і цемры ў творах трэба быць гранічна ўважлівым, каб не зрабіць карціну занадта цьмянай або яркай. Не прасцей справы і з выбарам колеру. Ледзь заўважная змена адцення можа цалкам змяніць агульную задуму твора.

Ганна рашаецца на тое, пра што многія сучасныя мастакі баяцца гаварыць услых. Яна сумяшчае несумяшчальнае, эксперыментуе з забароненым, а на выхадзе заўжды можа ганарыцца цудоўным творам, бо кожная яе карціна выклікае вялікую цікавасць.

Ганна бачыць сваю творчую сутнасць у непераадольным імкненні да святла. Падначаленая гэтаму нябачнаму прыцягненню, Ганна ўвасабляе на палатне свае задумы і ідэі. Апошняя яе выстаўка «Хада па сонцы» ў чарговы раз пацвярджае ры-



Ганна Конанава. Вечаровы звон. Палатно, алей. 2012.

зыкоўнасць і вялікі творчы размах аўтара, яе імкненне да добрага, светлага і чыстага. Праўду кажуць, светлы чалавек не робіць цёмных спраў.

***Артур ГРЫГАРАН***

## «СУМОЎЕ ДРАЎЛЯНАЙ СКУЛЬПТУРЫ»

***Выстаўка памяці Леаніда Давідзенкі***

Выстаўка «Сумоўе драўлянай скульптуры», што праходзіла ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва, была прысвечана памяці славутага і выключнага па таленце беларускага скульптара Леаніда Давідзенкі (1941—2002), які не толькі стварыў шмат унікальных твораў мастацтва, але і адначасова з 1968 года выкладаў у Гімназіі-каледжы мастацтваў імя І. В. Ахрэмчыка.

Выстаўка арганізавана выкладчыкамі гімназіі-каледжа імя І. В. Ахрэмчыка Іванам Арцімовічам і Паўлам Лявонавым, для якіх памяць пра скульптара шчымлівая, трапяткая, жывая... «Аўтар быў наватарам у галіне скульптуры і разьбе па дрэве. Фатаграфіі на сценах экспазіцыйнай залы, якія нібы абрамляюць працы яго паслядоўнікаў, — агульная творчая прастора, прасякнутая духам любові да гэтага матэрыялу, да гэтай справы, да гэтага чалавека, які для нас усіх вельмі шмат значыць», — заўважыў скульптар, мастацтвазнаўца, дызайнер летуценнай і бязважкай афішы да выстаўкі Іван Арцімовіч. У сваёй кнізе «Беларуская школа скульптуры» Іван Арцімовіч апісаў Леаніда Рыгоравіча як чалавека, які стаў настаўнікам для многіх маладых мастакоў. Прысвяціўшы сябе выхаванню малодшага пакалення скульптараў, ён не абмяжоўваўся толькі педагогікай, сваім прыкладам і творчымі працамі ён імкнуўся выхаваць у вучнях і прафесійныя, і асабістыя чалавечыя якасці. Творчасць была для яго ладам жыцця.

У экспазіцыі прадстаўлены работы самога Давідзенкі, ягоных калег, творчых пасля-

доўнікаў і вучняў, мастакоў розных пакаленняў: А. Фінскага, У. Слабодчыкава, П. Лявонава, А. Шапо, А. Навасёлава, А. Мядзведзева, М. Шняка, Н. Стрыжнёвай, І. Арцімовіча, А. Мядзведзева. «Гэта ўсе тыя майстры скульптуры, якія судакрануліся з ягонай творчасцю і ўражанне ад яе стала моцным штуршком для іх уласнай працы, пераасэнсавання і пераўвасаблення такога матэрыялу як дрэва», — зазначыла дырэктар Музея сучаснага выяўленчага мастацтва Наталля Шаранговіч.

Творы яднала гранічная шчырасць выказвання, вострае адчуванне сучаснасці, высокае майстэрства. Скульптары, здаецца, чуюць і перадаюць нам жывую пульсацыю дрэва, з якога натуральна і нязмушана нараджаюцца самыя розныя па гучанні вобразы.

На выстаўцы было прадстаўлена тры працы Майстра, якія дагэтуль нідзе не выстаўляліся, адна з іх мела для яго асабліва глыбокі сэнс. Гэта праца, прысвечаная яго адзінай дачцэ, якая загінула амаль за год да смерці самога скульптара. Гэта ўвасабленне анёла. Праца вельмі лаканічная. Нехарактэрныя рэзкія пераходы, нават ірванасць пластычнага вырашэння ператвараюць вобраз у сімвал. Гэта не проста ўвасоблены ў дрэве боль асабістай трагедыі, гэта зварот да тэмы вечнасці.

Адметным эпіграфам, сэнсавым акцэнтам экспазіцыі была апошняя «няскончаная» праца Леаніда Давідзенкі. Зробленая ў той жа асаблівай манеры як і «Анёл», няскончанасцю яна распавядае пра свой стан. Майстар увасабіў чалавека, павернутага да нас спінай, чалавека, які збіраецца ісці ўдалячынь, забіраючы за сабою ўвесь свой боль, уласную гісторыю. Глядач міжволі суперажывае трагедыі сыходу. Праз вуглаватасць рэльефу кампазіцыі, няветлівасць пастаўленай натуры, адрывістасць ліній адчуваеш… стоеную крыўду. Гэты чалавек, здаецца, у чымсьці сябе вінаваціць: за нешта зробленае не ў час ці, наадварот, недавыказанае. Ён спрабуе схавацца за ўласнай спінай, маскіруючы свой твар, атуляючы боль і слёзы, пакідаючы іх толькі сабе… Раптам разумееш, што для таго каб перадаць філасофію пачуццяў, прымусіць нас суперажываць, праца не абавязкова павінна быць завершанай. І бачыш, як прыадчыняецца тая брама, за якою бачны пачатак і канец як творчага працэсу, так і жыццёвага шляху. І адчуваеш, што, можа, драўляны анёл валодае таямніцай, ведае, дзе праходзіць мяжа між светам спазнаным і неспазнаным, увасобленым і неўвасобленым...

***Каміла ЯНУШКЕВІЧ***

## У ГАРМОНІІ З САБОЮ

Яна танцуе фламенка. Любіць віяланчэль. Асоба шматбаковая. Але справа яе жыцця — жывапіс. Ганне Конанавай усяго 27 гадоў, але яна можа лічыць сябе мастачкай.

Па-іншаму і быць не магло. Ганна вырасла ў творчай сям'і: яе бацька — вядомы скульптар, маці — мастачка. Як кажа Ганна, усе ў дзяцінстве пад стол хадзілі, а яна — пад мамін мальберт. Любіла маленькая Ганначка праводзіць час у мамінай майстэрні. Ледзь не з пялюшак пачала маляваць. У 12 гадоў з Магілёва пераехала ў Мінск і паступіла ў Гімназію-каледж імя І. В. Ахрэмчыка. Дзяўчынка вучылася ўдалечыні ад бацькоў і роднай мясцовасці. Можа, гэта пайшло на карысць. Тут яна стала самастойнай, незалежнай у меркаваннях, а таму і смелай у творчасці.

Яна не баіцца эксперыментаваць. Піша тое, што падабаецца і хочацца. І, варта прызнаць, гэта ў яе выдатна атрымліваецца.

Скончыўшы гімназію-каледж, а потым і Акадэмію мастацтваў, Ганна адвучылася ў магістратуры БДАМ, а потым стала аспіранткай Нацыянальнай акадэміі навук. Цяпер піша дысертацыю і выкладае. Першая персанальная выстаўка Ганны Конанавай называлася «Хада па сонцы». Сонца вабіць мастачку са школьных гадоў. Менавіта таму яе працы напоўнены святлом. Жывыя, яны прыцягваюць гледача яркасцю, смеласцю. Глядзіш на карціны Ганны і здаецца, што свет — цудоўны. А можа, так і ёсць?

Кажуць, творы мастака люструюць ягоны ўнутраны свет. Ганна — адкрытая свету творчая натура. З выгляду далікатная дзяўчына, але які ў яе ўсярэдзіне стрыжань! Упэўненая ў сабе, жыццярадасная, працалюбівая і аптымістычная, у гармоніі з прыродай і, галоўнае, з сабою, яна стварае прыгажосць. І яе творчы шлях працягваецца...

***Таццяна ЧАРНУХА***

Максім СОХАР

# ПРАКТЫКА ПАСЛЯДОЎНАСЦІ. ВЕРА РЭДЛІХ



***Сёння ўсе адукаваныя людзі добра ведаюць, што беларускі тэатр прайшоў шмат стагоддзяў у сваім развіцці. Ён ніколі не быў адасоблены ад тэатральнай культуры нашых блізкіх і далёкіх суседзяў, ад сцэнічнага мастацтва еўрапейскіх краін. Пастаянныя ўзаемаадносіны фарміравалі ўзаемаўплыў, а ў выніку ўзнікалі ўзаемасувязі і ўзаемаўзбагачэнні. Такое яднанне не разбурала ўласных нацыянальных традыцый, а спрыяла новаму вопыту і цікавым дасягненням. У гэтым сэнсе цікава зазірнуць у недалёкую гісторыю нацыянальнай тэатральнай школы (другую палову XX стагоддзя) і пазнаёміцца з педагагічнай практыкай слыннага прафесара рэжысуры і акцёрскага майстэрства Веры Рэдліх, якая ў прамым сэнсе прыняла з рук Станіслаўскага асноўныя метады выхавання творцаў сцэны, і як таленавіты садоўнік паслядоўна прышчэплівала іх да маладых беларускіх парасткаў.***

Пра Веру Рэдліх, мудрую жанчыну, сціплага, працавітага чалавека і вельмі таленавітую настаўніцу цікава будзе паразважаць з пункта гледжання «Тэатральнай энцыклапедыі». Вось першыя скупыя радкі: «Нарадзілася 12.04.1894 г. у в. Мікалаеўка Сумскага павета Харкаўскай губерніі. Народная артыстка РСФСР (1956). Прафесар (1966). З 1914 г. па 1917 г. студэнтка Тэатральнай школы пры МХАТ...» За гэтымі афіцыйнымі звесткамі не ўбачыць пакутлівага і напружанага жыцця творчай асобы. Паводле яе аповедаў вядома, што яна з маленства любіла ўсялякія забавы, а спяваць і танцаваць магла бясконца. Падчас вучобы ў царкоўна-прыходской школе ўдзельнічала ў калядных вечарынах, разыгрывала ўсялякія біблейскія сюжэты. На пачатку Першай сусветнай вайны, калі бацьку прызвалі ваяваць за цара і Бацькаўшчыну, яе адправілі да сваякоў у Маскву. Праходзячы каля МХАТа, дзяўчына прачытала аб'яву, што тэатральная школа набірае навучэнцаў, а на наступны дзень ужо стаяла перад экзаменацыйнай камісіяй, спявала, прытанцоўваючы, любімыя прыпеўкі:

Сапожки мои, голубая строчка,
Мне мамочка приказала:
— Веселись, мое дитя, гуляй моя дочка...

Яна апынулася ў ліку шчаслівуцаў, якіх прынялі. Пачалося новае жыццё. Творчае, поўнае нязведаных таямніц і мэтанакіраванае...

З першых дзён Вера Рэдліх паказала сябе добрасумленнай, працавітай вучаніцай. Яе здольнасцямі захапляліся кіраўнік школы Мчадэлаў і рэжысёр-педагог Вахтангаў. Хваліў і падтрымліваў Станіслаўскі. Праз два гады яе разам з іншымі лепшымі навучэнцамі — Міхаілам Яншыным, Анастасіяй Зуевай, Міхаілам Кедравым, Мікалаем Хмялёвым, Маркам Прудкіным, Алай Тарасавай — пераводзяць у Другую Студыю МХАТ пад мастацкім кіраўніцтвам Вахтангава. У сваіх успамінах яна адзначала: «Да мяне з вялікай сімпатыяй і павагай ставіўся педагог Мчадэлаў. Гэта быў высокі, статны, з чорнымі з сівізной валасамі грузін *(Вахтанг Мчэдлішвілі разам са Станіслаўскім арганізаваў 2-ю студыю МХАТ, быў прыхільнікам італьянскай каме-*

*дыі масак.* — **М. С.**). Усе дзяўчаты студыі былі закаханы ў яго, але ён быў жанаты на грузінскай актрысе, прыгажуні Медэі, якая часта прыходзіла на нашы заняткі. Мчадэлаў быў вельмі таленавіты педагог. Памятаю яго павучанні пра тое, што акцёр на рэпетыцыях павінен спалучаць у сабе рэжысёра-арганізатара, драматурга і акцёра. Артыст — гэта трохкутнік, дзе ў кожным кутку размешчаны пытанні: хто? што? як? Гэта азначала: воля, розум, пачуцці. І яшчэ ён раіў нам: "Стварайце вобраз у няспынным руху, у дзеянні. Вучыцеся падхопліваць пасыл партнёра і тут жа пасылаць сваю ацэнку, думку далей, ніяк не стрымліваць яе ў сабе, не «тапіць» яе ў сваіх эмоцыях..." Ён быў вельмі цікавы настаўнік і глыбокі чалавек»[1].

Так паступова, крок за крокам, педагогі раскрывалі яе прыродныя магчымасці, напаўнялі прафесійнымі ведамі. Пачалі праяўляцца першыя пробліскі поспеху ў маленькіх «слоўных», а часцей «бясслоўных» эпізодах. Але ж гэта быў МХАТ часоў Станіслаўскага, Вахтангава, Мчадэлава...

«Другую Студыю, — адзначала тэатральны крытык Лілія Брандабоўская, — называлі "самай вернаю дачкой Станіслаўскага..." Блізкія зносіны з Мастацкім тэатрам — тэатрам высокіх ідэй, думак, выразнасці ў артыстычнай тэхніцы і этыцы, зносіны з акцёрамі, якія свята ставіліся да свайго тэатра-храма, вылепілі з сарамлівай студэнткі Верачкі Рэдліх строгага да сябе, дапытлівага, неспакойнага мастака — актрысу, рэжысёра, педагога»[2].

Як вядома, Другая Студыя поўнасцю растварылася ў МХАТ. Амаль усіх навучэнцаў Станіслаўскі забраў да сябе, уключаючы іх у рэпетыцыйны працэс спектакляў, якія рыхтаваліся да вялікіх гастроляў па Заходняй Еўропе і Амерыцы, — «Тры сястры», «Вішнёвы сад», «Дзядзя Ваня», «На дне», «Браты Карамазавы», «Гамлет», «Рэвізор». У эпізодах і масавых сцэнах была занята і Рэдліх. Яна ўспамінала: «Гэта быў напружаны момант у жыцці МХАТ і яго стваральніка — малады калектыў збіраўся на такія адказныя гастролі. Канстанцін Сяргеевіч праглядаў увесь рэпертуар. У "Браняпоездзе" яму не спадабаліся масавыя сцэны (*мяркуем, што Рэдліх мела на ўвазе п'есу У. Іванава "Браняпоезд 14—69".* — **М. С.**). Я ніколі не бачыла яго такім нервовым, на мяжы эмацыянальнага выбуху. Аднак ён стрымліваў сябе і, звяртаючыся да нас, удзельнікаў масовак, гаварыў: "...Я не жадаю бачыць вашы абыякавыя, нудотныя твары... фізіяноміі. У сваім рэжысёрскім арсенале я не маю такіх прыёмаў і куншцюкаў (*прыстасаванняў.* — **М. С.**), за якімі б змог схаваць вашу нуду... Што скажаце рабіць?.." Утварылася доўгая і цяжкая паўза. Яе парушыў тэатральны мастак Уладзімір Сімаў, які спакойна, з усмешкай прамовіў: "Ды выкіньце вы яе зусім, гэтую масоўку, Канстанцін Сяргеевіч..." Што тут было!.. Станіслаўскі ўскочыў з крэсла, закурыў і злосна сказаў: "...Выкідаць, скарачаць народныя сцэны, як гэта робяць у іншых тэатрах, я не буду... Гэтага ад мяне не чакайце..." А далей, гледзячы ў твар мастаку, эмацыянальна дадаў: "Не сёння — заўтра выпускаць «Браняпоезд...», а вы мне прапануеце выкінуць галоўную дзеючую асобу — народ?.. Рускі народ... які здзейсніў пераварот у гісторыі свету — нашу рэвалюцыю... Хто не разумее гэтага, няхай пойдзе ад нас... Яму не па дарозе з Мастацкім тэатрам..." На гэтым рэпетыцыя скончылася і Станіслаўскі ў тэатр не прыходзіў два дні. А спектакль "Браняпоезд..." на гастролі не паехаў...»

Мы таму так падрабязна расказваем пра гады вучобы Веры Рэдліх, што гэта ўнікальны прыклад пераемнасці сістэмы Станіслаўскага. Безумоўна, беларускай тэатральнай акцёрскай і рэжысёрскай школе вельмі пашанцавала, што ў яе станаўленні прымала ўдзел адна з лепшых вучаніц вялікага рэфарматара рускага тэатра. Як сведчаць былыя яе студэнты, у тыя, ужо вельмі далёкія 1960—1970 гады, калі Вера Рэдліх кожны дзень была побач, з ёй можна было бясконца размаўляць... Шмат пазнавалі цікавага і карыснага...

---

[1] Тут і далей успаміны пра В. П. Рэдліх у розныя гады, запісаў тэатразнаўца Ю. М. Сохар (Архіў аўтара).

[2] «Літаратура і мастацтва». 1977, 15 жніўня.

Радкі з энцыклапедыі: «Пасля заканчэння Студыі працавала актрысай у Яраслаўлі, Кастраме, Уладзівастоку. З 1932 г. рэжысёр». А што за гэтымі словамі? Яе пакінулі ў МХАТ, але ў гастрольнае турнэ ўчарашніх студыйцаў тэатр вырашыў не браць.

«Я тады была такая… — ускінуўшы галаву, расчырванелая Вера Паўлаўна трыумфальна вымавіла: смелая, гордая, свабодная. Падумала, а чаго я буду сядзець тут, у Маскве? Масква ў той час “кіпела” рэвалюцыйным азартам — усё рушылася, мянялася, адбываліся пераўтварэнні. Безумоўна, былі і страх, і паніка, і няўпэўненасць. Хадзілі чуткі, што Станіслаўскі са сваім тэатрам у Расію не вернецца... Я таксама кінула Маскву і паехала... у Сібір. Там, у Томску, у Першай Сібірскай драматычнай студыі я і пачала сваю артыстычную і педагагічную дзейнасць. У хуткім часе сюды прыехаў Аляксей Дзмітрыевіч Папоў, мы сябравалі... Неўзабаве наша студыя аб’ядналася з Кастрамскім тэатрам, які ўзначаліў Папоў. Мы таксама паехалі ў доўгатэрміновыя гастролі, толькі не па Амерыцы і Еўропе, а па матухне-Расіі — Харбін, Кастрама, Яраслаўль, Чыта, Уладзівасток, Івана-Вазнясенск, Уладзімір. Праехалі і па Паўночна-Заходнім краі. Паказвалі спектаклі ў Віцебску, Мінску, Магілёве, Бабруйску, Оршы. Уражанні самыя светлыя. Рэпертуар у нас быў вельмі цікавы — камедыі, драмы, нават антычная трагедыя. Трупа цудоўная, ансамблевая, гатовая на любыя творчыя здзяйсненні. Мастацкі кіраўнік — вельмі таленавіты рэжысёр-педагог і глыбокі, эрудзіраваны чалавек. Школа для мяне была найвыдатнейшая. Я пачала самастойна ставіць спектаклі, практыкаваць сябе ў рэжысёрскай творчасці. Гастролі нашы доўжыліся амаль восем гадоў. У 1932 г. А. Д. Папоў паехаў у Маскву, трупа ў Кастраму, а я, з найкаштоўнейшым багажом, была накіравана ў Новасібірск, у шырокавядомы ўжо тады тэатр “Чырвоны факел”. Там арганізавала акцёрскую студыю, у якой была загадчыцай навучальнай часткі, педагогам па акцёрскім майстэрстве і сцэнічнай мове, рэжысёрам-педагогам». Яе першая пастаноўка на «чырвонай сцэне», як тады называлі Новасібірскі тэатр, — «Тарцюф» Мальера. «Гэта быў спектакль-эксперымент, спектакль-радасць, спектакль-удача... А потым мяне назначылі мастацкім кіраўніком і галоўным рэжысёрам “Чырвонага факела”. На гэтай творчай і вельмі адказнай пасадзе я прабыла сямнаццаць гадоў... так што, мілыя нашы выпускнікі, не заседжвайцеся ў Мінску, ляціце на шырокія тэатральныя прасторы, там вы знойдзеце сябе, атрымаеце сапраўдную асалоду ад творчасці — ляціце!..»[1]

Чытаем энцыклапедыю: «У 1960—1965 гг. В. Рэдліх — рэжысёр рускага тэатра БССР у Мінску і адначасова ў 1960—1974 — мастацкі кіраўнік акцёрскай і рэжысёрскай майстэрні БДТМІ. З 1974—1980 — прафесар-кансультант». Мяркуючы па ўспамінах Рэдліх, у Мінск яна ехала без страху, але з хваляваннем. Які мог быць страх у прафесійнага рэжысёра, дасведчанага тэатральнага педагога? Нават пералік пастаўленых на той час у розных тэатрах краіны спектакляў дае падставу сцвярджаць, што яна рэжысёр высокага ўзроўню: «Гамлет», «Антоній і Клеапатра» Шэкспіра, «Беспасажніца», «Без віны вінаватыя» Астроўскага, «Сяло Сцяпанчыкава» паводле Дастаеўскага, «Абрыў» паводле Ганчарова, «Чайка», «Дзядзя Ваня», «Тры сястры» Чэхава, «Зыкавы», «Апошнія», «Дзеці сонца» Горкага, «Жывы труп» і «Ганна Карэніна» паводле Талстога, «Сірано дэ Бержэрак» Растана і яшчэ вялізны спіс сучасных аўтараў, сярод якіх — Арбузаў, Пагодзін, Салынскі, Лявонаў, Рамашоў, Каверын, Шамякін. Аддаючы прыярытэт рускай класічнай літаратуры, Рэдліх з захапленнем працавала і над сучаснай п’есай, даследуючы сродкамі тэатра самыя патаемныя аўтарскія глыбіні. Класічны і сучасны рэпертуар — гэта яе школа выхавання акцёраў, а таксама надзейная школа ўласнага рэжысёрскага майстэрства. Таму страху, безумоўна, не было. Яна ўжо ведала, што прапануе ставіць у беларускай сталіцы. А вось хваляванне ад сустрэчы са студэнтамі тэатральнага інстытута — мела месца. Бо былі

[1] З выступлення В. П. Рэдліх перад выпускнікамі акцёрскага факультэта БДТМІ, 23 красавіка 1969 г. (Архіў аўтара).

падставы. Па-першае, ёй ужо шэсцьдзесят шэсць — узрост. Па-другое, самае важнае, яе запрасілі на рэжысёрскі курс, які вёў даўні знаёмы Яфрэмаў, заўчасна памерлы.

…Вера Паўлаўна паправіла шаль і падышла бліжэй да вагоннага акна. Мільганулі будкі стрэлачнікаў, праляцеў са свістам «хуткі» з бліскучымі, асвечанымі вокнамі. У галаве чамусьці ўсплылі радкі Луіса Камоэнса:

Судьба торопит в дальнюю дорогу,
И я покой меняю на тревогу,
И многого мне стоит мой отъезд...

І зноў дарога. Колькі іх было, гэтых дарог, у яе творчым жыцці! І вось зноў нясе лёс. Ляціць цягнік да новага жыцця, да новых хваляванняў і надзей...

Яе сустрэлі ветліва як у тэатры, так і на кафедры рэжысуры. З першых дзён пачаліся рэпетыцыі «Беспасажніцы» з Аляксандрай Клімавай у галоўнай ролі. «Рэдліхаўская школа» была даспадобы артыстам рускага тэатра імя М. Горкага. Яе прыёмы, прыдумкі, знаходкі ўзбагацілі акцёрскія індывідуальнасці маладых Р. Янкоўскага, Ю. Сідарава, І. Лакштанавай, А. Шах-Парон, Б. Масумян, І. Ражбу, Л. Былінскай, Э. Гарачага, З. Асмалоўскай, А. Кашкера. Аналіз пастаўленых Рэдліх на мінскай сцэне спектакляў не ўваходзіць у нашу задуму. Наша задача — прааналізаваць яе рэжысёрска-педагагічныя прынцыпы. Аднак пра яе рэжысёрскую практыку можна сказаць наступнае. Паколькі была яна палымянай і вернай паслядоўніцай Станіслаўскага, то ў кожнай сваёй пастаноўцы перш за ўсё імкнулася ўзбудзіць думкі выканаўцаў.

Словы Станіслаўскага: «Думка ёсць сігнал да дзеяння. Логіка думкі дыктуе логіку дзеяння, а логіка дзеяння логіку пачуццяў. Новае пачуццё нараджае новую думку». Як сцвярджаў Станіслаўскі: «Вострая думка ўзбуджае магутную эмоцыю»[1]. Акцёры прымалі рэжысёрскія задачы, бо ў іх аснове ляжаў не дыктат, а глыбокі, паслядоўны, самастойны працэс пошуку. Яна беражліва ставілася да акцёраў, што не перашкаджала ёй дабівацца задуманага: выканаўцы адказвалі ёй адданасцю.

Былая студэнтка Вацлава Вярбоўская гаварыла: «Пасля творчых зносін з Яфрэмавым усім нам было цяжка ўявіць, хто зможа нас павесці да тых высот, якія нам паказаў былы настаўнік. Чуткі былі, што да нас нехта прыедзе з Масквы, але ж там усяго шмат, а нам быў патрэбны “высокі” майстар. І вось той дзень настаў... Засяроджаны Філіп Канстанцінавіч (*дэкан тэатральнага факультэта Ф. К. Кобля.* — **М. С.**) зайшоў у аўдыторыю, а ўслед за ім такая ж засяроджаная, мажная, сапраўды высокая і вельмі элегантная дама. “Вось ваш новы мастацкі кіраўнік”, — разважліва пачаў дэкан. “Дзякуй, дзякуй, — паспешліва прамовіла дама, — мы самі пазнаёмімся”. Філіпушка (*так студэнты любоўна называлі дэкана.* — **М. С.**) пайшоў, а наш новы педагог уважліва паглядзела на нас, усміхнулася і ціха прамовіла: “Не будзем марнаваць час — пачнём?!” І... пачалося! Пяць гадзін мы не маглі адпусціць Веру Паўлаўну з аўдыторыі. Зачаравала яна нас: эрудыцыяй, адкрытасцю, душэўнасцю, мудрасцю, а самае галоўнае — высокім прафесіяналізмам рэжысёра-педагога. Калі яна выйшла з аўдыторыі, мы нейкі час маўчалі, а потым Слава Кісялёў шматзначна сказаў: “Сябры, нам пашанцавала!”»[2].

Пасля стала вядома, што гэтыя пяць гадзін Рэдліх расказвала не толькі пра Станіслаўскага, Неміровіча-Данчанку, Вахтангава, Мчадэлава і іх рэжысёрска-педагагічныя прынцыпы і метады выхавання творчага калектыву, але і пра сяброўства з Кніпер-Чэхавай, пра яе «апетытнае жыццялюбства», культуру, дакрануўшыся да якой хочацца быць у духоўнай гармоніі з іншымі людзьмі. Вера Паўлаўна чытала творы Блока і Цвятаевай, з якой была блізка знаёмай. Аказваецца, яшчэ да Першай сусветнай Вера Рэдліх і яе сястра Ліза жылі ў Феадосіі побач з домам Цвятаевых, сябравалі з гэтай дзівоснай сям’ёй. А дзяўчынкі — Вера, Марына і Марыя Кудашава разам вучыліся

[1] Станиславский, К. С. Работа акцёра над собой. М., 1938, — с. 7.

[2] Запіс гутаркі з рэжысёрам В. І. Вярбоўскай, якая прыляцела з Вашынгтона 12 лістапада 2010 г. на святкаванне 65-годдзя БДТМІ (БДАМ, Архіў аўтара).

ў гімназіі, часта ездзілі ў Кактэбель на літаратурныя вечарыны да Максіміляна Валошына. Дарэчы, Кудашава там пазнаёмілася з Рамэнам Раланам, у далейшым стала яго жонкай — Ралан Марыя Паўлаўна. А сяброўства, ад юнацтва і да апошніх дзён жыцця, з легендарнай актрысай Алай Тарасавай? Хіба ж не цікава? Хто з сённяшніх студэнтаў рэжысёрскага ці акцёрскага аддзялення беларускай тэатральнай школы можа шчыра сказаць «нам пашанцавала» і пахваліцца ўнікальнымі здольнасцямі сваіх настаўнікаў?

Архіўныя матэрыялы даюць падставу разважаць, што Рэдліх запрасілі, каб зберагчы цяжка створанае і выпакутаванае асобнае рэжысёрскае падраздзяленне. Рэдліх павінна была стаць загадчыцай кафедры і захаваць тыя добрыя, высокапрафесійныя, мхатаўскія метады, за якія змагаўся Яфрэмаў. Але... Заўсёды так, нейкае «але» можа ў момант змяніць добрыя справы, парушыць планы. Змянілася кіраўніцтва інстытута, сілы, якія былі супраць асобнай падрыхтоўкі рэжысёраў і змагаліся за аб'яднанне кафедр (майстэрства акцёра і рэжысуры) у адну, зразумелі, што час для «безобразия» настаў. Магутныя (а, дакладней, каварныя і хітрыя) асобы, якія хацелі адзінаўладства, угаварылі новы рэктарат правесці аб'яднанне. Навошта? Папершае, канкурэнцыя. А па-другое, і гэта галоўнае, спрашчаўся сам падыход да сістэмнай падрыхтоўкі рэжысёраў і акцёраў. Калі ў адным казане кіпяць розныя кампаненты, то ў выніку нешта ды зварыцца.

Пра ўсе гэтыя гульні «мясцовай значнасці» Вера Рэдліх не ведала, а калі што і ведала, то ўдзел не прымала. Сілы, вопыт, інтэлект яна аддавала вучням. Да 1964 года, калі адбылося аб'яднанне кафедр, яна мела тры курсы-майстэрні (дзве рэжысёрскія — 20 студэнтаў і адну акцёрскую — 26 вучняў). Хто знаёмы з падрыхтоўкай маладых творцаў, той пацвердзіць — гэта вялікая нагрузка. Трэба падрыхтаваць «штучны тавар», публічнага прафесіянала, «інжынера» чалавечых душ, праца якога заўтра стане набыткам вялікай колькасці людзей. Разумеючы гэта, прафесар вельмі хвалявалася за будучыню сваіх выхаванцаў. У тым жа 1964 годзе Вера Рэдліх адчыніла дзверы і выпусціла ў самастойны палёт трэці выпуск рэжысёраў БДТМІ, сваіх «першанькіх» — адзінаццаць прафесійных рэжысёраў. Гэта група была яе сімвалам, знакам памяці Яфрэмаву, які набіраў іх і бласлаўляў на рэжысёрскі шлях...

Дарэчы, Вера Рэдліх пра свае педагагічныя метады і адукацыйныя прынцыпы не распаўсюджвалася. Аднойчы пасля чарговай прэм'еры ў рускім тэатры імя М. Горкага журналіст маладзёжнай газеты дапытваўся ў яе пра асабістыя творчыя метады. «Ад вашых пытанняў, — збянтэжана адказала Вера Паўлаўна, — я ў разгубленасці. Я не магу вам паведаміць, якія ў мяне метады. Кажу вам шчыра — не ведаю. Я добрасумленна працую са студэнтамі, перадаю ім тое, чаму за шмат гадоў навучылася сама. Канешне, абапіраюся на здабыткі і распрацоўкі сваіх настаўнікаў, на сістэмнасць іх урокаў. У выніку назапашваецца вопыт, які надае мне ўпэўненасці. Можа, гэта і ёсць метад?..»[1]

Запаветнай марай Веры Рэдліх было жаданне стварыць у Беларусі маладзёжны тэатр-студыю рэспубліканскага маштабу, у нечым блізкі да тагачаснага маскоўскага «Сучасніка» або да тэатра імя Ленінскага камсамола («Ленкама»). У 1966 годзе яна набрала вялікую групу, больш за трыццаць чалавек. Прычым, з перспектывай, што ў гэтай акцёрскай майстэрні атрымаюць адукацыю і рэжысёры. У дзень уводзін сваіх навучэнцаў у студэнты яна ўсхвалявана гаварыла: «Мой вялікі настаўнік Станіслаўскі раіў пастаянна абнаўляць тэатры праз акцёрскія школы і студыі. Ён сам быў шукальнікам-эксперыментатарам і нас заклікаў быць такімі. Мы будзем разам у сваёй майстэрні ствараць тэатр-лабараторыю, эксперыментаваць з першых вашых эцюдаў, практыкаванняў, урыўкаў і спектакляў. Каб праз чатыры-пяць гадоў мы стварылі свой, сучасны тэатр-студыю»[2].

---

[1] Запісана пасля спектакля «Антоній і Клеапатра» ў тэатры імя М. Горкага 7 верасня 1965 г., Мінск (Архіў аўтара).

[2] Запісана Ю. М. Сохарам падчас выступлення на інагурацыі «Пасведчання ў студэнты» 17 кастрычніка 1966 г. (Архіў аўтара).

Каб дамагчыся задуманага, яна запрасіла на курс карыфеяў купалаўскай сцэны Б. В. Платонава і Г. П. Глебава, а таксама рэжысёра-педагога Г. П. Старкоўскую і рэжысёраў-практыкаў Ф. С. Шэйна і Я. А. Громава. Сапраўды, дасканала валодаючы тэорыяй і практыкай сцэнічнага мастацтва, Рэдліх сфарміравала ўнікальную педагагічную групу, у якой арганічна спляліся нацыянальныя традыцыі і сучасныя тэатральныя плыні. Важнае значэнне кіраўнік майстэрні надавала пластычным дысцыплінам — гімнастыцы, акрабатыцы, фехтаванню. Акрамя педагогаў А. М. Першыца (сцэнічны рух), М. Р. Цырульнік (танец) заняткі праводзілі майстры спорту Інстытута фізкультуры. У той час кожны куточак, кожны сантыметр плошчы тэатральнага інстытута быў запоўнены студэнтамі акцёрскай майстэрні Рэдліх. Усюды скакалі, фехтавалі, «хадзілі на руках» яе выхаванцы — ім дазвалялася рабіць усё. Да таго ж, у 1967 годзе тэатральныя школы краіны атрымалі спецыяльны вучэбны дапаможнік — «Асновы сцэнічнага руху — 38 урокаў». Для педагогаў беларускага тэатральнага інстытута гэта кніга сталася добрым апірышчам. Кафедра акцёрскага майстэрства і рэжысуры ўдакладніла з улікам вучэбнага дапаможніка свае праграмы па сцэнічным руху. Былі выкінуты некаторыя залішнія практыкаванні тыпу жангліравання і разам з тым былі ўключаны вакальна-рухавая і моўная каардынацыя, серыя практыкаванняў, якія развівалі асанку, паходку, пластыку рук. Галоўнай задачай было дабіцца ад студэнтаў трэніроўкі цела, выпрацоўкі праз рух неабходных эмоцый, канкрэтных самаадчуванняў.

За ўсімі гэтымі ўрокамі пастаянна сачыла Рэдліх, і па яе прапанове выкладчыкі «Асноў сцэнічнага руху» выпрацавалі спецыяльны комплекс практыкаванняў, накіраваных на ўзмацненне волі студэнта, удасканаленне яго ўвагі і памяці, а таксама развіцця такіх якасцей, як хуткасць, трываласць, рытмічнасць і пластычнасць. Гэтыя распрацоўкі ў далейшым сталі праграмай, якой і сёння карыстаюцца ў Акадэміі мастацтваў.

Трэба адзначыць, што педагогі па пластыцы, танцы і фізкультуры пастаянна запрашаліся мастацкім кіраўніком на ўрокі па майстэрстве акцёра і рэжысуры. Тут, у майстэрні, усе разам выпрацоўвалі індывідуальныя практыкаванні, а элементы танца ці фехтавання выкарыстоўвалі ў эцюдах і драматычных сцэнах. Гэта выклікала ў студэнтаў цікавасць, спрыяла больш удумлівай працы над сцэнічнымі вобразамі. А педагогі спецыяльных дысцыплін, уключыўшыся ў методыку таго ці іншага майстра, актыўна дапамагалі яму знайсці неабходны трэнінг, каб хутчэй раскрыць індывідуальныя здольнасці студэнта. З мэтай удасканалення вучэбнага працэсу кафедра майстэрства акцёра і рэжысуры праводзіла навукова-метадычныя канферэнцыі па праблемах сцэнічнага руху, танца, пластыкі. Абмен думкамі па пытаннях псіхалогіі, фізіялогіі і біямеханікі спрыяў падрыхтоўцы маладых акцёрскіх і рэжысёрскіх кадраў.



Гэта была з'ява. У тэатральны інстытут ішлі самыя высокія начальнікі, міністры адукацыі і культуры, дэпутаты, тэатральная грамадскасць, акцёры, рэжысёры — усе імкнуліся далучыцца да з'явы, прысутнічаць каля калыскі, у якой радасна «гуліў» нованароджаны маладзёжны тэатр. Журналісты, не шкадуючы «чарніла», пісалі асаны, крытыкі і тэатразнаўцы аналізавалі спектаклі і прадказвалі вялікую і светлую будучыню доўгачаканаму тэатру. Тое, што новы тэатр будзе ў Мінску, гутаркі не было. Дзе ж яшчэ? Гарадскія ўлады шукалі вартае памяшканне, чыноўнікі міністэрства культуры моршчылі



ілбы над назвай: «Маладзёжны тэатр імя?..», «Тэатр-студыя «Сучаснік»?», «Тэатр-лабараторыя імя?..». Вера Паўлаўна Рэдліх была шчаслівая — мара збываецца! Быў шчаслівы і рэжысёр Віктар Фёдаравіч Каралько, бо яму абяцалі, што ён узначаліць малады калектыў, будзе яго дырэктарам і рэжысёрам. А мастацкім кіраўніком? Вядома, ім будзе Рэдліх...

Пачыналася лета. Настаў час адпачынкаў. Вырашылі адпачыць ад вірлівай славы, ад медных труб, а ўжо потым... Лета 1970 года было спякотным, нават засушлівым, і за два месяцы пытанне пра малады тэатральны калектыў неяк «усохла», дакладней, «рассмакталася». Сродкаў няма, памяшкання няма і жаданне кіруючых органаў мець у Мінску ўнікальны тэатр выпарылася... Абласныя гарады таксама не праяўлялі жадання займець новы тэатр, бо там працавалі калектывы і іх было дастаткова. Каму патрэбны лішні клопат?

...Пад сумную мелодыю восеньскага дажджу падрыхтаваныя да самастойнай працы 26 маладых творцаў на чале з рэжысёрам Каралько (да яго далучыліся рэжысёры У. Шыманскі і Г. Несцер) ад'язджалі ў Бабруйск, каб уліцца ў трупу былога тэатра аперэты, на аснове якога быў створаны Дзяржаўны тэатр музычнай камедыі ў Мінску. Што іх там чакала? Нічога добрага. Будынак тэатра стаў на капітальную рэканструкцыю, вядома, што той высокамастацкі рэпертуар, з якім выпускнікі прыехалі, не спатрэбіўся. Спехам сфарміраваная трупа ў прамым сэнсе села на колы — выяздныя, выязныя, выязныя... Замест тэатра-студыі-лабараторыі атрымаўся калгасна-саўгасны вандроўны тэатр.

Менш як за два сезоны трупа «рассыпалася»: галоўны рэжысёр Каралько, пабраўшыся з маладой актрысай, паехаў у далёкі заўральскі горад Курган; рэжысёры Несцер і Шыманскі падаліся ў Якуцію; акцёры разляцеліся па шырокіх прасторах вялікага СССР. Іншыя — Філатаў, Саладзілаў, Ціхан, Нежувака, Маляўскі — упрыгожылі сцэны мінскіх тэатраў. У Бабруйску застаўся адзін Кучко, які і сёння таленавіта «лепіць» сцэнічныя вобразы...

Вось такая атрымалася сумная «загагуліна» — гісторыя ўзаемаадносін школы і тэатра на беларускай глебе. Пасля той бабруйскай праблемы (мы лічым, што яна менш за ўсё «бабруйская»), многія тэатразнаўцы імкнуліся высветліць, дазнацца, даследаваць: чаму не атрымалася і хто вінаваты? Як ні дзіўна — адказу не знайшлі. І толькі разважанні і нейкія гіпотэзы, што нехта ў «Цэнтральнай Кацельні» (тады ў народзе так называлі ЦК партыі), ці Марцалеў, ці Кузьмін, а, можа, і вышэй — не захацелі клопату. А дзе схавалася ісціна — невядома...

Каб з пазіцыі сённяшняга дня неяк прасвятліць гэту злабадзённую праблему, апусцімся на дзевяноста гадоў у глыб тэатральнай гісторыі. Дваццатыя гады XX стагоддзя. Станіслаўскі з трупай МХАТ у Амерыцы. Ужо ззаду Прага, Берлін, Парыж. Ідуць спектаклі ў Нью-Ёрку, Бостане, Чыкага... Тэатральны свет перавернуты мастацтвам МХАТа і творчасцю Станіслаўскага. У прэсе адны воклічы: «Няхай ніколі не стомяцца крылы вашай чайкі!», «Няхай МХАТ жыве вечна!» і г. д. Гаворыцца пра тое, што рэжысёры Амерыкі вельмі рады бачыць вялікага Настаўніка, што духоўная веліч рускіх спектакляў узрушвае, асвятляе ўвесь цывілізаваны свет, што... Да Станіслаўскага звяртаюцца еўрапейскія і амерыканскія рэжысёры з прапановамі арганізаваць у іх вучэбныя студыі, стварыць тэатр. Ён адказвае катэгарычна: «Не!». Чаму? Умовы будуць самыя найлепшыя, ніякіх праблем

з фінансамі, толькі стварыце ў нас такі Мастацкі тэатр! Станіслаўскі адказвае «не» і раз'ясняе, што каб выхаваць акцёраў такога ўзроўню, як мхатаўскія, патрэбны гады... Тут наскокам не возьмеш... Патрэбен час, карпатлівая праца і, самае галоўнае, мастацкая атмасфера. Пры іншай паскоранай падрыхтоўцы такі тэатр, як вы яго ні назавіце, «рассыплецца». Ён можа «рассыпацца» праз год, а можа праз два месяцы і нават праз два спектаклі. Гэта вельмі крохкі і далікатны арганізм[1]. Мяркуем, што ў разважаннях рэфарматара мы можам знайсці адказы і на нашу «бабруйскую праблему». Паспешлівасць, неглыбокае і не зусім прадуманае разуменне — дзе будзе знаходзіцца тэатр, якая ў яго будзе форма і куды ў сваёй творчасці ён будзе імкнуцца? У выніку атрымалася тое, што атрымалася. Вера Рэдліх, відаць, усё гэта разумела і таму без стогнаў і галашэння, спакойна паставілася да безвыніковага мерапрыемства. Яна, як у свой час яе настаўнік, стваральнік МХАТа, вялікі прарок, ад запаветаў якога прасвятліліся вучні і паслядоўнікі, на пасяджэнні кафедры ціха прамовіла калегам: «Цяпер я ведаю... так, праўда ведаю, чаму і як трэба вучыць будучых нацыянальных дзеячаў тэатра». У гэтых абстрактных словах кожны калега-педагог пачуў тое, што хацеў. Адны — покліч да новых пошукаў у тэатральнай педагогіцы. Другія — роспач, трывогу і незадаволенасць сабой. Трэція — адгадалі тое, што заўсёды старанна хавалася. Стомленасць творчага чалавека, да якога набліжалася васьмідзесяцігоддзе...

У 1971 годзе яна выпусціла невялікую групу рэжысёраў (Ю. Міраненка, В. Жыгалка, Г. Ляндрас, М. Кавальчык, М. Прыёмка), якія пэўны час з поспехам працавалі ў тэатрах Беларусі. А ў 1977-м з майстэрні Рэдліх вылецелі адзінаццаць маладых акцёраў, якія, акрамя Л. Кармунінай і Я. Крыжаноўскага, нічога значнага ў сцэнічным мастацтве Беларусі не здзейснілі. А яна, нястомны аптыміст, не зважаючы на ўзрост і хваробы, да апошняга дня існавання БДТМІ была яго прафесарам-кансультантам. Напрадвесні (21 лютага 1992 года) В. П. Рэдліх не стала...

**Пяць гадзін мы не маглі адпусціць Веру Паўлаўну з аўдыторыі. Калі яна выйшла, мы нейкі час маўчалі, а потым Слава Кісялёў шматзначна сказаў: "Сябры, нам пашанцавала!"**

У час развітання яе паплечнік, педагог па майстэрстве акцёра А. І. Бутакоў сказаў: «Беларуская тэатральная школа павінна ганарыцца, што ў яе развіцці прымала ўдзел прафесар Рэдліх. У яе быў прыроджаны талент педагога, у аснове якога душэўныя адносіны, давер і любоў да сваіх вучняў. Уся яе педагогіка ішла знутры — шчыра і проста. Яна была адкрыта для прыёму ад сваіх выхаванцаў любых творчых эксперыментаў і навацый, таму што сама лёгка ўспрымала ўсё новае, перспектыўнае ў сцэнічным мастацтве. Будучы свабоднай ад догм, яна давала магчымасць навучэнцам напаўняць класічныя творы сучасным гучаннем. Вера Паўлаўна была сумленнай настаўніцай. Пры сваёй рэжысёрскай значнасці яна ніколі гэта не падкрэслівала, а, наадварот, свой тэмперамент, фантазію, майстэрства "раствярала ў студэнтах". Галоўнае для яе — каб у майстэрні буяла жывая творчасць...»[2]

Можна яшчэ дадаць: шкада, што Рэдліх не захоўвала сваіх канспектаў, не збірала асабістага архіва. Тэатразнаўцам, тэарэтыкам і гісторыкам тэатра ды вучням таксама шкада, што побач з намі колькі год жыла ўнікальная асоба, а мы не знайшлі часу, каб грунтоўна занатаваць яе веды, жыццёвыя і педагагічныя прынцыпы. А цяпер вось даводзіцца па драбніцах збіраць яе дасягненні, каб не абарвалася сувязь пераймальнасці здабыткаў нацыянальнай тэатральнай школы.

[1] Гл.: Московский художественный театр в советскую эпоху. 2-е изд. М., 1974, — с. 402—407.

[2] Запісана аўтарам у час гутаркі з прафесарам А. І. Бутаковым 14 верасня 2008 г. (Архіў аўтара).

Павел ШПІЛЕЎСКІ

# ПАЕЗДКА Ў ЗАХОДНІЯ ГУБЕРНІ

***Артыкул беларускага этнографа, фальклярыста, пісьменніка і журналіста Паўла Міхайлавіча Шпілеўскага «Паездка ў заходнія губерні» быў надрукаваны ў двух нумарах санктпецярбургскага штотыднёвіка «Ілюстрацыя» (№ 131 і 132) за 1860 год. У публікацыі аўтар распавядаў аб паездцы па толькі што пабудаванай першай ветцы варшаўскай чыгынкі. Паверце, падзея была знакавай. Да гэтага самым хуткім варыянтам перамяшчэння ў прасторы быў конны экіпаж. У наш час такая «хуткасць» падаецца смешнай, але іншых варыянтаў не было. І толькі са з'яўленнем чыгункі пасажыры і падарожнікі атрымалі новы, больш высокі ўзровень хуткасці і камфорту. Нагадаю шаноўным чытачам, што ў Расіі першая чыгунка агульнага карыстання была адкрыта ў 1837 годзе паміж Пецярбургам і Паўлаўскам. Яе даўжыня складала ўсяго 27 кіламетраў. Але гэта быў пачатак!***

***Яшчэ ў 1858 годзе ў «Дзённіку знаёмага чалавека» Шпілеўскі пісаў: «Хутка прасоўваецца наперад варшаўская чыгунка, якая, кажуць, цяперашнім летам адкрыта будзе да Дзінабурга. Прадпрымаюцца спробы пусціць параходы па Паўночнай Дзвіне, плаванне на якіх можа зблізіць аддаленыя паўночныя губерні з галоўнымі гарадамі, і асабліва праз Цвер з Пецярбургам. На захадзе, у польскіх губернях і ў Беларусі, з цяперашняга лета будуць рабіць рэйсы параходы па Прыпяці і Нёмане». Нездарма філосафы казалі, што прагрэс залежыць ад хуткасці зносін паміж людзьмі…***

***А цяпер, шаноўныя чытачы, сядзем разам з Паўлам Міхайлавічам у вагон і адправімся ў падарожжа ад Пецярбурга да Мінска.***

Аляксандр ВАШЧАНКА

З Пецярбурга да Мінска.

*Суседства ў вагоне. — Імправізаваныя пскоўскія рамізнікі. — Часовы вакзал.*

Толькі той, хто выязджаў з Пецярбурга на перакладных і каму давялося пазнаёміцца з цяжкасцямі прыгарадных станцый пецярбургскай губерні можа зразумець, якім дабрадзействам з'яўляецца новая варшаўская чыгунка, няхай хаця да Пскова і Вострава. Па меншай меры, без клопатаў, без угаворвання станцыйных старастаў вы сядаеце ў Пецярбургу ў вагон і без перапынку едзеце вёрстаў трыста, чатырыста. Усялякі, натуральна, пасля гэтага аддасць перавагу паездцы па чыгунцы, і таму не дзіўна, што ўсе цягнікі новай дарогі запоўнены пасажырамі. Можна шкадаваць толькі пра тое, што варшаўскія вагоны не такія прасторныя і шырокія, як на маскоўскай чыгунцы. Цесната гэтая яшчэ больш адчуваецца ад таго, што нашы рускія падарожнікі і асабліва падарожніцы ніяк не могуць абысціся на чыгунцы без звычайных клункаў і кошыкаў, напоўненых розным печывам, з якімі яны прызвычаіліся раз'язджаць у сваіх шматлікіх тарантасах. А як адчувае сябе той небарака, якому давялося ехаць у суседстве з такой пані, якая атуліла сябе з усіх бакоў падушкамі, коўдрамі і клуначкамі, ад якіх ідзе кухонны водар! І душна і скрушна становіцца, а сказаць пра гэта і не думай, бо розныя бываюць пані…

На маю долю выпала падобнае суседства: нейкі пан з вусамі і яго шаноўная жонка, заўважце — людзі вельмі багатыя, якія жывуць у Пецярбургу і трацяць дзясяткі тысяч, як

**З-за вугла вакзала і з суседняга ляска паказваюцца маленькія нязграбныя таратайкі з худымі канячкамі і яшчэ больш худымі фурманамі з самымі дурнаватымі і бессэнсоўнымі фізіяноміямі, пазбаўленымі ўсялякага чалавечага падабенства**

яны самі растлумачылі ўсім прысутным у вагоне. Яны нанеслі з сабой столькі ўсялякай дарожнай правізіі, столькі хустак і мяшкоў, што заставалася толькі здзіўляцца. А тут яшчэ не адчыняй вокнаў, бо пяшчотная пані баялася прастудзіцца ў чэрвені месяцы. У такім «цікавым» суседстве мне давялося ехаць амаль да Пскова. Пан з вусамі быў дзіўны балака ці, хутчэй, хвалько. Ён адразу распытаў усіх прысутных, дзе хто служыць, чым займаецца і які ў каго дастатак і, зразумеўшы, што побач няма нікога больш багатага і вышэйшага за яго чынам, пачаў звысоку разважаць пра розныя прамысловыя прадпрыемствы, фінансавыя аперацыі, пра пераўтварэнні фабрык у Расіі, узгадаў пра сялянскае пытанне, граміў сучасную літаратуру, стала падмацоўваючы свае тэзісы цэлымі фразамі з «Северной пчелы» — былой рэдакцыі. Іншымі словамі, ён гаварыў такую бязглуздзіцу, нёс такую ахінею, што абудзіў агульную незадаволенасць і перашкодзіў многім усцешыцца прыемным сном. Можа, хто-небудзь думаў, што пан з вусамі нейкі значны дзеяч ці багатая асоба, але мне чамусьці не хацелася верыць нават апошняму. Нагаварыўшыся ўдосталь, ён падчас прыпынкаў на станцыях даставаў з кошыка то бутэлечку, то кавалак ялавічыны, то пяток яек і ўсё гэта разам са сваёй жонкай уплятаў з незвычайным апетытам, пры гэтым лаючы ўтрымальнікаў станцый на чыгунках за тое, што яны дорага бяруць за стравы і віно.

У мяне быццам гара з плеч звалілася, калі галодныя муж з жонкай выгрузіліся з вагона і пазбавілі мяне сваіх кошыкаў. Хаця б тры, чатыры станцыі можна было пасядзець спакойна. З-за такіх няўрымслівых суседзяў я прыехаў у Пскоў сонным і доўга яшчэ не мог прысці ў сябе ад траскатні і гоману, які, здавалася, засеў у маіх вушах пасля громападобнай прамовы пана з вусамі. Я сказаў: «Прыехаў у Пскоў», — але так толькі гаворыцца, таму што пасажыраў прывозяць на пскоўскі вакзал, а да горада Пскова яшчэ амаль чатыры вярсты і трапіць туды вельмі нялёгка. Хутчэй можна з'ездзіць у Востраў, асабліва цяпер па чыгунцы, чым апынуцца ў Пскове. Ехаць няма на чым. Калі ў чатыры гадзіны раніцы прыходзіць цягнік, пяцьшэсць пскоўскіх рамізнікаў расхопліваюць з бойкай і крыкам, нягледзячы на тое, што яны бяруць з вас, насуперак таксы, па рублю і болей. А што рабіць астатнім пасажырам? Прыходзіцца заставацца на часовым вакзале, дзе няма ніякіх зручнасцей. Сапраўды вялікі і











цудоўны вакзал яшчэ не пабудаваны, узведзены толькі вонкавыя сцены. А чаму б не завесці амнібусы і прызначыць памяркоўныя цэны, якія былі б па кішэні ўсім пасажырам? Але гэта пакуль што яшчэ не прыйшло ў галаву пскоўскім грамадзянам, і яны даюць магчымасць брудным беларускім фурманам драць з пасажыраў што захочацца. Калі гарадскія рамізнікі раз'едуцца, з-за вугла вакзала і з суседняга ляска паказваюцца маленькія нязграбныя таратайкі з худымі канячкамі і яшчэ больш худымі фурманамі з самымі дурнаватымі і бессэнсоўнымі фізіяноміямі, пазбаўленымі ўсялякага чалавечага падабенства. Яны прапаноўваюць вам свае паслугі. Але ў іх якасці адразу пачынаеш сумнявацца: і калёсы ў мужычка разламаныя, і калматы конік ледзьве дыхае, і ў яго самога дзіцячыя сілы. Але ў той жа час падумаеш: «А як жа быць іначай? Заставацца на вакзале да вечара?» Міжволі прыходзіцца прымаць прапанову. Вы з цяжкасцю садзіцеся. Рэчы звалены як папала, таратайка трашчыць, конь ледзьве цягнецца. Фурман часта хвошча змучаную жывёлу пугай ці дубцом, і вам робіцца прыкра ад гэтага бязладдзя і непрыгожых абставін хатняга жыццябыцця пскоўскага рамізніка.

— Як табе не сорамна, — спытаў я ў фурмана, — браць так дорага і не мець лепшых калёс? Ты ж, відаць, не першы раз ездзіш, паспеў сабраць грошыкаў за возніцтва, мог бы набыць добрага каня і чыстыя калёсы.

— А чым дрэнныя мае калёсы? — запытаў фурман. — Нашто нам лепшыя? Як няма лепшых, дык паны паедуць і з намі. Нічога, і так даедзем.

Вось вам і адказ! Размаўляйце пасля гэтага з такім чалавекам. Вох, ужо гэта рускае «нічога»… Ці не таму ў бестурботнага рускага чалавека да гэтага часу няма нічога такога, што ёсць у іншых, не рускіх людзей?

*Станцыя ў Пскове. — Востраў і яго старажытныя руіны. — Сцэна на Астрожскай станцыі. — Рэжыца. — Апочка. — Вейка. — Люцын. — Себеж. — Себежская карчмарка. — Рэшткі старажытных замкаў польскай каралевы Боны.*

Спіну заламіла, пакуль мы пры дапамозе штомінутных хвастанняў каня пугай прыцягнуліся на станцыю ў Пскоў. Я апынуўся перад нейкім брудным хлеўчуком, які быў запоўнены абломкамі калёс, фурманак і напалову спарахнелымі скрынямі. І гэта паштовая станцыя ў Пскове — губернскім горадзе! Ні прайсці за брудам, ні праехаць за цеснатой маленькага дворыка. Хаця б адна чалавечая постаць паказалася і правяла ў пакой, які самому нялёгка было адшукаць. У пакоі павеяла такім «водарам», што хоць на двор уцякай. Пасля доўгіх воклічаў з суседняга пакойчыка высунулася фізіяномія старэнькага дазорцы. Ён пачаў прапаноўваць мне пераехаць у гасцініцу, таму што на станцыі нічога нельга дастаць ды і месца не хапае.

Я кінуўся ў гасцініцу, але там сказалі, што нумары рамантуюцца, таму прапанавалі размясціцца ў агульным пакоі! Навошта ж тады я застаўся ў Пскове? І нават не наведаўшы горад, я хутчэй выбраўся з яго. Страта, дарэчы, невялікая. Пра Пскоў, яго старажытнае значэнне, пра сляды руін, валоў і насыпаў было шмат напісана да мяне, і мне заставалася толькі паўтараць ужо вядомае. Новага, здаецца, не прыбавілася, акрамя вядомай гісторыі са спадаром Якушкіным, з-за якой Пскоў праславіўся на ўсю Расію. І са мной магла здарыцца такая ж гісторыя, бо я спачатку планаваў на некалькі дзён застацца ў гэтым старажытным горадзе.



І вось, я толькі праехаў праз Пскоў, а ўжо праз некалькі гадзін быў у прыгожанькім, чысцюткім павятовым гарадку Востраве, заснаванне якога адносіцца да глыбокай старажытнасці, ледзьве не да XIV стагоддзя. Ён згадваецца ў летапісах XV і XVI стагоддзяў як добрае ўмацаванне на беразе ракі Вялікай. Назву горад атрымаў ад таго, што гэтае старажытнае ўмацаванне было пабудавана на высокай гары, абнесенай ровам. Туды трапляла вада з ракі Вялікай, таму ўмацаванне мела выгляд сапраўднага вострава. Пазней за рэчкай адбудавалі горад, які пад'ёмным мостам быў звязаны з крэпасцю. У часы нападаў лівонскіх крыжакоў і татар на Востраў мост здымаўся, і ўзяцце горада лічылася немагчымым з-за ўмацаванняў самога вострава. Рэшткі гэтых умацаванняў захаваліся да нашага часу ў выглядзе руін, сцен і самога замка. Усярэдзіне гэтых напаўразбураных сцен стаіць цудоўная старажытная каменная царква, вядомая пад назвай саборнай. Яе архітэктура — гэта сумесь старажытнавізантыйскага з рускім стылем. Праз шырокую раку Вялікую ля замка і сабора перакінуты прыгожы ланцужны мост, па якім, як сцвярджае надпіс, забараняецца хутка ездзіць. Новы горад адбудаваны вельмі вытанчана: дамы — каменныя з садзікамі, плошчы роўныя і чыстыя. Гасціны двор даволі вялікі. Але самы вялікі будынак — гэта паштовая станцыя, арэнда якой прыносіць утрымальніку вялізныя выгоды з-за таго, што ў Востраве сыходзяцца некалькі паштовых трактаў. Але гэта ж бывае прычынай розных непрыемных сутычак на станцыі. Мне не раз прыходзілася праязджаць праз Востраў, і я амаль заўсёды быў сведкам якой-небудзь гісторыі на станцыі або з-за коней, або з-за пасажыркіх пакояў, нягледзячы на тое, што ўсяго гэтага дастаткова. На гэты раз аднаму сямейству ўздумалася заняць цэлых тры пакоі і нікога туды не пускаць. Як на тую бяду, у гэты час з'ехалася столькі пасажыраў, што дазорца павінен быў прапанаваць ім свой пакой, які і без таго быў запоўнены падарожнымі. Больш нецярплівыя пачалі патрабаваць пасажырскіх пакояў.



— Выбачайце, спадары, — прасіў прабачэння вартаўнік, які стаяў ля дзвярэй. — Усе пакоі занятыя.

— Ды кім жа яны занятыя, калі столькі падарожных у пакоі дазорцы? — адазвалася некалькі галасоў. — Хто, напрыклад, у гэтых трох пакоях?







— Там трапезнічаюць нейкія важныя паны, што прыехалі ў карэтах.

— Але няўжо іх так многа, што яны занялі ўсе тры пакоі? Спадары, пойдзем туды, — прапанаваў адзін з падарожных. — Што нам глядзець на іх?

І некалькі чалавек зайшлі ў пасажырскія пакоі. Вартаўнік разгубіўся. Трэба было бачыць, з якім абурэннем і пагардай паглядзела багатае сямейства на падарожных. Іх позіркі быццам гаварылі: «Якое права вы маеце сюды ўваходзіць?»

— Што ж ты нам казаў, што няма месцаў? — папікнулі вартаўніка. — Вось некалькі сталоў не занята і ў тым, і ў гэтым пакоі. Спадары, прашу займаць месцы!

Усе селі. Прыбег тоўсты гаспадар станцыі. Багатае сямейства пачало выказваць сваю незадаволенасць, пагражала вартаўніку гараднічым, паліцыяй, адным словам — шалелі. Але прыезджыя без цырымоній запатрабавалі абед і загадалі падаць свечкі. Свечкі падалі лоевыя.

— Гэта што? — крыкнуў адзін з падарожных на тоўстага гаспадара. — Чаму ж у гэтых паноў стэарынавыя свечкі? Падай і нам стэарынавыя.

**Вох, ужо гэта рускае «нічога»... Ці не таму ў бестурботнага рускага чалавека да гэтага часу няма нічога такога, што ёсць у іншых, не рускіх людзей?**

— Гэта не для ўсіх, — адказаў гаспадар, але ў той жа момант стэарынавыя свечкі падалі ўсім. Не было каму святкаваць перамогу. Бацька багатага сямейства паклікаў сваіх лёкаяў і загадаў пераставіць розныя талеркі і соуснікі з рэшткамі страў на сталы прыезджых.

— Калі так, спадары, адпомсцім гэтаму фанфарону, запалім самыя моцныя сігары і выкурым яго спесь.

Насамрэч, гэты сродак быў самым удалым: жонцы і сваякам фанфарона паленне тытуню падалося страшэннай дзёрзкасцю, яны паспрабавалі былі пашумець, але паленне ўзмацнілася, і багатае сямейства перабралася ў суседні пакой.

А чаму сямейства не магло размясціцца ў адным пакоі? Захацелася пазадзіраць нос перад тымі, хто прыехаў не ў карэце, а на простай перакладной.

Так! У нас проста бяда, калі на станцыі даводзіцца з'ехацца з такім сямействам. Тут ужо без сцэн не абысціся. Можа, цяпер, з адкрыццём чыгункі ад Пскова да Дзінабурга, спыняцца непрыемныя гісторыі, бо на вакзальных станцыях некалі фанфароніць.

На шляху ад Вострава да Мінска праз Апочку знаходзіцца мноства маленькіх паветовых гарадкоў, большай часткай старажытных па сваім паходжанні, але сёння яны не ўяўляюць ніякай значнасці ў грамадскіх адносінах, і таму пра некаторыя з іх варта ўзгадаць толькі дзеля помнікаў старажытнасці, якія ў іх захаваліся. Гэта Рэжыца, Люцын, Себеж, Апочка і Вілейка, зрэшты, апошняя ні

што іншае, як невялікая вёска з незайздроснымі хібаркамі, раскіданымі па непраходных пясках. Гэтыя пяскі не толькі ў горадзе, але і ў наваколлях Вілейкі. Яны ж з'яўляюцца прычынай сталых неўраджаяў. Нават у мінулым годзе, калі ва ўсім заходнерускім краі ўрадзіўся хлеб, у наваколлях Вілейкі яго не было. Адзіная прыгажосць Вілейкі — вялікі новы каменны будынак астрожскага замка, які, дарэчы, выглядае неяк дзіўна ў суседстве з маленькімі хаткамі. Гараджанам у Вілейцы нават няма дзе пагуляць, бо навокал пустыня і каменне. Адзіная забава — гэта веснавы разліў невялікай, але шумнай рэчкі Віліі, якая хутка бяжыць па вілейскім павеце да самых наваколіц горада Вільна.

Апочка — даволі чысты гарадок на шашы між Полацкам і Псковам ля ракі Вялікай з некалькімі каменнымі будынкамі, сярод якіх можна сустрэць дзве-тры царквы прыгожай архітэктуры. Рэжыца — самы непрыкметны горад, хаця і знаходзіцца на шашы. Рэжыцкі павет вылучаецца тым, што ў ім з даўніх часоў пасялілася калонія раскольнікаў. Яны вядуць прамысловае жыццё. Іх руская мова, адзенне, моцны характар, ахайнасць і дамавітасць рэзка вылучаюць іх з маларослага пакорлівага беларускага народа, які насяляе гэтыя месцы. Раскольнікі жывуць асобнымі сем'ямі і не вельмі сыходзяцца з беларускімі суседзямі, якіх называюць «палякамі», а беларусцы завуць іх «рускімі» і міжволі прызнаюць перавагу ў многіх адносінах хатняга побыту. Люцын і Себеж, як і Вілейка, таксама амаль вёсачкі і выйграюць толькі сваім маляўнічым месцазнаходжаннем: і той, і другі раскінуліся на ўзвышэннях. Себеж, акрамя таго, з трох бакоў акружаны водамі вялікага возера Воран, і ўяўляе прыгожы астравок. Себежскі павет славуты азёрамі і рыбалоўствам, якое складае народны прыбытак: себежская рыба, асабліва з возера графа Вільегорскага, збольшага прадаецца ў Пецярбургу.

Ад Себежа пачынаецца чыстая беларуская і, між іншым, польская мова. Сустракаецца і нямецкая, бо ёсць некалькі нямецкіх калоній. Але самы вялікі ўплыў тут — яўрэйскі. Яўрэі мітусяцца ў гарадках і вёсачках, як дробныя гандляры і аферысты. Пры ўездзе ў Себеж першай асобай, якая мне трапілася, быў абарваны барадаты яўрэй, які нагаварыў мне ўсялякай лухты пра гарадскіх

**Насамрэч, гэты сродак быў самым удалым: жонцы і сваякам фанфарона паленне тытуню падалося страшэннай дзёрзкасцю, яны паспрабавалі было пашумець, але паленне ўзмацнілася, і багатае сямейства перабралася ў суседні пакой**

жыхароў і прадставіў выпадак пазнаёміцца са сквапнасцю ўтрымальніцы карчмы, куды я зайшоў паабедаць. Мне падалі ўчарашні суп і кавалак смажаніны, падобны на падсмажанае тапарышча.

— Колькі каштуе? — спытаў я вастравокую палячку.

— Дазвольце спытаць, — замест адказу спытала яна мяне. — Вы, здаецца, падарожны?

— Так, падарожны.

— Адкуль пан едзе?

— З Пецярбурга, — шчыра адказаў я.

— За абед з Вас дзевяноста пяць капеек, — нешта падлічыўшы на пальцах, адказала кемлівая палячка.

У Рэжыцы, Люцыне і Себежы да нашых дзён захаваліся руіны старажытных замкаў, пабудаваных, як сцвярджае народнае паданне, знакамітай прыгажуняй XVI стагоддзя польскай каралевай Бонай, жонкай Жыгімонта Ягелончыка. Застаўшыся ў маладосці ўдавой, Бона вяла шыкоўнае жыццё і была ўвесь час у атачэнні вялікай колькасці прыхільнікаў і фаварытаў. Яна пабудавала шмат замкаў у розных правінцыях сённяшняй заходняй Расіі, якая ў тыя часы была пад уладай Польшчы. Бона ўвесь час мяняла свае летнія рэзідэнцыі. Яе пераборліва-шыкоўнае жыццё ў себежскім замку мела ўплыў на характар яе малога сына Жыгімонта Аўгуста. З-за гэтага сына забралі ад маці, і далейшае выхаванне будучага караля было даручана гнезненскаму кашталяну Апалінскаму. З тае пары Бона вяла прывольнае жыццё ў сваіх шматлікіх замках сярод адданых і ліслівых дысідэнтаў.

***Пераклад з рускай***
***Аляксандра ВАШЧАНКІ,***
***малюнкі Аксаны ЮЧКАВІЧ***

Аксана ВАРАТНІКОВА

# ПАЛЕСКІ ЛЯЧЭБНІК

***Палескі лячэбнік. Я магла б сказаць інакш: дзіўная гісторыя Марыйкі Кадэнскай. Экалагічная гумарэска — гэта калі да мовы з густам ставіцца.***

Гэта Доктар нашу дзевачку распытваў. Інтэрв'ю, каб вывучыць ейныя магчымасці. Моцны мужчына, ён падобны на куфар з невядомымі рэчамі. Яна сёе-тое і распавяла яму. І Верка з яе нешта выцягнула. Прачытайце, калі ласка. А мо прымроілася гэтая гісторыя ля абраза ў храме? Чаго толькі не бывае, калі молішся ў храме і завеш святога на дапамогу!

Замест блытаніны гэтае моўнае — вёска. Маці ўвесь час поркаецца ў агародзе. Пахі зёлак у варыўні.

Свіязі ды турухтаны прыпыняюцца на лузе ля Прыпяткі нашай. Трэба бачыць на свае вочы гэты птушкавы вэрхал! Бабка казала, што ўсе птушкі абавязкова на Прыпятку ляцяць!

А яна, Марыйка, Доктару аб сваім, бо па начах дзевачка лётае, нібы птушка! А калі і ўдзень. У такім стане, як у сне, яна можа ўсюды трапіць! Перашкод няма!

Заплюшчыла вочы, дакранулася да лапатак, адчула крылы. Пыр — і паляцела! Адразу толькі над вёскай, вунь як баразды выцягнуліся, далей па-над дубамі, што паасобку стаяць. Малойцы! А потым доўга над пагоняй лёту, працягу такога, аж стамілася! Не можна ноччу бачыць, а яна ўсё бачыць.

Потым паляцела ў суседнюю вёску. А ж там вунь бабуся Моня, Матруна, ад суседа дровы цягне. І Бяздонаў ля фермы злівае гаручку з саўхознай «Лады». Праз некаторы час да Наты Ворсклы, жонкі дальнабойшчыка, мужчына, пакуль дзевачка на дубы глядзела, зайшоў. Ён быў у капелюшы. Потым яшчэ адзін. Хутка бег. І тут жа трэці. Цікава, што апошні без штаноў. Добра, што дах ёсць на кожнай хаце, бо начное жыццё навошта ёй, маленькай, ведаць! Са смехам, лёгка паляцела дадому.

**А мо прымроілася гэтая гісторыя ля абраза ў храме? Чаго толькі не бывае, калі молішся ў храме і завеш святога на дапамогу!**

Якая яна? Маня глядзела аднойчы на свае фота, не магла надзівіцца, якія чорныя ў яе вочы. Як ноч. А астатняе ўсё кругленькае! Ростам Маня з невялікі куст і рукі, рукі спрытныя!

Сёння Доктар узнік раптоўна і хадзіў у яе за спінай увесь дзень з нейкім пульсуючым прыборчыкам. І ўсё адзначаў. Цыкуты яму! Напружвае.

Першы раз, калі хлопчык суседкі, прыезджай, чужачкі на вёсцы, хадзіў і глядзеў. А наваколле — кветкі ды зёлкі. Ды статак ідзе. І пах, і пара ад іхніх бліноў. Як ад кветак. Пах, пах навокал!

Бабка дзіўнае слова падаравала: «гаўядо». А? Ніколі так цесненька не супадала: сэнс і слова.

— Так, значыць, мая кароўка Сліўка — гаўядо! — шаптала Марыйка.

Бягуць гэныя гаўядо, а хлопчык слупянее і стаіць, потым — бах! Спалохаўся і ў блін сеў. Смачна так улез! Аж слёзы ў мяне з вачэй, колікі ад смеху!

Палескі блін наш. Пачаставаўся хлапяня!

Але што ж я стаю? Мамонька, што ж ён кіёк так моцна сціснуў? Так спалохаўся, што дубец сціснуў да крыві. Такі маленькі і мужны. Гэта ж табе статак з рагатымі,

**А яна, Марыйка, Доктару аб сваім, бо па начах дзевачка лётае, нібы птушка! А калі і ўдзень. У такім стане, як у сне, яна можа ўсюды трапіць! Перашкод няма!**

во такімі, каровамі і бычай мордай! Такі маленькі, сціскаў дубец з жаху! Толькі ранка ад гэтае палкі і сам у г…не!

Не памятаю, як апынулася побач, са сцяблом у руцэ. Усяго дзялоў-та. Шмат лісця падарожніку.

Чаму так зрабіла? Ведала, што дапаможа. Плясь гэты рабрысты кавалак, і хлопец, які так смачна пахне г...ном, паглядзеў на руку і з белага вярнуўся ў свой ружовенькі колер. Малойца! А яго штаны — не мая справа! Толькі страх ягоны асобна трэба адчуць і палячыць. Потым. Можа хвошчу папіць?

— А мамонька, бабка суседкі, Пянцюшыха, стаіць як быццам укапалі. Ні туды, ні сюды.

— Памажыце, дзеткі! — выдыхнула, як апусціла, словы.

Паспрабавала ісці. Зноў ніяк.

Маня падышла. Ад сонейка ёй быў голас: «Вазьмі вялікі ліст». Некалі з такім лістом яна гуляла з Веркай у капелюшовую краму. Шусь — і на галаве пакрыўка! Модны прыкід.

Тут у суседзяў вар заўсёды, бо дзіця малое ў доме. Усё гэта бягом. Бабцы ж, Пянцюшысе, дапамагчы — не разагнецца! Сунула ў кіпень — і да цёткі. А тая ўсё стаіць, не варушыцца. Усміхацца пачала і кажа:

— Ну во, аслупянела, ёлкі. Дадому трэба, там печ паліцца.

Маня паклала ліст на бабчыну маленькую спінку, вось тут, дзе згіб. Усе ведаюць, ніхто не робіць. А бабка неяк бокам, але пабегла да печкі сваёй!

Зноў Доктар, пасудзіна шкляная ў руцэ — і да Мані. Не паспела і апынулася за шклом. Сядзець было няўтульна. Сціскала ногі і плечы. Адна галава была свабодная. Яна раздумвала, як выбрацца з доктаравай пасудзіны. Націснула нагой і… Мабыць, яна сапраўды стамілася вельмі, што заснула і паляцела. Проста вылецела з пасудзіны, прабіркі. Унізе стаяў Доктар і вярцеў вялізнай галавой. Ягоны экперымент не задаўся! Не ловіцца Маня!

Паціху пра Маню чуткі пайшлі, што зёлкі пад яе ручкамі моцнымі робяцца і дзейнічаюць. Усе ходзяць паўсюль, а адной Мані адкрылася, што і як рабіць.

Толькі ёй адкрылася, што яе, Марыйкіна, бабка барматала ў куце хаты, ля абраза. Тады гэта было:

— Ярдань, Ярдань, вазьмі Маню ў рай і зубы дай!

— Ярдань, Ярдань, вазьмі Маню ў рай і зубы дай!

— Ярдань, Ярдань, вазьмі Маню ў рай і зубы дай!

Зубкі ішлі і крычала Маня!

Розныя людзі, розны стан, розныя фарбы. Цёця Агата паехала да сына ў горад Барань. Так, напэўна. Кот яе прытрусіў ды сядзіць. Не згіне на вёсцы, бо колькі кінутых хат, заселеных мышамі! Суседка прыходзіць і стаіць ля забора. Тэлевізар ёй не заменіць Агату!

— Пагаварыць хацелася, — і глядзіць. Чалавека няма, ад’ехала, а прыходзіць яе каток, суседка са сваім. Ператвараецца паціху Агата ў мяўканне, словадумкі. Нешта ўтвараецца з мінулага новае, цьмянае не цьмянае, але яно коцціцца самастойна па жыцці.

Учора Матруна прыходзіла са сваёй хворкай. Амаль прыпаўзла.

— Слава Богу! — павіталася.

— Ты па зорках лячыць можаш? — пытае. — Цяпер мода такая. — «Змяя» я, — прамовіла ў адчаі!

А Маня вазьмі і да ракі юркні. І давай угаворваць, шаптаць на ваду:

— Змяя першая, паўзі ад галавы ў плячо!

**Свіязі ды турухтаны прыпыняюцца на лузе ля Прыпяткі нашай. Трэба бачыць на свае вочы гэты птушкавы вэрхал! Бабка казала, што ўсе птушкі на Прыпятку ляцяць!**

— Змяя другая, паўзі ад пляча ў жывот!

— Змяя трэцяя, паўзі з жывата ўніз.

— Пятка-прадка, хай вольна коціцца! І пабегла ў дом, схапіла клубок нітак, ды як шпульне на дарогу! І разматала ўвесь, да самога канца.

Бегла, бегла. А потым абсела і без сіл сціхла.

Людзі казалі, што наступным днём Матруне саўсім лягчэй стала, а наступным вечарам ужо магла рукі падняць і кароўку даіць. Цуд. Бо тры гады сядзела ля акна. Казалі, зглаз. Маня сказала, што дапаможа, але сама хворая павінна прыйсці, жаданне сваё выказаць. Жаданне — гэта галоўная сувязь з Сусветам, жыццём! А ўсе падумалі, што Маня яшчэ і па гараскопе яе, як «Змяю», палячыла. А ўсё проста, ад бабчыных ведаў! А мо ад прабабкі...

— Лячу на бераг, доўга сяджу, як быццам сілай поўнюся. А хто заве, не чую, — дадае і смяецца. — І птушка дзіўная прылятае. «Кэрл-кэрл-кэрл», — крычыць. І круціцца вакол Мані і вакол сябе і доўга так нешта кэрлае. Вока дзіўнае, пранізлівы позірк! Можа, сам Кэрал, Люіс? З Англіі, а прыжыўся! Якіх інародкаў, жывёл толькі не прывячалі ў нашай краіне! Кажуць, ужо тыповая наша птушка — страус, бо адно яго смачнае і карыснае яйка — цэлы сняданак. Колькі людзей пракорміць!

— Доктар Іван Іванавіч акрэсліў такі стан, што, напэўна, я ўпадаю ў дзен. А ноччу зноў лятала, дзе лука, потым над ракой, крывой, звілістай такой і нязменнай! І як быццам бачыла, што кроў, яе, Марыйкі, ганяецца так жа моцна, што хапае энергіі лятаць. Бабчына сіла.

А на рацэ вада пляскае і не выльецца, такая во яе палеская сіла трымае! Цікавыя мясціны!

Каму сказаць, што Маня на свае вочы бачыла, што ад бабкі мёртвай, ужо з дамавіны, выпаўзла маленькая яшчарка. Яшчарка-бабка!

На вёсцы кажуць, што Маня робіць, што хоча. А яна лётае па начах.

— Такі во палескі дзен! — Маня рассмяялася.

— А яшчэ я апісала Івану Іванавічу, як жоўтую хвор праганяла, пячонку, мяркую, лячыла, — дадала Маня.

Пайшлі восенню на раку аер драць. У боты багульніку паклалі, каб ногі не моклі. Рыдлё ўзялі. Хворая ўхапіла некалькі кустоў, а Маня як зараве:

— Малое сцябло пакінь! Эта ж дзеці малыя, ім расці!

Хворая дайшла, што зрэлыя карані браць можна, а зарасці захаваць на той год. А потым вялілі, сушылі. Карэньчыкі пілі заваркай. Маня — каб ведаць, а хворая — каб жыць!

Адкуль Маня ведае? Бабуля таксама ратавала дзетак-цётак, мужыкоў ад белай вады ліха замаўляла, магла саўсім адвярнуць!

Няслышна Доктар падышоў. Маня адчула, што яе загарнулі і заціснулі ў нешта металічнае, у апарат. Доктар хацеў атрымаць Маніна цельца ў навуковых мэтах. Загудзела. Пальцы не свае, рукі не свае. Але ж галава, як раней, свабодная, і Маня ілбом шкло дверцы прыдавіла і паглядзела ў шчыліну. Доктар быў не адзін. Мілавідная дзеўка трымала доўгую іголку. Значыць, будуць піць кроў! Яна ўспомніла жахі пра палескую камарню і страціла прытомнасць, толькі на імгненне. А потым праз шчыліну паляцела з апарата!

Аднойчы ёй самой дрэнна было. І не ляталася. Пайшла пёхам да храма, узяла свечку, каб замаліць свой дар. Да любімага абраза. На ім маленькая багіня стаіць. Дзева Марыя Кадэнская. Барматала тыдзень. Спала там жа. Бабы есці прыносілі да царквы. Хто хлеба, хто сыру. Памяталі яны, як яна пад весну дапамагала ніткі траўкай фарбаваць! Вясёленька тады атрымалася!

— Манашкай будзе, калі не звар’яцее, — сказаў поп, але працу на добрасць уславіў. Пападдзя дадала, што нельга фатаграфавацца, грэх вялікі, ненатуральны выгляд! Яна ніколі не здымаецца!

**Ператвараецца паціху Агата ў мяўканне, словадумкі. Нешта ўтвараецца з мінулага новае, цьмянае не цьмянае, але яно коцціцца самастойна па жыцці**

А Маня як пачула пра манашку, раз — і без сіл упала. Бабы охалі. Саўсім свая ж. Толькі з усіх адна Кадэнская не зварушылася, як быццам нічога не здарылася. Абраз жа. І з таго часу празвалі Марыйку, як тую багіню. Яна ж дапамагае. Праўда, ёсць яшчэ адзін чалавек, што робіць малітоўную вычытку. Там справы толькі вакол пьянчукоў. Да яго чэргі з Расеі і Францыі.

Доктар усё ездзіў, ездзіў. То з Мані аднойчы пук валасоў абстрыг, то здымаў яе палёт на фота. А калі нічога не атрымалася з доследамі, на Кэрла перайшоў, а потым і дом тут пачаў будаваць, трохпавярховы! На першым гаспадарку ладзіць, на другім паверсе сам жыве, як можа, а ў мансардзе клятушкі для птушак. Для Кэрла клетка асобная і для іншых, бо Кэрл быў ужо з вывадкам. Доктар цяпер пісаў пра тое, што Кэрл паказваў і птушынаю мовай распавяваў. І Доктар кнігі выдаваў, выдаваў, выдаваў. А потым і Кэрла ў арэнду пачаў здаваць. Кажуць, што залатую клетку з птушкай ставяць на сцэну. І потым разам з ім пяе і лязгае гурт пад назвай *« Bezrodu»*. Кажуць, аншлагі ідуць!

А Маня? Лятала яна, па-першае, у сваіх снах, а шэпты і замовы свае — ад бабкі. Іх ўсяго некалькі. А самой стварацъ і прыдумляць весела і проста! Ідуць і едуць да яе. Ланцужок бясконцы: бабка — Маня — любы чалавек. Працуе яе лячэбнік. Яна ж саўсім свая. Дзеці будуць, калі знойдзецца хлопец, а яна зверне ўвагу на яго «...сэрца, навуку і славу ў людзей...» І ён любіць агуркі, як Маня. На Палессі шмат працы, талентаў, а здаровых няма!

**НЕВЯДОМЫЯ СЛОВЫ ДОКТАРА ПРА ПАЛЕСКАЕ ЖЫЦЦЁ**

Аер, аір — расліна, карані як сродак дапамогі пры хваробе пячонкі і страўніка. Чысціць вадаёмы. Некалі мангола-татары паілі коней у зарасцях аіру.

Ведаць, веды (санскр.) — пазнанне вышэйшага сэнсу.

Гаўядо — старажытнае слова, кароўка, цяля параўн. Гавядзіна. Гучыць глыбей чым «быдла», скаціна, жывёла.

**Доктар быў не адзін. Мілавідная дзеўка трымала доўгую іголку. Значыць, будуць піць кроў! Яна ўспомніла жахі пра палескую камарню і страціла прытомнасць**

Дзева Марыя Кадэнская — шануецца на Палессі. Таксама як цудатворныя Божая маці Лагішынская і Божая Маці Купяцкая. Такі жаночы ахоўны плат (рус. покров) над гэтай зямлёй.

Дзен — стан абсалютнай свабоды і творчасці, раўнавагі і гармоніі.

Зглаз — абрад прынясення зла чалавеку і яго асяроддзю, мае шматлікія формы.

Змяя — істота, якую шанавалі як дамавую жывёлу.

Лапух — расліна і чалавек.

Люіс Кэрал — англійскі матэматык і казачнік. Стварыў фантасмагорыю пра Алісу ў краіне цудаў.

Лячэбнік — старажытнаславянскія спробы лячыць замовай, лекавымі травамі. «Урачы без межаў» па-палеску.

Пагоня — балота, іншыя назвы: дрыгавіна, багно, купыння, мачара і інш.

Падарожнік — расліна і чалавек.

«...Працу на добрасць уславіў...» — словы Яна Баршчэўскага, яшчэ аднаго адзінокага рамантыка нашай культуры. З балады пра «зарослае возера».

Свіязі і турухтаны — птушкі, якія ляцяць праз Палессе ў Афрыку і Азію.

«...Сэрца, навука і слава ў людзей...» — паводле В. Дуніна-Марцінкевіча, што абавязкова трэба было мець для шчаслівага жыцця ў XIX стагоддзі. Актуальна па сённяшні дзень.

Фарбаваць тканіны — сцябло плаўна дае сіні колер, хвошч, крушына — жоўтае адценне, палатно не фарбавалі, толькі воўну і ніткі, каб вышываць.

Хвошчу заварыць — чалавеку ён дае вітамін С і А.

Ярдань — рака Іардан, свяшчэнная рака ўсіх хрысціян. Першае хрышчэнне было тут.

Яшчарка — сімвал мудрасці і ўдачы.

Лявон ЦЕЛЕШ

# КАНСПЕКТЫЎНА

***200 год таму 4 красавіка 1814 года ў сям'і святара Антона Гашкевіча нарадзіўся сын. Блізкім родзічам сям'і Гашкевічаў з'яўляўся ўраджэнец мястэчка Стрэшын сённяшняга Жлобінскага раёна Іаан Гашкевіч, які ў 1997 годзе быў залічаны да ліку святых як Іаан Кармянскі.***



## АБ МЕСЦЫ НАРАДЖЭННЯ ІОСІФА ГАШКЕВІЧА

…існавалі супярэчлівыя звесткі. У кнізе расійскага пісьменніка Віталя Гузанава «Адысей з Беларусі», дзе распавядаецца пра жыццёвы шлях Гашкевіча, я знайшоў радкі, дзе аўтар піша, што дзіцячыя гады дыпламата прайшлі ў вёсцы Якімава Слабада былога Рэчыцкага (цяпер Светлагорскага) раёна. І калі ў кнізе «Памяць. Светлагорскі раён» я прачытаў, што наш знакаміты зямляк нарадзіўся менавіта ў Якімавай Слабадзе, то вырашыў наведаць гэтыя мясціны.

У Светлагорскім гісторыка-краязнаўчым музеі мяне гасцінна сустрэлі загадчыца музея Ірына Заяц са сваімі супрацоўнікамі, якія азнаёмілі са шматлікімі экспанатамі. Пачэснае месца ў музеі займае прысвечаны Гашкевічу стэнд. У суправаджэнні Ірыны Валянцінаўны і загадчыцы Светлагорскай дзіцячай бібліятэкі Алены Шкірман я наведаў у вёсцы Якімава Слабада вясковую бібліятэку, у памяшканні якой знаходзіцца партрэт Гашкевіча работы мясцовага мастака Сяргея Каваля. Светлагорцы ганарацца сваім земляком. Ірына Валянцінаўна расказала, што бібліятэка і музей сумесна збіраюцца ладзіць Гашкевіцкія чытанні. Перад ад'ездам супрацоўнікі музея азнаёмілі мяне з артыкулам пра Гашкевіча ў кнізе «Памяць. Рэчыцкі раён», дзе сцвярджаецца, што нарадзіўся ён у вёсцы Перасвятое сённяшняга Рэчыцкага раёна. Але ж такое немагчыма, каб чалавек мог нарадзіцца адразу ў некалькіх мясцінах! Таму ў Мінску я адразу звярнуўся ў Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. У гэтай установе мне паведамілі, што нарадзіўся Іосіф Гашкевіч у вёсцы Стрэлічава былога Рэчыцкага павета (цяпер Хойніцкі раён), дзе яго бацька быў святаром у Міхайлаўскай царкве. Але пасля нараджэння сына святар Антоній мог быць накіраваны на працу ў іншыя цэрквы.

## З ДЗЯЦІНСТВА ІОСІФ БЫЎ МАЎКЛІВЫМ ХЛОПЧЫКАМ

…любіў адасобленасць і шмат часу праводзіў за чытаннем кніг. Любіў ён бавіць час на царкоўнай званіцы, дзе было шмат галубоў. Першапачатковую адукацыю хлопчык атрымаў у прыходскай школе,

дзе настаўнічаў яго бацька Антон. Да 12 год ён рос у вёсцы, а потым бацька аддаў яго, як і старэйшага сына Івана, у Мінскую духоўную семінарыю. Падчас вучобы семінарыст Іосіф захапіўся чытаннем свецкай літаратуры: у яго пакоі можна было ўбачыць «Ветраград» Сімяона Полацкага і «Бедную Лізу» Мікалая Карамзіна. Лепшым сябрам сям'і Гашкевічаў быў вядомы беларускі гісторык, мовазнавец, протаіерэй Іван Грыгаровіч, па рэкамендацыі якога Іосіф Гашкевіч паступіў вучыцца ў Санкт-Пецярбургскую духоўную акадэмію. За час вучобы ў акадэміі ён праявіў здольнасці да вывучэння замежных моў. Што і вызначыла далейшы лёс студэнта духоўнай акадэміі Іосіфа Гашкевіча: пасля заканчэння вучобы ён атрымаў званне магістра багаслоўя і яго накіравалі на стажыроўку ў Пекінскую духоўную місію.

## ЗА 10 ГОД ЗНАХОДЖАННЯ Ў КІТАІ

…ён, валодаючы ўжо шасцю мовамі, засвоіў кітайскую, мангольскую, карэйскую, маньчжурскую і пачаў вывучаць японскую. Галоўнай справай Іосіфа Гашкевіча ў Кітаі было спрыянне пашырэнню руска-кітайскіх сувязей. Акрамя сваіх галоўных спраў, ён займаўся метэаралагічнымі і астранамічнымі назіраннямі, вынікі якіх адсылаў у Пулкаўскую абсерваторыю. Сабраў вялікую калекцыю насякомых, вывучыў старажытную гісторыю Кітая, літаратуру і мастацтва, помнікі архітэктуры гэтай краіны… Здольнасць Гашкевіча лёгка засвойваць мовы была заўважана ў Міністэрстве замежных спраў Расіі. І калі ў 1852 годзе ў Пецярбургу фарміравалася экспедыцыя ў Японію, ён як перакладчык быў прымацаваны да начальніка экспедыцыі, віцэ-адмірала Пуцяціна. Гэта падарожжа на фрэгаце «Палада» ўвайшло ў гісторыю руска-японскіх сувязей. Рускім пісьменнікам Іванам Ганчаровым, які ў плаванні быў сакратаром Пуцяціна, падарожжа было апісана ў рамане «Фрэгат «Палада». У гэтым доўгім плаванні да берагоў Японіі наш суайчыннік і Ганчароў моцна пасябравалі. Пісьменнік, які жыў у адной каюце з Гашкевічам, адзначаў мяккі характар свайго сябра, нецярпімасць да канфліктаў.



*Старшы навуковы супрацоўнік Светлагорскага музея Вольга Жызнеўская ля стэнда Гашкевічу.*

## ЯШЧЭ ДА АДЫХОДУ Ў ПЛАВАННЕ

…ён навучыўся карыстацца рэдкім на той час фотаапаратам. І калі экспедыцыі давялося на працяглы час зрабіць прыпынак у Паўднёвай Афрыцы, шмат здымаў навакольныя пейзажы. Разам са сваімі памочнікамі Гашкевіч рабіў геалагічныя даследаванні, склаў геалагічную карту значнай тэрыторыі Паўднёвай Афрыкі, сабраў калекцыю насякомых і гербарый паўднёваафрыканскай флоры, расшукваў шкілеты выкапнёвых жывёл. Галоўнай мэтай экспедыцыі ў Японію было заключэнне дамоў пра сяброўства і гандаль, а таксама вырашэнне пытання мяжы паміж Расіяй і Японіяй. І яны былі паспяхова вырашаны. А калі экспедыцыя Пуцяціна вярталася на Радзіму, карабель у Ахоцкім моры сутыкнуўся з англійскім ваенным патрулём. І наш суайчыннік разам з іншымі трапіў у палон да англічан, дзе прабыў 9 месяцаў. Гашкевіч пачаў складаць там руска-японскі слоўнік. У гэтым яму дапамагаў японскі манах Тацібана Каосай. Першы

Списокъ 5

учениковъ Минской Духовной Семинаріи, кончившихъ Курсъ Семинарскаго ученія.

перваго разряда

1. Іосифъ Гашкевичъ Въ С. Петербургскую Духовную Академію
2. Иванъ Епифановичъ Въ Кіевскую Духовную Академію.
3. Ѳеодоръ Кладкевичъ Въ С. Петербургскую Д. Академію.
4. Василій Подольскій. } Предназначаются къ Учительскимъ должностямъ.
5. Иванъ Турцевичъ.
6. Александръ Корженевскій
7. Василій Бруцевичъ Въ Епархіальное вѣдомство.
8. Иванъ Красовскій — } Предназначаются къ Учительскимъ должностямъ.

второго разряда

9. Константинъ Борзаковскій
10. Петръ Секеневичъ } Въ Епархіальное вѣдомство.
11. Ѳеодоръ Мичай
12. Андрей Барановскій Въ вѣдомство Оберъ Священника Армій флотовъ.
13. Вигилъ Шамовичъ } Въ Епархіальное вѣдомство.
14. Иванъ Нитулевскій
15. Левъ Сивичъ
16. Александръ Струмовскій

Гашкевіч — першы ў спісе лепшых.

«Руска-японскі слоўнік» быў выдадзены ў Пецярбургу, за яго аўтар быў узнагароджаны Дзямідаўскай прэміяй з уручэннем залатога медаля.

### З МЭТАЙ ЗАМАЦАВАННЯ ДАСЯГНУТЫХ ПОСПЕХАЎ

…у адносінах паміж краінамі ўрад Расіі вырашыў адкрыць у Японіі, на востраве Хакайда, у горадзе Хакадатэ рускае консульства. На пасаду консула, фактычна першага пасла Расіі ў Японіі, быў прызначаны Іосіф Антонавіч. Менавіта з тых часоў была закладзена аснова добрых узаемаадносін паміж Расіяй і Японіяй. Сваімі паводзінамі, тактоўнасцю Гашкевіч і яго падначаленыя змаглі выклікаць павагу японцаў да Расіі. «Белавалосы пасланец» — так ласкава называлі яны Гашкевіча за мяккі характар і добрыя справы. У Хакадатэ ён адкрыў рускамоўную школу, у якой быў настаўнікам. Яму, ледзь не першаму з чужаземцаў, было дазволена наведваць двор сёгуна (правіцеля Японіі) у Эда (цяпер Токіа). Ён адкрыў бальніцу, у якой працавала яго першая жонка Лізавета (памерла і пахавана ў Хакадатэ). Ён жа навучыў японцаў майстэрству фатаграфавання, падарыў ім барометр і маячны ліхтар, выдаў першую рускую азбуку для дзяцей. У Японіі, краіне будызму, існавала ў тыя часы забарона прапаведаваць іншую веру, а парушальнікаў маглі пакараць смерцю. Рызыкуючы жыццём, Гашкевіч прапаведаваў праваслаўную веру і дзякуючы яму ў Хакадатэ была пабудавана Уваскрасенская праваслаўная царква.

### У 1865 ГОДЗЕ

…першы расійскі консул у Японіі вярнуўся ў Пецярбург. Адпрацаваўшы два гады ў Азіяцкім дэпартаменце Міністэрства замежных спраў Расіі, ён у ліпені 1867 года выйшаў у адстаўку, прыехаў у Беларусь і пасяліўся ў маёнтку Малі (цяпер вёска Малі ў Астравецкім раёне). У вясковай цішыні Іосіф Антонавіч працягваў займацца ўсходняй філалогіяй, вёў метэаралагічныя назіранні, вынікі якіх адсылаў у Пулкаўскую абсерваторыю. Шматлікія калекцыі насякомых і флоры Паўднёвай Афрыкі і Паўднёва-Усходняй Азіі, сабраныя падчас падарожжаў, ён перадаў у заалагічны музей Акадэміі навук у Пецярбургу.

### НА АСТРАВЕЧЧЫНЕ

…у Гашкевіча і яго другой жонкі Кацярыны нарадзіўся сын Іосіф, які, як і бацька, пакінуў пасля сябе навуковую спадчыну. Памёр наш выдатны суайчыннік 5 кастрычніка 1875 года на сядзібе Малі, а ў 1899 годзе ў Вільні была надрукавана яго праца «О корнях японского языка». Заслугі нашага земляка высока адзначаны: яго імем названы заліў у Японскім моры (па-карэйску Чосанман). Апісаныя ім віды насякомых таксама названыя яго імем. У Японіі і сёння памятаюць імя нашага земляка. У гэтай краіне існуе Таварыства імя Іосіфа Гашкевіча, у Хакадатэ, дзе была яго рэзідэнцыя, ля праваслаўнага храма Хрыста Збавіцеля яму ўстаноўлены бюст (аўтар — расійскі скульптар А. Комаў). Расійскі пісьменнік Гузанаў напісаў пра Гашкевіча цікавую кнігу «Одиссей с Белой Руси», якая Янкам Саламевічам перакладзена на беларускую мову. Шануюць памяць Гашкевіча і на Беларусі. У Мінску ў мікрараёне Лошыца яго імем назвалі вуліцу,




*Залаты Дзямідаўскі медаль.*



*Загадчыца Светлагорскага музея Ірына Заяц і загадчыца Светлагорскай дзіцячай бібліятэкі Алена Шкірман ля партрэта Гашкевіча мясцовага мастака Сяргея Каваля.*

у Астраўцы перад будынкам рэдакцыі раённай газеты «Астравецкая праўда» ўстаноўлены яго бюст работы беларускага скульптара В. Янушкевіча, а ў вёсцы Малі знаходзіцца памятны камень работы скульптара Р. Грушы. У Астраўцы і на раёне праводзяцца чытанні і іншыя культурныя мерапрыемствы, прысвечаныя памяці Гашкевіча.

Дзякуючы Адаму Мальдзісу, вучонаму-філолагу, пісьменніку і журналісту жыхары Беларусі даведаліся пра Гашкевіча, ураджэнца Астравеччыны. Аднойчы Мальдзіс прыняў дэлегацыю з Японіі на чале са старшынёй Таварыства імя Гашкевіча Такада Касічы і суправаджаў яе ў паездцы па Астравеччыне. Менавіта паважаны Адам Іосіфавіч удакладніў месца пахавання Гашкевіча. Па запрашэнні японскай арганізацыі ён наведаў у Японіі мясціны, звязаныя з жыццём і дзейнасцю Гашкевіча. Ён паведаміў, што ў Хакадатэ збярогся надмагільны помнік першай жонкі дыпламата Лізаветы.

## ЖЫЦЦЁ ГАШКЕВІЧА НАГАДВАЕ ЛЕГЕНДУ

…і як было б добра, калі б пасля ўрачыстасцей сабраліся кінематаграфісты Беларусі, Японіі і Расіі ды дамовіліся б пра стварэнне мастацкага кінафільма пра яго. Гэта быў бы захапляльны прыгодніцкі серыял, які заваяваў бы сімпатыі мільёнаў і быў бы адзначаны ўзнагародамі. Магчыма, мае мары здзейсняцца… Не так даўно мне давялося наведаць Астравеччыну і пазнаёміцца з мясцінамі, дзе жыў апошнія гады выдатны сын беларускага народа. Жыхары Астравеччыны лічаць Гашкевіча сваім, і гэтак жа лічаць яго сваім жыхары Светлагорскага, Рэчыцкага, Хойніцкага раёнаў. Галоўнае, што краіна Беларусь беражэ спадчыну, якая пераканана сведчыць пра даўнюю прысутнасць Беларусі на міжнароднай арэне. 

*Наталля ОБУХАВА*

# КІТАЙСКАЯ МІСІЯ

***У жыцці Іосіфа Гашкевіча два перыяды, звязаныя з Усходам. Але калі другі — удзел у экспедыцыі Пуцяціна і праца ў рускім консульстве ў Японіі — прадстаўлены ў шматлікіх публікацыях, то першы — дыпламатычная дзейнасць у складзе 12-й Расійскай духоўнай місіі ў Пекіне — у даследаваннях амаль не адлюстраваны. Толькі некаторыя аўтары гістарычных прац тым ці іншым чынам закраналі гэту тэму. Але імя Гашкевіча яны толькі ўзгадваюць.***

У студзені 1840 года ў Казані на працягу месяца збіраліся члены 12-й Расійскай духоўнай місіі. Яе ўзначальваў архімандрыт Палікарп (Тугарынаў). У Пекін яны прыехалі толькі ў кастрычніку. Людзі ехалі ў Кітай не пад прымусам, а па асабістым жаданні. Іх рыхтавалі да гэтага спецыяльна. Кіраўнікамі місіі прызначаліся асобы, што ўжо пабылі ў Кітаі — Каменскі, Марачэвіч, Тугарынаў, Кафараў, Карпаў. Архімандрыт Палікарп падбіраў членаў місіі асабіста, з многімі, у тым ліку і з Гашкевічам, перасякаўся ў Духоўнай акадэміі і мог улічыць рысы характару.

Склад аказаўся ўнікальным. Акрамя асоб духоўнага звання, такіх як іераманах Інакенцій Нямцоў, Паладій Кафараў і Гурый Карпаў, у місію ўвайшлі студэнты Гашкевіч, Горскі і Захараў, урач Татарынаў, мастак Карсалін і знаўца Усходу Васільеў. Большасць з іх захапілася кітаязнаўствам і пакінула заўважны след у айчыннай і сусветнай навуцы, гісторыі дыпламатыі Расіі на Усходзе. У многім гэта заслуга менавіта Тугарына. У хуткім часе па прыбыцці ў Кітай многія з іх пад уплывам зноў жа Тугарынава, які меў вопыт ў перакладзе будыйскіх сачыненняў, захапіліся не толькі кітайскай мовай, але і будалогіяй. Гэтаму спрыяла наяўнасць у бібліятэцы місіі будыйскіх кніг. Талент кіраўніка місіі Палікарпа праявіўся ў тым, што дзякуючы яго дзейнасці Расія не дала ніводнай нагоды кітайскім уладам паставіць яе ў адзін шэраг з іншымі краінамі (Англіяй, Францыяй, ЗША), якія адкрыта выказвалі свае каланіяльныя памкненні. З яго дапамогай удалося не толькі захаваць сяброўскія адносіны паміж дзвюма дзяржавамі, але і працягнуць на новым узроўні кантакты ў культурнай сферы. Члены місіі дасканала вывучалі знешнегандлёвую сітуацыю ў Кітаі, выяўляючы магчымасці рэалізацыі тавараў Расіі на кітайскім рынку, распрацоўвалі рэкамендацыі аб шляхах і метадах пашырэння руска-кітайскіх гандлёвых сувязей, прычым, не толькі за кошт павелічэння аб'ёму і асартыменту, павышэння якасці расійскіх тавараў, але і за кошт пашырэння геаграфіі гандлю.



*Вёска Малі: камяні — помнік Гашкевічу.*



*Бюст Гашкевіча ў Астраўцы.*

Так склалася, што навучанне ў місіі было пастаўлена дрэнна. Афіцыйныя настаўнікі працавалі нездавальняюча, а іх узровень пакідаў чакаць лепшага. Умовы жыцця былі даволі цяжкімі; многія працы сінолагаў, у тым ліку такія, якія маглі б скласці гонар навукі, не друкаваліся. Большасці студэнтаў місіі даводзілася паўтараць працу сваіх папярэднікаў, у прыватнасці ў справе складання слоўнікаў; сярод прац дамінавалі пераклады, арыгінальныя даследаванні складалі нязначную долю. Да таго ж першая опіумная вайна ўскосна ўскладніла стасункі Расіі з Кітаем і абцяжарыла членаў місіі зборам і перадачай палітычнай і эканамічнай інфармацыі для ўрада.

Людзі трапілі ў няпростыя ўмовы сумеснага пражывання: да дзесяці чалавек у памяшканні, далёка ад Расіі, нязвыклы клімат, нязручны побыт. Яны размяшчаліся ў двух аддаленых адна ад адной на восем вёрст рускіх сядзібах Паўднёвай (Наньгуань) і Паўночнай (Бэйгуань). Усе, акрамя ўрача, абавязаны былі вучыць усходнія мовы і пісаць справаздачы аб праробленай працы, вывучаць гісторыю Кітая і яго прыроду, палітычную сітуацыю. У цэлым вядомыя кітаязнаўцам звесткі пра місію вельмі сціплыя. Місіянеры вялі даволі замкнёны лад жыцця, жылі амаль ізалявана. Выключэнне складалі кітайцы-настаўнікі, чыноўнікі Палаты знешніх зносін (Ліфанюаня), кітайскі прыстаў місіі, патомкі албазінцаў і невялікае кола знаёмых пекінцаў. У Пекіне знаходзіліся амаль бязвыезна. Аднастайна, у працы, навучанні і малітвах, праходзілі дні і гады. Прыемныя паездкі ў будыйскія манастыры ля кітайскай сталіцы, паходы батанікаў і ўрачоў за ўзорамі мясцовай флоры ў блізкія горы. На такім фоне кітайскія гады Гашкевіча апынуліся вельмі плённымі. У навуковым кітаязнаўстве ён не пакінуў нейкага заўважнага следу, аднак да нас дайшлі яго невялікія артыкулы шырокай тэматыкі. Каб напісаць першы з іх, «Спосаб прыгатавання тушы»[1], Гашкевічу давялося прачытаць нямала кітайскіх кніг. Ён адзначае, што ў Кітаі заўсёды выходзіла шмат кніг па тэме вытворчасці тушы, але іх аўтары самі гэтай справай не займаліся, таму і спосабы вытворчасці былі прыгожа апісанымі, ды вось толькі за якасць тушы адказваць не маглі. Гэтыя кнігі часта змяшчаюць імёны вядомых людзей, але сакрэты іх адкрыцця засталіся таямніцай. Толькі адна кніга, у якой Гашкевіч пазычыў рэцэптуру тушы, была карыснай. Праца напісана ў 1398 годзе некім Шэнь-цзі-сунь, які рабіў туш 30 гадоў. Гашкевіч адзначае, што з таго часу кітайцы працягваюць рабіць туш паводле той старой рэцэптуры. Ён падрабязна апісвае абсталяванне, працэс і дазіроўкі, звяртае ўвагу на асаблівасці вытворчасці летам і зімой. У гэты час кітайская туш славіцца якасцю на ўвесь свет. У Расію яе пастаўляюць у сухім выглядзе — пласцінкамі ў форме лотаці, затым разводзяць вадою. У склад яе ўваходзіць трынаццаць кампанентаў. Гашкевіч на практыцы прыходзіць да высновы, што ў першую чаргу патрэбна сажа найлепшай якасці і лепшы з магчымых клей. Прычым, клей, па яго словах, — галоўны кампанент.

Раздзел пра кітайскія бялілы Гашкевіч пачынае словамі пра тое, як іх якасць хва-

[1] Гошкевич И. Способ приготовления туши, белил и румян у китайцев. «Труды членов Российской духовной миссии в Пекине», т. I. СПб: Типография Главного Штаба Его Императорского Высочества по Военно-Учебным Заведениям, 1852, с. 361—382.

ляць у Расіі. Бялілы кітайскія не інакш як крухмал з сарацынскага проса (рысу). А каб атрымаць прыемны пах, да сыравіны дадаюцца гваздзіка або цынамон. У раздзеле пра румяны ён піша пра спосабы дабычы іх з сафлоры (carthamus tinctorius). І апісвае ўвесь тэхнічны працэс і накірункі прымянення (румяны, памада, фарба для мастакоў замест карміну).

У артыкуле «Императорское, или благовонное, пшено (скороспелое)»[1] Гашкевіч распавядае, як выпадкова імператар Кітая Кан-сі, гуляючы па участку, на якім вырошчвалася сарацынскае проса, што павінна было паспець на дзявяты месяц, убачыў адзін каласок, які паспеў на шосты месяц. Па загадзе імператара гэта проса развялі і пачалі ўжываць у палацы. Імператар зрабіў выснову, што гэты гатунак можна сеяць два разы на год, і загадаў паслаць насенне ў дзве губерніі. Гашкевіч адзначае карысць гэтага зерня на нашых землях, дзе яно мае здольнасць расці.

У вялікай публікацыі пра вытворчасць кітайскага шоўку[2] ў чатырох главах апісаны працэсы яго стварэння. Аўтар адзначае важнасць гэтай справы нароўні з важнасцю хлебаробства. Заўважана, што шаўковыя чэрві слухаюцца толькі мужчын, таму разводзіць іх павінны вартыя мужы, а жанчыны павінны ткаць палатно. Апісаны ўмовы развядзення тутавых дрэваў, магчымая ўрадлівасць і колькасць чарвякоў на адно дрэва.

Шань-ян (бульбу)[3] — як яна расце — Гашкевічу зблізку так і не давялося пабачыць, а вось тэхналогію пасадкі ён апісаў даволі падрабязна. У Кітаі яе садзяць у сакавіку. Цікава, што кітайцы абрываюць лішнія парасткі з аднаго клубня, пакідаючы адзін, які потым падвязваюць да бамбукавай палачкі. Асабліва адзначаны смак, далікатны і прыемны.

У тым жа выданні ёсць пераклад Гашкевіча тэксту пра вытворчасць солі[4], вядомую здаўна і прынятую за гонар. Пры варцы першай партыі абавязкова прысутнічае князь. У сваіх летапісах гісторыкі Паднябеснай адзначаюць, што іх казне гэта справа прыносіла немалыя прыбыткі.

Гашкевіч быў адораным лінгвістам, ён вывучыў у Пекіне шэраг моў: кітайскую, маньчжурскую, карэйскую, мангольскую, а таксама гісторыю, літаратуру, мастацтва, філасофію ўсходніх народаў, помнікі архітэктуры, займаўся астранамічнымі назіраннямі, сабраў вялікую калекцыю раслін.

Пасля вяртання ў 1850-м у Санкт-Пецярбург ён надрукаваў у «Трудах членов Российской духовной миссии в Пекине» свае артыкулы. Як рэдкага па тым часе знаўца ўсходніх моў яго запрасілі на службу ў Міністэрства замежных спраў, чыноўнікам асобых паручэнняў у Азіяцкі дэпартамент.

Цікавым для чытачоў будзе артыкул, які Гашкевіч прысвяціў Ганконгу[5]. Ён двойчы пабыў там ў сярэдзіне 1850-х з місіяй Пуцяціна, падрабязна апісвае свае дні ў палоне на гэтым дзівосным востраве. У пачатку артыкула асвятляе геаграфічнае палажэнне вострава і яго добрую бухту, якую аблюбавалі англічане. Дзівіцца, што на востраве адсутнічаюць коні, а іх замяняюць людзі. Дае падрабязную характарыстыку кітайскіх тавараў, адзначаючы дзіўную здольнасць кітайцаў задавольвацца малым. Паведамляе пра знаёмства з англічанамі і пра іх даследаванні флоры і фаўны вострава.

Пекінская місія не была адзінай, але самай ранняй па часе заснавання ў шэрагу замежных місій Рускай праваслаўнай царквы. Разам з тым, Расійская духоўная місія ў Пекіне была ўнікальнай расійскай установай за мяжой, цэнтрам неафіцыйнага дыпламатычнага прадстаўніцтва Расіі ў Кітаі.

---

[1] Гошкевич И. Императорское, или благовонное, пшено (скороспелое) юй-дао-ми или сень-даоми. Там же, т. III. СПб: Типография Главного Штаба Его Императорского Высочества по Военно-Учебным Заведениям, 1857, с. 127—129.

[2] Гошкевич И. О шелководстве (перевод с китайского). Там же, т. III, с. 413—450.

[3] Гошкевич И. О разведении шань-ян. Dioscoraca alata'l (картофель). Там же, т. III, с.121—124.

[4] Гошкевич И. О соляном производстве. Там же, т. III, с. 103—120.

[5] Гошкевич И. Хонкон (Гонконг), из записок русского путешественника. Там же, т. III, с. 393—409.



# ЖЫЦЬ У ТЭМПЕ СКАРАХОДАВА



***«Не раю купляць славутую Кембрыджскую энцыклапедыю: там не пералічана і дзясятая доля таго, чым адметная асоба Уладзіміра СКАРАХОДАВА. У былыя часы дзеяча такога кшталту называлі чалавекам Адраджэння». Мне запомнілася гэтая дасціпная рэмарка, якая прагучала ў адным з афіцыйных выступленняў на колішняй творчай вечарыне Уладзіміра Паўлавіча. Трапна і слушна сказана! Маштаб і глыбіня яго шматстайнай дзейнасці, плённы ўнёсак у культуру сягаюць за межы стандартнай біяграфічнай даведкі.***

## МАНДАЛІНА З ГАРЫШЧА

Крылаты выраз *self-made man* — гэта пра яго: Уладзімір Скараходаў зрабіў сябе сам. Эрудзіраваны музыкант з багатым досведам арганізатара, кіраўніка, дзяржаўнага чыноўніка, дыпламата, грамадскага дзеяча. Вучоны-філосаф і культуролаг. Аўтар актуальных аналітычных даследаванняў і метадычных кніг, адрасаваных маладым кларнетыстам. Заслужаны дзеяч мастацтваў, доктар навук, педагог, паважаны і запатрабаваны далёка за межамі Беларусі. У яго больш як 80 навуковых артыкулаў, 6 манаграфій, а сярод шматлікіх вучняў — 30 лаўрэатаў міжнародных і нацыянальных конкурсаў. У свае 75 гэты мудрэц з неўтаймоўнаю натурай лідара па-маладому крэатыўны, энергічны; па-спартыўнаму бадзёры і мабільны; заўсёды элегантны.

Скараходаў жартуе: жыць у беспарабойным рухавым тэмпе, усё і паўсюль паспяваючы, — само прозвішча спрые! Але той, хто пацікавіцца творчым шляхам паспяховага прафесара, зможа ўбачыць за «шпаркай хадой» і ўпэўненымі крокамі дапытлівы дух, моцную волю і самадысцыпліну, прагу вучыцца, уменне вызначаць мэту, не адступаць перад цяжкасцямі (свет жа не існуе без канфліктаў, нягод і страт), працаваць на выбітны вынік, удасканальваючы сябе.

Уявіце: без адпаведнай пачатковай падрыхтоўкі, нават не ведаючы нот, вясковы падлетак едзе ў Магілёў паступаць у музычную вучэльню. Чаму? Што падштурхнула яго да рызыкоўна-дзёрзкага ўчынку? Уладзімір Паўлавіч памяркоўна заўважае:

*«Прычын было некалькі. Па-першае, маці мела добры слых і выдатна спявала на ўсю вёску. Па-другое, на гарышчы хаты я знайшоў мандаліну (напэўна, засталася ад немцаў, з вайны) і падбіраў на ёй свае ўлюбёныя мелодыі. Можа, гэта і падштурхнула мяне да спробы паступіць у вучылішча? Ці, можа, нешта іншае, унутранае, містычнае, закладзенае прыродай...»*

Відавочна, музыка сама «выбрала яго», а не ўсвядомлены тады творчы талент «пацягнуў» у загадкавую прафесію... Ды адкуль усё ж такі ўзялася закінутая на гарышча мандаліна? Можа, трапіла ў вёску яшчэ да вайны і належала камусьці са сваякоў або суседзяў? Як вядома, у Беларусі на пачатку

мінулага стагоддзя гэты інструмент набыў вялікую папулярнасць, у 1920 гады ствараліся нават аматарскія мандалінна-гітарныя, «неапалітанскія», гурты і аркестры: вясковыя, сямейныя, школьныя, армейскія.

Зрэшты, высвятляць таямніцу з'яўлення экзатычнага інструмента ў хатнім пажытку было зусім не прынцыпова. Тым болей, што адоранаму хлапчуку, якога нават без належнай музычнай падрыхтоўкі прынялі ў Магілёўскае вучылішча, не давялося спасцігаць прафесійныя сакрэты грання на мандаліне:

*«Падчас уступных іспытаў мне прапанавалі вучыцца на нейкай чорнай дудачцы (як потым высветлілася, на кларнеце). Я пагадзіўся і да сённяшняга часу глыбока ўлюбёны ў свой інструмент».*

## МАГІЯ ЧОРНАЙ ДУДАЧКІ

Яго трапяткая індывідуальнасць чуйна ўспрымае тонкую, амаль містычную сувязь са сваім музычным *alter ego*, надзеленым душой і характарам:

*«Безумоўна, кожны музыкант па-асабліваму ставіцца да свайго інструмента, разумее яго душу, звязаны з ім нябачнымі ніцінамі. Прычым, гэта датычыць не толькі канкрэтнага інструмента, на якім ён грае, але і больш шырокага, філасофскага разумення душы інструмента».*

Працягваючы адукацыю ў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, студэнт-кларнетыст Уладзімір Скараходаў захапіўся і дзівоснай душою саксафона, які праз пэўнае «структурнае» падабенства з кларнетам лічыцца яго бліжэйшым родзічам у сямействе духавых інструментаў. Асваенне саксафона супала з новымі памкненнямі музыканта:

*«Мы былі маладыя, стваралі свае калектывы, ішлі працаваць у самадзейнасць, шукалі магчымасці выступіць публічна. Я арганізаваў у Мінскім архітэктурна-будаўнічым тэхнікуме эстрадны аркестр. Вельмі, дарэчы, таленавітыя хлопцы ў ім былі. Леанід Барткевіч, напрыклад, пачынаў свой шлях на эстраду з нашага калектыву. Там я 10 гадоў граў на саксафоне. Цяпер час ад часу бяру вучняў на гэты інструмент».*



*Ля роднай хаты.*

Але ж адзіным кумірам для Уладзіміра Скараходава быў і застаецца Яго Вялікасць Кларнет. З ім працаваў як удзельнік аркестра Магілёўскага абласнога драмтэатра, быў салістам сімфанічнага аркестра Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі. Яшчэ ў студэнцкія гады зрабіў для свайго ўлюбёнага інструмента пералажэнне скрыпічнай п'есы Аляксея Туранкова, якую пачуў у выкананні выдатнага беларускага саліста Льва Гарэліка і натхніўся яе хараством. Цяпер Уладзімір Паўлавіч робіць пералажэнні ўзораў беларускай нотнай літаратуры рэгулярна. Дзякуючы ім кларнетысты граюць разнажанравыя п'есы Льва Абеліёвіча, Дзмітрыя Лукаса, Міхаіла Ельскага, Пятра Падкавырава, Генрыха Вагнера і іншых айчынных творцаў. На думку прафесара, нельга сказаць, што рэпертуар, створаны нашымі кампазітарамі адмыслова для духавых, цалкам задавальняе выканаўцаў:

*«На жаль, беларускія аўтары звяртаюцца да напісання музыкі для гэтай групы інструментаў эпізадычна. Кларнету пашанцавала, на мой погляд, крыху больш.*



*У канцэртнай зале.*

*Для яго напісаны выдатныя творы Львом Абеліёвічам, Генрыхам Вагнерам, Уладзімірам Дамарацкім, Кімам Цесаковым, Галінай Гарэлавай. Дарэчы, выканальніцкі аналіз Санаты Галіны Гарэлавай для кларнета сола змешчаны ў маёй новай кнізе сярод музычных шэдэўраў для гэтага інструмента».*

## КЛАС МАЙСТРА

«Генетычная хуткасць» уладальніка красамоўнага прозвішча здзіўляе. Пасля выдадзенай у 2012 годзе кнігі «Майстэрства кларнетыста. Парады настаўніка» падрыхтавана новая — «Майстар-клас прафесара У. Скараходава», якая ўжо чакае сустрэчы з чытачом:

*«Кніга працягвае маю папярэднюю гаворку з вучнямі і калегамі. Тут разглядаюцца найноўшыя падыходы да навучання ігры на кларнеце і ўвогуле на духавых інструментах, а таксама аналізуюцца музычныя шэдэўры кампазітараў XX стагоддзя».*

Не перапыняючы педагагічную дзейнасць у Беларускай акадэміі музыкі, ён вядзе майстар-класы за мяжой (Расія, Украіна, Літва, Францыя, Італія, Ізраіль, Кітай...), актыўна працуе ў журы міжнародных выканальніцкіх конкурсаў. А сведчаннем цікавасці да методыкі прафесара з Беларусі сталіся не толькі замежныя публікацыі пра яго бліскучыя ўрокі, але і рашэнне наконт перакладу кнігі «Майстэрства кларнетыста. Парады настаўніка» на кітайскую мову, прынятае пасля майстар-класа ў Шэньянскай кансерваторыі.

Пра дачыненні таленту, натхнення і працы пішацца ў ранейшай кнізе «Парады маім вучням»: «Памятайце заўсёды: ніякія здольнасці не дапамогуць, калі вы не арганізуеце сістэматычных, сур’ёзных заняткаў. Толькі яны зробяць вас прафесіяналамі. Не чакайце прыліву творчых сіл і магчымасцей, якія называюцца натхненнем, яны не адчуваюцца штодзённа; вучыцеся кіраваць працэсам штодзённых заняткаў і прымушайце сябе працаваць нават тады, калі не адчуваеце да гэтага асаблівага жадання». А пра музыкантаў свайго пакалення Уладзімір Паўлавіч аднойчы сказаў, што яны мусілі прыстасоўвацца і вучыцца выжываць у жорсткіх, неспрыяльных для культуры ўмовах, шукаць спосабы «прадаваць свой прадукт», але многія разгубіліся ў новай жыццёвай плыні. Ці не ўзнікла з гадамі ў прафесара ўнутраная патрэба дапоўніць або падкарэктаваць развагі? Не, перакананы ён, сказанае — актуальна:

*«Наконт парады працаваць і працай падмацоўваць талент — хіба можна інакш дасягнуць поспеху? Нічога тут не змянілася. А новыя ўмовы аднолькава складаныя як для моладзі, так і для сталага пакалення. Для музыкантаў класічнага жанру вельмі цяжка выжываць ва ўмовах суцэльнага засілля “папсы”, выбачыйце за выраз. Але выжываць неабходна, у гэтым, калі хочаце, місія тых, хто абраў сабе гэтую прафесію. Я заўсёды кажу сваім вучням: вучыцеся, вучыце замежныя мовы, лепш некалькі, бо гэта робіць вас канкурэнтаздольнымі ў сучасным свеце, таму што дае магчымасць засвойваць новыя тэхналогіі выканальніцтва і пашыраць рэпертуар. Я сам з захапленнем пачаў адкрываць для сябе свет замежнай кларнетнай літа-*

*ратуры (праўда, пры дапамозе жонкі)».*

Трэці год Скараходаў ажыццяўляе мастацкае кіраўніцтва Ансамблем флейтыстаў Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра краіны, які ўзначальвае Міхаіл Фінберг:

*«Кіраваць ансамблем флейтыстаў мне вельмі цікава. Разам з маэстра Фінбергам мы запрасілі ў гэты калектыў лепшых выканаўцаў, маладых лаўрэатаў міжнародных конкурсаў. Для мяне важна раскрыццё музычнага зместу твораў, асваенне новага рэпертуару, а не тэхналогія ігры на флейце. Паразуменне з музыкантамі ансамбля ў мяне прафесійнае і паважлівае, спадзяюся, з абодвух бакоў».*

Абсяг яго творчай кар'еры ўзбагаціўся і сур'ёзным дырыжорскім досведам. Пачатак быў яшчэ ў мінулым стагоддзі, калі малады музыкант кіраваў сваім эстрадным аркестрам у Мінску і выходзіў за дырыжорскі пульт аркестра тэатральнага ў Магілёве. 18 лютага 2009-га маэстра Скараходаў упершыню дырыжыраваў Дзяржаўным камерным аркестрам Беларусі, суправаджаючы выступленне свайго вучня. А мінулай восенню ў Жытоміры (Украіна) падчас міжнароднага фестывалю «Сонечны кларнет» дэбютаваў як дырыжор з Кіеўскім дзяржаўным сімфанічным аркестрам. Сола на кларнеце ў Канцэрце Ля мажор В. А. Моцарта і Фантазіі Д. Лаўрэліа на тэмы оперы Дж. Вердзі «Травіята» выканаў наш віртуозны малады музыкант Яўген Шымановіч — вучань Уладзіміра Паўлавіча.

Кожны жыццёвы перыяд гэтага фенаменальнага чалавека можна прадставіць як майстар-клас ад Скараходава. На пасадзе намесніка міністра культуры БССР ён так і не здолеў «прырасці да крэсла», ператварыцца ў бюракрата і дэмагога: заставаўся «няправільным чыноўнікам», адказным за свае слова, здатным заўважаць і слухаць людзей, аналізаваць мастацкія працэсы, прадчуваць перспектыву, «прабіваць» ідэі, важныя для фарміравання адметнага культурнага аблічча Беларусі, развіцця і захавання самабытнасці нашага мастацтва. (Апекаваўся, напрыклад, станаўленнем Нацыянальнага канцэртнага аркестра Беларусі). Дзелавыя і творчыя вартасці Уладзіміра Скараходава прыдаліся на працы ў якасці дарадцы Пасольства Рэспублікі Беларусь у Літве. А потым — у яркай дзейнасці на чале колішняга Беларускага інстытута праблем культуры. Там Уладзімір Паўлавіч без ваганняў падзяліў энтузіязм першапраходцаў нацыянальнага музычнага адраджэння і ўзяўся за прапаганду невядомых музычных помнікаў, знайшоў магчымасць для выдання нот і гістарычных матэрыялаў, для навуковай падтрымкі асветніцкіх фестывальных праектаў:

*«Да беларускасці мяне прывяла маці, ад самага пачатку майго жыцця. Школа ў нашай вёсцы Бацвінаўка Крычаўскага раёна Магілёўскай вобласці таксама была беларуская. Праца на розных напрамках культуры скіравала мяне да адчування і разумення неабходнасці захавання, зберажэння і папулярызацыі беларускага мастацтва, бо ніхто іншы за нас гэтага не зробіць. З удзячнасцю ўспамінаю працу ў Вільнюсе: старажытная сталіца падарыла*



*З кітайскімі студэнтамі.*



Уладзімір Скараходаў — дыпламат: на Купалле ў Літве.

*стасункі з лепшымі дзеячамі мастацтва і культуры Літвы, з якімі я і сёння падтрымліваю сяброўскія адносіны. Вільня падарыла разуменне культурнай еднасці з суседзямі, павагу да* **ІНШАГА** *ўспрымання свету, важнасць пашырэння культурных сувязей ва ўсіх кірунках. Сёння я з чыстым сумленнем кажу: як бы ні мяняліся павевы часу, сітуацыя ў свеце і ў краіне, прыярытэты ў мастацтве — непахісныя. Яны агульначалавечыя: гуманізм ва ўсіх праявах. Чалавек, яго свет, здабыткі і клопаты, радасці і трагедыі, вышыня і нізкасць. Веру, што надыдзе час, калі любоў да класічнага музычнага мастацтва стане дамінантай нашага жыцця. А якім чынам звяртацца да тых, хто належыць да г. зв. страчанага пакалення для мастацтва? Думаю, неабходна, каб школа, сродкі масавай інфармацыі адчулі прыярытэтнасць класікі. Тады «Акадэмія талентаў» стане сапраўднай* **АКАДЭМІЯЙ**. *Папулярны праект «Я спяваю» стане ўзорам густу, а міжнародны конкурс»Еўрабачанне» ў класічных намінацыях будзе набіраць мільённую аўдыторыю».*

* * *

Прафесар валодае і сакрэтамі дасканалай музычнай формы, і «лёгкім пяром». Таму кніга «Парады маім вучням» прываблівае не адных кларнетыстаў. І таму нібы рамантычныя абразкі рэальнай гісторыі, напоўненыя выразнымі дэталямі, чытаюцца нарысы Уладзіміра Паўлавіча, прысвечаныя яго стасункам з даўнімі сябрамі (ад юнацтва да сённяшніх дзён) — Міхаілам Фінбергам, Міхаілам Казінцам. Рэкамендую: пагартайце манаграфіі пра гэтых слынных асоб, знайдзіце старонкі, напісаныя Скараходавым. Адчуйце, у якую пазнаваўчую бываліцу могуць скласціся мемуары пра культурную эпоху, дзе яму давялося стаць і сведкам, і ўдзельнікам, і чыннікам чарады падзей. Варта толькі ўзяцца майстру за такую кнігу — а напіша ён хутка!

***Святлана БЕРАСЦЕНЬ***

***ПАРТНЁРЫ-ІНФА***

## СКРЫПКА, ЦЫМБАЛЫ, ГІТАРА...

**Юбіляры сакавіка,** якіх віншуе Беларускі саюз музычных дзеячаў, вылучыліся ў педагогіцы і ў выканальніцтве. Прафесар Вячаслаў Зяленін (яму — 75) прысвяціў сваё жыццё скрыпцы. Выхаваў нямала таленавітых вучняў, сам доўгі час удзельнічаў у філарманічных канцэртах, а яшчэ выступаў у друку з музычна-крытычнымі артыкуламі і рэцэнзіямі. Цымбалістка Рыма Падойніцына, якой споўнілася 60, мае выкладчыцкія дасягненні ў працы са студэнтамі акадэміі музыкі, поспехі ў папулярызацыі свайго інструмента, арганізатарскія заслугі ў дзейнасці Асацыяцыі беларускіх цымбалістаў.

**Гітара спявае** пра экзотыку і рамантыку Эльдарада, Касабланкі, Палерма. Нагадвае пра паэтычную вобразнасць Гарсія Лоркі, раскрывае загадкавую душу ірландскіх танцаў. Дзеліцца элегічным настроем, дорыць мары, спавядаецца ў каханні... Усё гэта — у аўтарскіх інструментальных кампазіцыях, з якіх складаецца новы аўдыядыск Генадзя Старыкава. Вядомы прадстаўнік першага пакалення беларускіх рок-музыкантаў, заснавальнік, нязменны кіраўнік, ідэйны натхняльнік сталічнага «Старклуба», актывіст БСМД, ён даў сваім творам прыгожыя імёны і аб'яднаў пад простай красамоўнай назвай: «50 гадоў з гітарай». Здымкі на вокладцы кружэлкі дазваляюць уявіць тыя дзесяцігоддзі няўрымслівага творчага шляху, што давялося прайсці Генадзю Старыкаву ад рамантычнага юнацтва да «зорнага» статусу і не менш рамантычнай сталасці.







## Пішаш? Друкуйся ў «Маладосці»!

Рэдакцыя часопіса «Маладосць»
запрашае рамантычных творчых людзей
і сур'ёзных маладых навукоўцаў прыняць удзел
у стварэнні спецыяльнага нумара, прысвечанага
Максіму Багдановічу.
Працы (вершы, апавяданні, аповесці, эсэ, нарысы,
артыкулы, рэпартажы, даследаванні, іншае)
прымаюцца на maladost@bk.ru
(з пазнакай «У багдановічаўскі нумар»)
або на vdsd@tut.by да 15 красавіка.

*Канстанцін КАСЯК*

# КРОНБАРГ, ЗАМАК ГАМЛЕТА

***Цягнік рухаўся вельмі хутка, але ў вагоне гэта не адчувалася. За акном — звыклая для Скандынавіі халодная снежная зіма. Маленькія казачныя домікі змяняліся невялікімі ляснымі масівамі. Нечым падобна да нашых беларускіх вёсак, засыпаных снегам, з адной толькі розніцай — у Беларусі з акна цягніка нельга пабачыць праліў Эрэсун, які злучае Балтыйскае і Паўночнае моры.***

У вагоне панавала нязвыклая для беларускага вуха цішыня, бо кожны з пасажыраў займаўся сваімі справамі ці глядзеў у акно. Я ехаў у змрочны замак Кронбарг.

На хвіліну адарваўшыся ад зімовых пейзажаў, я ў думках вярнуўся на Радзіму. Шмат год таму, бавячы час у вёсцы на вакацыях, я ўпершыню пазнаёміўся з творчасцю Уільяма Шэкспіра. Шукаючы што-небудзь цікавае сярод старых бубуліных кніг, трапіў на «Гамлета», выдадзенага ў Маскве ажно ў 1965 годзе. Невялікая кніга з мінімалістычным чорна-белым аздабленнем. Пакруціўшы ў руках, узяўся чытаць. Адолеў за вечар. У тыя часы гэта было для мяне безумоўным рэкордам. Здаецца, школьнікі рэдка чытаюць такія творы цалкам. Гартаючы старонкі, я і ўявіць не мог, што калі-небудзь апынуся ў месцы дзеяння гэтай сусветна вядомай трагічнай гісторыі.

Менш чым за гадзіну цягнік давёз мяне з Капенгагена да Хёльсінгёра, побач з якім стаіць Кронбарг. Хёльсінгёр — невялікі ўтульны гарадок, які мае ўсяго 60 тысяч жыхароў, безліч кавярняў і жыве сваім павольным жыццём.



Тэрыторыя для замка Кронбарг была выбрана не проста так. Яго пабудавалі каля самага вузкага месца праліва Эрэсун, паміж Даніяй і Швецыяй. Нейкія чатыры кіламетры раздзяляюць гэтыя братнія паўночныя краіны. На Шведскім баку раскінуўся гарадок Хёльсінборг, да якога без праблем можна дабрацца за паўгадзіны на пароме. Горад добра бачны з дацкага берага. Многія шведы ездзяць на працу ў Данію, бо тут… лепшыя заробкі.

У п'есе Шэкспіра замак фігуруе пад назвай Эльсінор, што выклікае пэўную блытаніну. На думку некаторых гэта прамое сведчанне таго, што Шэкспір ніколі не бываў у гэтых мясцінах. Прататып Гамлета, прынц Ютландскі Амлед, таксама ніколі тут не бываў. Кажуць, што нягледзячы на гэта, некаторыя асабліва паспяховыя прадпрымальнікі доўгі час дэманстравалі турыстам «гамлетаўскія мясціны» замка і нават магілу самога Гамлета. П'есу «Гамлет» рэгулярна ставяць у замку, пачынаючы з 1816 года, калі яна была ўпершыню прадстаўлена гледачам на двухсотыя ўгодкі смерці драматурга.



Рэальная гісторыя, звязаная з замкам, не менш драматычная за літаратурную. Першая крэпасць Крог была ўзведзена Эрыкам VII Памеранскім у 1420 годзе. Узброеная гарматамі магутная крэпасць у самым вузкім месцы праліва выдатна спраўлялася з ускладзенымі на яе абавязкамі: пошліна за праход праз праліў праіснавала больш за чатыры стагоддзі і была адменена толькі ў 1857 годзе.

Сучасную назву, а разам з ёй і цяжкую долю Кронбарг атрымаў, калі кароль Фрэдэрык II пабудаваў на месцы старой крэпасці замак — адзін з найбольш велічных еўрапейскіх замкаў эпохі Адраджэння. У 1629 годзе замак амаль цалкам згарэў у выніку пажару. Адноўлены праз дзесяць год Кронбарг чакалі новыя выпрабаванні: доўгі час ён быў акупаваны шведамі, якія пры адступленні прыхапілі з сабой нямала скарбаў. Паралелі з беларускай гісторыяй напрошваюцца самі сабой…

Замак выкарыстоўваўся не толькі як крэпасць і каралеўская рэзідэнцыя, але і як турма. Найбольш вядомы яго вязень — англійская прынцэса Караліна-Мацільда Уэльская, якую сілком выдалі замуж за







дацкага караля Крысціяна VII. Прынцэса правяла ў вязніцы некалькі месяцаў, пакуль у выніку дзяржаўнага перавароту кароль не быў адхілены ад улады, а яе не выслалі з краіны. З тых часоў Кронбарг застаецца амаль у нязменным выглядзе.

Здаецца, што час спыніўся тут, і кожны камень сведчыць пра мінулае. Інтэр'ер замка вельмі аскетычны, пазбаўлены лішняга, пафаснага. Скульптур амаль няма, жывапісу — таксама небагата, затое тут ёсць салідная калекцыя габеленаў, а яшчэ марскі музей, які распавядае пра станаўленне карабельнай справы ад старажытнасці да нашых дзён.

Супрацоўнікі музея лічаць, што электрычнае святло дрэнна ўздзейнічае на музейныя экспанаты. Цяжкае месца для аматараў фатаграфаваць. Але адсутнасць асвятлення ўнутры замка стварае асаблівую атмасферу: выходзіць, што змрочны ён не толькі звонку. Нават не спускаючыся ў сутарэнні замка, можна ўявіць, як жылося тут англійскай прынцэсе.

Падземныя лабірынты — тэма асаблівая. Слабаасветленыя, не рэстаўраваныя, са скразнякамі, яны пакідаюць моцнае ўражанне. У сярэдзіне іх статуя Хёльгера Дацкага — героя шматлікіх балад і легенд французскай літаратуры Сярэднявечча, а пазней — дацкіх міфаў і легенд. Згодна з паданнем Хёльгер спіць у сутарэннях замка, але абавязкова прачнецца, калі Даніі будзе пагражаць смяротная небяспека. На пачатку XX стагоддзя ў Кронбаргу была ўсталявана каменная статуя спячага Хёльгера. Адбылося гэта амаль выпадкова: спачатку была ўсталявана гіпсавая прэс-форма, якая засталася пасля выканання замовы аднаго з хёльсінгёрскіх гатэляў на дзве такія бронзавыя статуі ў 1907 годзе. Статуя легендарнага ваяра ў сутарэннях замка — добры прыклад таго, як копія можа апынуцца больш вядомай за арыгінал. У 1985 годзе гіпсавую статую замянілі на каменную.

Кажуць, што аднойчы гарадскія ўлады вырашылі, што аднаго знакамітага помніка — замка Кронбарга — ім мала і вырашылі абзавесціся яшчэ адным. Так ля нядаўна адрэстаўраванага порта з'явілася статуя агаленага маладога чалавека, якая называецца «Ён». Праўда, далёка не ўсім мясцовым падабаецца такое суседства.

Вяртаючыся праз горад на вакзал, прыгадваю словы: «На свеце шмат ёсць, друг Гарацыа, такога, што і не снілася тутэйшым мудрацам…» Тут Шэкспір дакладна меў рацыю.

***Прачытайце гэты артыкул у праекце «Каляровая «Маладосць» на сайце ча-conica.***













**bjarozka@mail.ru**
**vk.com/club 34570145**





**● БрамаМар**

# Лепшыя творы ў намінацыі «Школьная проза»

*Марыя ДЗЕРБІЧАВА*

## А над дахамі шэрых дамоў...

У вокнах трох-пяціпавярховых будынкаў з цяжкасцю, але можна было разгледзець кволыя і блёклыя галінкі хатніх раслін, зашмальцаваныя цацкі і тоўстых катоў, што ляніва пазіралі праз бруднае шкло на самотны і аднастайны пейзаж горада. Аконныя рамы таксама былі брудныя, месцамі нават пакрытыя імхом, а цагляныя дамы былі на дзіва чыстымі, нібыта вылізанымі... І гэтая неадпаведнасць шклянога бруду і цаглянай чысціні выглядала, мякка кажучы, дзіўна і нязвыкла. Як можна мыць сцены, а да вокнаў нават не набліжацца? Хоць, калі шчыра, жыхары горада адно аднаго цярпець не маглі. Работнікі камунальных службаў займаліся сваёй справай, фарбавалі дамы, рэстаўрыравалі іх, рамантавалі, а мясцовыя жыхары высоўваліся ў гэты момант з фрамужак і сварыліся з імі, не даючы нават наблізіцца да ўласных вокнаў.

Ды яны і паміж сабой амаль не кантактавалі. Нават солі альбо запалак ніхто ніколі не пазычаў, не вітаўся пры сустрэчах, а толькі заўзята пляткарылі ў адрас усіх без выключэння суседзяў. Часта бацькі забаранялі сваім дзецям гуляць з суседнімі дзецьмі з-за таго толькі, што ў кагосьці з іх пазаўчора была пляма на куртцы. Сумна да смеху і смешна да слёз...

Ніхто з жыхароў гэтага горада не думаў, што з чыстымі аконнымі рамамі і пад'ездамі прыемней было б жыць. Самі яны жылі і працавалі толькі для сябе, а на ўсё астатняе нават не звярталі ўвагі. Іх не хвалявалі дрэўцы, якія паміралі без догляду і вады, яны з абыякавасцю глядзелі на галодных сабак і котак. Нават да беспрытульных дзяцей гэтыя людзі адносіліся з пагардай і нянавісцю... А яшчэ жыхары горада не выносілі людзей прышлых альбо, як яны казалі, «чужых». Такі чалавек з'яўляўся для іх ворагам, галоўным аб'ектам кпінаў і плётак. І не мела значэння, хто ён, дзе працуе. Галоўным было адно: не родзіч, не сябра сям'і. Значыцца, дрэнны. Значыцца, адшчапенец і, магчыма, нават патэнцыяльны злачынца.

У адзін з восеньскіх вечароў смешная дзяўчынка сядзела на даху аднаго з дамоў і сумна глядзела кудысьці ўдалячынь.

Тым вечарам было прыгожае неба. Дзіўнага, нават незвычайнага нейкага адцення: светла-жоўтае з рэдкімі цёмна-ружовымі плямамі. А яшчэ ў гэтым

вечаровым небе было шмат птушак, якія гучна і меладычна спявалі. Гэтыя птушыныя спевы, здаецца, вельмі раздражнялі жанчын, што стаялі каля пад'езда і пляткарылі, а іх дурнаватыя дзеці злосна шпурлялі ў птушак каменьчыкамі, але ўсё ніяк не маглі патрапіць...

Дзяўчынцы, што сядзела на даху, гэта вельмі не падабалася. Адносіны людзей між сабой, да роднага горада, звяроў і птушак. Ёй хацелася свята, вясёлых і разнастайных гульняў... і каб ніхто не крычаў і не псаваў усім настрой панурым выразам твару. Каб у небе весела спявалі птушкі, а людзі глядзелі на іх і радаваліся гэтым мілагучным спевам. Каб увесь асфальт быў размаляваны каляровай крэйдай... і каб размалявалі яго крэйдай менавіта маленькія дзеці...

Уздыхнуўшы, дзяўчынка правяла пальцамі па сваіх рыжых валасах. У школе яе часта дражнілі, торгалі за валасы, вырывалі з рук сумку, якую дзяўчынка сама абшыла рознакаляровымі ніткамі, збівалі з галавы і кідалі ў брудную лужыну яе яркі капялюшык. Але дзяўчынку ўсё гэта мала хвалявала...

Дзяўчынка сядзела на даху ў жоўтай куртцы, а джынсікі на ёй былі цёмназялёныя. Нягледзячы на халоднае надвор'е і моцны вецер, на ногі дзяўчынка насунула свае любімыя чырвоныя кеды. Таму здалёк яна выглядала нейкім экзатычным папугаем. Сонечная, яркая. А ў галаве — сапраўдны выбух! Фантазіі, на якія здольны толькі дзеці, такія казачныя і цудоўныя, добрыя і шчырыя, яркія і, вядома ж, крыху наіўныя. У іх няма ні нянавісці, ні злосці, ні гвалту... Адзін толькі ідэальны свет, пабудаваны выключна на героях і подзвігах, на дабрыні і шчырасці чалавечых душ.

Але аднымі фантазіямі настрой не палепшыш. Асабліва, калі паўсюдна бачны самотны пейзаж і шэрыя аднастайныя дамы, якія так і хочацца зруйнаваць дашчэнту, а на іх месцы пабудаваць прыгожыя рознакаляровыя будынкі з яркімі кветкамі і жывымі дрэўцамі навокал. А яшчэ там можна было б размясціць шмат прыгожых лавак, ліхтароў, дзіцячых пляцовак. Зрабіць іх невялікі гарадок гасцінным і чароўным, каб у ім заўсёды панаваў дух свята і цеплыні.

— Але як гэта зрабіць? — услых разважала дзяўчынка, міжволі круцячы смешныя хвасткі са сваіх густых валасоў. Не было аніводнай думкі, а сядзець на халодным і мокрым даху было не вельмі весела. Праўда, пакідаць дах ёй таксама не асабліва хацелася...

Але праз нейкі час дзяўчынка ўсё ж узнялася са свайго месца. Па бруднай зашмальцаванай лесвіцы яна спусцілася ўніз і пашыбавала ўздоўж шэрай вечаровай вуліцы, дзе яшчэ зусім нядаўна паважна прагульваліся надзьмутыя жанчыны, назіраючы за сваімі дзецьмі, а мясцовыя старыя, седзячы на брудных лаўках, заўзята пляткарылі і палівалі слоўным брудам усё навокал. Што ж, гэта было іх адзіным любімым заняткам...

Пайшоў дождж. Халодныя кроплі ляцелі з неба і, трапляючы на галаву дзяўчынкі, прымушалі яе міжволі ўздрыгваць. Яна бегла ўздоўж вуліцы, трапляючы нагамі амаль у кожную з лужын... і хутка джынсы і кеды дзяўчынкі былі наскрозь мокрымі. Але яна нават не звяртала ўвагі на гэткія дробязі і толькі смяялася, працягваючы бегчы кудысьці.

І раптам яе погляд спыніўся на невялікай краме, на вітрынах якой красавалі і прыцягвалі ўвагу яркія і блiскучыя цацкі, разнастайныя настольныя гульні, а таксама рознакаляровыя паветраныя шары.

Убачыўшы ўсё гэта, дзяўчынка спынілася і ўшчыльную падышла да вітрыны, ад захаплення ледзь стрымліваючы дыханне. Яе вочы блішчэлі цікаўнасцю і шчырай радасцю, якую так рэдка можна было назіраць у жыхароў гэтага маленькага гарадка. Потым дзяўчынка ўздыхнула і зайшла ў краму, дзе ўжо не праз шкло можна было назіраць усе гэтыя цудоўныя рэчы. Погляд дзяўчынкі разбягаўся, ёй было вельмі няпроста засяродзіць увагу на чымсьці адным — столькі тут было прыгожага і прыцягальнага.

— А можна паглядзець цэны? — прагаварыла дзяўчынка, гледзячы на прадаўца. А той спытаўся:

— На які канкрэтна тавар вы жадалі б ведаць цану?

— А пакажыце мне спіс усіх тавараў і цэн, калі ласка! — папрасіла дзяўчынка.

Буркнуўшы штосьці невыразнае, прадавец выйшаў у суседні пакой, а дзяўчынка засталася яго чакаць, скачучы на адной назе і шчасліва разглядваючы вітрыну. Праз хвіліну прадавец вярнуўся і працягнуў ёй аркуш паперы з цэнамі.

Выхапіўшы аркуш з яго рук, дзяўчынка стала праглядаць спіс тавараў і цэны на іх. І чым далей яна глядзела на спіс, тым усё самотней яна станавілася...

— Хопіць на цэны пяліцца! — незадаволена буркнуў прадавец, выхопліваючы спіс з дрыжачых пальчыкаў дзяўчынкі. — Купляць усё роўна нічога не будзеш!

У адчаі дзяўчынка выхапіла з кішэні ўсе свае грошы і паклала іх перад прадаўцом.

— Што я змагу купіць за гэта?

— За гэта? — прадавец гучна зарагатаў, пералічваючы грошы. — Ды амаль нічога! Хіба толькі пачак вунь тых паветраных шароў...

— Я бяру! — крыкнула дзяўчынка, хапаючы пакецік і выбягаючы з крамы. Потым яна, смеючыся, пабегла па мокрай вуліцы. Забегшы ў пад'езд уласнага дома, дзяўчынка таропка прынялася надзімаць шары: жоўтыя, сінія, чырвоныя... Ніткі ў яе былі, таму кожны надзьмуты шар дзяўчынка прывязвала да парэнчаў...

Дождж на вуліцы скончыўся і толькі мокры асфальт са шматлікімі лужынамі нагадваў пра нядаўнюю непагадзь. Неба зноўку афарбавалася ў светлажоўтыя колеры, птушкі звонка заспявалі, вылятаючы са сваіх схованак.

Дзяўчынка схапіла шары і, выбегшы з пад'езда, пачала прывязваць іх да слупоў, лавак... Потым зноўку ўзабралася на мокры дах... Хутка затрапяталі пад ветрам жоўтыя, сінія, чырвоныя шары. Прывязваючы апошні шар, дзяўчынка зноў засмяялася і, уладкаваўшыся зручней, пачала пазіраць уніз.

А ўнізе людзі, злыя і незадаволеныя, гучна крычалі і, абрываючы ніткі, шпурлялі шары ў неба, каб толькі не бачыць іх побач з уласным жытлом. Дзяўчынка ўсё гэта бачыла, але ні кропелькі не засмуцілася. Наадварот, яна

пачала смяяцца яшчэ гучней... А людзі знізу, заўважылі яе і, паказваючы на дзяўчынку пальцамі, пра штосьці абурана перагаворваліся паміж сабой.

Няхай гавораць, ёй якая справа! Галоўнае, што рознакаляровыя шары ляцелі па небе побач з птушкамі, а маленькія дзеці, высоўваючыся з акон, радасна крычалі, пляскалі ў далоні. І сярод дарослых таксама не было адзінства. Не ўсе з іх дасылалі дзяўчынцы на даху свае праклёны альбо пагрозы... Некаторыя смяяліся і шчоўкалі фотаапаратамі, каб захаваць для сябе гэтае нечаканае свята паветраных шароў.

А потым, калі шары зніклі ўдалечыні, на вуліцах горада зноўку запанавала такая звыклая самота і бяздушнасць. Але дзяўчынка ведала, што менавіта гэтым восеньскім вечарам іх маленькі сонны гарадок хоць на нейкі кароткі час змог стаць зусім іншым: яркім, вясёлым і непаўторным. І няхай не ўсім гэта спадабалася, няхай многія былі вельмі незадаволены гэтым, але ўсё ж менавіта яна, маленькая рыжая дзяўчынка, зрабіла такі цудоўны падарунак роднаму гораду. І прыняўшы гэты падарунак, горад ужо ніколі не стане ранейшым, хоць знешне ён, здаецца, зусім нават не змяніўся...

***Пераклад з рускай Генадзя АЎЛАСЕНКІ***

## *Марыя СУХАДОЛЬСКАЯ*

### «Птушкі нябесныя»

Мае вочы пачынаюць слязіцца, калі я доўга гляджу ў неба. Павекі занадта адчувальныя ад празмернага сядзення за камп'ютарам, сонца рэжа, нібыта нажом, але я працягваю ўважліва ўглядацца ў далячынь. Ён патэлефанаваў мне два гады таму ў такі ж яркі вечар. Голас ягоны незвычайна гучаў у паўпустым метро. Дзіўна, я тады не падумала, што ён спецыяльна для мяне прыдумаў гэтае пустое метро, дзеля таго толькі, каб я не спужалася праўды. Толькі праз шмат гадоў я даведалася, што Нікалас у той момант трымаў халодную руку бацькі. А мой нумар ён набраў выпадкова, пераблытаўшы з нумарам санітара.

— Пані Франка, вы спіце? — маленькі Ясік зноўку торгае мяне за касу. Маленькі чалавечак ужо пятнаццаць месяцаў быў маім выхаванцам. Ягоныя багатыя бацькі часта ездзілі ў камандзіроўкі, я ж спявала Ясіку калыханкі, і ён спакойна засынаў у сваім дзіцячым ложку.

«Ты спі, мой родны, я песню табе праспяваю аб мілай радзіме тваёй, пра маму і тату, і сон табе прысніцца казачны...» Словы заўсёды былі рознымі, я, наогул, кепска запамінаю тэксты, але для Ясіка — маленькага гарэзы — галоўным быў распеў. Калыханка-малітва вяртала яго ў свет спакою і радасці. Перабіраючы пальчыкамі край коўдры ў такт майго голасу, ён з усмешкай засынаў.

Алік... Я зноўку гутару з табой. Ты памятаеш, як дыхалі мы морам два гады таму? Твая шыя ўздрыгвала ад халодных брызгаў жнівеньскага Чорнага.

Мы марылі пра шторм. Так, мы былі крыху ненармальнымі. У час адпачынку людзі жадаюць распешчана драмаць пад паўднёвым сонцам, а мы чакалі буры. Ты зграбаў у далоні гальку. Мы шаманілі і заклікалі марскіх духаў. Успомні, як лавілі маленькіх медуз і падкладвалі іх у стаканы з мінеральнай. Нават цяпер з усмешкай успамінаю твае вочы, поўныя жаху, калі ты вырашыў, што праглынуў сапраўдную «жабу». Так, мой мілы, усё гэта было... Нам было па дваццаць тры, і мы жылі самым сапраўдным жыццём. А цяпер твая Франка працуе гувернанткай у яўрэйскім доме: сытая, апранутая і шчаслівая. Але без цябе гэта толькі палова шчасця. Уключаю радыё, каб спакойна перажыць і гэтую ноч, і, магчыма, наступную. Дарэчы, сёння чакаецца моцны мароз. А я мару пра завеі і завірухі.

На кухні гучыць музыка. Я зраблю яе крыху цішэйшай, каб Ясік не прачнуўся. Так, зноўку спявае Арона, яна кожны вечар вярэдзіць маю душу, не дае знікнуць успамінам пра цябе. Гэта невыносна:

Веру і спадзяюся, што ў цемры паклічаш мяне,
Веру і чакаю — твой голуб мяне не міне,
І няхай аліва ад яго пакажа мне правільны шлях.
Ты не гора маё, ты вера мая.
Вярніся, о, мой каханы!

Алік не любіў хрысціцца. Не, ён не саромеўся, проста не быў сваёй сям'ёй да гэтага прывучаны. Пакаленне без традыцый. Мы верылі ў масавую культуру, ідэальныя фігуры і знешнюю прыгажосць. Навошта «Ойча наш» чытаць раніцай, калі можна прачнуцца крыху пазней. Толькі святое само прыходзіла ў наша жыццё. У нас з табой. У чэрвені мы ездзілі на экскурсію ў Львоў. Ты захапляўся прыгажосцю ўкраінскай мовы, дыхаў надзеяй на лепшае. Ты быў згусткам сусветнай радасці...

У пранізлівым халодным завулку я спыніла цябе. Ты чакаў пацалунка, але я цябе здзівіла: замест прыкушаных вільготных вуснаў я пакінула табе на памяць крыж-накрыж складзеныя рукі на патыліцы.

— Любы, я падарую табе абярэг. Хочаш, я зраблю яшчэ і замову ад зла і бедстваў?

— Так. Здзейсні цуд, мая Франчэска!

Алік прыхіліўся да вільготнай ад вечаровага паветра сцяны, старажытнай, як і ўсё навокал. Яго вочы глядзелі на мяне з надзеяй. Ён верыў у цуд, і я ў той момант была для яго сапраўдным святым Мікалаем. Я шаптала замовы, што дасылалі мне прадзеды. У старажытным Львове ён быў у поўнай бяспецы, дакладней, мне так тады здавалася...

Я зноў драмлю. Паглядзім, што ж мне прысніцца. Толькі б не сутычка з ворагамі. Хачу спакою. Над вухам мяняецца мелодыя. Радыё не ведае стомы.

Два гады таму. Чорнае мора. Зноўку мы.

— Франка, чаму ты палохаешся, калі я ныраю і доўга не выплываю на паверхню? Гэта ж так весела!

— Алік, я баюся, што цябе ўкрадуць русалкі. Ты такі прыгожы ў мяне.



Я верыла, што ён наканаваны мне Богам. Мама неяк казала, што лёсы людскія пераплятаюць добрыя духі, а сэрцы, якія кахаюць, адчуваюць цеплыню нават на адлегласці. Ведаеш, Аля, я адчувала, калі табе холадна. І пра русалак я таксама не жартавала. Бо гэтыя дзяўчаты плаваюць дзесьці ў глыбіні і холад ім невядомы. Яны самыя няшчасныя паненкі. А гора заўсёды спрабуе разбурыць чужое шчасце...

Ты зноўку ідзеш мне насустрач. Ты не мяняешся. Алік, гэта несправядліва, бо я ж старэю. Вось мне ўжо і дваццаць пяць. Не смейся, бо гэта праўда. Магу і пашпарт паказаць. Ты такі ж смяшлівы, як і маленькі Ясік. Будзеш смяяцца да колікаў у жываце, а потым прымешся кашляць. І чаму ў цябе так пульсуе на шыі сіняватая жылка? Ты лічыш, што для мяне гэта не мае аніякага значэння? Ты не захварэў?

Дурная, якая ж я дурная! Я сплю, а ты прыйшоў убачыцца са мной. А я зноўку пачынаю задаваць гэтыя непатрэбныя пытанні. Больш не буду... Толькі адна просьба: я заўсёды марыла ўбачыць райскае дрэва. Правядзі мяне, калі ласка, туды і пакажы месца, адкуль і пачаўся першародны чалавечы грэх. Ты згодзен? Возьмеш мяне за руку?.. А чаму я лячу? Мы зноўку разам? Божа, благаславі! Амінь.

Варшава. Гасцёная. Ясік адзначае сваё дваццацігоддзе. Госці ўжо збіраюцца разыходзіцца, але юнак спыняе іх і просіць: — Апошні тост я б хацеў узняць у гонар маёй няні Франкі, якая аберагала мяне, калі я быў зусім маленькім. Мама заўсёды казала мне, што лёсы людзей сплятаюць добрыя духі, а сэрцы, якія кахаюць, адчуваюць цеплыню нават на адлегласці. Я і цяпер у сне чую яе калыханкі. Вечная ёй памяць!

***Пераклад з рускай Генадзя АЎЛАСЕНКІ***



# Краса для вока любая заўжды...



## Веснік вясны

На крылах ветрык нам прынёс вясну,
І лашчаць сонечныя промні ўсё жывое.
Уся прырода абуджаецца ад сну,
Прыйшоў канец зімоваму спакою.
І зазвінеў птушыны звонкі спеў...
Мы зразумелі ў гэтую гадзіну,
Што ў самы час жаўрук да нас паспеў:
Прынёс вясну і радасць на Радзіму

*Валерыя ГАСПАДАРЫК,*
*Барысаў*

## Такое зменлівае і таямнічае неба

Цікава назіраць за небам. Яно заўсёды такое непаўторнае! Вось па небе плывуць пушыстыя, нібы снежныя гурбы, воблачкі. Куды яны спяшаюцца?

Неба заўсёды рознае. Якім прыгожым яно бывае ў час узыходу сонца! Спачатку афарбоўваецца ў светла-ружовы колер, затым з-за небакрая ўздымаецца сонечны шар і яго прамяністае святло рассякае туман. Напрыканцы дня здзіўляе сваёй прыгажосцю заход сонца. Неба становіцца пунсовым, блакіт нябёс паступова ператвараецца ў цёмную сінечу...

І вось ужо зазіхацелі першыя зорачкі.

У ясны сонечны дзень блакіт неба дзе-нідзе аздабляецца лёгкімі воблачкамі, і, здаецца, так будзе заўсёды. Але неўзабаве ўрываецца моцны вецер, цяжкія цёмныя хмары нізка паўзуць над зямлёй. Маланка рассякае неба, і пад рокат грому раптам ліне моцны праліўны дождж. Вызваліўшыся ад дажджу, хмара хутка растварaецца, знікае. Зноў выглядае сонейка, і над зямлёй павісае рознакаляровая вясёлка.

Хіба ж гэта не цуд?!

*Надзея ГАЙДУК,*
*Барысаў*

## Ранішні спеў

Птушкі раніцу дружна вітаюць
І вясёлыя песні спяваюць.
Спеў іх звонкі да сонца ляціць.

Птушкі раніцу дружна вітаюць,
Промні сонца яны сустракаюць...
І раса на траве зіхаціць.

***Марыя ТУГАЙ,***
***Мінск***

## Беларускі край

*(Акраверш)*

**Б**елакрылы кляновы лісток —
**Е**ўрапейскіх прастораў аздоба,
**Л**ёсу слаўнага годны выток,
**А**бнаўлення не першая спроба...
**Р**упнай працай, красой адмысловай
**У**слаўлены далёка ў свеце,
**С**акавітаю звонкаю мовай,
**К**аласком з васількамі ў букеце...
**І** пажаданнем міру на планеце!

**К**рынічнаю вадою чыстаю
**Р**одны кут — мой лісток —
ўзгадаваны...
**А**б ім — мая песня ўрачыстая,
**Й** яму назаўжды будзь аддань!

## Вясновы лес

Абудзіўся лес ад сну,
Прывітаў, як след, вясну.
Скінуў коўдру снегавую,
Зладзіў світку веснавую.
Пачарнеў апошні снег,
Ручаёк з-пад дрэў пабег.
Заблакітнелі пралескі,
Занялі лясы, узлескі...

Лісцейкі прачнуліся ў пупышках,
Сумна ўжо сядзець ім у зацішку.
Коцікі на вербах жмурацць вочкі,
Птушак спеў ад раніцы да ночкі...

Мастак ён, лес вясновы,
І кожны год — як новы!

***Ганна ТКАЧЭНКА,***
***Сенніца, Мінскі раён***

● **Погляд**

# Жыццё — гэта быць сярод людзей...



## Пяшчотная вясна

Прачнуўся горад. Адчыненыя вокны. Пяшчотная вясна. Лёгкі рух паветра. Вуліца з кожным днём мяняецца, становіцца зелянейшая і свежая. Такой вясны ніколі не ўбачыш у горадзе. У ім яна зусім іншая, і людзі здаюцца іншымі. Гарадская вясна іншая, яна саступае па пяшчоце і казачнасці. Справа ў тым, што ў горадзе вялікае значэнне надаецца практычнасці. Сапраўдную прыроду тут можна знайсці толькі ў парках ці скверах. Прырода прачынаецца, людзі прачынаюцца. Якое задавальненне адарвацца ад шэрай слоты і з'ехаць у цудоўны загарадны домік. Менавіта знаходзячыся бліжэй да прыроды, можна адчуць яе, убачыць хараство, нацешыцца ёю.

Заўсёды ў трымценні чакаю вясну, знаходжуся ў прадчуванні цёплага сонейка і звонкага шэпту раўчукоў. Дзесьці віднеюцца снежныя праталіны, а побач з імі прабіваецца травіца. Яна яшчэ маленькая, бо холад ад лёду не дае расці ў поўную сілу. Але праз дзень-другі ад кавалкаў лёду застануцца толькі лужынкі. Сонца прыпячэ, і да вечара ад рэшткаў зімовай казкі наогул не ўбачыш нічога. А калі штосьці і застанецца, то вячэрнія прымаразкі ператвораць гэтае «штосьці» ў каток для мурашак, якія ўпотай катаюцца на ім. Гэта ў іх атрымліваецца выпадкова. Вясна — ачышчэнне прыроды. Чалавеку таксама неабходна ачысціцца: і душой, і целам. У першую чаргу душой, у якой сабралася за год і замарозіла на зіму шмат эмоцый, пачуццяў і станаў. Душа падобная да праталін. Яна рана ці позна растане і пакажа, што пад ёй на самай справе. І чым раней, тым менш прыкметна для навакольных і балюча для сябе. А якое паветра вясной! З'яўляецца жаданне кінуць усё, бегчы на вуліцу, удыхнуць свежасць на поўныя грудзі. Яна нясе водар зелянiны. Галінкі дрэў пачынаюць паказваць пакуль яшчэ кволыя і пяшчотна-зялёныя лісточкі. Ледзь не забылася пра мяккія промні сонейка. Яны выдатныя. Вясновы настрой становіцца

па-сапраўднаму вясновым дзякуючы цёпламу сонейку. Варта толькі зірнуць на яго, прымружваючы вочы, і ўсміхаешся яшчэ больш. Заражаць мінака пазітывам. Смайлік. Яшчэ адзін смайлік. Яшчэ! Яшчэ! Пяшчотная вясна адкрывае сэрца. Бяжы! Усміхайся! Любі!

*Кацярына ЛЯСУН,*
*студэнтка Інстытута журналістыкі БДУ*

## Жыццё, якое мы выбіраем...

Здаецца, наш свет становіцца з кожным годам усё больш жорсткім. Мы, канешне, не палім вядзьмарак на вогнішчы, не адпраўляем на эшафот усіх тых, хто не падзяляе нашыя погляды на рэчаіснасць, але міласэрнасці ў душах людзей па-ранейшаму не хапае...

А яшчэ мы неяк непрыкметна становімся несапраўднымі. Для гэтага не абавязкова нарошчваць пазногці ці змяняць форму вуха. Мы перарабляем сябе знутры, жадаючы не адстаць ад моднай плыні.

Сёння большасць сышла ў сацыяльныя сеткі і там кожны дзень вядзе вайну за ўвагу, кампліменты, нейкія неіснуючыя ідэалы. Паглядзіце на фотаздымкі сяброў і знаёмых. Колькі сярод іх аднатыпных, нецікавых, але «сучасных» і «модных»? У гэтым сезоне трэба крывіць вусны і заплюшчваць адно вока — дзяўчаты дружна робяць менавіта так. Цягнуцца языком да носа, як малпачка, закрываць твар рукой — зробім! Прыгожа, непрыгожа — абы быць у мэйнстрыме.

А як наконт аднолькавых цытат, якія часцей за ўсё не нясуць ніякага сэнсу? Гэта мы любім. Яшчэ лепш «запосціць» што-небудь разумнае, псіхалагічнае, філасофскае, няхай сабе і незразумелае.

Таксама хочацца сказаць пра жорсткасць. Яна ў нас змяшалася з баязлівасцю. Не падабаецца чалавек — палівай яго брудам, падбірай самыя крыўдныя словы, пішы любую лухту. Толькі ананімна! Каб ніхто не здагадаўся, што гэта ты. Пры сустрэчы не забудь ласкава ўсміхнуцца.

Вось якое існаванне мы выбіраем. У сусветнай павуціне ўтульна і бяспечна. Можна казаць усё, што заўгодна, і не саромецца. Можна паказаць сябе разумным, не прачытаўшы ніводнай кнігі, прыгожым, выкарыстоўваючы чужое фота. Але ці жыццё гэта?

Не, сапраўднае жыццё пачынаецца, калі мы адключаем камп'ютар. І становімся самімі сабой, з усімі нашымі недахопамі і лепшымі рысамі. Жыццё — гэта быць сярод людзей, глядзець ім у вочы і казаць тое, што адчуваеш.

*Анастасія ХУРСЕВІЧ,*
*студэнтка Інстытута журналістыкі БДУ*

## Казка, а можа і не казка...

Дарагі мой чытач, ты, напэўна, як і я, вельмі любіш казкі. Калі я была маленькай, мне заўсёды хацелася пабываць у цудоўным свеце казкі, застацца там жыць.

Але тое, пра што я буду апавядаць, не зусім казка, а можа, нават зусім не казка...



## *БЯРОЗКА*

Гэта быў самы звычайны гарадскі парк. Толькі некалькі дзён таму сышоў апошні шэры снег. У паветры пахла вясной. Не, не кветкамі, а менавіта вясной... Гэта быў той асаблівы пах, які можна ўлавіць толькі пасля развітання з зімой. Прырода ажывала. З кожным днём колер становіўся ўсё ярчэйшым і зелянейшым. Надыходзіла вясна. У гарадскім парку прамяні сонца лёгка пранізвалі галіны дрэў, якія былі залішне абкарнаны чалавекам. Здавалася, што гэтыя дрэвы голыя і безабаронныя. Яны не маглі хутка зазелянець, як гэта рабілі іншыя расліны. Але людзі ведалі, што бліжэй да сярэдзіны лета яны ўсё ж пакрыюцца лістотай. Хай не цяпер, але потым, бо так куды зручней. Не дрэвам, а менавіта людзям. У парку будзе менш варон ды гракоў, якія не ўпісваюцца ў атмасферу чыстага горада.

Але чыстым горад так і не стаў. І вінаватыя ў гэтым былі зусім не птушкі...

Вось праз парк ідзе маладая жанчына. Яна так спяшаецца, што не можа (дакладней, не мае жадання) выкінуць упакоўку ад нейкага прадмета ў сметнік і шпурляе яе ў траву.

Я ішла следам за жанчынай і раптам пачула спалоханае фырканне. Падышоўшы бліжэй і адкінуўшы ўпакоўку, я ўбачыла пад ёй вожыка, які плакаў.

— Вожык, чаму ты плачаш? — спытала я.

— Я, я засмучаны! — усхліпваючы, адказаў мне вожык. — Я думаў, што буду жыць у лесе, дзе вясной зелянеюць дрэвы, лётаюць і спяваюць птушкі. Як жа гэта цудоўна: слухаць іх спевы, а потым ціха засынаць у лістоце, атрымліваючы асалоду ад шуму і шапацення зялёнай лістоты. Калі б я толькі мог дабрацца да лесу...

Я аднесла вожыка ў лес. Ён быў вельмі задаволены. Яго пысачка стала свяціцца ад шчасця, калючкі зрабіліся больш вострымі і прыгожымі.

Цяпер я часта наведваюся ў госці да свайго сябра вожыка, і ён паказвае мне грыбныя мясціны. А яшчэ ён навучыў мяне правільна збіраць ягады, пазнаёміў з розныміляснымі жывёламі. Вожык адчуў казку ў сваім жыцці і падарыў часцінку гэтага казачнага шчасця мне.

У чым мараль? Дзе сэнс? Мы жывём у XXI стагоддзі, дзе светам кіруюць тэхналогіі і практычна ўсё залежыць толькі ад нас. Мы не зможам уцячы ў лес, каб атрымліваць асалоду ад прыгажосці, не зможам перанесці туды ўсіх вожыкаў. Людзі — гаспадары прыроды. Яна як камора са скарбамі для нас, і мы павінны захаваць гэтыя скарбы. Захаваць не толькі для сябе, але і для «братоў нашых меншых». Захаваць чыстую ваду для рыб, чыстае паветра для птушак, лугі і палі для маленькіх насельнікаў. Прырода для жывёл — гэта родны дом. Чалавеку таксама патрэбна Радзіма, а ахоўваць прыроду — ахоўваць сваю Радзіму. Як сказаў адзін чараўнік: «Усё прыгожае ў свеце ад прыроды, а добрае — ад чалавека».

***Ксенія ПРАКОПЧЫК,***
***вучаніца Івацэвіцкага ліцэя***

● **Конкурс**

# Казкі са школьнага ранца

*Умовы абвешчаны ў вераснёўскім нумары «Бярозкі».*
*Дасылаць свае казачныя гісторыі можна на паштовы адрас:*
*220034, Мінск, вул. Захарава, 19, рэдакцыя часопіса «Маладосць»*
*(з пазнакай «Бярозка»), на электронны —*
***bjarozka@mail.ru.** альбо **maladost@bk.ru***

## Жыла-была Дзяўчынка...



Жыла-была маленькая Дзяўчынка. Ёй здавалася, што яна ўжо зусім вялікая і дарослая. Яна жыла ў шматпавярховым Доме, які таксама лічыў сябе вельмі вялікім. І дзяўчынка была для яго чалавечкам, адным з тых, якія яго насялялі і лічыліся жыхарамі.

Дом быў прыгожым, вялікім і шматпавярховым. Але ж побач з ім стаялі іншыя шматпавярховыя дамы, падобныя да яго і не вельмі падобныя. Кожны з іх таксама лічыў сябе вялікім і непаўторным, а ўсе разам яны складалі Горад.

Горад думаў, што ён самы вялікі, а Дом, у якім жыла дзяўчынка, ён лічыў сваёй маленькай часткай. Але Горад нават не падазраваў, што такіх, і нават большых за яго, гарадоў вельмі шмат, і ўсе яны размешчаны на адной планеце Зямля.

Планета Зямля, у параўнанні з Горадам, сапраўды была вялікай, але, у адрозненні ад Горада, такой сябе не лічыла. Зямля ведала, што хоць на ёй шмат мацерыкоў і акіянаў, мораў і рэк, краін, гарадоў, вёсак, заводаў і асобных будынкаў, але яна, у параўнанні з вялізным Сусветам, такая ж маленькая, як тая Дзяўчынка, што абедзве яны — касмічныя пылінкі, што плывуць некуды ў чорнай бясконцай прасторы.

А яшчэ Зямля ведала, што яна такая ж безабаронная, як і Дзяўчынка, як Дом, у якім жыве гэтая Дзяўчынка, як Горад, у якім знаходзіцца той Дом. І калі яе, планету, не берагчы, яна таксама можа хварэць, задыхацца, пакутаваць і нават загінуць!

Але многія працягваюць лічыць планету Зямля вельмі вялікай.

«Ну, падумаеш, — разважаюць яны, — яшчэ адна яма, яшчэ адзін выбух, пажар, яшчэ адна труба, якая выкідвае ў атмасферу атрутны дым, яшчэ адно высушанае балота, ссечанае дрэва, кінутае на траву смецце. Яна ж такая вялікая, планета Зямля! А значыць, усё сцерпіць, усё вытрымае.

Толькі вось забыліся людзі, што, калі знішчыць планету Зямля, на чым жа тады будуць стаяць яе Гарады? А без Гарадоў не стане Дамоў, а без Дамоў не застанецца нікога з нас.

І што ж тады будзе з Дзяўчынкай, якая так саманадзейна лічыла сябе вялікай і дарослай, а на самай справе была яшчэ зусім маленькай і безабароннай?

***Марына РОГАВА,***
***аграгарадок Зачысце, Барысаўскі раён***

## Як сінічка ў выраі пабывала

Жыла ў лесе сінічка. Зімою яна прылятала кожны дзень да хаты лесніка. У старога на акне вісела кармушка, у якую ён заўсёды то зерне падсыпаў, то кавалачкі сала наразаў. Птушцы гэта вельмі падабалася. Страха хаты бараніла птушку ад халоднага ветру. Ад акна ішло цяпло, а самае галоўнае, што за ім стаяў на невялічкім століку тэлевізар. Па ім часта паказвалі заморскія краіны. Дзіўна было бачыць шмат незвычайных жывёл, матылькоў, птушак. Больш за ўсё сінічцы падабалася, калі паказвалі маленькіх папугаяў. Яны так прыйшліся ёй даспадобы, што самой захацелася ў заморскія краіны. Але як туды трапіць, яна не ведала. Яна ўжо надакучыла ў лесе ўсім птушкам: і вераб'ям, і клястам, і нават старому мудраму ворану. Ва ўсіх сінічка пытала дарогу ў вырай. Ніхто не мог ёй дапамагчы. Толькі адна сава параіла дачакацца вясны і спытаць у жаўрука альбо салаўя.

І сінічка пачала чакаць вясны. І як толькі з'явіліся першыя пралескі, прыляцеў жаўрук. Ён расказаў сінічцы пра далёкія краіны і паабяцаў восенню ўзяць яе з сабою.

І сінічка зноў пачала чакаць, але на гэты раз ужо восені. Нарэшце скончылася лета і надышла восеньская пара. Птушаняты ў жаўрукоў падраслі, і ўсе яны пачалі збірацца ў дарогу. Паляцела з жаўрукамі і сінічка. Так хутка, як жаўрукі, яна ляцець не магла і таму адстала. Потым яе апярэдзілі стрыжы, ластаўкі, зязюлі і нават шпакі. Да заморскіх краін наша падарожніца дабралася ўжо з качкамі і гусямі. І як жа там было цудоўна! Вельмі цёпла, шмат корму, весела і прыгожа. Збылася яе запаветная мара. Яна пазнаёмілася з папугаямі, а таксама з іншымі невядомымі птушкамі.



Але прайшоў час, і сінічка чамусьці засумавала. Ёй не хапала беларускіх палёў і лясоў, рэк і азёр, знаёмых мясцін. Нават халоднае надвор'е не палохала маленькую падарожніцу. І сінічка вырашыла, не чакаючы вясны, ляцець дадому.

 

Па знаёмай дарозе птушачка дабралася да хаты лесніка. Падляцела да сваёй кармушкі, падзяўбала зярнят, паласавалася салам і была вельмі задаволена ўсім, што бачыла навокал. «У гасцях добра, а дома лепш», — падумала сінічка.

*Вікторыя ПЛЯСКАЧ,*
*Мар'іна Горка*

## Прыгоды жытнёвых зярнятак

Рос у полі жытнёвы каласок. Ён даўно выспеў, але ніхто яго не заўважаў сярод блакітных валошак. Зярняткі сядзелі-сядзелі ў каласку ды не ўтрымаліся і высыпаліся. Зваліліся на зямлю, спалохаліся... а назад ужо не вярнуцца! І вырашылі яны адправіцца ў падарожжа. Доўга ішлі па палях ды лугах, і сустрэліся з прыгожай белай кветкай.

— Добры дзень! — павіталіся падарожныя. — Мы жытнёвыя зярняткі, а ты хто?

— А я — Рамонак! — адказала кветка. — Давайце сябраваць?!

Але пасябраваць з Рамонкам нашым зярняткам так і не давялося, бо ззаду падкралася палявая мыш. Яна хутка запіхнула зярняткі за шчаку і панесла іх у сваю норку.

Доўга праляжалі небаракі ў мышынай нары, доўга гаравалі, кожны дзень рыхтуючыся да таго, што патрапяць грызуну на абед, але запасы ў мышынай нары былі вялікія і нашым зярняткам пакуль шанцавала. Так яны і перазімавалі.

А ў адзін цудоўны дзень наступіла вясна. Яркае сонейка растапіла на палях снег, усюды пабегла мноства жвавых і звонкіх раўчукоў. Вада затапіла норку палявой мышы. Адзін з ручаёў падхапіў зярняткі і са звонкім спевам панёс іх з сабой.

Так зярняткі патрапілі на лясную паляну. Яны яшчэ не паспелі абсохнуць і ўзрадавацца, што выратаваліся ад мышыных зубоў, як пачулася лапатанне крылаў і з вышыні на паляну прызямліўся цецярук. Ён падрыхтаваўся скляваць зярняткі, але тыя загаддзя яго заўважылі і ад страху зарыліся ў зямлю. Ды так глыбока, што цецярук, як не спрабаваў разграбаць зямлю лапамі, так да іх і не дабраўся.

Узмахнуў ён крыламі, ды і прэч паляцеў. А нашыя зярняткі да таго перапалохаліся, што вырашылі пакуль што з зямлі не вылазіць, тым больш, што ўжо вечар надыходзіў.

— Дабранач! — пажадалі яны адзін аднаму перад сном.

Зярняткі ахінуліся мяккай зямелькай, нібы пуховай коўдрай, і салодка заснулі. А ноччу прайшоў цёплы веснавы дождж, і раніцай на тым месцы, дзе спалі жытнёвыя зярняткі, з'явіліся маленькія далікатныя парасткі. Жыццё працягвалася...

*Карына ЧУЕС,*
*Маладзечна*



## Калабок і іншапланецяне

Каціўся неяк па лесе Калабок. Ад дзеда з бабай ён ужо ўцёк, ад зайца і ваўка таксама... і вельмі радаваўся. Але не ведаў, што наперадзе яго мядзведзь пільнуе, а затым яшчэ і лісіца-хітрыца...

Раптам на вялікай і светлай паляне Калабок убачыў карабель іншапланецян.

Спачатку Калабок вельмі спалохаўся і схаваўся за елку. Але цікавасць перамагла, і ён пачаў сачыць, што будзе далей. Адкрыўся люк карабля, і Калабок са здзіўленнем заўважыў, што іншапланецяне вельмі падобныя да яго. Ён адважыўся падкаціцца бліжэй да незвычайных гасцей. Ніхто з іх не звярнуў ніякай увагі на Калабка, відаць, прынялі за свайго. Вельмі цікава было разглядаць карабель, сачыць, як іншапланецяне разбрыліся па паляне, уважліва вывучалі ўсё, што бачылі і гучна абмяркоўвалі. Але, на жаль, Калабок не разумеў, пра што яны гавораць.

І тут з-за куста выскачыў мядзведзь і зароў:

— Калабок, калабок, я цябе з’ем!

Тут ён убачыў іншапланецян і зароў яшчэ мацней:

— Калабкі, калабкі, я вас усіх з’ем!

Але адзін з іншапланецян выхапіў бластэр і так стрэліў у касалапага, што той, падвываючы, кінуўся наўцёк. А лісіца, якая здалёк гэта бачыла, вырашыла не рызыкаваць і таксама ўцякла.

А Калабок, уважліва паглядзеўшы на іншапланецяніна, які прагнаў мядзведзя, зразумеў, што гэта дзяўчынка. Яна была вельмі падобна да нашага Калабка, толькі на ёй свяцілася зорачка. Дзяўчынка падышла да яго і з ветлівай усмешкай нешта сказала, але Калабок нічога не зразумеў. Тады цудоўная незнаёмка правяла рукой па ім, і Калабок пачаў разумець мову іншапланецян.

— Ты вельмі сімпатычны, давай сябраваць! — пачуў ён. — Мяне завуць Каламбінка!

— А мяне — Калабок! — адказаў той. — І я не супраць сяброўства, але ж бачу, што твае суродзічы ўжо збіраюцца адлятаць, а я не з вашай планеты.

— Але ж ты вельмі падобны да нас! — сказала Каламбінка. — Я запрашаю цябе на планету Калабкоў, табе там вельмі спадабаецца!



— Згодзен!

— Тады хуценька пакаціліся, а то карабель ужо адлятае!

Дзяўчынка Каламбінка ўзяла свайго новага сябра за руку, і яны весела пакаціліся да касмічнага карабля.

*Іна ЗЕЛЯНКЕВІЧ,*
*Барысаў*

## Пасля навальніцы

Прыгожым летнім ранкам каля вялікага возера шэптам перагаворваліся Чарот і Асака.

— Не ведаю, як мы гэтую ноч перажылі, — шаптала Асака. — Такая навальніца была — ратуй Бог!

— І не кажы, сястрыца Асака, — прашапацеў у адказ Чарот. — Але, можа, гэта і нядрэнна? Амаль месяц зямлю сушыла... а цяпер паглядзі, колькі дрэў і іншых раслін ад дажджу вады напілося!

— Ды што тут добрага?! — злосна буркнула Асака. — Нам з табой вады і без дажджу хапала, а яны напіцца і ад маленькага дожджыку маглі! А тут такое, мяне да зямлі столькі разоў прыхінала!

— Не трэба так скардзіцца, — прымірэнча заўважыў Чарот. — Ты ж нізенькая, гнуткая... табе нічога не пагражала.

— Ды што ты ведаеш?! — яшчэ больш раззлавалася Асака. — Ты вунь учапіўся за свайго суседа — і хоць бы што табе! А мне за каго ўчапіцца? Мяне іншы раз так можа прыцiснуць, што і не ўздымуся больш! Ды хіба ж табе зразумець такое?! Цьху! Не хачу з табой нават размаўляць!

І Асака, наколькі магла, адвярнулася ад Чарота.

І таму не бачыла, што ягоная сцябліна была моцна пашкоджана начным ветрам, і ён ледзь трымаўся, з апошніх сіл абапіраючыся на свайго таварыша...

*Ірына РАДЗІХОЎСКАЯ,*
*вёска Дворнае Сяло, Міёрскі раён*



# Цікава вучыцца!




Хутка імчыць маршрутка. Еду ў Нацыянальны дзіцячы адукацыйна-аздараўленчы лагер «Зубронак» увечары пасля работы. На вуліцы мароз такі, што шчыпле не толькі за нос. А ў галаве круціцца адна думка: выпіць кубачак гарачай гарбаты з цукеркамі, закутацца ў коўдру ды носа не паказваць. У маршрутцы хоць і халодна, але напружаны рабочы графік дае аб сабе ведаць — засынаю. І толькі бадзёры голас вадзіцеля: «Прыехалі, «Зубронак»! — абудзіў мяне. Пры падыходзе да лагера думкі пра сон зніклі імгненна, быццам іх і не было. А хіба ж можа быць інакш? Безумоўна, не! Вы, напэўна, шаноўныя чытачы, спытаеце чаму. Ды хоць бы таму, што «Зубронак» увечары зусім іншы. Увесь лагер свеціцца рознакаляровымі інсталяцыямі, якія прыгожа вісяць на высокіх шатах дрэў. Лагер блішчыць, іскрыцца.

...Раніца. На гадзінніку ўсяго толькі палова восьмай, а я ўжо прачнулася. Пачынаю збірацца, бо хутка ісці ў сталовую снедаць. Смачная тварожная запеканка са смятанай, гарачае какава з бутэрбродам, так добра пад'еўшы сіл хопіць да абеду.

Як і ва ўсіх іншых лагерах, так і ў НДЦ «Зубронак» усё па распарадку. Снеданне, заняткі ў школе, абед, кружкі, ціхі час, удзел у самых розных цікавых мерапрыемствах, пачынаючы ад спартыўных да выступлення ў канцэртах.

**9.00**

На парозе школы мяне сустракае Ганна ПЛЯШАК, намеснік дырэктара па вучэбнай рабоце. І ў яе кабінеце пачынаецца наша гутарка.

— Наша школа з'яўляецца структурным падраздзяленнем установы адукацыі «Нацыянальны дзіцячы адукацыйна-аздараўленчы лагер «Зубронак». У нашай школе адукацыйны працэс ажыццяўляецца ў рэжыме пяцідзённага вучэбнага тыдня, — расказвае Ганна Львоўна. — А ў шосты школьны дзень праводзяцца класныя і інфармацыйныя гадзіны, пазакласная работа па вучэбных прадметах, спартыўна-масавыя, фізкультурна-аздараўленчыя мерапрыемствы ды іншая выхаваўчая работа.

Адзінае, што ў школе «Зубронка» настаўнікі не задаюць дамашняга задання, а навучэнцы не здаюць іспыты. Педагогі нашай школы пастаянна ўдасканальваюць методыку навучання, імкнуцца граматна выбіраць і спалучаць традыцыйныя метады, прыёмы і сродкі навучання з новымі, сучаснымі методыкамі. На сваіх уроках для праверкі і сістэматызацыі ведаў настаўнікі праводзяць гульні, выконваюць практыкаванні («мяч», «цуда-фраза», «разумны лісток», «перарваны аповед» і г. д.). Вельмі часта на ўроках і ў пазакласнай рабоце яны выкарыстоўваюць тэхналогіі модульнага навучання, праектную, гульнявыя, інтэрактыўныя метады. Дырэктар цэнтра Надзея АНУФРЫЕВА клапоціцца, каб у школе НДЦ «Зубронак» мелася сучаснае абсталяванне. Камп'ютары, мультымедыйныя праектары, інтэрактыўная дошка, планшэты, лічбавы мікраскоп, лічбавы тэлескоп, вэб-камера і іншае. Усё гэта выклікае ў настаўнікаў жаданне актыўна прымяняць інфармацыйныя тэхналогіі.

**10.00**

...Падчас размовы ў кабінет Ганны ПЛЯШАК зайшло чалавек дзесяць, і не трэба крыўдаваць, што не даюць спакойна пагутарыць. Разумею, гэта ж кабінет намесніка дырэктара па вучэбнай рабоце, таму, калі неабходна вырашыць нейкае пытанне, усе звяртаюцца сюды.

Дзверы ў кабінет адчыняюцца і ўваходзіць настаўніца хіміі Юлія МЫСЬКО, якая ўжо чатыры гады працуе ў «Зубронку». Яна згаджаецца правесці для мяне экскурсію па школе. «Уся школа — гэта горад Пазнанняў, вядома, тут ёсць свае вуліцы, праспекты, якія маюць назвы, і дамы — кабінеты, карэнныя жыхары — настаўнікі, — тлумачыць Юлія Мікалаеўна. — Дзецям выдаецца пашпарт горада. І кожны жыхар ведае: для таго каб па праве жыхаром з'яўляцца ў горадзе Пазнанняў спяшайся прапісацца. Пашпарт уключае ў сябе графікі дзяжурстваў, сістэму налічэнняў (у нас валюта — эўрыкі, і натуральна, за кожную зробленую добрую справу налічаюцца віртуальныя грошы). Па колькасці эўрыкаў у канцы кожнай змены выбіраецца лепшы клас. Той клас, які набраў максімальную колькасць валюты, становіцца лепшым, яго ўзнагароджваюць дыпломам, уручаюць вымпел і салодкі прыз».

Першы наш прыпынак — вуліца Ператварэнняў, на якой размяшчаецца стэнд з інфармацыяй пра класы, імя і прозвішча мэра, а таксама іншыя звесткі пра падзеі ў горадзе. «Зразумела, калі гэта вуліца Ператварэнняў, то тут месцяцца кабінеты фізікі, біялогіі, хіміі, а яшчэ інфарматыкі, замежных моў», — дадае Юлія МЫСЬКО.

Далей мы рухаемся на праспект Дакладнасці. Тут знаходзяцца кабінеты матэматыкі і гісторыі. А ў калідорах праспекта можа бачыць фотаздымкі з жыцця лагера «Зубронак». Плошча Ратушная — актавая зала,



так бы мовіць, цэнтральнае месца для розных мерапрыемстваў. Праспект Педагагічны — кабінет завуча і настаўніцкая. На першым паверсе плошча Згоды — цэнтральная і самая галоўная, дзе сустракаюцца ўсе дзеці перад пачаткам заняткаў і расстаюцца пасля іх заканчэння. Там жа знаходзіцца праспект Філалагічны — кабінет рускай і беларускай мовы і літаратуры.

Пасля такой экскурсіі мне давялося пагутарыць з мэрам горада на першай змене Аляксандрам БУЕВЫМ з Оршы. Ён у лагер прыехаў як фіналіст рэспубліканскага конкурсу «Звонкая раніца-4» ад «Настаўніцкай газеты». Аляксандр у сваёй перадвыбарнай кампаніі звяртаў увагу на тое, што сіла ў адзінстве. Лічыць, толькі разам мы можам зрабіць гэтую змену запамінальнай. Гаварыў падлеткам, каб яны верылі ў свае сілы, ніколі не здаваліся, дамагаліся пастаўленых мэт, незалежна ад таго, што ім хто кажа.

**11.30**

На гадзінніку палова дванаццатай раніцы. Ганна Львоўна прапанавала наведаць урок інфарматыкі. На ім клас дзеліцца на дзве групы. Гэта добра і для настаўніка, і камп'ютараў хапае кожнаму вучню. Звычайна, заняткі пачынаюцца з паўтарэння мінулай тэмы, каб замацаваць атрыманыя веды. На інтэрактыўнай дошцы прапаноўваецца тэст з варыянтамі адказаў, вучні з дапамогай прыбора інтэрактыўнага апытання на працягу дзесяці хвілін спраўляюцца з прапанаваным заданнем. Такі спосаб з выкарыстаннем сучасных тэхнічных прыстасаванняў дазваляе настаўніку не марнаваць час на раздачу лісткоў з тэстам. Віталь Красоўскі, настаўнік інфарматыкі, кажа: «Лічу, што тлумачыць тэму ўрока можна кожны раз па-новаму. Мы імкнёмся дапамагаць дзецям правільна знаходзіць інфармацыю ў інтэрнэце. Інтэрактыўная дошка, праектар, камп'ютар — даюць магчымасць праводзіць цікавыя мультымедыйныя заняткі, выкарыстоўваючы спецыяльныя дыскі, якія ёсць у медыятэцы лагера. Прыбор інтэрактыўнага апытання актыўна скарыстоўваем не толькі на занятках, але і ў жыцці цэнтра. Гэты мабільны прыбор, які дапамагае літаральна адразу убачыць настаўніку канчатковы вынік, ацаніць веды. Такім чынам павышаецца канцэнтрацыя ўвагі, паляпшаецца разуменне і запамінанне матэрыялу, вучыцца становіцца цікава і займальна».

**12.20**

Я зноў у кабінеце Ганны Львоўны і наша размова працягваецца.

— Трэба адзначыць, што значную ролю ў паспяховай дзейнасці маладых спецыялістаў іграе арганізацыя мэтанакіраванай работы Школы маладога настаўніка. Сярод педагогаў ствараюцца творчыя групы па падрыхтоўцы і правядзенні семінараў, майстар-класаў, — распавядае Ганна ПЛЯШЫК. «Адзін з напрамкаў у нашай рабоце — дыстанцыйнае навучанне. Яго перавага ў тым, што яно дазваляе арганізаваць вучэбны працэс ва ўстановах, змешчаных далёка ад месца знаходжання навучэнцаў. Такі від дзейнасці выкарыстоўваецца для заняткаў вочна-завочнай школы з дыстанцыйным навучаннем. У ёй займаюцца адораныя навучэнцы з сельскай мясцовасці, якія на павышанным узроўні вывучаюць матэматыку, фізіку і інфарматыку. Навучэнцы прыязджаюць да нас на восеньскіх, зімовых і вясновых канікулах на працягу трох гадоў».

Падчас вучэбнага года праводзяцца профільныя змены: «Новыя гарызонты зносін» і «Максімум, або 100 %», «Свежыя ідэі! Яркія праекты», «Школьная субота — госць «Зубронка». Цэнтральнымі мерапрыемствамі гэтых змен з'яўляюцца рэспубліканскі злёт выдатнікаў вучобы Рэспублікі Беларусь, форум-аўкцыён «Вектар на будучыню», кірмаш праектаў.

Прадстаўнікі дзяржаўнага прадпрыемства «IT-HOUS» (БДУ) праводзяць кампетэнтны трэнінг «Камп'ютарная лінгвістыка ў дзеянні», дзе навучэнцы ствараюць уласныя IT-праекты пры суправаджэнні адмыслоўцаў. Парк Высокіх тэхналогій пастаянна прымае падлеткаў на экскурсію, якая дапамагае ім атрымаць уяўленне аб рабоце інфармацыйнага цэнтра праграмавання, што, безумоўна, з'яўляецца моцнай матывацыяй да вывучэння інфарматыкі і англійскай мовы.

Пры правядзенні профільных змен, для пашырэння зносін сучаснай моладзі мы выкарыстоўваем прамыя ўключэнні з дапамогай скайпа. Такая сувязь ужо наладжана з Усерасійскім дзіцячым цэнтрам «Арляня» і Рэспубліканскім вучэбна-аздараўленчым цэнтрам «Балдаурен».

**15.30**

Аўтобус «Нарач-Мінск» хутка імчыць. Добрыя ўспаміны ў чарговы раз застаюцца ў маёй галаве. Бывай, «Зубронак»! Да новых сустрэч!

*Дар'я ШОЦІК,*
*фота з архіва лагера «Зубронак»*



● **Літаратурныя старонкі**

*Генадзь АЎЛАСЕНКА*

# Плата за сяброўства

Бойку Андрэй заўважыў яшчэ здалёк. Біліся чатыры хлапчукі, прыкладна ягонага ўзросту... Дакладней, трое білі аднаго. Нават не білі, а лянiва штурхалі, не даючы праходу, а гэты чацвёрты нават не спрабаваў даць сваім крыўдзіцелям адпору. Толькі хныкаў і ўсё паўтараў адну і тую ж фразу:

— Больш не буду! Не буду больш!

Трое на аднаго — гэта вельмі несправядліва, Андрэй такой несправядлівасці цярпець не збіраўся. Падыйшоўшы ўшчыльную да хлапчукоў, ён нейкі час моўчкі на іх пазіраў, пакуль яго не заўважылі...

— Што трэба? — спытаўся ў Андрэя самы высокі з троіцы, цыбаты і белабрысы, завадатар агрэсіўнай кампаніі. — Чаго вылупіўся?

— Так нельга! — прагаварыў Андрэй. — Утрох на аднаго!

— Ды хто ты такі? — узвысіў голас белабрысы. — Таксама атрымаць захацеў? Атрымаеш! Ад мяне аднаго!

Вочы ягоныя нядобра звузіліся, потым ён зрабіў крок у напрамку да Андрэя, замахнуўся і...

Далейшага развіцця падзей Андрэй не стаў чакаць. Ён таксама зрабіў крок наперад і, спрытна перахапіўшы руку белабрысага, правёў падсечку.

Чатыры гады ў секцыі самба і першы (хоць і юнацкі) разрад чагосьці ды вартыя. Прыём быў праведзены бездакорна. У самы апошні момант Андрэй крыху падстрахаваў свайго праціўніка, так што ляснуўся той не так балюча, як гэта магло падацца збоку. Але сябрукі белабрысага гэтага не ведалі, бо, спалохана войкнуўшы, адразу ж кінуліся наўцёк. Імгненна падхапіўшыся, белабрысы таксама паімчаў следам за імі...

Андрэй і хлопчык, якога толькі што крыўдзілі, засталіся ўдвух. Цяпер Андрэй змог больш уважліва яго разгледзець. І са здзіўленнем адзначыў, што хлопчык гэты не такі і маленькі, якім спачатку падаўся. Ростам ён быў не ніжэйшы за Андрэя, ды і па гадах, здаецца, амаль яму равеснік. Вось толькі занадта тоўсты для сваіх гадоў, да таго ж баязлівец.

— Усё ў парадку? — спытаўся Андрэй у хлопчыка. — Мяне Андрэем завуць. А цябе?

— Цябе прасіў хто? — замест адказу раздражнённа і з нейкай нянавісцю залемантаваў хлопчык. — Яны ўжо ісці збіраліся, а з-за цябе...

І хлопчык зноўку расплакаўся, гучна, уголас. Ён плакаў, а Андрэй са здзіўленнем на яго пазіраў і спрабаваў зразумець, што ж ён зрабіў не так.

— Ах ты, мярзотнік! — пачуўся за спінай Андрэя разгневаны жаночы голас. — Ды колькі ж можна!

 

Павярнуўшыся на голас, Андрэй убачыў перад сабой высокую мажную жанчыну. А ў наступны момант жанчына ўзмахнула рукой і ляпнула вільготнай анучынай па твары Андрэя. Не балюча, але вельмі абразліва...

— За што? — міжволі выгукнуў той, адскокваючы ўбок і выціраючы рукой мокры твар. — Што я такога зрабіў?

— За што ты яго біў?!

— Я не біў! Я...

Не дагаварыўшы, Андрэй змоўк і паглядзеў на хлопчыка, які ўсё яшчэ румзаў, размазваючы слёзы па твары.

— Я цябе біў?

— Біў! — прахныкаў хлопчык. — Усе вы аднолькавыя!

— Ах жа ты...

Не дагаварыўшы, Андрэй павярнуўся і моўчкі пайшоў прэч.

— Усё тваёй бабулі раскажу, падшыванец! — крыкнула яму ўслед жанчына. — Я ведаю хто ты і да каго прыехаў!

— Ну і бяжы, расказвай! — выгукнуў Андрэй. — Напужала!

— Як ты са старэйшымі размаўляеш, шчанюк?!

Жанчына яшчэ штосьці крычала, але Андрэй ужо яе не слухаў. Моўчкі шоў па сцяжынцы ў бок рэчкі, а злосць і крыўда так і распіралі яго знутры. Андрэй амаль узрадаваўся, убачыўшы за паваротам усё тых жа трох хлапчукоў.

Здаецца, наспявала бойка, і Андрэй ужо рыхтаваўся да яе, але хлапчукі, нават не зрушыліся з месца, калі ён падыйшоў. Наадварот, падаліся ў бакі, даючы прайсці.

— Ну што, абаронца? — прагаварыў белабрысы. — Зразумеў, за каго заступаўся?

— Табе якая справа?! — праз зубы працадзіў Андрэй. — Мала атрымаў?!

Ён думаў, што белабрысы рынецца ў бойку, але той усміхнуўся і працягнуў Андрэю руку.

— Віталь! — сказаў ён з усмешкай на твары. — А гэта Васіль!

— Андрэй! — адказаў хлопец, паціскаючы рукі спачатку Віталю, а потым і Васілю. — А гэта...

— А гэта Міколка! — паказаў Віталь на трэцяга хлопчыка, самага малога з іх кампаніі, худога і вельмі загарэлага. — Ён твой сусед, дарэчы...

— Сусед? — не зразумеў Андрэй.

— Ты ж да Ганны Мікалаеўны прыехаў? — сказаў чарнявы Мікола. — Унук яе, так?

— Унук, — сказаў Андрэй. — І што?

— Ды нічога! — рассмяяўся Міколка. — Проста я насупраць жыву! А Ганна Мікалаеўна ў мінулым годзе нашым класным кіраўніком была!

— Класны прыёмчык! — звярнуўся да Андрэя Васіль. — Навучыш?

— Паспрабую, — паціснуў плячамі Андрэй. — Потым як-небудзь...

Тут яму ўспомніўся непрыемны эпізод з жанчынай і яе пагроза пажаліцца бабулі. Не тое, каб ён вельмі баяўся бабулю, хоць яна, як і ўсялякая настаўніца, была даволі строгай і прынцыповай, але ўсё ж...

— Слухайце, а за што вы білі гэтага таўстуна? — спытаўся Андрэй. — Прычына ж нейкая павінна быць.

Хлопцы ў адказ дружна засмяяліся.

— Ды не білі мы яго! — адказаў за ўсіх Віталь. — Так, паштурхалі крыху, каб не скардзіўся!

— Ты ж сам бачыў, які ён! — дадаў Васіль. — Ледзь што якое, адразу бяжыць матцы жаліцца! Ці татачку. А татачка ягоны — бізнесмен круты! А Дзімка гэты — скнара... Снегу зімой не выпрасіш!

— Яго Дзімкам завуць? — спытаўся Андрэй, хоць гэта было і так зразумела.

— Ды хопіць пра яго! — махнуў рукой Мікола і, звяртаючыся да Андрэя, дадаў: — Ты нашу рэчку бачыў?

— Менавіта туды і збіраўся, — сказаў Андрэй.

— Пойдзем разам! Там у нас такая кладка для нырання! Ты плаваць умееш?

— Умею, — усміхнуўся Андрэй. — І ныраць таксама!

* * *

З новымі сябрамі Андрэй бавіў час амаль да вечара. Ён і думаць забыўся пра ранішні інцыдэнт з жанчынай і быў непрыемна ўражаны, калі ў бабулінай хаце зноўку яе ўбачыў. Жанчына сядзела за сталом і пра штосьці гутарыла з бабуляй.

Убачыўшы Андрэя, жанчына павярнулася ў ягоны бок. Бабуля таксама моўчкі паглядзела на ўнука.

— Ды не біў я вашага сына! — выгукнуў Андрэй з крыўдай у голасе. — Пальцам яго не крануў!

— Я ведаю! — ціха і вінавата адазвалася жанчына. — Мне ўжо расказалі, як ты бараніў яго... А я цябе за гэта ўдарыла... прабач, калі ласка!

— Спачатку разабрацца трэба, а потым рукі распускаць! — строга выказала сваю думку бабуля Андрэя. — Непрыгожа, Соф'я Афанасьеўна! Вельмі непрыгожа!

— Дык я ж прабачэння папрасіла, Ганна Мікалаеўна!

Жанчына ўскочыла з-за стала, нейкі час яны з бабуляй моўчкі глядзелі адна на адну, потым жанчына нечакана заплакала.

— Цяжка мне, Ганна Мікалаеўна! Знервавалася я ўся! Вадзімка мой... такі добры хлопчык, ласкавы, даверлівы... ён нават крыжыкам сурвэткі вышывае, і за гэта крыўдзіць?! У Мінску жылі дык кожны дзень са школы ў слязах прыходзіў, сюды пераехалі — тая ж гісторыя!

— А ты б менш у школу бегала сварыцца з-за кожнай дробязі! — усё гэтак жа непрыязна адазвалася бабуля Андрэя. — Сама сапсавала хлопца, а цяпер вінаватых шукаеш!

— Ды не шукаю я вінаватых, Ганна Мікалаеўна! Але ў чым жа дзіця вінаватае?!

Цяжка ўздыхнуўшы, жанчына рушыла да дзвярэй. Андрэй адступіў убок, каб не перашкаджаць ёй. Але жанчына спынілася і ўмольна паглядзела на Андрэя.

— Цябе ж Андрэем завуць, так?

— Так, — кіўнуў галавой Андрэй.

— Можна цябе на два словы?

Яна выйшла, не чакаючы адказу... Хлопец выйшаў услед. Спыніўся на ганку ў чаканні.

Але жанчына маўчала. Яна стаяла каля ганка і глядзела знізу ўверх на Андрэя...

— Ты сёння з гэтымі мясцовымі падшыванцамі пазнаёміўся, — загаварыла жанчына. — А яны табе не пара, павер мне! Гэтыя блазнюкі... ім бы толькі з раніцы да вечара па вуліцы гойсаць! А ты, Ганна Мікалаеўна мне казала, вучышся добра, чытаць любіш... Мой Вадзім таксама чытае шмат, на скрыпцы грае... А ты граеш на якім-небудзь інструменце? — нечакана спыталася яна.

— Не! — пакруціў галавой Андрэй. — І не спрабаваў нават...

— А хочаш навучыцца? Вадзім бы мог з табой пазаймацца...

Замест адказу Андрэй толькі пацiснуў плячамі, але, паглядзеўшы на жанчыну, зразумеў, што такога невыразнага адказу будзе недастаткова.

— Я болей спорт люблю, — прызнаўся ён. — Барацьбу, плаванне... яшчэ тэніс настольны...

— Ну вось! — ажывілася жанчына. — А ты б Вадзіка плаваць навучыў!

Яна змоўкла, нібыта ў чаканні адказу, але якога адказу яна чакала? Сябраваць з гэтым плаксівым таўстуном Андрэй нават не збіраўся...

— Ты прыходзь да нас, — так і не дачакаўшыся адказу, зноўку загаварыла жанчына. — У любы час прыходзь. А я б... — тут жанчына сцішыла голас і шэптам дадала: — Я б табе за гэта плаціла...

— Што?

Андрэю здалося, што ён чагосьці не дачуў.

— Што б вы мне за гэта?

— Плаціла б! — паўтарыла жанчына ўжо куды гучней. — А што тут такога? Сёння ўсе грошы зарабляюць, як могуць. Вось і ты зарабляў бы... Ты толькі скажы, колькі...

— Не! — заматляў галавой Андрэй, павольна адыходзячы да дзвярэй. — Прабачце, але я не магу так...

— Не так, а за грошы! І няма тут чаго саромецца, і нічога тут незаконнага таксама няма...

— Не! — зноўку матлянуў галавой Андрэй. — Прабачце, але...

Жанчына павярнулася і моўчкі пайшла прэч. Яна ішла, нізка апусціўшы галаву, а Андрэй глядзеў ёй услед і ў душы варушыліся самыя процілеглыя пачуцці.

«Пачакайце! — раптам захацелася крыкнуць яму. — Я згодзен сябраваць! Але не за грошы, а так!»

І тут ён успомніў Вітальку, Васіля, Міколу... і тое, што заўтра з раніцы яны дамовілся ісці ў грыбы, хлопцы абяцалі паказаць Андрэю свае грыбныя месцы. А з гэтым Вадзімам... што, сесці побач і крыжыкам сурвэткі вышываць?! Ці слухаць, як ён там на скрыпцы нешта пілікае?!

Усё так... але чаму ж тады так цяжка і мутарна на душы? Як быццам бы па ёй таксама пляснулі мокрай анучай. Не балюча, але вельмі ўжо крыўдна і абразліва...

**Атлас свету**

# Як воіны спатолілі смагу думкамі пра слівавы лес

## З «Гісторый кітайскай мудрасці»

Цао Цао — вядомы военачальнік часоў Трох царстваў. Яшчэ ў маладыя гады з ім здарылася такая гісторыя. Яго адправілі змагацца з арміяй Чжан Сю. Быў у старажытнасці і такі славуты воін. Было гэта летам. Сонца пякло так, што ў людзей скура трэскалася. Армія Цао Цао павінна была пераадолець горы. Толькі так яны маглі дабрацца да ворага. Салдаты Цао Цао ішлі па гарах адзін дзень і адну ноч. Вакол — сапраўдная каменная пустыня: нават ніводнага дрэўца не сустрэлася, што ўжо казаць пра людзей. І дзе тут можна было знайсці крыніцу альбо ручай, каб выпіць глыток гаючай вады. Салдаты ішлі з апошніх сіл, а язык прыліпаў да сасмяглых вуснаў. Здавалася, што з горла вырвецца пякучы агонь.

Адзін з камандзіраў арміі, калі ўбачыў, у якім стане знаходзяцца салдаты, прапанаваў Цао Цао выправіць атрад на пошукі вады. Аднак разведчыкі вярнуліся ні з чым. Салдаты канчаткова выбіліся з сіл. Ішлі, ледзьве цягнучы ногі. А самае страшнае, што з-за моцнай смагі некаторыя воіны падалі на гарачыя камяні і ўжо не маглі падняцца. А тыя, хто яшчэ трымаўся, з болем глядзелі на сваіх сяброў, але дапамагчы ім не маглі. Праз некаторы час армія зусім спынілася. Салдаты паселі ля дарогі і дыхалі, шумна хапаючы ротам паветра. Вусны патрэскаліся, у некаторых нават выступілі кропелькі крыві. Цао Цао расхваляваўся не на жарт. Ён прышпорыў каня і паскакаў да бліжэйшага грудка. Там ён стаў на сядло і пачаў углядацца ўдалячынь. Военачальнік падумаў, што зможа разгледзець дзе-небудзь ручай. Спадзяванні аказаліся марнымі. Канца і краю не было каменнай пустыні. На дзясяткі лі не праглядалася ніводнай прыкметы выратавальнай вады.







Цао Цао са шкадаваннем паглядзеў на сваіх паплечнікаў. Невыцерпна цяжка было ў яго на сэрцы. Калі вярнуцца да іх з такім настроем, падумаў Цао Цао, няма чаго і думаць пра бітву. Яны нават гару не адолеюць, што ўжо казаць пра ворага. Армія на гэтай каменнай дарозе сваю магілу знойдзе. Як жа паступіць?.. Цао Цао нізка схіліў галаву. І тут яго працяла думка. З усмешкай, поўнай надзей, военачальнік вярнуўся да салдат. Ён прышпорваў каня і гучна крычаў:

— Добрая навіна! Добрая навінаа-ааа! Наперадзе віднеецца слівавы лес! І, напэўна, там ёсць вада! А яшчэ — вялікія і кіслыя слівы! Мы не прападзём ад смагі! Сябры, збірайцеся з духам, нам засталося ўсяго толькі некалькі лі да выратавальнага цяньку слівавых дрэў. І тады мы пераможам! Хутчэй падымайцеся, наперад, салдаты!

Як толькі пачулі навіну пра слівавы лес, ва ўсіх загарэліся вочы. Здавалася, што мінула смага, і ўсе, забыўшыся на гарачыню, адпачываюць у халадку. Як толькі воіны прыгадалі кісла-салодкі смак сліў, ва ўсіх пацяклі слінкі. Змяніўся настрой. Кожны ўгаворваў сябе тым, што засталося прайсці не так і шмат, яны змогуць удосталь паласавацца слівамі. Тыя, хто раней бяссільна апусціўся на ўзбочыну дарогі, таксама занялі сваё месца ў паходным страі. Усе падбадзёрвалі адно аднаго заклікамі, што хутчэй трэба ісці наперад, дзе іх чакаюць салодкія і духмяныя слівы. Яны ішлі з апошніх сіл. І нават гарачае сонца болей не перашкаджала ім. Дзіва! Адкуль і сілы ўзяліся ў іх стомленых нагах?! Дзякуючы хітрасці Цао Цао армія імкліва ішла наперад. І калі хто-небудзь з воінаў дазваляў сабе расслабіцца, Цао Цао падганяў яго:

— Хутчэй, хутчэй! Зусім мала засталося пацярпець!

Больш моцныя воіны дапамагалі слабейшым, салдаты абапіраліся на паплечнікаў, падтрымлівалі словам. І працягвалі шпарка ісці далей.

Так яны прайшлі палову дня. Набліжаліся прыцемкі. Атрад, які зноў выслалі на разведку, вярнуўся з добрай навіною: непадалёк знаходзіцца горны ручай. Як толькі салдаты пачулі пра гэта, яны пачалі радасна крычаць і скакаць на месцы. Ад стомленасці і болю не засталося і следу. І яны амаль што ўподбег кінуліся да горнага ручая. Калі Цао Цао ўбачыў такое развіццё падзей, з яго сэрца ўпаў цяжар. Здолеўшы прывесці людзей да вады, ён атрымаў душэўную перамогу. Салдаты і не ўспомнілі пра прыдуманы военачальнікам слівавы лес. Ім здавалася, што вада з сапраўднага горнага ручая шмат саладзейшая за лепшыя слівы ў свеце.

Так Цао Цао прывёў сваё войска да месца прызначэння. Салдаты наталілі смагу ўзнавілі свае сілы, таму ім лёгка далася перамога над заклятым ворагам.

*Пераклад з кітайскай*
*Алеся КАРЛЮКЕВІЧА і Веранікі КАРЛЮКЕВІЧ*

**● Люстэрка**

# Ёсць простая аптычная ілюзія

Калі чалавек глядзіць на сваё цела (не ў люстэрка), то яно падаецца яму больш важкім, чым ёсць на самай справе. Пэўна, гэта звязана з законамі перспектывы: вока прызвычаілася глядзець на рукі-ногі з адлегласці і няправільна ўспрымае іх зблізку. Менавіта на гэтай бяскрыўднай ілюзіі заснавана адна з самых страшных псіхічных хвароб — анарэксія. Калі ты дзяўчынка, калі ты незадаволена сваёй знешнасцю, сядзіш на дыеце і лічыш калорыі — сцеражыся!

Наогул усе дыеты для пахуднення — страшэннае глупства. У прыродзе ўсялякая жывёла спажывае столькі, колькі хоча, не морыць сябе голадам і цудоўна выглядае. Бяда чалавека ў тым, што ў яго столькі ежы, колькі ён фізічна не можа з'есці. І яшчэ ў тым, што яму не трэба прыкладаць столькі фізічных намаганняў, каб яе здабыць. Менавіта з-за гэтага з’явіліся таўстуны па 200—300 і больш кілаграмаў, а боязь стаць такімі выклікае ў людзей анарэксію.

Не далей як сёння мне распавялі яшчэ пра адну. Важыць трыццаць восем кілаграмаў пры высокім росце і страшэнна баіцца атлусцець да сарака кілаграмаў. Выглядае жахліва — шкілет з Бухенвальда. Яна пакуль на другой стадыі хваробы. Гэта значыць, што калі яе карміць гвалтоўна і не дазваляць худнець, то яна яшчэ можа пераўтварыцца ў нармальнага чалавека. (На трэцяй стадыі раскарміць ужо немагчыма, бо арганізм перастае засвойваць ежу). Але ж яе няма каму карміць гвалтоўна — яна жыве асобна, а маці падманвае...

Як не дайсці да такога стану? Вельмі проста.

Пункт першы, усвядоміць, што «стройная» і «бухенвальдскі шкілет» не сінонімы, а антонімы. Калі ты яго выканаеш, то анарэксія табе не пагражае.

Пункт другі, пяць хвілін самалюбавання кожны дзень. Ты ўжо дастаткова прыгожая, а станеш яшчэ прыгажэйшай, калі будзеш выконваць трэці пункт.

Пункт трэці, лёгкія фізічныя нагрузкі. Лепей на свежым паветры, але можна і ў трэнажорнай зале.

Пункт чацвёрты, есці не болей і не меней, чым хоча твой арганізм, не злоўжываць торцікамі і не заганяцца дыетамі.

На сёння ўсё! Да сустрэчы!

***Віктар ЛУПАСІН***

 

● Старонка-гумарынка



# Гэта не кручочкі, тата! Гэта інтэгралы!

Адзін з бацькоў тэлефануе другому:
— Ты свайму сыну матэматыку зрабіў?
— Толькі што скончыў.
— Дай спісаць!



— Мама, а ты ведаеш на колькі хапае аднаго цюбіка зубной пасты? — пытаецца сын.
— Не ведаю, — кажа маці.
— Цяпер будзеш ведаць! На ўвесь калідор, на ўсю кухню, ды яшчэ і на палову балкона!



— Тата, а што ад нас далей: Месяц ці Парыж? — пытаецца сын у бацькі.
— Ну, ты і спытаўся! — смяецца той. — Вунь, праз акно, Месяц бачыш?
— Бачу!
— А Парыж з нашага акна зможаш убачыць?
— Не змагу!
— Вось і рабі адпаведныя высновы!



Падыходзіць бацька да дачкі, якая выконвае дамашняе заданне, нейкі час уважліва глядзіць у яе сшытак, потым гладзіць дачку па галаве і кажа:
— Старайся, Машачка, старайся! І кручочкі гэтыя больш акуратна выводзь!
— Гэта не кручочкі, тата! — адказвае дачка. — Гэта інтэгралы!



Маці сыну:
— У буфеце ляжала два кавалкі торту, а цяпер там толькі адзін! Ты можаш гэта растлумачыць?
— Магу! — адказвае сын. — Цёмна вельмі было і другі кавалак я не заўважыў!



Стаяць два навабранцы ў страі.
— Слухай, а давай пажартуем над прапаршчыкам? — шэпча адзін другому.
— Ага! — сумна ўздыхае другі. — Над дэканам ужо пажартавалі!

***Льготная падпіска для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Ведамасны льготны індэкс — 00731; падпісная цана на 1 месяц — 46 800 руб.***

***Індывідуальная падпіска. Індэкс — 74957. Цана на 1 месяц — 19 100 руб.***
***Ведамасная падпіска. Індэкс — 749572. Цана на 1 месяц — 59 300 руб.***

***Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў. Індэкс — 00592. Цана на 1 месяц — 13 500 руб.***

Дызайн лагатыпа на вокладцы *Веранікі ШНІП*
Тэхнічнае рэдагаванне і камп'ютарная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактар *Кацярына ГОЛУБ*

Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе і не вяртае дасланыя рукапісы.
Пры передруку спасылка на «Маладосць» абавязковая.

Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
Паштовы адрас: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 11.03.2014. Фармат 84×108 $^1/_{16}$. Папера газетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,80.
Ул.-выд. арк. 14,41. Тыраж 2291 экз. Заказ 581. Кошт нумара ў розніцу 19 100 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.




**maladost@bk.ru http://maladosc.livejournal.com**

**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;**
**грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;**
**рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»**